


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**3** (1013)

*САКАВІК*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2014

*ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

## Мікола МЯТЛІЦКІ



### ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Набыткі яго і страты
Падсумаваць пара,
Суровы мой век дваццаты,
Згарэў, як над лесам зара.

Смутна ў нябыт сыходзіў,
Замкнуў — за вярстою вярста —
Другое тысячагоддзе
Ад нараджэння Хрыста.

У вечнасць яго дарога
Пакутнаю праслыве,
Бо жыў на зямлі без Бога,
Без розуму ў галаве.

Драпежлівы, злы, разбойны,
Пакінуў багата слёз.
Чыніў несупынна войны,
Мільёны ахвяраў знёс.

---

*__Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыцце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2011), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013).*

Пайшоў назаўжды, балючы.
Аглух, як сярдзіты гром,
Азораны рэвалюцый
Наіўна-сляпым святлом.

Аднак у крывавых сечах
Усё ж не зусім аглух,
Узвысіўшы чалавечы
Неперmade дух.

Асвенцімы і Хатыні,
І Хірасімы дым —
Жывыя яго святыні
На полі ахвярным тым.

Ён быў непамерна жорсткі,
Чаргой кулямётнай сек,
Устройваў і харчразвёрсткі,
Бясхлеб'ем марыў калек.

Ды ўсё ж сябраваў з прагрэсам,
Не толькі крыві папіў.
У космас сягнуў, на Месяц
Ён першым нагой ступіў.

Быў сейбітам і салдатам,
Жыў, плужачы цаліну.
Аднак, расшчапіўшы атам,
Пагрозна вярнуў вайну.

Жывога нябыт наблізіў, —
Адчай наш узварушыў.
Ды грозны карыбскі крызіс
Ён мірам усё ж рашыў.

Палохаў бранёй ракетнай,
Спавіў палігоны ў дым.
Цень трэцяй вайны сусветнай
Бясконца лунаў над ім.

Рабіў суіцыду спробы,
Забыўшы на ўласны лёс.
І ядзерны свой Чарнобыль
Над светам, было, узнёс.

Шкада мне яго? — нікольκі.
Ён там, дзе вякоў імгла,
Рассыплецца на асколкі
Зямнога дабра і зла.

І хоць захлынуўся ў скрусе
Ад горкіх і сумных спраў, —
Навекі маёй Беларусі
Ён лёс суверэнны даў!

## ЦЕНЬ ПАМПЕІ

**1**

Гэта не сон —
рэальная дзея.
Быў колісь ён —
горад Пампея.
Між хат і дрэў —
бачылі тое —
Попел асеў
таўшчэзным слоем.
Везувій дыміў
і сцякаў лавай,
Горад укрыў
горычнай славай.

**2**

І вось раскапана
праз час папялішча.
Усё захавана —
і вецер зноў свішча.
Сягоння ўскрываюць
у попеле дзюры.
Ў іх гіпс заліваюць —
выходзяць скульптуры.
І курчацца людзі —
малыя, старыя —
У попельным брудзе,
як колісь жывыя.

**3**

Рэальна блукаем
у часе забытым.
Сустрэчы чакаем
з жыццём, не з нябытам.
Бы зноўку мы чуем
людзей галашэнне.
Ім зараз шанцуе —
ідзе ўваскрашэнне!
Не скрадзены ў нетрах
магільным нябытам.
Іх чуем паветра,
знаёмімся з бытам.

Наноў разглядаем
дзіцячую цацку.
Ў акно паглядаем —
хтось зойдзе знянацку,
За гэтым заняткам
саромна заспее —
Дзіця або матка —
пагоніць зладзея.

**4**

А вось яшчэ побач
пампейскія лазні.
І просты іх побыт,
спакусна-выразны.
З мужчынамі мыліся
поплеч жанчыны,
Да поту таміліся —
цёрлі ім спіны.
Бывае, вадою
ўсяго апалошча.
Ў асобным пакоі
тварылі любошчы.

**5**

Сваімі вачыма —
выпадак звышрэдкі —
Убачыць, якімі
былі табурэткі.
Якая ў пакоях
стаяла пасуда.
Усё пад рукою,
о дзіва, о цуда!
Усё, як сягоння,
пастаўлена чынна,
Бы толькі далонню
іх цёрла жанчына.
І суп налівала
ў гліняную міску,
А потым гушкала
дзіцяці калыску.
Усё перад намі,
усё ў нашым часе.
Нязмерклая памяць
жывой засталася.

**6**

Ды ўсё ж такі скажам:
як страшная дзея,
Узнятая Часам,
паўстала Пампея.

* * *

Хай вечар гэты позні смутна-шэры, —
Мне ён мілей рэальнасці гняткой.
Дыханне чую атамнае эры
Над Віліяй, мне любаю ракой.

АЭС ад рэчкі ўстане блізка-блізка
І возьме пад спалошнае крыло
І хату, дзе душы маёй прапіска,
І плёсу патаемнае святло.

Я ёй адно з самотай пажадаю:
Трымаць у вечнай скутасці уран.
Ці вытрымаць майму лясному краю
Яшчэ адзін шалёны ураган?

АЭС абсяг прысутнасцю аздобіць,
Зірне пагрозна з зацішы лясной,
А мне здалося: ядзерны Чарнобыль
Прыйшоў з Палесся — стаў перада мной.

«Ну вось, паэт, твае гукнулі вершы.
Пісаў іх тут — і я перад табой!
Пад назіркам маім ты шлях завершыш!» —
І чмыхнуў грозна чорнаю трубой.

«Ну што ж, сусед, ліхі пястун прагрэсу,
І не чакаў — душа агнём гарыць, —
Што ўцешыш гучнай мудрасцю ад стрэсу!
Не гэтак ты умееш гаварыць.

Няхай сабрат твой самы дасканалы,
І самы ўжо бяспечны, кажуць мне,
Ды ўсё ж бываюць сумныя фіналы
Па нечай неабачлівай віне.

Калі глядзіш спакойнымі вачыма —
Нясеш дабро, не ядзернае зло, —
Чаму ж бел-свет патрэсла Фукусіма?
Там звышнадзейна, думалі, было.

Не цешся хцівай гордасцю ніколі,
Свет шмат уведаў ядзернага зла.
Жадаю больш удачлівае долі
Таму, што ўстане ля майго жытла».

*2012*

## ТВАЁ МІЛАШОВА

*Алене Масла*

Вёска твая, што да возера горнецца,
Ранкам уздрыгне чуйна, як горліца,
Гляне ў люстэрка возера сіняга.
Ўбачыць:
              бацькоўская хата расчынена.
Маці даўно на падворку ўжо рупіцца,
Бацька з павеці ў хату уступіцца,
Чутна масніца пад крокамі рыпае,
З вудай рыбак на ўзбярэжжы пад ліпаю,
Наша на кладцы праходка світальная.
Потым — хвіліна ад’езду расстайная…

Як жа хачу я, каб задаўга ранкамі
Ў вёсцы кружылі буслы над буслянкамі,
Вулкай каровы да выгана тупалі,
Потым грыбныя дажджы спорна выпалі,
Светла буяла жыта даспелае
І дзеўчанё летуценнае смелае
Гушкала плёсы соннага возера…
Цегла з ваколля ранішнім водарам.
Дыхала раніцай спеўнае слова.
Вечным пад небам было Мілашова…

Ты, чараўніца ягоная мілая,
Птушкай ляцела сюды легкакрылаю,
Маміны рукі сустрэчна цалуючы,
Сэрцам радзіму й радзіну мілуючы.

* * *

Бачыў сэрца бабруйскага хлопца:
Вынятае з грудзіны,
На ўвесь тэлеэкран
Яно сціналася ў астатніх канвульсіях
(Ён, падключаны да сістэмы
Штучнага кровазвароту,
Забыта-адсутна чакаў),
А два хірургі
Кроілі яго сэрца — дабывалі
Разрослую пухліну
(Аказалася злаякаснай),
Трымаючы ў руках
На святле хірургічных сафітаў.

І грудзі мае сціналіся,
І сэрца маё тахкала,

Гарэла жарам надзеі —
Каб жа ўсё скончылася шчасліва!

І калі праз нейкі тыдзень
Апрытомнелы юны хлапец
Сказаў вядучаму тэлепраграмы,
Што ведаў, на што ідзе,
Што не хацелася паміраць
У дваццаць,
Я выцер з ілба
Гарачку поту,
З выдыхам жаркім
Паверыў у цуды твае,
Сучасная медыцына…

Як зычу аднаго:
Каб гэтае
Пабачанае мной
І мільёнамі сэрца
Білася доўга-доўга…

## У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ІВАНА ШАМЯКІНА

Снежна ў свеце, Іван Пятровіч,
Скрушна ў свеце — крызісы, войны.
Чалавек чалавеку зласловіць,
Дыпламатыя — з дном падвойным.

І між гэтай жуды планетнай
Над астатніх ілюзій тленам
І сардэчна да ўсіх, і прыветна
Беларусь устае суверэнам.

Вы жадалі ёй долі шчаснай,
Каб заўсёды была у сіле.
На вайне той крывёй уласнай
Сон і яву яе акрапілі.

І на самай прачулай мове,
Сцяўшы ўласныя ўсплёскі болю,
Вы яе услаўлялі ў слове
Самай чыстай зямной любові.

Не спаткнецца яна на паўкроку,
Маладая, прыветна гасцінная.
Хоць і хціўцам — бяльмо на воку,
Расцвітае калючай шыпшынай.

* * *

Далёка як журба мая зайшла,
Нібы ў бальнічнай сціснула палаце,
У вёсачцы чужой, у нечай хаце
Пішу я верш на ўскраечку стала.

Сюды сабрала вусцішна чужына
Выгнаннікаў бядоты — землякоў.
Вясельны гуд плыве з усіх бакоў.
Бацькі тут жэняць маладога сына.

І я, прайшоўшы пыльных вёрст багата,
Пад навіссю абложнага дажджу
Ў застоллі ўганарована сяджу
У рангу падвяселенага свата.

Бярэ хлапец пляменніцу маю,
Яна зіхціць, шчаслівая, як зорка.
А мне ў хаціне гэтай скрушна-горка,
Не ем нічога, больш таго — не п’ю.

Інакшы бачу ў далячыні дом,
Дзе ўпершыню гучаў званочак-голас,
Дзе стрыгла спрытна ўцешна ножкай голай,
Дзе шчасця спеў, дзе памяці надлом.

Сам выбіраў ёй знатнае імя
У памяць аб сышоўшай рана маці —
Яе бабулі… Як разгульна ў хаце
Віруе баль… А месца мне — няма.

Вядзе мяне туга туды, дзе скон.
І бачу, як на быльняговых травах
У танцы светлым весела, рухава
Вясельны вэлюм кружыцца…
То ён,

Вясельны вальс — на ростані дарог.
Вы кружыцеся ў самым светлым танцы,
Жыцця і шчасця юнага абранцы,
Рух танца кожны ў сэрцы я збярог.

І веру я: Чарнобыля няма.
І не было. І толькі танец белы,
І свет жывы, яшчэ не звар’яцелы,
Рака жыцця цячэ сабой сама.

Вясельны рух з пакоя, з панадворка.
О, ява-плынь, душу асцеражы.
Не быць ёй на чарнобыльскім крыжы!
Чаму ж тады крычу з усімі — горка!?

* * *

Зірнулі продкі з колішніх вякоў,
І слёзы з воч пацеклі ручаямі:
Без бою на вачах франтавікоў
Здалі мы тое, што ўзялі з баямі.

## ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІРА МАРУКА

Ты адышоў… У снежны студзень
Павёў марозны ззяблы дзень.
І смерць у чорным перапудзе
Адкрыла вечны бюлетэнь.

І легла ранняя магіла
Гайстрэй смяротнага ляза.
Над ёй і сёння не астыла
Дачкі пякучая сляза.

Грудок не выстыне на веі,
Хоць шмат віхураў адгуло.
Яго дасюль самотна грэе
Грудзей матуліных цяпло.

І як на даўняй фотакартцы,
Цябе абступяць з двух бакоў,
За стрэчу ўзяўшы зноў па чарцы,
Сябры — Стрыжак і Пісьмянкоў.

* * *

Апошнія гадзіны на зямлі.
Той будзе дзень зімовым ці вясновым.
Заявішся ці ведама калі
Сюды, пад Сонца, у аблiччы новым?

Нябытам ператвораны у тло,
Не думай аб звароце, як аб цудзе.
Цябе да нараджэння не было,
І апасля — ніколі ўжо не будзе.

Затрубяць смутна ў небе жураўлі,
Пацягнуць вырай горкі ў дзень асенні…
Задумайся: ты вечны на зямлі
Ўсяго ў адным сваім жывым імгненні.



Мікалай ЧАРГІНЕЦ

# АПЕРАЦЫЯ «КРОЎ»*

*Раман*

## Раздзел 38

План захопу ў палон каштоўных языкоў — двух падпалкоўнікаў, якія прыбылі ў Беларусь для інспектарскай праверкі, кіраўніцтвам брыгады рыхтаваўся асабліва старанна.

Палкоўнік Грынёў і падпалкоўнікі Пазнякоў і Мароз за некалькі дзён да магчымага адбыцця нямецкіх падпалкоўнікаў у Барысаў праседзелі ў штабной зямлянцы цэлую ноч.

Трэба было ўлічыць усё і, самае галоўнае, не дапусціць, каб карнікі пасля аперацыі расправіліся з жыхарамі найбліжэйшых вёсак. Ламалі галовы і над тым, як пасля захопу высокапастаўленых афіцэраў не падштурхнуць акупацыйныя ўлады на ўзмацненне аховы дарог і тэрыторый у наваколлях Сёмкава. Кіраўнікі брыгады адразу ж адхілілі думку аб правядзенні вялікай аперацыі. Прыйшлі да высновы, што захоп фашыстаў неабходна правесці каля населеных пунктаў.

Начальнік разведкі, зрэдку пазіраючы на залацістыя пагоны камбрыга, нечакана прапанаваў:

— А калі нам запусціць «дэзу», што, маўляў, праз Смалявіцкі, Барысаўскі раёны прайшла вялікая група партызан з мэтай прарвацца на ўсход?

— І што гэта нам дасць? — хмурна спытаў начштаба.

— Гэта інфармацыя ў нас «пракоціцца» з заходняй часткі Смалявіцкага раёна да паўночнага ўсходу Барысаўскага. Зробяць гэта заўтра і паслязаўтра нашы крыніцы — старасты, паліцэйскія і гэтак далей. Атрымаўшы гэту «дэзу», немцы вырашаць, што нейкая блукаючая партызанская група, не здзяйсняючы напады, прайшла праз тэрыторыю гэтых раёнаў. А паколькі не вяла баявых дзеянняў, то яна, як той казаў, прышлая, і мэта яе — непрыкметна, бясшумна наблізіцца да лініі фронту і паспрабаваць прабрацца да сваіх.

— Ну, ну, працягвай, — ажывіўся Грынёў.

— Фрыцы, вядома, тут жа праінфармуюць камандаванне групы войск «Цэнтр» пра знаходжанне ў прыфрантавой зоне даволі значных сіл партызан і пра тое, што мэта іх — прарыў праз лінію фронту на ўсход. — Мароз зрабіў паўзу і, хітравата ўсміхнуўшыся, прадоўжыў: — А вось пасля захопу гэтых каштоўных падпалкоўнікаў нашы людзі, дакладней, старасты, прад'яўяць акупацыйным уладам свайго роду прэтэнзіі. Як жа так?! Мы, панове гаспада-

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2 2014 г.

ры, дакладвалі, што з’явілася вялікая група прышлых партызан, а вы нічога не зрабілі. А гэтыя партызаны, такія і сякія, у нашых сялян, якія пражываюць у вёсках, па ходзе руху на ўсход забралі трох-чатырох кароў, дзвюх коз і кабанчыка, ды яшчэ і сёе-тое з цёплай адзежы...

— А што, тут штосьці ёсць! — усклікнуў камбрыг. — Гэта падштурхне немцаў да думкі, што партызанскі атрад-шатун выпадкова і схапіў афіцэраў.

— А яны — каштоўны падарунак, дзякуючы якому партызаны будуць выглядаць у камандавання Чырвонай Арміі героямі, — падхапіў начальнік штаба.

— Самае галоўнае — ад насельніцтва ўдасца адвесці рэпрэсіі.

— Ды і нам трэба будзе менш сіл траціць на вядзенне барацьбы з часцямі, якія верагодней за ўсё былі б кінуты нямецкім камандаваннем на пошукі падпалкоўнікаў, — дадаў Мароз.

Камбрыг пажартаваў:

— А цябе, Іван Мікалаевіч, не турбуе, што ў нас у брыгадзе стане не два, а адразу чатыры падпалкоўнікі?

— Ды ну вас, Сяргей Іосіфавіч!

— Вам можна пазайздросціць, вунь як зіхацяць на вашых плячах новенькія пагоны. А ці ўдасца нам з Паўлам Міхайлавічам панасіць на плячах такія ж?

— Ну гэта ты, Ваня, кінь, званні вам прысвоены, па ордэне Чырвонай Зоркі атрымалі. Вось прыйдуць нашы, надзенеце і форму з пагонамі, і іншыя знакі адрознення, і пагонім мы разам з нашым войскам фрыцаў да самага Берліна. А цяпер трэба біць фашыстаў.

Як бы падводзячы вынікі нарады, камбрыг звярнуўся да начштаба:

— Павел Міхайлавіч, афармляй план. Як толькі Ірэна Уладзіміраўна дасць сігнал, адразу ж, як той казаў, наперад. Што да авіяўдараў па складах на таварнай станцыі, вагонарамонтнага завода і дыверсіі на чыгуначнай лініі. Заўтра ж да вечара нашы сігнальшчыкі з ліхтарамі чырвонага і зялёнага колераў і чатыры групы падрыўнікоў павінны быць на месцах.

Аперацыю па захопе нямецкіх падпалкоўнікаў правядзём вось тут, — камбрыг алоўкам зрабіў кружок на карце.

— Так блізка ад Барысава? — насцярожыўся Пазнякоў. — Ці не занадта вялікая рызыка?

— Рызыка, вядома, немалая, але і шанцаў больш. Адчуўшы, што падарожжа заканчваецца, праціўнік страціць пільнасць. Думаю, што будзе не лішнім стварыць дадатковую групу, якая павінна адцягнуць на сябе праследаванне. Хай немцы, калі паспеюць кінуць такія сілы, падумаюць, што захопленых афіцэраў адводзіць з сабой група, якая прарываецца да фронту. Даручы, Павел Міхайлавіч Яшчыну, камандзіру батальёна, хай рыхтуецца. Не забудзься яшчэ раз павіншаваць Івана Пятровіча з баявой узнагародай. Ёсць пытанні?

— У мяне ёсць пытанне, — адазваўся начальнік разведкі.— У немцаў падчас аперацыі напэўна будуць забітыя. А што, калі нам хутка пераапрануць знявечаныя целы немцаў у формы падпалкоўнікаў, пакінуўшы ім сякія-такія дакументы?

— Вечна ты, Іван Мікалаевіч, з новымі ідэямі лезеш, — зрабіў выгляд, што хмурыцца — камбрыг паглядзеў на Пазнякова, — прычым заўваж, таварыш начальнік штаба, з добрымі ідэямі. Як думаеш, паспрабуем?

— Яно то так, вось толькі дакументаў шкада...

— А мы пакінем самы мізар: якую-небудзь паперку з прозвішчам, а партфелі, забраўшы з іх дакументы, кінем у падпаленую машыну. Немцы супакояцца: згарэлі дакументы разам з героямі з Берліна. На вайне як на вайне.

— Добра, Сяргей Іосіфавіч, — пагадзіўся начштаба. — Мы падрыхтуем групу з разведчыкаў, якія паспрабуюць правесці гэту аперацыю.

— Ну што ж, з Богам, сябры! — сказаў камбрыг, накіраваўшыся да выхаду.

На досвітку наступнага дня групы байцоў адпраўляліся на заданне. Выклікала трывогу і тое, што разведчыкам, якія павінны разам з падпольшчыкамі падаваць сігналы савецкім самалётам, трэба было прабрацца праз небяспечны пераход праз тры ахоўна-абараняльныя паласы, створаныя акупантамі вакол Мінска.

Падрыўнікам таксама чакаўся нялёгкі шлях па заснежаных лясах і палях, каб своечасова абысці засады і заслоны фашыстаў.

У гэты ж дзень ад Ірэны Уладзіміраўны паступіў доўгачаканы сігнал: заўтра ў шэсць гадзін вечара даставяць коней у вёску.

Камбрыгу ўсё было ясна. Нямецкі картэж будзе на месцы ў дзве гадзіны дня. Грынёў, атрымаўшы ад Панамарэнкі цэлых дзесяць партатыўных радыёстанцый, меў такім чынам магчымасць забяспечыць сябе «вачамі» і «вушамі». За невялікім картэжам з падпалкоўнікамі сачыла група разведчыкаў. Ведаючы маршрут, па якім будзе рухацца нямецкі картэж, і канчатковы пункт, яны змаглі за паўдня да іх прыбыцця ў Лагойск прабрацца ў гэты раённы цэнтр і забяспечыць камандаванне брыгады сувяззю з Ірэнай Уладзіміраўнай.

Палкоўнік Грынёў аддаў адпаведныя распараджэнні аб пачатку аперацыі.

## Раздзел 39

Мойрын нарэшце супакоіўся. Ён пераканаўся, што дама, якая прыбыла ў інтэрнат, прычым у такі складаны час, калі Чырвоная Армія ўпэўнена наступала па ўсім фронце, сапраўды прыбыла з адной мэтай: разабрацца са сваёй нерухомай маёмасцю.

«Калі гэта так, — разважаў маёр, — то фрау Фішар можна зразумець, кошт гэтага палаца, так бы мовіць, з начыннем, што захавалася ў схованках, шматлікімі каштоўнасцямі, не адзін мільён. — Ён раптам падумаў: — Чорт вазьмі, гэтая фрау нядрэнная сабой. Выдатная фігура, разумная, мяне не адпрэчвае з-за маёй работы. А тое, што мы тут робім, не кожны можа вынесці. Дзіцячая кроў і іх смерць — не для кожнага.

А ці не час мне заняцца гэтай фрау? Жыву адзін, баб амаль не было, калі не лічыць урачыхі, якая з’ехала месяц назад. Ды і з ёй я пачуваўся не вельмі добра. Апрыходваў і адпраўляў са спальні. Пахла ад яе крывёй, дзіцячай крывёй. А гэтая фрау зусім іншая, калі атрымаецца яе…, то падчас знаходжання яе тут няблага ўпрыгожу сваю адзіноту. Такім чынам, наперад, гер маёр».

А тым часам фрау Фішар гутарыла з Вольгай Сялькевіч недалёка ад карэтнага двара.

— Вы разумееце, — плакала Вольга Іосіфаўна, — тут не інтэрнат, як гэта было да вайны, а сапраўдная фабрыка смерці. Дзяцей прывозяць жывымі, а потым — у крэматорый ці закопваюць у зямлю. У дзяцей адбіраюць усю кроў і забіваюць, забіваюць, забіваюць!!! Гэтаму Вільгельму Мойрыну, яго ўрачам, салдатам, паліцаям нават магілкі лянота капаць. Прысыпаюць ледзь-ледзь целы дзетак сумессю зямлі і снегу, і ўсё. Я ўжо не магу! Сама гатовая кінуцца на гэтых нелюдзяў з гнаявымі віламі! — Яна засунула руку ў кішэнь пацёртай ватоўкі і дастала лісток паперы. — Вось, чытайце.

Ганна ўзяла кавалачак паперы, разгарнула і стала чытаць, напісанае дзіцячым почыркам. Дзяўчынка відавочна спяшалася: літары былі няроўнымі, аловак, напэўна, слініла, не ўсе літары выразна бачныя. «Матуля, у мяне заканчваецца аловак. І гэта — апошняя папера, у мяне скончыліся лісточкі. Сёння ў мяне, калі бралі кроў, нямецкі доктар сказаў перакладчыку, што са мной ужо ўсё, што я пустая. Перакладчык пераклаў гэтыя словы нашаму дырэктару, вельмі дрэннаму дзядзьку. Ён таксама забірае дзяўчынак да сябе ў пакой і забівае іх. А я чула гэтыя словы. Калі вялі мяне ў пакой, я валілася, і мяне прынеслі ў нашу палату. Цяпер я прачнулася і пішу табе, матуля, і табе, татачка, апошні раз. Свае лісты я хаваю ў калідоры ля дзвярэй у нашу палату. Там у сцяне ёсць шчыліна. Матуля, татачка, знайдзіце мае лісты, калі не паспееце забраць мяне адгэтуль. Я вельмі люблю вас, але ў мяне ўжо крыві не засталося. Выратуйце».

Фраў Фішар праз сілу прачытала запіску, рукі яе дрыжалі, вочы залівалі слёзы.

— Госпадзі! Што ж гэта такое?! Дзе гэта дзяўчынка?

— Гадзіну назад яна памерла. Мне суседка па ложку паказала, дзе Леначка хавала свае запіскі. Такая добрая дзяўчынка, усё чакала, што яе бацькі вось-вось прыедуць і забяруць. Наіўненькая, думала, што ўсе яе пісьмовыя маленні дойдуць да мамы і таты.

— Госпадзі! Што ж рабіць?!

— Трэба неяк вырваць дзяцей адгэтуль і як мага хутчэй.

— Твая, праўда, Оля. Нам трэба абавязкова складаць спісы дзяцей — тых, хто жывы, і хто ўжо мёртвы. Скажы, а як ахоўваецца карэтны двор?

— Уначы двое літоўскіх паліцаяў. Днём іх больш, забаўляюцца, катаюцца на конях і санях.

— А хто такі дырэктар? Як я зразумела, ён з мясцовых?

— Так, ён да вайны жыў тут. Жонка і шасцігадовая дачка яшчэ ў саракавым годзе з’ехалі ад яго. Гэта не чалавек, ён — быдла, кат! Хапае больш-менш моцненькіх дзяўчынак, нярэдка шасці-сямі гадоў, а тут дзеці ва ўзросце да дванаццаці гадоў, гвалтуе іх. Многія дзяўчынкі паміралі пад гэтай набрыддзю.

— А як паводзяць сябе паліцаі?

— Не лепш немцаў. Такія ж сволачы. Рабуюць жыхароў вёсак, забіваюць нізашто. Яны прама кажуць нам, што прыйшлі сюды забіваць нас.

— А хто ў іх камандзір?

— Тутака ж і літоўскі паліцэйскі атрад. Такія ж каты! А камандуюць імі іх жа афіцэры. Ёсць яшчэ адзін — Ліпковіч, гэты наш, мінскі. Ён нават мёртвых дзяцей штыком калупае. Калі ўбачыце яго, Ганна, беражыцеся. Дарэчы, ён яўрэй. І немцы яго трываюць толькі таму, што ён варты дзясяткаў іх падхалімаў. Набрыдзь заўзятая, сваіх жа супляменнікаў называе няйначай як жыды, з задавальненнем іх забівае.

— Сапраўды тут гадзюшнік. Оля, даводзілася вам па падземным ходзе хадзіць?

— Так. Калі яшчэ Хялкоўскі тут быў, то часта. Ну, тады маладзейшая была, цікава было. Некалькі разоў перад вайной была. А вось калі немцы прыйшлі, то бачыла, як дырэктар Вайтовіч цягаў праз гэты тунэль каштоўныя рэчы — посуд, карціны, дываны. Я бачыла, дзе ён гэта ўсё схаваў. На самым ніжнім узроўні карэтнага дома ў яго ёсць патаемны склад. Дзверы знадворку завалены гноем, старой саломай, часткамі ад вазоў. Зроблена ўсё досыць чыста, камар носа не падточыць.

— А ў каго ключы ад уваходных дзвярэй у тунэль?

— У карэтнага дома, ці, як яго раней звалі, двор, дзверы замкнёны з унутранага боку, а пачынаецца тунэль у склепе левага крыла. Ключы ад склепа і ўваходу ў тунэль у дырэктара.

— А дзверы драўляныя?

— Не, з тоўстага жалеза.

— Я паспрабую паглядзець гэты тунэль.

— Ой, толькі асцярожна. Адна не хадзіце, калі трэба, я магу пайсці з вамі!

— Гэта чаму ж?

— Я думаю, што можна задыхнуцца. Калі я там была, ледзь свядомасць не страціла ад удушша.

— Добра, я буду гэта ўлічваць, — сказала Ганна і дастала з кішэні кажушка некалькі вялікіх лістоў шчыльнай паперы. — Вольга Іосіфаўна, гэта план-схема тэрыторыі інтэрната, на ім паказаны кулямётныя кропкі і пункцірам — маршрут пешых патрулёў, на другім лісце — схема размяшчэння немцаў, паліцаяў, медперсаналу, а таксама там паказаны працэдурныя і палаты, дзе знаходзяцца дзеці. — Ганна працягнула трэці ліст. — Гэта схемы дарог, што вядуць да Сёмкава. Найболей небяспечныя — дарогі на Мінск, Заслаўе і Радашковічы. Менавіта па іх варта чакаць прыбыцця падмацавання гарнізона. — Ганна трохі замарудзілася, дастаючы з сумкі згортак. Працягнула яго жанчыне. — А гэта, Оля, вашым дзеткам.

— Дзякуй вам!

— Скажыце нашым, што сустрэча павінна адбыцца паслязаўтра. Самі прызначце час, каб вам было зручна адлучыцца з інтэрната. Ну, а цяпер пакуль. Пайду церабіць пана маёра, гэтага душагуба, хай пакажа мне падземны ход.

Яны разышліся.

Ганна наблізілася да драцяной загароды, менавіта адгэтуль пачыналася старанная ахова інтэрната. Разам з трыма салдатамі знаходзіўся афіцэр. Ён лісліва казырнуў і адкрыў драцяныя вароты.

Фрау Фішар, адказаўшы на прывітанне, паглядзела на вышку і сама сабе адзначыла: «Як заўсёды, адзін кулямётчык».

Адна з дарожак, самая шырокая, вычышчаная ад снегу, вяла да цэнтра палаца, менавіта там быў кабінет Мойрына.

Яна пастукала ў дзверы і, не чакаючы адказу, прыадчыніла іх:

— Дазвольце, пан Мойрын?

У кабінеце, акрамя яго гаспадара, знаходзіліся яшчэ двое, іх Ганна ўжо бачыла — дырэктар інтэрната Вайтовіч і паліцэйскі Ліпковіч.

— Я не перашкодзіла вам, пан Мойрын?

— Ну што вы, фрау Ганна! Праходзьце, калі ласка, прысаджвайцеся ў крэсла. — Ён звярнуўся да мужчын: — Спадзяюся, мне больш не давядзецца з вамі на гэту тэму гаварыць?

Пачуўшы з правага кута кабінета голас перакладчыка, Ганна нервова павяла плячом і падумала: «Бач, як замаскіраваўся. Паспрабавала б я ліквідаваць гэтага маёрышку, магла б адбыцца асечка».

Вайтовіч і Ліпковіч, уцягнуўшы галовы ў плечы, выйшлі. За імі пайшоў і перакладчык, яго на хвіліну спыніў маёр:

— Пра што яны перагаворваліся?

— Дырэктар баяўся, што яго арыштуюць ці нават расстраляюць. А другі, Ліпковіч, брудна лаяўся, казаў, што да вас ён яшчэ дабярэцца.

— Гэты?! — здзіўлена перапытаў Мойрын. — Ён, дурань, думае, што калі што якое, мы яго возьмем з сабой. Пад кустом гнісці будзе. Вы свабодны, лейтэнант!

Калі перакладчык пайшоў, Мойрын імгненна змяніўся. Ён наблізіўся да Ганны і пацалаваў ёй руку:

— Ведаеце, фраў Ганна, зусім нядаўна я думаў пра вас. Вырашыў прапанаваць разам паабедаць. І нават пакатацца ў санях, запрэжаных паркай коней.

— О, Вільгельм, вы спазніліся, — засмяялася фраў Ганна і растлумачыла: — Я толькі што паабедала. А вось пакатацца ў санях — гэта цікава. Дарэчы, коні знаходзяцца ў стайнях карэтнага двара?

— Так, там вельмі зручна. Тры ўзроўні, сена шмат, коням цёпла. Улетку мы адрамантуем адзіную карэту, якая захавалася.

— О, іх было больш за дзесяць. А карэта на палазах?

— На жаль, яна з коламі.

— А колькі ў вас коней?

— Узімку мы патрабуем ад начальства выдзяляць іх нам больш. Як бачыце, усе пад'езды для аўтатранспарту складаныя, засыпаны снегам. А нам трэба ездзіць у Мінск практычна штодня.

— Вільгельм, мне так хочацца прайсціся з палаца ў карэтны двор праз тунэль. Зрабіце ласку, хай мяне праводзяць, яшчэ лепш, калі вы прагуляецеся са мной. Ведаеце, як рамантычна: ідзеш пад зямлёй і ведаеш, што над табой — рака, трапляеш у карэтны двор, а там чакаюць шырокія сані, запрэжаныя двума конямі. Калі ёсць белыя коні, загадайце, каб іх запрэглі. Уяўляеце, белы снег, белыя коні. Як выдатна! Вы жанаты, Вільгельм?

— Мая жонка ў Мюнхене.

— Я запрашаю вас сюды з усёй сям'ёй. Паверце, у мяне ёсць магчымасць вярнуць палацу яго ранейшую пышнасць.

— Я з задавальненнем прымаю вашу прапанову, фраў Ганна. Нават калі мая Марта не захоча, я прыеду адзін. У вас муж не раўнівы? А то мы, мужчыны, толькі робім выгляд, што не заўважаем, як фліртуюць жонкі. Хоць і самі не супраць. — Але ён своечасова адумаўся. — Такім чынам, — нібы ачнуўся маёр ад юрлівых летуценняў, — я зараз жа загадаю, каб дырэктар адчыніў дзверы ў тунэль.

— А можна, я пайду з вамі? Я ўся ў прадчуванні чароўнага вандравання пад зямлёй.

— Так, але вы залёгка апрануты для паездкі на санях. Цяпер каля дваццаці градусаў марозу.

— Ваша праўда, Вільгельм, я пайду падрыхтуюся, а вы аддайце неабходныя распараджэнні.

— Праз колькі часу вас чакаць і дзе?

— Я буду ў вашым кабінеце праз трыццаць хвілін. І яшчэ. Скажыце дырэктару, які чамусьці не падабаецца мне, каб да нашага прыходу дзверы не адкрываў.

Прайшло роўна паўгадзіны, і фраў Фішар ізноў з'явілася ў кабінеце. Мойрын быў апрануты хутчэй па-вясковаму, чым па-ваеннаму. На ім былі валёнкі, на вешалцы віселі паўкажушак з аўчыны і зімовая шапка. Яшчэ раней у гардэробе фраў Фішар, па загадзе каменданта маёра Мойрына, з'явіліся новенькі паўкажушак і валёнкі, якія прыйшлося ўкараціць.

— Вы гатовы, Вільгельм?

— Так, фраў Ганна. Нас чакаюць каля левага крыла.

Ён хутка напяў на сябе паўкажушак і шапку, і яны выйшлі на вуліцу. Мароз відавочна ўзмацніўся. Салдаты паднялі каўняры сваіх кароткіх шынялёў, грэлі вушы рукамі, падскоквалі на месцы, пастукваючы нагамі.

Двое салдат, прыставіўшы вінтоўкі да калючага дроту, рабілі фіззарадку.

«Мерзні, мерзні, ваўчыны хвост», — успомніла Ганна словы з казкі.

Палац па сваіх абрысах нагадваў вялікую літару «П», толькі верхняя частка была нашмат даўжэйшая за бакавыя. Выйшаўшы з цэнтральнага ўвахода, яны наўскасяк перасеклі двор і апынуліся ля тарца левага крыла палаца. Там стаялі два афіцэры, Вайтовіч і салдат з рэчавым мяшком.

Маёр патлумачыў:

— Тунэль ужо больш як год не праветрываецца. Я загадаў, на ўсякі выпадак, падрыхтаваць процівагазы.

— Нічога не скажаш, — усміхнулася фрау Ганна, — рамантычнае вандраванне пад зямлёй, ды яшчэ і ў процівагазе.

Яны павольна спусціліся на два паверхі ўніз. Дыхтоўны мур з чырвонай цэглы, памерам меншым, чым сучасная, велізарныя аркавыя сцены.

На ніжнім узроўні Вайтовіч паспешна стаў важдацца з ключом ля вялікіх металічных дзвярэй.

Фрау Фішар, гледзячы на яго з непрытоенай пагардай, спытала:

— Скажыце, а чаму мы ішлі сюды праз двор, а не па ўнутраных прыступках?

— Гэта — галоўны ўваход.

— Не зразумела, галоўны ўваход ідзе на першым узроўні з кантавога пакоя гэтага крыла палаца.

Перакладчык хутка пераклаў яе словы Вайтовічу. Той прамямліў штосьці няўцямнае, і тады фрау Фішар рашуча накіравалася да цаглянай лесвіцы, якая вяла наверх:

— Пройдзем, пан маёр.

Усе рушылі за дамай. Яна, пачакаўшы, пакуль маёр апынецца побач, накіравалася да процілеглай сцяны:

— Вось паглядзіце.

Мойрын ахнуў.

Калі яны падышлі да сцяны, з’явіўся выгін, а за ім дзверы. Яны былі адчынены, добра была бачна вінтавая цагляная лесвіца.

Ганна павярнулася да Вайтовіча:

— Чаму вы схавалі ад нас гэты ход? — Затым звярнулася да Мойрына: — Вы не думаеце, што гэты патаемны ход Вайтовіч выкарыстоўваў як магчымасць хаваць каштоўныя рэчы?

Мойрын праз перакладчыка грозна спытаў у Вайтовіча:

— Ну, што скажаш?!

Вайтовіч быў на грані непрытомнасці і ледзь чутна прамямліў:

— Прабачыце мяне, я проста забыўся.

— Ну, што, панове, пройдзем уніз, — прапанавала Ганна. Калі Вайтовіч падышоў да дзвярэй, яна нечакана запатрабавала:

— Дайце мне ключ ад дзвярэй, якія знаходзяцца ў карэтным двары.

Вайтовіч дрыготкімі рукамі ўзяў ад звязкі вялікі ключ і працягнуў яго фрау. Яна ўзяла ключ і перадала маёру ў рукі:

— Вільгельм, вас не абцяжарыць накіраваць з ліхтаром аднаго з афіцэраў? Хай шырэй адчыніць дзверы і падсвечвае тунэль. Я думаю, калі адкрыюцца двое супрацьлеглых дзвярэй, то скразняком прадзьме хоць трохі ўвесь тунэль.

— Ваша праўда, фрау Ганна. Я здзіўлены вашай назіральнасцю і логікай.

Ён перадаў аднаму з афіцэраў ключ і загадаў:

— Вазьміце на ўсякі выпадак салдата са зброяй і адчыніце дзверы ў тунэль у карэтным двары.

Прайшло некалькі мінут і фрау загадала Вайтовічу:

— Адкрывайце!

Яна вырашыла, як дзейнічаць далей, таму стала яшчэ энергічней лаяць Вайтовіча.

З тунэля пахла сырасцю і затхласцю.

— Давайце трохі пачакаем, хай адкрыюцца тыя дзверы.

Праз некалькі хвілін Ганна звярнулася да маёра:

— Як думаеце, час?

Мойрын загадаў салдату з кішэнным ліхтарыкам на рамяні ісці першым. Яны павольна рушылі па тунэлі. Паветра было цяжкім і сапрэлым, з цяжкасцю дыхалася. Прамень ліхтарыка стаў меней яркім, але можна было разглядзець цагляны мур, сцены былі, як у расе, халоднымі, часам рукі слізгалі па роўнядзі мура. Але пад нагамі не было вады, вільготнае паветра было пыльным. Неўзабаве пацягнула свежасцю.

Вайтовіч, які ішоў другім, даходліва растлумачыў:

— Гэта пацягнуўся сустрэчны свежы паток паветра. Як правільна вы, пані, распарадзіліся.

Ісці было недалёка — метраў трыста, але пад зямлёй гэта нямала. Дыхалі ротам, ногі сталі дранцвець. Але вось наперадзе за лёгкім выгінам сцяны ўбачылі святло ліхтара. Хутка яны апынуліся ў вялікім памяшканні.

— Вось гэта і ёсць ніжні паверх карэтнага двара. Звычайна тут карэты стаялі, а ў складскіх памяшканнях была амуніцыя, захоўваўся авёс для коней, і нават пакой адпачынку для конюхаў быў. Дарэчы, на першым і другім ярусах былі таксама пакоі для чэлядзі.

Фрау звярнула ўвагу на нагрувашчванне рознага хламу ля дзвярэй.

— А чаму ўваход у складское памяшканне завалены хламам? — Фрау Ганна паглядзела на Вайтовіча. — Што там?

— Не магу ведаць. Я тут амаль не бываў. За стайню іншыя людзі адказвалі.

— А ну, вызвальце ўваход! Дзе ключы ад дзвярэй?

— Не магу ведаць. Я іх ніколі ў руках не трымаў.

— Хлусіце. Ключ на звязцы! — Фрау вырвала звязку з рук Вайтовіча. — Давай, працуй! Даю тры хвіліны!

Вайтовіч кінуўся да хламу і стаў ліхаманкава яго раскідваць. Неўзабаве праход да дзвярэй быў вызвалены. Фрау Ганна працягнула яму ключ:

— На, адкрывай!

Вайтовіч дрыготкімі рукамі ўставіў ключ у замок і асцярожна пацягнуў на сябе дзверы. Паніклы, як перад пакараннем смерцю, ён першым ступіў праз парог, фрау Фішар і афіцэры рушылі ўслед за ім.

— Усё ясна! — усклікнула дама. — Глядзіце, ды тут каштоўнасцей як з паловы майго палаца. — Яна павярнулася да Вайтовіча. — Ну што, шэльма, цябе загадаць тут расстраляць ці на свежым паветры? Ты думаеш, людзі не бачылі, як ты спачатку адзін, а затым са сваім напарнікам паліцаем усё гэта цягаў?

Вайтовіч паваліўся перад ёй на калені:

— Пашкадуйце! Я гэта ўсё мігам назад дастаўлю. Пашкадуйце! Я ж верай і праўдай служу вам. Я буду вашым рабом! — Ён зрабіў выгляд, што хоча пацалаваць ёй ногі.

Фрау ткнула яго валёнкам:

— Пайшоў прэч, сволач!

Яна падвязала ўсе ключы да агульнага звязка і працягнула яго Мойрыну:

— Пан маёр, я папрашу вас, загадайце надзейным людзям даставіць усе каштоўнасці ў палац. Хай перапішуць іх і возьмуць на ўлік.

— Добра, фрау Фішар, будзе зроблена.

Маёру стала дрэнна. Ён раптам уявіў, як прыезджая дама паведамляе ў Берлін, што так, маўляў, і так, маёр Мойрын глядзіць скрозь пальцы на выхадкі яўрэяў. Ліхаманкава прагаварыў:

— Я загадаю расстраляць гэтага нягодніка, не, павесіць на перакладзіне ля варот пры ўездзе, каб усе бачылі, як акупацыйныя ўлады паступаюць са злодзеямі.

— Пакуль арыштуйце. Ключы схавайце ў сейфе. Я давяраю толькі вам, Вільгельм. — І, убачыўшы, як мяняецца ў твары маёр, як ён ачуньвае, дадала: — Ну што, на мароз? На прагулку?

Маёр загадаў аднаму з афіцэраў з дапамогай салдат даставіць усе каштоўнасці ў замак, затым замкнуць усе дзверы, а ключы перадаць яму асабіста, калі ён вернецца з прагулкі.

Прагульваліся яны крыху больш за гадзіну. Вецер, які нечакана падняўся, літаральна абпальваў твар. Мойрыну, вядома, было прыемна сядзець побач з фрау Ганнай, удыхаць водар яе духоў, але з-за моцнага ветру і пякучага марозу прыемней было б паспрабаваць змяніць гэты сенавал на палазах на цёплую ўтульную пасцель.

Калі коні заехалі праз драцяныя вароты ў двор палаца, фрау Фішар сказала:

— Я пайду пераапрануся, а вы, Вільгельм, высветліце, ці выканалі ваш загад, ці даставілі ўкрадзенае на месца, і схавайце ключы ў сейф. Я зайду да вас крыху пазней.

Ганна хутка пераапранулася і заспяшалася на сустрэчу з Вольгай Іосіфаўнай. Знайшла яна сувязную ў калідоры дзіцячага корпуса. Вольга, выціраючы слёзы, слухала маленькую дзяўчынку. Убачыўшы Ганну, Вольга ўзяла дзяўчынку за руку і, павёўшы яе за сабой, як быццам запрасіла Ганну. Яны апынуліся ў пральні, тым часам яна ўжо не працавала, і можна было спакойна пагаварыць.

— Ніначка, раскажы цёці ўсё спачатку. Цёця можа дапамагчы.

— А ў вас кавалачка хлеба ці яшчэ чаго-небудзь не знойдзецца? Я вельмі есці хачу. Я ўжо траціла прытомнасць з голаду.

— Ой, прабач, дзетка, — усклікнула Вольга Іосіфаўна. — Я што-небудзь пашукаю, а ты расказвай усё цёці. Яна добрая.

«Малайчына Оля,— падумала Ганна, — не называе, на ўсякі выпадак, майго імя».

Вольга Іосіфаўна выйшла ў калідор і шчыльна прычыніла за сабой дзверы. Ганна пасадзіла дзяўчынку на шырокай лаве, дзе звычайна ставілі тазы для мыцця, і, прысеўшы побач, стала слухаць. Дзяўчынка аказалася на рэдкасць здольнай, валодала выключнай памяццю. Яна сказала, што ёй цяпер дзевяць гадоў, родам яна са Смаленскай вобласці. Акрамя яе ў сям'і былі брат і тры сястры. Калі пачалася вайна, яе бацьку як актывісту калгаса даручылі разам з трыма камуністамі вывезці раённы архіў і арганізаваць перагон скаціны на ўсход. Бацька паспеў вярнуцца ў вёску перад самым прыходам немцаў. Яго схапілі і на вачах сям'і павесілі.

— Вяроўка аказалася гнілой і абарвалася, — абыякавым голасам расказвала Ніна, — тады немец стрэліў тату ў галаву і загадаў ізноў яго павесіць. Затым усю нашу сям'ю адвезлі ў Вязьму, там загналі ў таварны вагон і адпра-

вілі ў канцлагер у Слуцку, дзе былі і вайскоўцы, і цывільныя. Дарослых ганялі на працу і давалі ледзь-ледзь паесці. Дзецям нічога не давалі.

— А дзе вы жылі?

— У бараках, там былі зроблены нары па тры ў вышыню. На іх нічога не было. Было вельмі холадна на адных дошках. Наша матуля і дзве сястрычкі захварэлі тыфам і памерлі. Старэйшы брат Вова, яму было дванаццаць гадоў, вырашыў уцякаць, але калі ён пралазіў праз плот, яго застрэлілі. Мы з сястрой Клавай, ёй тады было дзесяць гадоў, хаваліся пад нарамі.

— І колькі вы там былі?

— Да сакавіка 1943 года.

— Як жа вы там выжылі?

— Не ведаю. Нас ледзь-ледзь падкормлівалі палонныя салдаты. Яны таксама галадалі, але з дзецьмі дзяліліся. У сакавіку сорак трэцяга нас, дзевяць такіх кінутых, у лагеры вылавілі і прывезлі ў Сёмкава. Кармілі вельмі дрэнна, увесь час бралі кроў. Ад бруду і вошай у мяне вылезлі валасы. Вось, паглядзіце, — дзяўчынка прыпадняла на патыліцы рэдзенькія валасы і працягнула: — Калі б не цётка Оля, мы б не выжылі. Яна прыносіла нам то суп, то хлеб, ці нават бульбіну. Неяк немцы чарговы раз адабралі дзесяць-дванаццаць старэйшых дзяцей і сказалі, што павязуць іх у Германію, дзе яны будуць добра жыць і апранацца. Але мы ж ведалі, што павязуць туды, дзе нямецкія параненыя, і там адбяруць усю кроў. Дзеці дамовіліся бегчы. Калі грузавая машына праязджала праз лес, дзеці дружна саскочылі і ўцяклі.

— А што, іх ніхто не ахоўваў?

— З імі ў кузаве быў толькі адзін немец з вінтоўкай. Але ён нічога не змог зрабіць, разгубіўся. Да нас улетку рэгулярна прыязджала вялікая крытая машына. Гэта было заўсёды ўначы. Немцы выцягвалі з ложкаў дзяцей, цягнулі ў машыну і рабілі нейкую прышчэпку.

Адзін раз і я папалася. Мне штосьці ўпаролі ў паясніцу, мясцовыя нямецкія ўрачы амаль кожны дзень правяралі мяне. Я ледзь не памерла. Мая старэйшая сястра Клава не вытрымала і ўначы змагла пралезці пад калючым дротам і ўцячы.

— А ты чаму не ўцякла з сястрой?

— А я ж моцна хварэла пасля той прышчэпкі і не магла рухацца, не тое што бегчы. Я ўцякла потым, мне дзядуля, які ездзіў на падводзе, дапамог. Ён па чарзе пасадзіў нас траіх у фурманку, мы закапаліся ў сена. Зверху ён склаў усялякую ўсячыну, нават пустыя бочкі, і ехаў да рэчкі Чарнушкі. Ён там ваду браў. Ну, а мы ўцякалі.

У гэты момант увайшла Вольга Іосіфаўна. Яна працягнула дзяўчынцы дзве халодныя бульбіны і кавалачак хлеба:

— На, Ніначка, хоць гэтым трошкі падмацуйся.

Ніна падзякавала і ўпілася зубкамі ў бульбіну.

— Ну, ты паеш, пагладзіла дзяўчынку па галаве Ганна, а потым даскажаш.

— Не, я буду і есці, і расказваць. Трэба тэрмінова ратаваць маіх сяброў, інакш яны памруць.

— Якіх сяброў?

— Ну, тых, каго вывез дзядуля з інтэрната. Мы ж дамовіліся, што недалёка ў лесе дачакаемся адзін аднаго.

— І калі гэта было?

— Гэта было ў верасні мінулага года, — за дзяўчынку адказала Вольга Іосіфаўна.— Я добра памятаю, як насіўся Вайтовіч, пагражаў павесіць на

першым жа суку таго, хто дапамог дзецям. На ўсякі выпадак дзеда перасталі пускаць на тэрыторыю.

Ганна зноў пагладзіла дзяўчынку па галаве:

— Ну і што было далей?

— Мы сустрэліся. Дамовіліся, што заўсёды будзем разам. На ўсякі выпадак, па прапанове Ісака, ён у нас самы старэйшы, мы запомнілі прозвішчы адзін аднаго і імёны бацькоў. Ісак амаль кожны дзень нам іспыты рабіў. Ці памятаем мы, хто мы і хто мама і тата, казаў, што калі нас што-небудзь разлучыць, то пасля нашай перамогі мы ўсё раскажам дарослым.

— Ты кажаш, што Ісак і Роза родныя брат і сястра. А як іх прозвішча?

— Левіны. Тату ў іх завуць Міхаіл Ісакавіч, а маму Эма Самуілаўна. Яны з Мінска. Іх сем'і павезлі ў гэта, як гэта... — наморшчыла лобік дзяўчынка, нават жаваць перастала.

— Гета? — спытала Ганна.

— Так, так, гета. Там усіх немцы забіваюць. Ісак таксама хоча прабрацца да нашых салдат, каб адпомсціць гадам.

— Дык дзе ж цяпер Роза і Ісак?

— Мы доўга блукалі па лесе. Знаходзілі грыбы, ягады, часам капаліся ў гародах, там траплялiся непрыбраныя бульбіны. Але калі прыйшла зіма, мы зразумелі, што замерзнем. Сталі хадзіць па вёсках і прасіць даць нам прытулак. Але людзі баяліся дый самі галадалі. І вось мы знайшлі на ўскрайку маленькай вёскі хатку, дзе жыла адна бабулька. У яе таксама мала што было есці: у склепе два мяшкі бульбачкі, сушаная трава, соль і чатыры курыцы. Вось ужо амаль месяц, як бабуля Вера памерла. Мы ўтрох ледзь магілу выкапалі, ледзь змаглі занесці туды бабулю і пахавалі.

Неўзабаве скончыліся запалкі і соль. Мы па чарзе, адну за адной зарэзалі курэй, усё адно іх карміць не было чым і яйкі яны не неслі. Абскубалі, пух у падушкі і ватную коўдру запіхвалі, а мяса Ісак выносіў на мароз. Потым дзялілі гэта мяса на маленькія долькі і кожны дзень трошкі елі. Мы хацелі пратрымацца да вясны. Але адну курыцу ў нас ліса выкрала. А дзён дзесяць назад захварэў Ісак. У яго ўвесь час вялікая тэмпература, ён моцна кашляе, яму холадна. Учора ён не змог жаваць нават высушаную бабуляй Маняй траву. Дапамажыце нам выратаваць Ісака, — раптам заплакала Ніна і нечакана зусім па-даросламу сказала: — Ён у нас адзіная надзея.

— Ды як знайсці тваю хату? — спытала Вольга Іосіфаўна.

— А я не ведаю, — расплакалася Ніна. Раптам яна здагадалася. — Але я магу паказаць.

— Разумееш, дзетачка, — Ганна ўжо каторы раз пагладзіла яе па галоўцы, — цяпер ты не выйдзеш з тэрыторыі інтэрната. Тут мы цябе схаваем, а вось дзяцей трэба ратаваць неадкладна.

Вольга Іосіфаўна ўстала:

— Вы пасядзіце, я хутка…

Яна пайшла, але праз хвілін пяць вярнулася, несучы ў руках спісаны з аднаго боку ліст, перавярнула яго на лаўцы на чысты бок і накрэсліла квадрат:

— Глядзі, Ніначка, вось тут мы цяпер з табой. Гэта галоўны выхад, па баках ёсць яшчэ два. Вось тут і тут. Як бы ты пайшла адгэтуль да вашай хаты?

Дзяўчынка наморшчыла лоб. Было відаць, што ёй цяжка знайсці рашэнне. Раптам яна спытала:

— А дзе тут рэчка? Яна нават у такі мароз не ўсюды замерзла.

— Рэчка? Вось, глядзі. — І Вольга Іосіфаўна намалявала лінію.

Ганна сядзела, сціснуўшыся, як спружына. Яна не магла браць удзел у вызначэнні месца, дзе знаходзяцца дзеці, не мясцовая.

А дзяўчынка павяла пальцам у бок ракі, правяла крыху далей і сказала, што ёсць нейкі вялікі хлеў.

— Правільна, — падтрымала яе Вольга Іосіфаўна, — гэта стайня. А за стайняй віднееецца вёска.

— Так, але мы яе заўсёды абыходзім. Там дрэнныя людзі жывуць. Праганяюць, запалак і солі не далі, абяцалі паліцыю выклікаць.

— Такім чынам, вы абыходзіце гэту дрэнную вёску злева, гэта значыць з боку лесу. Правільна?

— Ага. А потым каля лесу мы ідзём у наступную вёску. Там і стаіць хата бабулі Мані.

— А людзей у вёсцы шмат? — спытала Ганна.

— Дык яна ж уся спалена, — са здзіўленнем гледзячы на «цёцю», адказала дзяўчынка.

Вольга растлумачыла:

— Сапраўды, яшчэ напачатку сорак другога карнікі спалілі гэту вёску амаль з усімі жыхарамі. Праўда, засталося, кажуць, пяць-шэсць чалавек, дык іх фашысты вывезлі. Так што я ведаю гэту вёску. Адгэтуль кіламетры тры будзе. Вазьму запалак, што знайду, з ежы. У мяне тут грамаў сто круп ёсць і кавалачак масла. Спачатку абагрэю дзяцей, распалю печку, падкармлю трохі, а потым ужо будзем думаць, што рабіць далей.

— А што рабіць з Ніначкай?

Вольга Іосіфаўна задумалася, потым сказала:

— Вядома, можна было б тут да раніцы пакінуць, але дзверы не замкнёны. А што, калі яе ў пакой адвесці, дзе Леначка спала?

— Гэта тая, што пісьмы пісала?

— Так. Яе ж ложачак пусты.

— А калі раніцай урач уваліцца з абходам?

— Будзе дрэнна.

І раптам Ганну асяніла:

— Слухай, Оля, а ты не ведаеш, дзе ляжаць ключы ад якой-небудзь капцёркі дырэктара? Яго ж нядаўна Мойрын арыштаваў. А я прасачу, каб яго не выпусцілі.

— Ведаю, ведаю, — узрадавалася Вольга. — Пайшлі! — І першай накіравалася да дзвярэй.

Жанчыны не зважалі на тое, што яны «тыкалі» і «выкалі» адна адной. Натуральна, Вольга ніколі не дазволіла б сабе «тыкнуць» Ганне пры старонніх. У калідоры, ля дзвярэй, што вялі ў адну са шматлікіх капцёрак, Вольга падышла да вядра, якое вісела ў нішы. Запусціла ў яго руку і дастала маленькі мацерчаты скрутак, там і аказаўся ключ. Хутка адчыніла дзверы, і яны апынуліся ў даволі вялікім памяшканні. Злева ад увахода стаялі старадаўні стол і крэсла. За ім штосьці накшталт тапчана, на ім матрац, засланы байкавай коўдрай, і падушка ў каляровай навалачцы. Амаль на трацiну пакой быў завалены матрацамі, цюкамі коўдраў, стосамі прасцін і яшчэ нейкімі рэчамі.

— Вось сволач, — абурылася Вольга, — а дзецям, якія замярзаюць, лішняй коўдры ці чыстай прасціны не дае!

— Дык гэта ён сюды дзяўчынак цягае?

— Не, у яго ёсць памяшканне, таксама склад, там у яго камфортней. Ёсць вада, туалет. Ды і да выхаду на задні двор бліжэй.

Ганна раптам схамянулася і звярнулася да дзяўчынкі:

— Ніначка, а ты не хочаш у туалет?

— Не, я ў лесе ўсё зрабіла.

— Не спалохаешся цемры?

— Не, я не баюся, калі цёмна.

— А тут у яго, — Вольга Іосіфаўна азірнулася, — дзесьці ёсць і свечкі, і запалкі.

Яна прайшла за стол, дзе стаяла тумбачка, і адкрыла дзверцы:

— Так і ёсць. Цэлы запас. — Дастала тры свечкі і карабок запалак, прачытала налепку на скрынцы і са значэннем прамовіла: — Нашы, савецкія. Так што, Ніна, калі мы пойдзем, ты можаш запальваць свечку. Калі спатрэбяцца яшчэ запалкі і свечкі, бачыш, дзе яны? Бяры, колькі трэба. Калі захочаш у туалет, дык вось вядро, не саромейся, потым прыбяром.

— Вось бы дзецям хоць некалькі запалак, яны б печку падпалілі, дровы там ёсць, — летуценна сказала дзяўчынка.

Жанчыны пераглянуліся, Вольга Іосіфаўна зноў падышла да тумбачкі і літаральна пяцярнёй загрэбла з дзясятак свечак, затым шэсць карабкоў запалак:

— Твая праўда, Ніначка, я і для дзяцей захаплю, і да сябе ў хату. У мяне ніколі свечак дома не было, а запалкі — кожная штучка на ўліку.

— Правільна, бяры, Оля, — падбадзёрыла яе Ганна, — цяпер Вайтовічу будзе не да таго, каб лічыць, дзе што ў яго ёсць, а чаго нестае. Так, Ніначка, ты не турбуйся, мы цябе не кінем. Я прынясу табе хутка яшчэ чаго-небудзь паесці.

Жанчыны выйшлі, замкнуўшы дзверы. Вырашылі ключ пакінуць там жа, дзе ён ляжаў. Хто раней прыйдзе, той і зможа яго ўзяць.

— Оля, ты сапраўды ўпэўнена, што вёска, дзе знайшлі прытулак дзеці, Алесіна называецца? — спытала Ганна.

— Канечне. Жыхары іншых вёсак абыходзяць яе бокам. Кажуць, што блукаюць па папялішчы прывіды ў абліччы загінуўшых.

— Значыць, давай зробім наступным чынам: ты бяжыш да дзяцей. Калі што якое, я цябе прыкрыю, маўляў, ты ўспомніла, што сякія-такія паперы пра палац у бацькі былі. А я цябе і паслала іх адшукаць. Ты ж ратуеш дзяцей.

Цяпер я прынясу табе што-небудзь з ежы. Запалі печку, пакармі, пакінь запалак, свечак. Я думаю, будзе лепш, каб яны заставаліся ў той хаце, калі яна, вядома, прыстасавана для жылля. Растлумач дзецям, што калі да іх прыйдуць дарослыя і скажуць, што яны ад Ніны, хай не палохаюцца, упускаюць іх у хату і робяць усё, што яны скажуць. Адразу ж, як ты сыдзеш адгэтуль, я паведамлю нашым пра гэту праблему, яны дапамогуць.

— Ганна, а можна я дзеда папрашу са мной паехаць? У яго ж конь і сані. Мы ўправімся хутчэй. Дзед Панас надзейны чалавек, ён жа звёў мяне ў сваёй хаце з маім мужам.

— Няма праблем. Калі ты яго ведаеш і давяраеш, то прасі яго. Калі ў яго ёсць які-небудзь хай стары і рваны кажух, няхай захопіць. У хлопчыка жар. Дарэчы, разам з прадуктамі я прынясу і сякія-такія лекі для хворага. Праз пятнаццаць, не, праз дваццаць хвілін сустрэнемся ў пральні. Давай, мілая, дзейнічай.

— Добра, я за гэты час да дзеда Панаса збегаю, скажу, каб збіраўся.

## Раздзел 40

Ліпковіч нечакана адмяніў пагромы, якія меў намер ажыццявіць разам са сваёй бандай, якая складалася з паліцаяў.

У той вечар Леанід прыйшоў да Ліпковіча без дзесяці шэсць вечара. Гэты час Ліпковіч вызначыў для збору банды. Але нікога, акрамя самога Абрама, у яго «кабінеце» не было.

— Што, я рана прыйшоў?

— Не рана, — хмурна прамармытаў Ліпковіч.

Леанід заўважыў, што ён ужо добра выпіў.

— У чым справа?

— «У чым, у чым», — перадражніў Ліпковіч, — чацвярых маіх малайцоў адправілі суправаджаць эшалон з расходным матэрыялам. Вернуцца толькі заўтра.

— А што за расходны матэрыял?

— Ды камуністы, камандзіры, іх бабы і шчанюкі. Кажуць, шэсцьсот—семсот іх там. Эшалон з пятнаццаці цяплушак.

— А куды павезлі?

— Вернуцца хлопцы, раскажуць. Хто кажа, у Германію, хто — у які-небудзь зручны лясок. Вось толькі капаць ямы будзе ў гэтым ляску цяжка. Зямля, нябось, на метр прамерзлая, яе хіба толькі ўзрыўчаткай можна прабіць.

— Дык што, адкладаем справу?

— А ты хіба не бачыш? Думаю, што хлопцы вернуцца заўтра, таму на паслязаўтра плануем, рыхтуйся, а я хачу заўтра з дапамогай нашага начальніка Галкоўскага сям'ю Статкевічаў знішчыць. Нерухомасцю трэба запасціся, Лёнька, нерухомасцю. Зразумеў? Слухай мяне і станеш багатым, вось толькі золатца ды дыяментаў там розных трэба пабольш мець. Калі хочаш, прыходзь заўтра ў чатыры, пойдзем тваю Жэньку браць. Ты хоць паспеў яе апрыходаваць?

Лёнька, разгубіўшыся, маўчаў. Ён ведаў, што вываз сям'і Статкевічаў перанеслі, прычым менавіта на заўтра. Папярэдзілі яго, каб быў гатовы, магчыма, спатрэбіцца яго дапамога. Але пакуль ніхто з сувязных да яго не з'яўляўся. А ўжо каля сямі, хутка наступіць каменданцкая гадзіна.

Ліпковіч маўчанне хлопца ўспрыняў па-свойму, спытаў:

— Што, шкада сваю пілку? Ты не шкадуй іх, гэтых баб. Будзеш пры «башнях», дзясяткі іх ля тваіх ног будуць валяцца. А што да ўсёй кодлы Статкевічаў, то ўсё адно, калі не я, дык гестапа іх спаліць у жароўні Трасцянца. Я сапраўды ведаю, яны ў спісах на ліквідацыю. Таму мне трэба апярэдзіць гестапа, затое ніхто хату гэтых Статкевічаў не будзе прасіць. Месца ўжо вельмі добрае: да кірмаша пяць мінут ісці, да Камароўскай плошчы — таксама.

У Леаніда ўсё калацілася ў душы. «А што, калі цяпер запусціць гадзіннікавы механізм міны ці ж проста цюкнуць гэтага падонка проста тут?» Але ён прымусіў сябе разважаць спакайней. «Ліпковіч хоча напасці на Статкевічаў пасля чатырох вечара, а я ўжо сёння магу знайсці аднаго з сувязных і спытаць, якія ў іх у планы. Калі рыхтуюць на заўтра, то трэба прыспешыць, каб гэта зрабіць у першай палове дня». Спытаў:

— Абрам, ты ідзеш дахаты? Я магу праводзіць.

— А што мне там рабіць? Выць на ложкі, дзе мае ляжалі? Я хачу цяпер аднаго: знайсці таго, хто загадаў маю сям'ю прыкончыць і зрабіць з ім тое ж самае.

— Ну гэты ты кінь, супраць гестапа не папрэш. Сам жа кажаш, трэба думаць пра будучыню. Так што ідзі, Абрам, дахаты, паслухай добрай рады.

— А ў цябе шнапсу якога-небудзь не знойдзецца?

— Заўтра мне абяцаў адзін надзейны чалавек два літры даць.

— Глядзі, без мяне ні кроплі! Зразумеў?!

— Ага. Слухай, а як жа ты будзеш са Статкевічамі вырашаць без нашых хлопцаў?

— Не хвалюйся, Ліпковіч усё прадугледзеў. Мой шэф гаўтман Шлотэн дае салдат і машыну.

— І куды ты іх павязеш?

— Дык сам жа ведаеш, цяпер для такіх толькі дзве дарогі: адна — у лес, але шкада бензін траціць, а другая — у Трасцянец, — адказаў Абрам.

У Леаніда зноў усё закалацілася ўсярэдзіне. Ён успомніў, калі ўваходзіў у двор, то яго бачылі двое знаёмых паліцаяў, значыць, знішчыць гада проста цяпер небяспечна. Паразважаўшы, вырашыў, што самае лепшае — прызначыць сустрэчу з сувязным і паведаміць пра планы Ліпковіча. Сувязны сустрэнецца з тым, у каго ёсць рацыя, а той ужо адправіць паведамленне ў лес. Трэба схадзіць да Жэні, папярэдзіць яе на ўсякі выпадак.

Ён паспяшаўся дахаты, каб зняць форму паліцая, а затым дзейнічаць па плане. Але ўсё аказалася лепш, чым думаў. Дома яго чакала суседка Таня. Яна жыла з бацькамі праз два дамы. Тані было ўжо дваццаць гадоў. Леанід ведаў, што яна ў падпольнай арганізацыі. Пра гэта на апошняй сустрэчы паведаміў яму Сцяпан Пятровіч.

Убачыўшы Леаніда, дзяўчына ўстала:

— Пойдзем, Лёня, перамовімся.

Яны выйшлі ў двор.

Таня ўсміхнулася:

— Першая навіна — гэта тое, што з заўтрашняга дня мароз аслабне. Так што можаш Жэнечцы стрэлку забіваць. Але гэта я так. Чуў, уначы быў авіяналёт?

— Вядома, зеніткі бухалі яшчэ з паўгадзіны пасля таго, як нашы самалёты паляцелі.

— Дык вось. Прасілі табе перадаць дзякуй. Склады немчуры знішчаны.

— А, дык іх раздзяўбалі? А то, чую, бомбы амаль у адным месцы бухкаюць. Добрая навіна. Што яшчэ?

— Заўтра ў адзінаццаць раніцы будуць браць сям'ю Статкевічаў.

— Як у адзінаццаць?! Мне ж гэты гад Абрам Ліпковіч казаў, што ў чатыры вечара.

Таня зноў усміхнулася:

— Дык у чатыры вечара немцы плануюць іх узяць, а на адзінаццаць — нашы.

— Вось яно што, — заўсміхаўся Леанід, — а то я бег дахаты, каб хутка пераапрануцца і папярэдзіць Жэню.

Таня зноў усміхнулася і толькі хацела штосьці яшчэ сказаць, як Лёнька спытаў:

— Тань, чаго гэта ты такая вясёлая? Можа, ад таго, што маразы спадаць будуць?

— А ты ведаеш, я адчула вясну.

— І гэта калі люты на двары лютуе?

— Не, Лёнечка, гэта фашысты лютуюць, а наш мароз усё, што можна, у іх адмарожвае. — Раптам твар яе зрабіўся сур'ёзным. — Ты памятаеш Толю Саверчанку?

— Вядома, памятаю. Ён жа побач з табой жыў. Ды вы ж, па-мойму, сябравалі, памятаеш, як мы вас цвялілі: «Жаніх і нявеста, жаніх і нявеста». А твой Толечка, між іншым, у нас камянямі кідаў.

— Не камянямі, а камякамі гліны. Шкада, што табе па языку не патрапіў. Ну ды добра, хто старое ўспомніць, таму вока далоў.

— А хто старое забудзе, таму два вокі далоў, — усміхнуўся Леанід. — Дык што з ім?

— З Толем? Жывы-здаровы, сёння ад яго прывітанне атрымала. Ён жа сам ведаеш дзе. Дык вось, Лёня, ты заўтра ў адзінаццаць падыходзь да дома цёткі Лены. Не здзіўляўся, што будуць там людзі ў нямецкай форме — гэта свае. Сказалі, каб ты прыхапіў аўсвайс. Карацей кажучы, заданне там атрымаеш.

— Зразумеў. Буду. Ну, бяжы дахаты, а то сабе нос ці вушы адмарозіш.

— У самога нос сіні! Пакуль!

Таня хутка накіравалася да брамкі.

Леанід, пацёпваючы плячамі ад холаду, пайшоў дахаты.

— Ну што, павуркавалі, галубкі? — усміхаючыся, спытала маці.

— Ты таксама ўсміхаешся, як быццам змовіліся з Таняй.

— Добра, добра. Ідзі мый рукі і садзіся вячэраць. Я сёння натушыла тваёй любімай бульбачкі, ды яшчэ і кавалачак мяса знайшоўся.

Павячэраўшы, Леанід накінуў на сябе старэнькі бацькаў паўкажушак, надзеў яго шапку і сунуў ногі ў валёнкі:

— Мама, я выйду ў двор, трохі падыхаю свежым паветрам.

— Ой, Лёнечка, дзетачка, ужо каменданцкая гадзіна, яшчэ стрэльне які!

— Не хвалюйся, я з варот выходзіць не буду. Не забывай, што ў мяне аўсвайс.

Леанід сапраўды дастаў з кішэні шыняля пропуск, які дазваляў яму хадзіць па горадзе ў любы час сутак, і выйшаў.

Было вельмі холадна — амаль дваццаць пяць градусаў. Леанід падумаў: «Ці спраўдзіцца прадказанне Тані пра наступленне вясны?»

Хлопец хваляваўся за Жэню і яе сям’ю. Ён ужо не сумняваўся — калі б не Жэня, то невядома, як склаўся б яго лёс. Ды і сам успамін пра яе прымушаў сэрца біцца мацней.

Так, ён пайшоў у паліцыю, каб выратаваць ад галоднай смерці сям’ю. З гаркатой падумаў: «Чаму ты так ганарыўся, што табе вінтоўку далі? А калі б каго-небудзь бабахнуў? А можа, павёў бы сябе, як Ліпковіч? Той людзей забівае, як травінкі нагой збівае. А як ты, Лёнька, апраўдвацца будзеш, калі нашы прыйдуць?! Хто пачуе твой лепет? Лепет здрадніка, ворага народа?!»

Ад гэтых думак Леаніду стала не па сабе. Ён расшпіліў паўкажушак, падстаўляючы твар лёгкаму ветрыку, які мог абмарозіць твар і рукі.

«Няўжо, калі б не Жэня, я таксама стаў бы забіваць свой народ, сваіх сяброў? Нават не шкадаваў бы сваіх родных?! Госпадзі, што ж гэта я?! Па якім шляху пайшоў па жыцці! — Чым больш хлопец разважаў, тым больш схіляўся да думкі: трэба ўзяць вінтоўку, гранаты і ісці забіваць ворагаў. Першага — Ліпковіча, а потым усіх падрад — начальнікаў і нямецкіх, і румынскіх і латышскіх, і літоўскіх. Помсціць, помсціць і помсціць, пакуль самога не заб’юць. Паміраць буду з чыстым сумленнем...»

Нечакана рыпнулі дзверы, і на парозе паказалася маці. Яна была апранута па-вулічнаму, значыць, выйшла не проста паклікаць сына. Падышоўшы да яго, сказала:

— Сынок, здаецца, я разумею, што цябе мучыць. Гэта чужая форма?

Леанід апусціў галаву.

— Запомні, сынок, твае рукі — зусім чыстыя. Я ж ведаю амаль усё пра твае добрыя справы. Ты можаш ганарыцца, што стаў карысным Радзіме. Паглядзі, колькі людзей паверылі фашыстам, хоць сярод іх нямала ўмудроных жыццёвым вопытам, а ўлезлі ў фашысцкае дзярмо па вушы. Прыслугоўваюць, прыгнятаюць свой жа народ, удзельнічаюць у пакараннях смерцю жанчын, старых, дзяцей. Вось гэтым антыхрыстам не будзе даравання. А такіх, як ты, галадранцаў, савецкая ўлада зразумее і нават па попе не адпляскае. Вы змаглі не паддацца змяінаму выпрабаванню. Хутка разабраліся, дзе рамантыка, а дзе небяспечная, са штодзённай рызыкай загінуць, але сумленная служба свайму народу. Я вельмі ганаруся табой, сынок! Толькі прашу: беражы сябе. Дарма не рызыкуй, прадумвай кожны крок. Не паддавайся эмоцыям. Ты павінен памятаць і пра сям'ю, і пра абавязак перад савецкай уладай. — Маці замоўкла, а затым злёгку падштурхнула сына ў спіну. — Ну, пайшлі ў хату. Трэба класціся адпачываць. Як я зразумела, заўтра ў цябе цяжкі дзень.

«Дзіўна, — падумаў Леанід, — я ніколі маме не казаў пра справы, а яна размаўляе са мной, як быццам у курсе таго, што я раблю, нават ведае пра тое, што мне трэба зрабіць. Няўжо яна ўсё так добра прадчувае?»

Спаў Леанід неспакойна, ды і заснуў далёка за поўнач.

Наступіў першы за апошнія два месяцы больш-менш цёплы дзень. Мароз прыкметна паслабеў, і нават вызірнула сонейка. Леанід паснедаў, раней зайшоў ва ўправу, каб яго заўважылі. Яму пашанцвала яшчэ і таму, што ён павінен быў з напарнікам патруляваць Лагойскі тракт там, дзе размяшчалася паліцыя. Гэта было самае спакойнае месца, бо каля паліцэйскага ўпраўлення ўвесь час шнырылі паліцэйскія. Дастаткова з імі прывітацца, перакінуцца парай фраз, і ёсць сведкі, што ты быў на пасту. А яшчэ напарнік замаркоціўся. У яго разбалеўся жывот, і ён папрасіў:

— Слухай, Леанід, выручы, сіл больш няма, адпусці мяне. Я ў любы момант гатовы цябе падмяніць.

— Ідзі, Пецька, дахаты, лячыся. Я цябе прыкрыю. Калі будзе праверка, скажу, што ў прыбіральню пабег.

У дзесяць сорак Леанід накіраваўся да хаты Статкевічаў. Яго насцярожвала тое, што ён зусім не ведаў, хто прыедзе па Статкевічаў, ці будзе перакладчык, дакладней, хоць бы адзін, які дасканала валодае нямецкай мовай.

Роўна ў адзінаццаць гадзін да дома пад'ехала нямецкая грузавая машына з нацягнутым тэнтам. За рулём сядзеў салдат, з кузава выскачылі яшчэ чацвёра гестапаўцаў. Яны разам з афіцэрам накіраваліся ў дом Статкевічаў.

«А гэта нашы сапраўды? — мільганула трывожная думка. — Можа, гэта і напраўду гестапаўцы?»

Раптам за спінай ён пачуў нягучны голас:

— Дабрыдзень, Леанід!

Леанід імкліва павярнуўся.

Перад ім стаяў Сцяпан Пятровіч, які ўсміхаўся. У чорным паліто, шапцы з заечага футра, на рукаве бела-чырвона-белая павязка.

— Ты без патрэбы да машыны не набліжайся. Не варта, каб хтосьці з суседзяў пазнаў цябе. Ты тут знаходзішся на ўсякі неспадзяваны выпадак. Праходжвайся ў баку, ухіляйся ад сустрэчы з кім-небудзь са знаёмых. Заўтра ў цябе цяжкі і адказны дзень — ад імя Радзімы караць смерцю здраднікаў і забойцаў мірных людзей. Папярэдзь маму, каб яна і дзеці на ўсякі выпадак былі гатовыя хутка эвакуіравацца такім жа чынам, як цяпер Алена Пятроўна і яе сям'я.

У гэты момант з дома выйшлі Алена Пятроўна і яе дзеці. У кожнага ў руках вялікія клункі, было відаць, што ў іх, акрамя адзежы і пасцельнай бялізны, сёе-тое з хатняга начыння. Шафёр да задняга борта падставіў драўляную лесвіцу, і ўсе хутка, адзін за адным, забраліся пад тэнт. Адзін салдат з вінтоўкай напагатове застаўся каля машыны, а трое вярнуліся ў дом і выйшлі нагружаныя. Здавалася, яны вынеслі ўсё, што мела для Алены Пятроўны і дзяцей хоць якое-небудзь значэнне. Вынеслі і швейную машынку, і нават двухколавую каляску, усё загрузілі ў кузаў. Афіцэр зачыніў дзверы хаты на замок, сеў у кабіну, салдаты занялі свае месцы ў кузаве, і машына кранулася. Нечакана Леанід убачыў Жэню, яна глядзела на яго з-за пляча салдата і раптам паслала яму паветраны пацалунак. Леанід ледзь стрымаўся, каб не зрабіць зваротны жэст. Ён разумеў, што павінен быць бесстаронні́м паліцаем, для якога арышт — звыклая справа.

Міма, не спяшаючыся, прайшоў Сцяпан Пятровіч, ціха сказаўшы:

— Усё ў парадку, здаецца, ніхто з суседзяў не звярнуў увагі. Ідзі, Леанід, на службу.

— Суседзі насупраць... Бачыце хату з блакітнымі аканіцамі? Мужчына глядзеў у акно, а жанчына і дзяўчынка падышлі да веснічак і, прыадчыніўшы яе, назіралі за ўсім.

— Цябе яны не пазналі?

— Не, яны глядзелі на машыну і ўсіх, хто выйшаў з дома. Добра, што вялі Алену Пятроўну і яе дзяцей пад стваламі вінтовак. Усё выглядала натуральна.

— Тады сапраўды ўсё добра. Калі што якое, ёсць сведкі, якія пацвердзяць, што іх суседзяў арыштавала гестапа. Пакуль, сябар! Ні пуху табе!

Яны разышліся.

Леанід паспешна накіраваўся да таго месца, дзе нёс службу. Ён маліў Бога, каб Статкевічы без перашкод выехалі з горада.

Было ўжо каля трох гадзін дня, калі міма Леаніда прайшла Таня. Не гледзячы на хлопца, ціха прамовіла:

— Сцяпан Пятровіч прасіў табе перадаць: усё ў парадку. Яны — у бяспецы.

Леанід усміхнуўся, падняўшы галаву, зрабіў выгляд, што цешыцца яркаму сонцу.

Калі прыйшоў дахаты, расказаў маці пра выратаванне Статкевічаў, а затым падрабязна праінструктаваў яе аб тым, каб яна і дзеці былі гатовыя да ад'езду. Пра тое, што чакае яго ўвечары наступнага дня, расказваць не стаў, не хацеў хваляваць роднага чалавека, але маці як быццам адчувала штосьці важнае, была з сынам асабліва ласкавая.

Наступіў дзень, які Леанід лічыў для сябе самым важным. Ён павінен пакараць здрадніка і яго сябрукоў. Днём, схаваўшыся ў сяле, уважліва агледзеў міну і гранаты. Шчыра кажучы, Леаніду было шкада цяпер выкарыстоўваць гранаты. Можна было падарваць машыну з высокапастаўленымі нямецкімі чынамі ці кінуць у вокны гестапа, урэшце, паднесці «гасцінец» калоне маршыруючых акупантаў. Але Леанід разумеў: калі, аглядаючы месца здарэння, немцы выявяць неразарваныя гранаты, тое, што гэта сапраўды можа навесці іх на думку, што Ліпковіч і яго сябрукі падарвалі сябе памылкова.

Увечары наступнага дня Лёня падвязаў міну на жываце так, што можна дастаць за некалькі секунд. Гранаты паклаў у вонкавыя кішэні шыняля. Без пяці шэсць ён увайшоў у «рэзідэнцыю» Ліпковіча

— Нарэшце сабраліся ўсе, — сказаў Абрам і дастаў са стала вялікую бутэльку самагонкі: — Ну што, сябры, для адвагі можна жахнуць шнапсу.

Ён сам разліў самагонку ў гранёныя шклянкі, менш за ўсіх дасталося Леаніду. Ліпковіч пажартаваў:

— Ты ў нас яшчэ блазнюк, табе нельга больш як сто грамаў, а то ап'янееш і нас перастраляеш.

— Сапраўды, — усміхнуўся Леанід, падумаўшы: «І гэта я зраблю з задавальненнем».

Не прайшло і дзесяці мінут, як Леанід пераканаўся: ад шклянкі самагонкі ўсе шасцёра яго «сяброў» ап'янелі. Ён пачаў выбіраць момант, каб прыступіць да «справы». Раптам адзін з сябрукоў Ліпковіча па мянушцы Леберык сказаў:

— Ну што, Абрам, вядзі нас на бітву святую.

Яго перапыніў Ліпковіч:

— Хутка прыйдзе гаўптман Шлотэн. Ён — мой сябар і таму вырашыў нам дапамагчы. Ён выдзеліць нам грузавік.

— Дык з ім, што, таксама давядзецца дзяліцца? — прамямліў Леберык.

— Не раззяўляй зяпу, — узвысіў голас Ліпковіч, — хопіць і нам, і яму. Падумай, які гонар нам аказаны....

Тым часам увайшоў гаўптман. Першым вітаў яго, ускочыўшы з-за стала, Ліпковіч. Па прыкладзе начальніка дружна зрабілі так астатнія.

Гаўптман абыякава, узмахам рукі, адказаў. На ламанай рускай мове пачаў удакладняць у Ліпковіча падрабязнасці «справы».

«Вось ён — момант!» — вырашыў Леанід і, зрабіўшы выгляд, што не хоча замінаць гаўтману, узяў сваё крэсла і перанёс яго бліжэй да шафы-серванта. Пераканаўшыся, што ўсе прыслухоўваюцца да дыялогу Ліпковіча і яго шэфа, Леанід хутка дастаў міну, паставіў стрэлкі так, каб яна спрацавала праз дзесяць хвілін. Паклаўшы яе поруч з нейкім невялікім мяшком, дастаў з кішэняў гранаты і, робячы выгляд, што размінае ногі, прайшоўся да далёкага кута, дзе на тумбачцы стаяў графін з вадой. Наліў паўшклянкі і паклаў гранаты за тумбачку.

«Усё, трэба рваць», — аблегчана ўздыхнуў ён і нягучна звярнуўся да Ліпковіча:

— Абрам, я — у туалет.

— Давай па-хуткаму, мінут праз дзесяць рушым!

Ліпковіч ізноў пераключыў увагу на шэфа. Дастаў са скрыні стала дзве пары жаночых залатых гадзінннікаў і чатыры зубныя каронкі, працягнуў гаўптману:

— Гэта «падарыла» мне сям'я аднаго мастака. Іх было пяцёра. Мама, тата і трое кіндэраў, — Ліпковіч нечакана засмяяўся. — Праўда, гадзіннікі яны самі мне перадалі, ну, а каронкі я ў роце мастака адразу ўбачыў.

Леанід не стаў слухаць, заставаліся лічаныя хвіліны. Выйшаўшы з памяшкання, ён паспрабаваў схавацца за вуглом цаглянага будынка ўправы. І своечасова! Як толькі Леанід наблізіўся да ўвахода ва ўправу, прагрымеў магутны выбух. Пырснула з вокнаў шкло. Ён паспяшаўся ўнутр, самы час быў апынуцца сярод паліцаяў.

## Раздзел 41

Люты нездарма завуць лютым. Праўда, на некалькі дзён мароз аслаб, пераcталі бушаваць віхуры, але гэта было невялікай перадышкай.

Мароз узмацніўся, пачаліся снегапады. Акупанты кінулі на барацьбу са снегам усю наяўную тэхніку, выгналі насельніцтва чысціць дарогі. Партызаны скарысталіся тым, што снег заваліў наваколле. Сродкі перасоўвання — безма-

торныя — лыжы і коні. Брыгада «Штурмавая» разам з атрадамі, што дзейнічалі ў маладзечанскім рэгіёне, правяла паспяховую аперацыю, у выніку якой ізноў створаная дывізія акупантаў апынулася без цяжкага ўзбраення. Дваццаць два танкі, сярод іх «тыгры» і дзве «звяругі» пад назвай «пантэра», дваццаць артылерыйскіх сістэм, дзесяць бранемашын, шмат кулямётаў і мінамётаў разам з боепрыпасамі былі ліквідаваны. Масква запатрабавала прадставіць да высокіх узнагарод байцоў і камандзіраў, якія найбольш вызначыліся.

Камісар брыгады Сенгін старанна абдумваў, каго прадставіць да ўзнагарод. У гэты ж час камбрыг, начальнікі штаба і разведкі рыхтавалі аперацыю «Капкан». Гаворка ішла пра захоп у палон двух высокапастаўленых пасланцоў з Берліна. Дзякуючы Ірэне Уладзіміраўне кіраўніцтва брыгады за суткі да аперацыі ўжо ведала маршрут руху невялікай калоны немцаў у Барысаў.

Ірэна Уладзіміраўна праз трох разведчыкаў, якія ішлі за правяраючымі з Берліна, перадала яшчэ адну важную інфармацыю пра схему размяшчэння машын у калоне. Наперадзе ішлі два бронетранспарцёры, за імі — грузавік, у якім знаходзіліся два дзясяткі аўтаматчыкаў. За грузавіком — легкавая аўтамашына з берлінскімі ганцамі, за ёй яшчэ адна легкавушка, у якой знаходзіліся, акрамя вадзіцеля, два афіцэры і сама Ірэна Уладзіміраўна. Замыкалі калону грузавік з салдатамі, танкетка і бронемашына.

Грынёў, схіліўшыся над картай, услых разважаў:

— Калі гаварыць пра жывую сілу, то можна падлічыць, — іх семдзесят — восемдзесят чалавек.

— Так, — у знак згоды кіўнуў начштаба,— даўжыня картэжа — паўкіламетра. Хуткасць руху ў сярэднім трыццаць кіламетраў. Я прапаную сустрэць іх вось у гэтым месцы,— Пазнякоў правёў алоўкам па ўчастку дарогі паміж двума ляснымі масівамі. — Адлегласць паміж ляснымі зараснікамі семсот — семсот пяцьдзясят метраў.

— Але мясцовасць адкрытая, — з сумненнем у голасе прамовіў Мароз, — бачнасць для іх добрая, нават з бранёвікоў усё добра праглядаецца.

— Але ў нас ёсць добры шанец, — рашуча сказаў начштаба.

— Ну, ну, выкладвай, — прапанаваў камбрыг.

— Як вы, Сяргей Іосіфавіч, і меркавалі, гэта месца параўнальна недалёка ад Барысава. На ўзлесках мы размяшчаем два магутныя заслоны. Даручым гэта атраду «Вымпел».

— Дакладней, другому батальёну Яшына, — паправіў Грынёў.

Ён як бы нагадаў, што брыгада мае ўжо чыста армейскую структуру: аддзяленні, узводы, роты, батальёны.

— Сапраўды так, — пацвердзіў начштаба і прадоўжыў: — камандзір трэцяга батальёна Шпакаў злева ад дарогі, на ўчастку ў трыста метраў размяшчае адну са сваіх рот, а праз пяцьдзясят метраў, толькі справа ад дарогі, на такім жа трохсотметровым участку размяшчае другую роту. Вымалёўваецца схема бою такім чынам: добра замаскіраваныя роты адначасова атакуюць праціўніка з двух бакоў, прычым без боязі зрабіць шкоду адзін аднаму.

Заслоны на ўзлесках прыцэльна б'юць па пярэдняй і задняй частках калоны, мы канцэнтруем агонь на бранемашыны і грузавікі. Што дасць нам такая тактыка? Па-першае, немцы, апынуўшыся на адкрытай прасторы, пасля лесу ўздыхнуць з палёгкай. Тут яны псіхалагічна адчуюць аблягчэнне, што і адаб'ецца на іх пільнасці.

Па-другое, наш удар будзе для іх зусім нечаканым, чаго нельга сцвярджаць, калі б мы вялі бой у лесе. Па-трэцяе, мы на адкрытай мясцовасці будзем добра бачыць абедзве легкавушкі. Іх павінны «апекаваць» і нашы

снайперы. Абедзвюм ротам дадзім па тры супрацьтанкавыя ружжы і па адным буйнакаліберным кулямёце. Тое ж самае будуць мець і абедзве заставы.

Натуральна, свае пазіцыі мы павінны будзем заняць загадзя, замесці на снезе сляды. У кожнай роце будуць валакушы і вялікія «венікі», зробленыя з яловых лап. Такім чынам і знішчым сляды. Абедзве роты атрымаюць неабходную колькасць маскхалатаў з парашутнага палатна белага колеру. Думаю, нават зблізку іх будзе цяжка заўважыць.

— Ну што ж, — выпрастаў спіну камбрыг, — здаецца, задума нядрэнная. Як думаеш, Іван Мікалаевіч, — звярнуўся ён да начальніка разведкі, — не перасолім мы гэтую кашу?

— Я лічу, гэта выдатны план.

— Ну вось і цудоўненька, — пляснуў далонню па карце камбрыг. — Але ў план трэба дадаць наступнае: блакіраванне дарогі з боку Лагойска і з боку Барысава, а таксама вось гэтай дарогі, — Грынёў ткнуў пальцам у карту. — Яна ідзе са Смалявіч. Згодны?

— Вядома, Сяргей Іосіфавіч, — адклікнуўся Мароз.

Начштаба вінавата паглядзеў на камандзіра:

— Дзякуй, Сяргей Іосіфавіч, за вельмі каштоўную падказку.

— Збірайце камандзіраў на інструктаж. Яшчэ дацямна ўсе павінны рушыць да месца бою. Папярэдзьце, каб перасоўваліся па лесе. На дарогу не выходзіць. У нас хапае радыёстанцый, Павел Міхайлавіч?

— Так, Сяргей Іосіфавіч. Мы падрыхтавалі сем партатыўных рацый.

— Ну і добра, тады за справу.

Камбрыг строга паглядзеў на начальніка разведкі Мароза:

— Ты, Іван Мікалаевіч, галавой адказваеш за нашага чалавека і як мінімум двух падпалкоўнікаў.

— Я разумею, таварыш палкоўнік. — Не стрымаўшыся, Мароз пажартаваў: — Толькі цяжка зразумець, як за тры галавы павінна адказваць адна.

— Правільна, затое якая галава! — адказаў з усмешкай Грынёў і прадоўжыў: — З Масквы запыталі, якія прымаюцца меры, каб гарантаваць небяспеку дзяцей Ірэны Уладзіміраўны. У яе нядрэнны дом. Гэта таксама трэба ўлічваць. Два-тры дні праціўнік будзе разбірацца, што здарылася з іх правяраючымі. Напэўна арганізуюць вялікімі сіламі прачэсванне навакольнай тэрыторыі, нанясуць удары авіяцыяй па тых нашых базах, якія ім вядомыя. Дарэчы, трэба папярэдзіць іншыя партызанскія злучэнні і асобныя атрады пра магчымыя карныя аперацыі акупантаў. Варта арганізаваць мацнейшую абарону населеных пунктаў, якія немцы адносяць да партызанскай зоны.

— У адносінах дзяцей настаўніцы Караблёвай у мяне ёсць некаторыя меркаванні, — прамовіў Мароз.

— Ты маеш на ўвазе Ірэну Уладзіміраўну? Ну-ну, і што ж за меркаванні?

— Прыйдзецца падключыць Цвяткова.

— Так, а далей?

— У Цвяткова вялікая сям'я. Акрамя яго яшчэ тры сястры. Я думаю, калі ён звернецца да акупацыйных улад, папросіць іх, каб перадалі яму свабодны дом, які належаў Караблёвай, то гэта не выкліча ў іх ніякіх падазрэнняў.

Хлопец малады, скажа, што хоча жаніцца, жадае жыць асобна ад маці і сясцёр. Вось і нагледзеў свабодны дом...

— А не выявіцца яго сувязь з Ірэнай Уладзіміраўнай, яго настаўніцай?

— Я таксама думаў пра гэта. Леанід упэўнены, што ніхто не бачыў, як ён сустракаўся з настаўніцай. Урэшце, Ірэну Уладзіміраўну ведаюць практычна ўсе вучні, якія вучыліся ў школе, дзе яна выкладала. І з любым з былых вучняў і вучаніц пры сустрэчы яна магла пагаварыць.

— Але калі немцы агледзяць месца бою, яны могуць падумаць, што так добра падрыхтаваная аперацыя не магла быць ажыццёўлена без папярэдняй інфармацыі. Падазрэнне цалкам можа ўпасці на яе, — прамовіў начштаба.

— А могуць падумаць, што яна разам з афіцэрамі трапіла ў палон, — задуменна прагаварыў палкоўнік Грынёў, — і падводзячы вынікі, сказаў: — Такім чынам, прыступаючы да аперацыі, не забудзьцеся пра варыянт з «трупамі» падпалкоўнікаў. Ты, Павел Міхайлавіч, збірай камандзіраў для пастаноўкі баявой задачы. Ты ж, Іван Мікалаевіч, звяжыся па рацыі з Мінскам, дамоўся пра сустрэчу з Цвятковым. За гэты час абдумаем, што нам рабіць. Цяпер галоўнае — заўтрашні бой...

Месца, якое абралі для засады, выклікала занепакоенасць, але байцы выконвалі загад пра маскіроўку — яшчэ ў лесе з дапамогай валакуш, вялікіх яловых лап, старанна маскіравалі свае сляды. А калі атрады занялі пазіцыі на адкрытай мясцовасці, то адразу ж добра закапаліся ў снег. Кулямётныя кропкі і пазіцыі, дзе размясцілі супрацьтанкавыя ружжы, накрылі белымі парашутнымі палотнамі. За дзве гадзіны да падыходу калоны фашыстаў былі перакрыты дарогі, што вялі да Смалявічаў і Барысава. Як толькі калона адышла ад Лагойска на дваццаць кіламетраў, у зручным месцы для засады, у густым лесе, занялі пазіцыі байцы брыгады. Начальнік штаба Пазнякоў асабіста пераканаўся, што пазіцыі заняты правільна, а маскіроўка — стопрацэнтная. Калі б праціўнік правёў разведку самалётам, то і гэта нічога б не дало.

Прыйшоў чарговы сігнал ад разведчыкаў, якія непрыкметна рухаліся за калонай, што прасоўванне ідзе звычайна. Хуткасць — трыццаць кіламетраў у гадзіну. Неўзабаве камбрыг атрымаў сігнал: калона праходзіць апошні лясны ўчастак перад вялікім полем, якое партызаны выбралі для бою. Прайшло яшчэ паўгадзіны, і камандзір атрада «Вымпел» далажыў, што заслоны занялі свае пазіцыі ззаду і наперадзе калоны.

Як і было прадугледжана, першымі ўступілі ў бой 3-я рота і заслон, які ўдарыў праціўніку ў лоб. Праз некалькі хвілін уступілі ў бой байцы 2-й роты.

У хвост калоны прыцэльна ўдарыў буйнакаліберны кулямёт заставы, якая перакрыла магчымае адступленне ў зваротным кірунку.

Запалалі бранемашыны, салдаты, якія выскоквалі з крытых брызентам грузавікоў, траплялі пад кінжальны агонь. Прайшло не больш як дзесяць мінут, і бой быў скончаны. Начальнік разведкі па рацыі паведаміў камбрыгу: жывыя трафеі і настаўніца Караблёва ў бяспецы, іх на санях, запрэжаных парай коней, пад аховай рэзервовай роты батальёна Шпакава адправілі ў штаб брыгады.

Грынёў з палёгкай уздыхнуў і зірнуў на гадзіннік: да наступлення цемры праціўнік не паспее падняць авіяцыю, і ніякія яго пяхотныя сілы не змогуць супрацьстаяць партызанам. Камбрыг загадаў сувязісту звязаць яго з Масквой і далажыў пра вынікі бою. Праз паўгадзіны прыйшла шыфроўка: захопленых афіцэраў старанна дапытаць, уначы забяспечыць прыём самалёта, на якім адправіць палонных у Маскву. Тых, хто вызначыўся, прадставіць да ўзнагарод. У канцы шыфраграмы аб'яўлялася падзяка камандаванню і байцам, якія ўдзельнічалі ў аперацыі.

Яшчэ праз дзве гадзіны ў штабную зямлянку ўвайшоў начальнік разведкі. Твар яго ззяў.

— Першая такая аперацыя. Уяўляеце, Сяргей Іосіфавіч, акрамя аднаго лёгка параненага, у нас усе цэлыя. Не ўзгадаю такога. Усё прайшло як па масле. Начальнік штаба — разумнік. Ён заслугоўвае самай высокай узнагароды.

— Малайцы! Малайцы! — Грынёў абняў Мароза. — Што ўзялі з трафеяў?

— Па-праўдзе кажучы, не цікавіўся. У дарозе мы захоўвалі радыёмаўчанне. Мяркую, там было чым пажывіцца. Я ж думаў пра нашу галоўную здабычу.

Палкоўнік працягнуў Марозу шыфроўку:

— На, чытай. Масква ўжо ведае.

— Ну што, будзем дапытваць? — спытаў Мароз, вяртаючы шыфроўку камандзіру.

— Так, давай зробім гэта разам. Хто будзе перакладаць?

— Як хто? Караблёва. Ёй цяпер не трэба асцерагацца сваіх нядаўніх шэфаў.

— Як яна будзе сябе адчуваць, псіхалагічна гэта цяжка.

— Не думаю. Калі мы дабіраліся сюды, я размаўляў з Ірэнай Уладзіміраўнай. Яна задаволена вынікам, праўда, непакоіцца за дзяцей.

— Запрасі яе сюды. Паспрабуй супакоіць, хай не хвалюецца, яе дзеці будуць у бяспецы, ды і дом паспрабуем захаваць, ну а зараз зоймемся фрыцамі.

Калі з'явілася настаўніца, Грынёў, падзякаваўшы ёй за выдатную працу, адразу ж расказаў пра меры па гарантаванні бяспекі яе дзяцей.

— Ну, дзякуй богу! — уздыхнула з палёгкай Ірэна Уладзіміраўна. — Я ўвесь час, пакуль раз'язджала з гэтымі ірадамі, перажывала за сваіх родненькіх малышоў.

— Ірэна Уладзіміраўна, нам неабходна дапытаць берлінскіх пасланцоў. Вы зможаце папрацаваць перакладчыцай?

— Вядома. Мне так хочацца нагадаць Штаму, як ён мяне пераконваў у пераваге нямецкай расы і ў тым, што яны ўмеюць ваяваць з ляснымі бандытамі.

Дарэчы, з гутаркі, якую яны вялі паміж сабой, я зразумела, што яны добра ведаюць становішча ў Германіі — і палітычнае, і эканамічнае. Казалі пра нейкую новую звышзброю, якая вось-вось з'явіцца ў вермахта. Яны ўвесь час у гутарцы з мясцовымі чынамі патрабавалі, каб тыя адбіралі і адпраўлялі ў Германію спецыялістаў. Нават сярод ваеннапалонных выяўляць людзей, якія маюць тэхнічную адукацыю, і без прамаруджання накіроўваць у Германію. Яны нават самога гаўляйтара папракалі ў слабой эфектыўнасці гэтай работы. Дарэчы, сёння раніцай яшчэ ў Лагойску мы атрымалі загад пра прысваенне Штаму звання палкоўніка. — Караблёва ўсміхнулася. — Так што не забудзьцеся павіншаваць яго з новым званнем.

— Добра, не забудуся, — усміхнуўся Грынёў. — Ну што, прыступім?

— Я гатовая.

Праз дзесяць мінут у зямлянку ўвялі высокага мажнага падцягнутага палоннага. Грынёў запрасіў яго прысесці і спытаў:

— Вы ўяўляеце, дзе знаходзіцеся?

— У палоне.

— Так, у палоне ў савецкіх партызан. Спадзяюся, вы разумееце становішча афіцэраў, узятых у палон падчас баявых дзеянняў.

— Але я ж не страляў.

— Ведаю. Прыміце мае віншаванні з выпадку прысваення вам высокага чарговага звання «палкоўнік».

Штам, стрэльнуўшы вачамі ў бок Караблёвай, скрозь зубы працадзіў:

— Дзякую. Але, як я разумею, зараз гэта ўжо ніякай ролі не іграе.

— Ну, гэта як сказаць. Званне пацвярджае, што ваша дзейнасць у адносінах да Савецкага Саюза — злачынства. Таму, пан палкоўнік, я заклікаю вас адказваць адкрыта на мае пытанні.

Штама відавочна напалохалі словы Грынёва пра вінаватасць.

— Скажыце, мяне расстраляюць?

— Усё залежыць ад вашай шчырасці. Спадзяюся, вам вядома, што нават Паўлюс і дзясяткі яго генералаў не былі пакараны. Іх сумленныя і адкрытыя прызнанні адыгралі вырашальную ролю. Такім чынам, паўтараю, вы згодны даць праўдзівыя сведчанні?

— У мяне няма іншага выбару. Не хаваю, я жадаю жыць, у мяне жонка, дзве дачкі, нават бацькі яшчэ жывыя.

— Добра. Ваша прозвішча, імя, месца службы і пасада.

— Ота Штам. Да ўчарашняга дня меў званне падпалкоўніка, але ў Лагойску мне паведамілі пра прысваенне звання «палкоўнік». Я служу ў імперскім міністэрстве па акупіраваных тэрыторыях усходніх абласцей.

— Калі было створана ваша міністэрства?

— 17 ліпеня 1941 года, міністэрства ўзначальвае рэйхміністр Розенберг.

— А хто гэты падпалкоўнік з вамі?

— Падпалкоўнік Рубе, ён з ведамства Гімлера. Часам выконвае даручэнні і Герынга.

— Скажыце, чаму ў канцы 1943 года ў Мінску было ліквідавана гета?

— У мінскім гета было знішчана практычна ўсё яўрэйскае насельніцтва, і неабходнасць у яго патрэбе адпала.

— Але ў гета былі яўрэі з іншых краін. Што з імі?

— Асаблівасцю Беларусі з’яўляецца тое, што яна выбрана як месца знішчэння яўрэяў з Заходняй Еўропы. Сюды былі дастаўлены яўрэі з Нямеччыны, Чэхаславакіі, Аўстрыі, Польшчы, Францыі, Галандыі, Венгрыі і з іншых краін.

— Што з імі?

— Для нас яўрэй ёсць яўрэй, і ўсё роўна, адкуль ён.

— І што з гэтага?

— Іх таксама знішчылі.

— Дзе?

— Галоўным чынам у Трасцянецкім лагеры смерці. Нямала расстраляна ў сельскай мясцовасці. Часцей за ўсё гэтыя акцыі праводзіліся ўздоўж чыгункі і аўтамабільных дарог у бок Брэста, але ў радыусе пяцідзесяці—шасцідзесяці кіламетраў ад Мінска.

— Хто аддаваў загад пра канчатковае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва?

— Рэйхсфюрар СС Гімлер 21 чэрвеня 1943 года выдаў загад пра ліквідацыю ўсіх гета і ўсіх пакінутых у іх яўрэяў. Гэтым жа загадам было прадпісана, што працаздольнае насельніцтва павінна накіроўвацца ў канцэнтрацыйныя лагеры пад кіраваннем СС, а не цывільнай адміністрацыі, як гэта было раней.

— Колькі яўрэйскага насельніцтва было знішчана ў мінскім гета?

— Больш як сто тысяч.

— Дзе яшчэ забівалі людзей?

— На фронце, — паспрабаваў аджартавацца Штам, але, паглядзеўшы на камбрыга, тут жа збянтэжыўся. — Прабачце за жарт. Яўрэяў і нямала беларусаў па нацыянальнасці было знішчана і ў іншых месцах.

— Назавіце гэтыя месцы.

— Я асабіста не прымаў удзелу ў такіх акцыях. Формы знішчэння былі разнастайныя: «душагубкі», расстрэлы і спальванне трупаў у спецыяльных печах-крэматорыях. У Віцебскай вобласці ўтапілі ў палонках Заходняй Дзві-

ны, Відзаўскім возеры, у рацэ Прыпяць у Мазыры. У Суражы падрывалі на мінах. У Ракаве, Глыбокім, Даўгінаве, Радашковічах і ў некалькіх іншых населеных пунктах, назваў якіх не памятаю, спальвалі разам з памяшканнямі, а ў Шклове, Лепелі, Петрыкаве закопвалі жывымі.

— Адкуль такая дасведчанасць?

— Я вязу даклад акупацыйных улад пра вынікі гэтай работы. Праўда, сам даклад пакінуты ў Мінску.

— Мэта вашай паездкі?

— Вывучэнне магчымасці перадачы мясцовым паліцэйскім сілам кантролю над тэрыторыямі.

— Навошта гэта?

— Справы на Усходнім фронце вельмі дрэнныя. У нас няма ўпэўненасці ў тым, што ў надыходзячай летняй кампаніі ўдасца дамагчыся жаданага для нас пералому. Пяць дывізій і ў прыдачу войскі СС, Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі, іх каля дзвюх дывізій, у выпадку абвастрэння становішча плануецца накіраваць на фронт.

— А якія сілы тут, у Беларусі, германскае кіраўніцтва спрабуе сканцэнтраваць у выпадку перадыслакацыі рэгулярных злучэнняў на Усходні фронт?

— З чэрвеня 1942 года па красавік 1943 года было створана дваццаць батальёнаў корпуса самаабароны. Улетку мінулага года быў створаны саюз беларускай моладзі. Задача заключалася ў выхаванні моладзі ў духу адданасці фюрару, падрыхтоўцы яе да працы на ваенных заводах Германіі і службе ў ваенна-дапаможных часцях вермахта.

— Ну і які вынік?

— Нездавальняльны. У снежні 1943 года акупацыйнымі ўладамі створана Беларуская рада. Зусім нядаўна Готберг выдаў загад пра стварэнне Беларускай краёвай абароны і абвясціў пра мабілізацыю мужчынскага насельніцтва 1908—1924 гадоў нараджэння. Цяпер сфарміравана каля трыццаці батальёнаў.

— І што, германскае кіраўніцтва давярае ім?

— Нас паслалі вывучыць гэта пытанне.

— Ну і як, вывучылі?

— Не зусім, — Штам усміхнуўся,— але ўжо можна зрабіць выснову, што гэтыя сілы не змогуць без вермахта ўтрымаць уладу і яны зусім не гатовыя да супраціўлення Чырвонай Арміі.

Грынёў падрабязна распытаў Штама пра дзіцячыя донарскія цэнтры, пра іншыя нямецкія планы.

Адказваючы, Штам, імкнучыся падацца адкрытым, сказаў:

— Гэтыя пытанні вывучаў мой калега падпалкоўнік Рубе. Ён з СС, і ў яго, як я разумею, шэраг спецыфічных задач.

— Вы займаецеся праблемамі канцлагераў і мясцовых паліцэйскіх сіл?

— Гэта так. Падпалкоўнік Рубе таксама вывучае гэтыя пытанні, але, паўтараю, у яго маецца шэраг і іншых даручэнняў.

— Якіх?

— Задачы яму ставілі асабіста Гімлер і Герынг.

Прайшло яшчэ не меней за гадзіну, калі Грынёў нарэшце скончыў допыт.

Пачакаўшы, пакуль палонны палкоўнік старанна прачытае тэкст допыту і падпіша яго, загадаў ахове даставіць яго ў зямлянку, прызначаную для ўтрымання захопленых языкоў. Затым ён звярнуўся да Караблёвай і маладой дзяўчыны — стэнаграфісткі, спецыяльна дастаўленай самалётам з Масквы:

— Ну як, таварышы, не стаміліся?

Дзяўчына, размінаючы пальцы рук, усміхнулася:

— Калі б я вяла стэнаграму, было б лягчэй, а так прыйшлося пісаць, як у школе, дыктоўку.

— А вы, Ірэна Уладзіміраўна?

— Нічога, вытрымаю.

— Адпачніце дзесяць—пятнаццаць мінут і зоймемся другім. Я раю вам прагуляцца на паветры.

Неўзабаве канвой даставіў у зямлянку падпалкоўніка. Ён быў сярэдняга росту, акуратна апрануты. Досыць было аднаго погляду, каб зразумець: баіцца.

— Садзіцеся, — кіўнуў камбрыг на табурэтку каля стала. Адразу ж перайшоў да справы: — Назавіце сябе, а таксама дзе і кім служыце?

Пасля адказу камбрыг спытаў:

— Мэта вашай паездкі?

Рубе паўтарыў словы Штама.

— Раскажыце, якое заданне вы атрымалі персанальна ад Гімлера і Герынга.

Палонны паспрабаваў адкараскацца агульнымі фразамі, але камбрыг рэзка спыніў яго:

— Рубе, не забывайцеся, дзе вы знаходзіцеся. Нагадаю, што ў вашым становішчы ёсць толькі два выйсці: расказаць усю, паўтараю, усю праўду, ці ж з вамі паступяць па законах ваеннага часу. У лясах няма ні турмаў, ні канцлагераў. Вам ясна?

— Яволь! Што вас цікавіць?

— Усё, што вам даручылі Герынг і Гімлер. Хачу папярэдзіць вас, хутка адгэтуль вылеціць самалёт у Маскву. У вас ёсць шанец зарабіць на яго білет. Раю паспяшацца, самалёт вылеціць дакладна па раскладзе. Ніхто вас чакаць не будзе, і вылет адкладвацца таксама не будзе.

— І што, мяне могуць расстраляць?

— А магчыма, і павесіць...

Рубе здрыгануўся, нават правёў рукой па шыі, нібы правяраючы, ці няма на ёй вяроўкі.

— Але я ж ваеннапалонны, ёсць жа міжнароднае права аб камбанаце…

— А якім правам вы карысталіся, калі знішчалі мільёны дзяцей, жанчын, мужчын, ваеннапалонных. Паверце, Рубе, мы добра ведаем спецыяльную ролю ў гэтым войскаў СС, якіх вы прадстаўляеце ў Беларусі. Такім чынам, я вас апошні раз пытаю: будзеце даваць праўдзівыя сведчанні? Я з вамі важдацца не збіраюся.

Рубе відавочна вагаўся, ён нахіліў галаву, утаропіўшыся вачамі ў падлогу, пра штосьці разважаючы.

Грынёў нягучна прамовіў:

— Вартавыя! — У дзвярах з’явіліся два аўтаматчыкі. — Адвядзіце эсэсаўца!

Адзін з байцоў падышоў да Рубе і ткнуў ствалом у бок:

— Уставай, нямчура!

Рубе павольна ўстаў, але нечакана сеў на ранейшае месца:

— Добра, я згодзен на адкрытую гутарку. Магу я спадзявацца на тое, што мае сведчанні не стануць здабыткам маіх кіраўнікоў?

— Можаце спадзявацца.

— У нас ёсць загад пра тое, што войскі зацікаўлены ў ліквідацыі пажараў толькі тых будынкаў, якія павінны быць скарыстаны для размяшчэння

вайсковых часцей. У астатнім знікненне панавання бальшавікоў, у тым ліку і будынкаў, адпавядае задачам вайны на знішчэнне.

— А што рабіць з гістарычнымі ці мастацкімі каштоўнасцямі?

— Ніякай розніцы. Калі ў прыфрантавой зоне войскі выконваюць гэты загад, то тут, у тыле, няма такой цвёрдасці ў камандзіраў. Я перадаў гэта мясцовым акупацыйным уладам і камандзірам дывізій і вайсковых часцей. Герынг і Гімлер патрабуюць безумоўнага выканання плана сістэматычнага масавага знішчэння мясцовых людзей.

— У вас жа і так печы працуюць без перапынку.

— Але ёсць шыбеніцы, процітанкавыя рвы, рэкі, ямы. Мне было загадана ўручыць акупацыйным уладам загад пра неабходнасць яшчэ з большай стараннасцю дамагацца далейшага эканамічнага паслаблення занятых намі тэрыторый. Неабходна рэзка павялічыць апарат, эканамічныя штабы, прымусіць усіх гаспадарчых спецыялістаў, камендантаў, сельскагаспадарчых фермераў і гэтак далей вывозіць у Германію харч, абсталяванне, сыравіну, драўніну. У мае задачы ўваходзіў абавязак па пошуку спецыялістаў, якіх можна выкарыстоўваць на спецработах у Германіі.

— Што гэта за спецработы?

— Для работы ў гарах на спецзаводах, якія працуюць у становішчы поўнай сакрэтнасці.

— Дакладней.

— Заводы, якія вырабляюць ракеты. Яны ўжо чатыры гады атакуюць Англію. Фаўстпатроны патрэбны для знішчэння танкаў, бронемашын, кулямётных кропак, будынкаў. Нам патрэбны тэхнічна адукаваныя людзі для выкарыстання іх у вырабе цуда-зброі.

— І што гэта за зброя?

Рубе ўважліва агледзеў прысутных і ціха сказаў:

— Атамная бомба. Па меркаванні фюрара гэта зброя карэнным чынам зменіць становішча на фронце. Некалькі такіх супербомбаў, скінутых на Маскву, Ленінград, іншыя буйныя гарады і ваенныя заводы, два-тры напады на буйныя канцэнтрацыі савецкіх войскаў, і зыход вайны вызначаны.

— Самі вы бывалі на гэтых заводах?

— О так! Яны размешчаны глыбока пад гарамі. Ніякая зброя — бомбы, снарады — ім не пагражае. Яны не зробяць ніякай шкоды.

— Вы можаце назваць месцы, дзе знаходзяцца гэтыя заводы?

— Пры ўмове, што гэта не адаб’ецца на маёй сям’і.

— Можаце быць спакойныя.

— Добра. Запісвайце! — рашуча ўзмахнуў рукой Рубе. Ён зрабіў паўзу, затым прамовіў: — Перш чым пачаць, я хачу вас праінфармаваць пра тое, што ў найбліжэйшы час Мінск будзе называцца Асградам....

## Раздзел 42

Леаніда Цвяткова пасля знішчэння Ліпковіча і яго «рэзідэнцыі» першыя суткі турбавала адно: раптам хто-небудзь бачыў, як ён уваходзіў ці выходзіў з гэтага памяшкання. Але паступова трывога прайшла. Немцы старанна агледзелі месца здарэння. Як і меркавалі партызанскія кіраўнікі, вялікую ролю выканалі выяўленыя на месцы выбуху ручныя гранаты. Версія пра тое, што выбух адбыўся па віне Ліпковіча і яго сябрукоў, спрацавала. Леанід уздыхнуў з палёгкай.

Ён здзейсніў акт адплаты здрадніку за забойствы сотняў людзей. Маці здагадвалася, што да выбуху ў нейкай ступені мае дачыненне яе сын.

Яна бачыла, як перажываў у першыя дні Леанід, як паступова ў яго паляпшаўся настрой. Маці разам з дочкамі стала паволі разбіраць вузлы і мяшкі, якія параіў сабраць Леанід на выпадак, калі прыйдзецца тэрмінова пакінуць дом.

Раніцай марознага дня, калі Леанід у ненавісным шынялі накіроўваўся на службу, насустрач яму трапілася Таня:

— Прывітанне, родны паліцай!

— Прывітанне, — хмурна адказаў Леанід, — дадумалася родным зваць.

— Не крыўдуй, Лёня, ты ж ведаеш, каго я мела на ўвазе пад словам «родны». Ты сёння ўвечар будзеш свабодны?

— Так. Мне прыйдзецца да дванаццаці ночы зноў перціся ва ўправу. Буду на пасту стаяць. А што такое?

— Паспрабуй гадзінам к сямі вечара зазірнуць да нас. З табой хоча пагаварыць Сцяпан Пятровіч.

— Буду. Ты чула пра Ліпковіча?

— Вядома. Увесь горад шуміць, людзі радуюцца. Ну, добра, час для кароткай сустрэчы суседзяў прайшоў. Так што, пакуль. Да сустрэчы.

Увечар, роўна ў сем гадзін, Леанід, пераапрануўшыся ў цывільную адзежу, з’явіўся ў суседзяў.

Сцяпан Пятровіч, апрануты як селянін, сядзеў за сталом і разам з гаспадарамі піў чай. Леанід адразу ж улавіў пах мяты і яшчэ нейкай карыснай травы. Убачыўшы ўваходзячага Леаніда, Сцяпан Пятровіч устаў, ступіў яму насустрач і абняў:

— Ну, дабрыдзень, герой!

Таня дапамагла Леаніду зняць паліто і аднесла яго ў пярэдні пакой.

Мужчыны засталіся адны.

Сцяпан Пятровіч падсунуў хлопцу крэсла, а сам сеў на ранейшае месца і сказаў:

— Віншую цябе з выдатнай работай. Нягоднік і яго сябрукі-адшчапенцы панеслі заслужаную кару. У нас таксама ўсё прайшло выдатна. Пасланцы з Берліна — у нашых руках, а дакладней — у руках Масквы, куды мы іх адправілі ўчора ўначы.

— А як Ірэна Уладзіміраўна? З ёй усё ў парадку?

— Так, усё нармальна. Яна шле табе прывітанне і разам з камандаваннем брыгады звяртаецца да цябе з просьбай. Ты ж ведаеш, што муж Ірэны Уладзіміраўны ваюе супраць фашыстаў на фронце. Немцы вось-вось, зрабіўшы аналіз нашай аперацыі, могуць западозрыць Караблёву ў супрацоўніцтве з намі. А гэта значыць, што яе сям’я, дакладней, дзеці, будуць арыштаваны. Няцяжка здагадацца, што з імі магло б адбыцца, калі б мы не зрэагавалі. Дзяцей заўтра раніцай мы вывезем у бяспечнае месца, а ты, Леанід, павінен паспрабаваць выратаваць яе дом і маёмасць.

— А як гэта зрабіць?

— Ты павінен звярнуцца да свайго начальніка, а калі спатрэбіцца, то і да грамадзянскага кіраўніцтва горада з просьбай перадаць дом Караблёвай тваёй сям’і. Матывацыя такая: ты бездакорна служыш акупацыйным уладам, у цябе вялікая сям’я, хворая маці. Урэшце, збіраешся жаніцца. Я магу табе са стопрацэнтнай упэўненасцю сказаць — сёлета, хутчэй за ўсё ўлетку, Мінск будзе вызвалены. Не хацелася б, каб сям’і камандзіра Чырвонай Арміі не было б дзе жыць. Мы прадставім Ірэну Уладзіміраўну да ўрадавай узнагароды. Ну, як ты глядзіш на нашу просьбу?

— А што тут гадаць? Заўтра ж раніцай пайду да Галкоўскага, свайго начальніка-крымінальніка. Напішу рапарт і буду клянчыць.

— Ну, вось і добра! — задаволена сказаў Сцяпан Пятровіч. — Тады пяройдзем да другога пытання. Пасля ліквідацыі Ліпковіча ўлады захочуць падабраць яму замену. Берлін патрабуе да максімуму павялічыць адбор крыві ў нашых дзяцей. Прычым у фашыстаў ёсць план, перад верагоднымі вырашальнымі бітвамі за вызваленне Беларусі, забіць усіх дзяцей. Таму, Леанід, трэба, па магчымасці, здабываць максімум інфармацыі па гэтым пытанні. Паспрабуй здабыць чыстыя бланкі аўсвайсаў і даведацца паролі, якія дзейнічаюць падчас каменданцкай гадзіны. Нас па-ранейшаму цікавяць дадзеныя, якія тычацца перамяшчэння і расквартаравання войскаў, а таксама планы ворага. Ясна?

— Ясна, Сцяпан Пятровіч, паспрабую зрабіць усё, што змагу.

— Выдатна. Каналы сувязі застаюцца ранейшымі. Ну, а зараз мне трэба ісці. Хачу дабрацца да ўскраіны яшчэ да наступлення каменданцкай гадзіны. Напэўна, будзе правільным, калі ты, Леанід, выйдзеш з дома першым, а я — за табой. Не пярэчыш?

— Вядома, не.

— Ну, тады з Богам! — Раптам Сцяпан Пятровіч успомніў. — Леанід, я прывёз табе тры бутэлькі гарэлкі і кавалачак сала. Ты, напэўна, сам ведаеш, што начальнік паліцэйскай управы з былых злачынцаў. Ён да вайны быў двойчы асуджаны. За рабаванні і хуліганства — першы раз, а ў другі — за разбойныя напады на жыхароў Мінскай вобласці і крадзяжы. Ён аматар выпіць. Магчыма, апошняя акалічнасць і выканае сваю ролю. Гарэлка сапраўдная, «Московская». Прыдумай, як яна ў цябе апынулася. Яна даваеннага выпуску і цалкам магла захоўвацца ў любога. Сам падумай, як пакарыстацца. Ну, а зараз, здаецца, усё. Яшчэ раз да спаткання. Будзь асцярожным, прадумвай кожны свой крок. Памятай, недалёкі той дзень, калі Мінск ды і ўся Беларусь будуць вызвалены. Чырвоная Армія б’е акупантаў на ўсёй адлегласці ад Балтыйскага да Чорнага мораў.

Самым ранкам пасля дзяжурства Леанід, прыхапіўшы «падарунак», прагуляўся да дома Караблёвай і, пераканаўшыся, што там ужо нікога няма, спытаў у суседзяў, дзе Караблёвы. Пачуўшы, што іх вельмі рана невядомыя з павязкамі паліцаяў пагрузілі ў грузавік і павезлі, рашуча накіраваўся ва ўправу. Увайшоўшы ў будынак, Леанід спытаў у дзяжурнага:

— Шэф у сябе?

— Так, толькі што адпусціў дзяжурную змену. Запатрабаваў, каб яму прынеслі чай.

Павагаўшыся, Леанід вырашыў: «А што, мой чай, можа, і не дрэнна».

Ён пачакаў, пакуль адзін з паліцаяў, накульгваючы, прынёс у кабінет начальніка алюмініевы чайнік, заварнік і пачак пячэння, падышоў да дзвярэй і пастукаў, але чакаць адказу не стаў. Адчыніў дзверы і, стараючыся здавацца пачцівым, зняўшы шапку, спытаў:

— Дазвольце ўвайсці, пан начальнік?

— Дык ты ж ужо прыпёрся. Нават кружку чаю не даў выпіць.

— А я бачыў, як вам чай прынеслі, і вырашыў, што будзе не лішнім вось гэта.— Леанід паклаў перад Галкоўскім невялікі шматок сала.

— Ого! — усклікнуў Галкоўскі і спытаў: — З чаго гэты ты, Цвяткоў, такі шчодры?

— Ды падлізацца хацеў, пан начальнік, — растлумачыў Леанід і, рашуча дастаўшы з кішэняў дзве бутэлькі гарэлкі, паставіў іх на стол.

— Ого! — ізноў усклікнуў Галкоўскі. — Бачу, што ты і сапраўды нешта жадаеш прасіць. — Шэф гулліва памахаў пальцам і ўсміхнуўся. — Малады, ды ранні. — Ён узяў адну бутэльку і, не хаваючы эмоцый, заўважыў: — Глянь ты, «Московская»! Маскву не люблю, а вось «Московскую» люблю. Яшчэ даваенная. Ну што, давай па маленькай, — дастаў з тумбачкі, што стаяла побач, дзве гранёныя шклянкі, кавалак зацвярдзелага хлеба і вялікі нож-разак, са скрыні стала выцягнуў ключ і працягнуў Леаніду: — Замкні дзверы, а то яшчэ трэці прыйдзе! — І, гучна засмяяўшыся, стаў разліваць гарэлку.

— Пан начальнік, мне толькі трошкі, сабе поўную налівайце.

Галкоўскі, кіўнуўшы галавой, спытаў:

— А чаго так?

— У мяне маці хварэе, я дамовіўся, што да ўрача павяду. Самі ведаеце, калі гарэлкай смярдзіць, маці не вельмі падабаецца, ды і перад доктарам няёмка.

— Зразумела. Ну, будзь! — Галкоўскі, прагна глынаючы, асушыў шклянку і ўхапіўся за сала. — Добра як! Я люблю такую закусь. Памятаю, у калоніі хто-небудзь з карашоў прынясе перадачу, а там абавязкова гэты наркотык.

Лёнька ўзяў бутэльку і напоўніў шклянку Галкоўскага, сабе, дзеля прыліку, ледзь-ледзь плюхнуў:

— За ваша здароўе, пан начальнік!

— І тваё здароўе!

Пасля другой шклянкі Галкоўскі ап’янеў. У бутэльцы засталося не больш як пяцьдзясят грамаў. Леанід выліў іх у шклянку Галкоўскаму, той падняў яе:

— За наша сяброўства, Цвяткоў! — Выпіўшы, раптам спытаў: — Слухай, Цвяткоў, а як цябе клічуць?

— Лёня, Леанід.

— Не забуду, а то на службе патрабуюць адзін да аднаго звяртацца па прозвішчы. Але ты, калі будзем адны, заві мяне па імені. Ты хоць ведаеш, як твайго самага галоўнага клічуць?

— Як не ведаю? Ведаю! Аляксандрам Міхайлавічам вас завуць.

— О, малайчына! Гэта добра. — Галкоўскі задаў пытанне, якога Леанід даўно чакаў: — Дык што ў цябе за справа, сябар?

— Пан начальнік, Аляксандр Міхайлавіч, у мяне вялікая сям’я: маці і трое сясцёр.

— А бацька ёсць?

— Ён памёр яшчэ перад вайной.

— Ага, ну і што?

— Дом стары, развальваецца. А я сёння даведаўся, што сям’ю настаўніцы нямецкай мовы Караблёвай арыштавалі, а яе дом пусты. Вось я і вырашыў прасіць вас. Вы ж у нас, як бацька родны, клапоціцеся.

— Гэта так. — Млеючы ад пахвалы, Галкоўскі пацягнуўся да тэлефона і загадаў тэлефаністцы: — Дайце мне гарадскую ўправу!

Адказаў мужчынскі голас.

Галкоўскі спытаў:

— Гэта хто? Іван Цімафеевіч? Прывітанне! Гэта Галкоўскі. Як справы? Добра. Сёння раніцай арыштавалі сям’ю партызанскай памагатай Караблёвай. — Галкоўскі, блытаючы факты, дэталізуючы злачынную дзейнасць былой настаўніцы, назваў яе адрас і перайшоў да галоўнага: — Слухай, Іван Цімафеевіч, прашу цябе па дружбе. Давай гэту халупу аддамо майму лепшаму паліцэйскаму Цвяткову. У яго сям’я, маці хворая, тры сястры, бацька Богу душу аддаў. Сам Цвяткоў жаніцца збіраецца. Ён у нас у вялікай пашане.

Больш як сорак жыдоў цюкнуў, дваццаць аднаго бальшавіка, савецкіх начальнікаў асабіста арыштаваў. Гестапа асабліва дзякавала яму. Дапамажы, век не забудуся. А сам Цвяткоў да цябе надоечы з падзякай прыйдзе. Сам разумееш, не з пустымі рукамі.

Выслухаўшы адказ, Галкоўскі заззяў:

— Вось дзякуй, сябар. Прыходзь у госці, сустрэнем, як брата, але ты не забудзь, запішы ў свае паперы, каму аддадзена хата Караблёвай. Што? Запішы: Цвяткоў Леанід... — Галкоўскі паглядзеў на Леаніда, той зразумеў, што трэба, і растлумачыў:

— Цвяткоў Леанід Андрэевіч.

Галкоўскі паўтарыў і задаволена паклаў трубку:

— Бачыш, твой шэф не апошні чалавек у горадзе. Магу сёе-тое для сяброў і зрабіць. Ну што, яшчэ па шклянцы?

— Дзякуй вам, Аляксандр Міхайлавіч, але на сёння хопіць. Мне да доктара.

— А, так-так. Ну, давай засяляйся. Як-небудзь на ўваходзіны зайду.

— Радыя будзем. Толькі я там хоць які рамонт зраблю, а потым перасялюся.

Леанід устаў, Галкоўскі працягнуў праз стол руку:

— Будзь здаровы, калі з'явіцца такая штука, — кіўнуў на бутэльку, — буду рады.

— Дзякуй. Я пастараюся.

Леанід, ледзь стрымліваючыся, каб не пабегчы, выйшаў з кабінета, а затым з будынка ўправы.

**Раздзел 43**

Ганна старалася дзейнічаць асцярожна, але ў той жа час не зацягваць справу. Трэба было ратаваць дзяцей, прычым як мага хутчэй і асцярожней. Кошт гэтых умоў — жыццё. Жыццё дзяцей і дарослых.

Трэба было вырашаць, як дапамагчы Ніне і яе сябрам — Ісаку і Розе Левіным. Вядома, ні Ганна, ні Сялькевіч не маглі нават здагадвацца пра лёс сям'і Левіных. У гета загінулі маці і бацька, іх дачка Сара.

Вольга Іосіфаўна хутка адшукала Розу і Ісака ў доме, на які паказала Ніна. Дзякуючы радыёсувязі партызаны вывезлі дзяцей з небяспечнага месца, і цяпер ім нічога не пагражала.

Сама Ніна становішча ацэньвала па-свойму. Ёй здавалася, што пытанне можна вырашыць проста: яна ўначы падлезе пад дрот, і справе канец, але абедзве жанчыны не маглі дазволіць ставіць яе жыццё пад пагрозу. Яны шукалі іншае рашэнне. Вольга Іосіфаўна параілася з дзедам Панасам. Той сталярнічаў у інтэрнаце, але ягонае перамяшчэнне было абмежавана. Яго амаль не дапускалі ў дзіцячы корпус, і яго кантакт з дзецьмі быў немагчымы. Калі дзеду Панасу і дазвалялі заехаць на тэрыторыю на санях, дык толькі пад пастаянным кантролем. Пакуль Вайтовіч быў ізаляваны, дзяўчынка магла хавацца ў складскім памяшканні, але Ганна разумела, што гэты прайдзісвет патрэбен Мойрыну, а гэта значыць, што заўтра-паслязаўтра Вайтовіч прыступіць да сваіх абавязкаў. Разважаючы пра тое, як быць з Нінай, Ганна нечакана знайшла выйсце з сітуацыі. Яна тут жа выклікала да сябе Вольгу Іосіфаўну.

— Слухай, Оля, — ціха сказала Ганна, — а што, калі мне сказаць Мойрыну, што Ніна твая дачка, і я хачу, каб яна мне прыслугоўвала. Такім чынам мы

дзяўчынку легалізуем, карміць яе будуць у мяне, а як толькі з’явіцца магчымасць, мы выведзем яе з гэтага логава.

— Вядома, можна. Ніхто з дзяцей Ніну не ведае, небяспекі, што яе апазнаюць, няма. Якія ў мяне дзеці, тут таксама ніхто не ведае... А што, можа, рызыкнуць?

— А я паспрабую падрыхтаваць тунэль да эвакуацыі дзяцей, у тым ліку, вядома, і Ніначкі. Я зараз жа сустрэнуся з Мойрыным, паспрабую схіліць яго да гэтага варыянта, паспрабую яго далікатна ўгаварыць цябе, каб ты пагадзілася з маім рашэннем. Я скажу маёру, хай ён паабяцае табе, што тваю дачку будуць карміць, а я буду плаціць невялікую суму грошай, ну і, вядома, па нядзельных днях яна будзе хадзіць дахаты. Мы такім чынам зможам забраць Ніну з інтэрната. Скажу каменданту, што мне дзяўчынка больш не патрэбна і я яе адпусціла. Як ты думаеш?

— Рызыкоўна, але цікава.

— Значыць, так, ідзі да сябе і чакай выкліку.

Ганна не марудзячы накіравалася да Мойрына. Той быў у сваім кабінеце. Убачыўшы ўваходзячую даму, ён хутка падняўся з крэсла і, абмінуўшы стол, накіраваўся насустрач:

— О, я рады, фрау Ганна, што вы зайшлі ў гэтае сціплае прыстанішча.

— Ну што вы, Вільгельм. У вашым кабінеце я ўжо, па-мойму, трэці раз і паспела заўважыць, што гэта не сціплая мясціна, а кабінет, гаспадар якога годны быць у больш высокім званні.

— Я ўсцешаны, — збянтэжана прамармытаў Мойрын, — але маёра я атрымаў каля года назад.

— Пра што вы кажаце, Вільгельм, спадзяюся, вы не забыліся, што ў ваенны час тэрміны прадстаўлення да чарговага звання могуць быць і на працягу года. Я паспрабую, каб менавіта так і здарылася. Натуральна, калі я прыбуду ў Рыгу, а можа, і раней. Лічу, што яшчэ некалькі дзён, і я пачну збірацца. Адзінае, пра што я хачу папрасіць вас, Вільгельм, даць мне фатографа для таго, каб ён зрабіў фатаграфіі некаторых памяшканняў, мэблі і рэчаў. Магчыма, у Рызе мы вырашым, калі трэба пачынаць работы па рамонце асобных памяшканняў. Думаю, што гэтага прайдзісвета Вайтовіча можна выпусціць, хай займаецца сваёй справай. Я б хацела, каб ён давёў да ладу ход са спальнага корпуса ў склеп, у якім — дзверы тунэля.

— Я зараз жа распараджуся.

— Выдатна, — усміхнулася фрау, — але ў мяне да вас, Вільгельм, ёсць яшчэ адна далікатная просьба.

— Слухаю вас, Ганна Фішар.

— Мне хацелася б, каб мае пакоі прыбіраў не салдат. Разумееце, я не вельмі камфортна сябе адчуваю, калі мае рэчы і іншае чапае мужчына. Таму я хачу вас папрасіць вось пра што: вы ведаеце, што тут працуе Вольга Сялькевіч?

— Так, так, памятаю! Яна ж вам прыслугоўвала, калі ваша сям’я пражывала ў гэтым палацы.

— Правільна, у вас добрая памяць. Дык вось у гэтай Вольгі ёсць дачка. Ёй дзесьці дзесяць-адзінаццаць гадоў. Калі б вы змаглі ўгаварыць, не, не, ні ў якой меры не аддаваць каманду, а тактоўна ўгаварыць яе, паабяцаўшы, што дзяўчынка будзе жыць у адным з пакояў побач з маімі, харчавацца ў нас і што я буду трошкі плаціць.

— Фрау Ганна, я неадкладна пагавару з гэтай.

— Вольгай, — падказала Ганна.

— Так, так, з Вольгай. Я амаль упэўнены, што дамоўлюся з ёй.

— Дзякуй, Вільгельм. І яшчэ трэба сказаць камандзіру аховы, каб дзяўчынку выпускалі з тэрыторыі толькі па маім дазволе. Я не дапушчу, каб яна кантактавала са змешчанымі тут дзецьмі.

— Гэта нескладана зрабіць. Кантынгент знаходзіцца ў асобнай зоне.

— Ну і выдатна. Яшчэ адно пытанне.

— Калі ласка, фраў Фішар.

— Па-мойму, у вас сёння выдатны настрой. Падзяліцеся са мной.

— Ха, ха, — засмяяўся маёр. — Аднак вы псіхолаг. А настрой добры таму, што нарэшце дарогі расчышчаны і зараз ездзіць у Мінск можна як на прагулку.

— А можна я вам выдам адзін сакрэт, Вільгельм?

— Які сакрэт?

— Неўзабаве Мінск стане звацца Асградам. Прынята рашэнне ператварыць яго ў сапраўдны еўрапейскі горад.

— Ого! Выдатная ідэя! — усклікнуў Мойрын. А сам падумаў: «Каб іх чорт узяў, а фраў сапраўды фігура, ведае нават пра такія планы».

Ганна таксама падумала: «Добра, што мне паведамілі пра гэта. Здаецца, фашыст ацаніў маю інфармацыю».

— Вільгельм, — какетліва звярнулася Ганна да маёра, — вас не абцяжарыць паведаміць, ці ўдалося вам зачараваць Вольгу і ўгаварыць яе?

— О, я адразу ж праінфармую вас, фраў Ганна.

— Скажыце, вы можаце загадаць прысланць шэльму Вайтовіча да мяне? Я прымушу яго навесці парадак у склепе, з якога пачынаецца тунэль.

— Максімум праз пяць мінут ён будзе ў вас. Калі вам будзе зручна, заставайцеся ў маім кабінеце.

— А я не перашкоджу вам?

— Што вы, мне нават прыемна.

— А калі раптам аддам які-небудзь загад салдату? — усміхнулася Ганна Фішар.

— І хай хто-небудзь паспрабуе не выканаць ваш загад. Я яму неадкладна выпішу білет на Усходні фронт.

— О, які вы рашучы. — Раптам твар Ганны стаў сур'ёзным. — Вы сказалі, Усходні фронт, а мне вось што падумалася.

— Што?

— Вы робіце вельмі важную справу. Вашы заслугі павінны ацаніцца значна вышэй, чым якога-небудзь афіцэра з акопаў. Ваша работа звышсакрэтная, а вы не меркавалі, што рабіць, калі рускія хоць на кароткі час прарвуцца сюды? Я не думаю, што наша ваеннае і палітычнае кіраўніцтва не разумее далікатнасць такой сітуацыі. Я лічу, вы паступілі б правільна, калі б праявілі сябе мудрым чалавекам, прадумаўшы на ўсякі выпадак варыянты дзеянняў.

— Зусім правільна мяркуеце, фраў Ганна. — Мойрын наблізіўся да сейфа і дастаў тоненькую папку. Узяўшы з яе адзіны ліст, працягнуў ёй: — Вось, пагледзіце.

Фраў Ганна ўзяла лісток, хутка прабегла яго вачамі і, вяртаючы Мойрыну, раптам усміхнулася:

— Я радая, што ў Берліне ёсць людзі, якія думаюць гэтак жа, як і я.

І яны гучна засмяяліся.

Мойрын, паклаўшы папку ў сейф, зрабіў лёгкі паклон і накіраваўся да дзвярэй. Калі б ён бачыў, як у гэты момант жанчына літаральна ўпілася вачамі яму ў спіну!.. «Не, гад, мы выратуем сваіх дзяцей, — думала яна. — Трэба ў што б там ні стала здабыць гэты дакумент».

Яна мела на ўвазе толькі што прачытаны загад, які прадпісваў Мойрыну на працягу месяца знішчыць у Трасцянцы ўсіх жывых дзяцей, а таксама дакументацыю медыкаў і ўсе сляды, па якіх можна было зразумець, што тут адбывалася.

Неўзабаве з'явіўся Вайтовіч. Зняўшы шапку, ён нізка пакланіўся і застыў у чаканні.

Фраў Фішар спакойна сказала:

— Вайтовіч, за вашы выхадкі я магу загадаць вас расстраляць, вы гэта разумееце?

У Вайтовіча затрэсліся ногі, ён чамусьці пралепетаў:

— Дзякуй, пані!

Ганна Фішар насілу стрымала ўсмешку і строга спытала:

— За што дзякуй?

— Ну, я зразумеў, што вы мяне пашкадавалі.

— Увогуле, правільна зразумелі... Я сказала маёру Мойрыну, каб ён пакінуў вас у жывых. — Ганна спецыяльна прамовіла словы «я сказала», іх можна расцаніць і як «я загадала». — Запомніце, у Германіі прыватная ўласнасць — недатыкальная, за замах на яе караюць гэтак жа, як і за ваенныя злачынствы. Я сапраўды вырашыла пашкадаваць вас і даць магчымасць вам выправіцца.

Вайтовіч быў напалоханы. Кабінет Мойрына, валявая і строгая жанчына, якая па-гаспадарску размясцілася ў ім і адным рухам пальца можа адправіць яго на сук ці пад кулю… Ён ужо хацеў упасці на калені, але дама зноў загаварыла:

— Я даю вам магчымасць выправіцца. Вы павінны ачысціць ход з дзіцячага корпуса ў склеп, з якога маецца ўваход у тунэль. Гэта па-першае. Па-другое, каб даказаць, што вы больш не будзеце займацца крадзяжамі і шчыра абяцаеце выправіцца, вы павінны здаць мне ўсе асобнікі ключоў ад дзвярэй тунэля і ўвахода ў склеп. — І, не даючы яму магчымасці штосьці запярэчыць, яна адразу ж дадала: — І яшчэ, у нас тут працуе сялянка Сялькевіч.

— Так, так, я ведаю, — паспешна перабіў яе Вайтовіч, — яна тут працавала яшчэ да рэвалюцыі.

— Не перабівайце, Вайтовіч, а слухайце і выконвайце. Ці вы думаеце інакш?

— Не, не, спадарыня пані, я ўсё зраблю.

— Дык вось, я загадала Вользе Сялькевіч, каб яе малодшая дачка прыслугоўвала мне. Яна хоць і маленькая, але праца для яе нескладаная: падаць, прынесці, пачысціць. Трэба ўсё зрабіць, каб дзяўчынка не кантактавала з вашым кантынгентам. Самі разумееце — чаму.

— Так, так, я разумею.

— Пры сустрэчы з ёй не размаўляць, не распытваць. Ясна?

— Разумею!

— Увечары я праверу вашу работу.

— А Вользе гэтай Сялькевіч мне сказаць?

— Не, я паслала да яе маёра Мойрына.

Гэтыя словы яшчэ больш пераканалі Вайтовіча ў магутнасці дамы.

Ён, не апранаючы шапку, адступіў да дзвярэй і выйшаў.

Ганна з палёгкай уздыхнула. Цяпер яе ўвага пераключылася на сейф каменданта. Напэўна, там ёсць вельмі цікавыя дакументы. Але як іх здабыць? Не ўстаючы з крэсла, яна на адлегласці разглядала сейф, нямецкі, хутчэй за ўсё запасны. Яна памятала: маёр адкрываў сейф ключом, які дастаў з кішэні, а затым ізноў паклаў туды ж.

У кабінет энергічна ўвайшоў маёр і весела прамовіў:

— Усё ў парадку. Мы з Вольгай дамовіліся. Дзяўчынка будзе ў вас. Я аддаў загад, каб Вольгу прапускалі і выпускалі з дзяўчынкай.

— Дзякуй вам, Вільгельм, — на гэты раз шчыра падзякавала Ганна.

Яна ледзь стрымлівала радасць — лёс Ніны вырашаны.

— Я папярэдзіла Вайтовіча, што калі ён яшчэ раз здзейсніць крадзеж, то яго чакае шыбеніца.

— Правільна, я сам для яго намылю вяроўку.

— Ведаеце, што мяне насцярожыла, Вільгельм, — задуменна сказала Ганна Фішар, — а што будзе з маім палацам, калі прыйдзецца прыбраць дзяцей? — Яна не змагла прамовіць слова «ліквідаваць».

Мойрын, не кажучы ні словы, дастаў з сейфа вялікую папку і паклаў яе на часопісны столік перад фрау Ганнай:

— Тут плануецца размясціць полк далёкай артылерыі. Пагорыста-лясістая мясцовасць дазваляе зручна размясціць кожную гармату.

— О, мой Бог! — выклікнула фрау Ганна. — Гэты полк разбурыць увесь маёнтак, увесь мой палац.

— Так, такая небяспека ёсць. Я хацеў сам пагаварыць з вамі пра гэта. Салдатам дый афіцэрам усё адно, дзе хадзіць, што браць для сваіх патрэб, ім чужыя такія паняцці, як рарытэт, гістарычная каштоўнасць. На мастацкую карціну яны глядзяць з пункту гледжання практычнага ўжывання, скажам, як на шчыт ад ветру.

— Мой Бог, — ізноў выклікнула фрау Фішар і спытала: — Вільгельм, парайце, што рабіць?

— Я думаў пра гэта і бачу тры варыянты выйсця з гэтай сітуацыі. Першы — вы выкарыстоўваеце свой аўтарытэт, дамагаецеся ад высокага камандавання аддаць загад і вывезці ўсю каштоўную маёмасць з палаца.

— Куды?

— Мне цяжка адказаць на гэта пытанне. Я не стратэг. Думаю, што лепш, чым я, параяць у Рызе ці нават у Берліне.

— Ну, а другі варыянт?

— Складваць усе каштоўнасці ў зацішным месцы і аддаць загад камандзіру палка забяспечыць іх захаванасць.

— А трэці варыянт?

— Вы застаяцеся тут. Адводзіце для расквартаравання асабовага складу палка якое-небудзь крыло, вядома, прыбраўшы папярэдне з яго ўсё каштоўнае.

— Што вы, Вільгельм, мне ўжо даўно трэба быць у Берліне. У мяне ёсць свае, прычым немалыя, службовыя абавязкі. Першы варыянт, вядома, надзейны, але пагадзіцеся, гэта будзе падобна на тое, што плануецца адступленне нашых войскаў. Я магу, вядома, адмяніць план расквартаравання тут палка. Як кажуць, трэба думаць. Урэшце, я папрашу партай-геносэ Бормана ўмяшацца.

Пачуўшы гэта, Мойрын гатовы быў ускочыць на ногі. Але словы фрау гучалі так будзённа, толькі гэта і спыніла маёра.

Фрау Ганна звярнула ўвагу на тое, што ў раскрытай папцы ляжыць план палаца. Яна спытала:

— Гэта план усяго палаца?

— Так, і нават усёй тэрыторыі вакол яго.

— Вільгельм, вам будзе нескладана зрабіць для мяне копію?

— Так, я загадаю, і да канца дня копія будзе гатовая.

— Калі можна, дзве копіі. Адна спатрэбіцца як дадатакда загада, што рабіць з палацам. Мне здаецца, мы з вамі, Вільгельм, калі-небудзь сустрэнемся

ў гэтым палацы, праўда, на плячах у вас будуць іншыя пагоны, а пасада будзе спрыяць вашаму становішчу таго часу і сённяшніх заслуг перад фюрарам.

Маёр ускочыў на ногі і застыў па стойцы «смірна». А фраў Фішар, нібы не заўважаючы яго дзеянняў, сабрала ў папку ўсе паперы і, таксама падняўшыся з крэсла, працягнула папку маёру:

— Дзякую вам. Я, мабыць, пайду пагавару з Сялькевіч.

— Добра, а я загадаю вырабіць копіі плана.

Ганна, ледзь стрымліваючы радасць, кінулася да Сялькевіч. Вольга, таксама задаволеная, расказала:

— Прыйшоў Мойрын, я бачу, што ён не ведае, як быць далей: папрасіць ці загадаць. Увогуле, так і сяк растлумачыў мне, што такое. Ну а я яму кажу: «Пан Мойрын, я зразумела вас. Калі пані Ганне патрэбна дапамога маёй дачкі, то я не супраць. Толькі трэба карміць дзяўчынку ды хоць у штосьці прыстойнае апрануць. Можа, мне ёй купіць што-небудзь?» А ён, гад, адразу ж зразумеў, чаму я хачу купіць, і не прашу выдаць са складоў дзіцячай адзежы. Гэтак ухмыльнуўся і даў мне дзвесце акупацыйных марак. Сказаў, каб я праз паўтары гадзіны зайшла ў канцылярыю і атрымала пропуск на дачку. А потым кажа: «Толькі праінструктуйце дачку, каб паводзіла сябе годна і дастойна служыла фраў Ганне».

— Ну вось бачыш, наш план атрымаўся, — усміхнулася Ганна. — Атрымлівай аўсвайс, і хай Ніна перабіраецца ў мае апартаменты. Ёй, вядома, трэба сказаць, каб да дзіцячага корпуса і блізка не падыходзіла, і яшчэ, Оля, паведамі ў брыгаду, што ўначы патрэбен пасланец, трэба тэрмінова перадаць план палаца і тэрыторыі вакол яго. Я падрыхтую паведамленне, лічу, што адкладаць больш нельга. Думаю, што групу байцоў можна будзе правесці ў палац падземным ходам. На карэтным двары звычайна дзяжураць па начах два-тры літоўскія паліцаі. Іх можна абясшкодзіць, прыехаўшы ў двор пад выглядам сялян.

— О, гэтую набрыдзь трэба як след пакараць. Учора яны злавілі дзяўчынку з суседняй вёскі і, нягледзячы на тое, што ёй усяго пятнаццаць гадоў, цэлую ноч па чарзе гвалтавалі. Сяляне гатовыя гэтых сволачаў на вілы падняць.

— Прозвішчы нягоднікаў не ведаеш?

— Дзед Панас абяцаў пазнаць, ён у іх казарме сёе-тое рамантуе. Ён чуў, што літоўцы пра гэта паміж сабой гаварылі, жартавалі над нягоднікамі.

— Што, лаялі?

— Не, проста жартавалі, іх, як зразумеў дзед Панас, ніхто не асуджае. Ён асцерагаецца, што і іншыя падонкі возьмуць з іх прыклад.

— Трэба паспрабаваць больш такога не дапускаць. Значыць, так, Оля, роўна ў пяць, перад тваім адыходам дахаты, я прыйду сюды ж з дакументамі. Дарэчы, як я назірала, цябе ахова пры выхадзе з тэрыторыі не абшуквае?

— Не. Мы ж не ўваходзім у закрытую зону. Нават у канцылярыю я цяпер пайду ў суправаджэнні афіцэра. Так загадаў Мойрын.

— Тады да сустрэчы.

І яны разышліся, каб сустрэцца праз чатыры гадзіны.

## Раздзел 44

У Маскве, атрымаўшы інфармацыю ад сваёй супрацоўніцы капітана Сяргеевай і вывучыўшы агентурна-разведвальныя дадзеныя, у тым ліку з Берліна і Рыгі, занепакоіліся і пацікавіліся меркаваннем камбрыга палкоўніка Грынёва.

Меркаванні сышліся, было прынята рашэнне пачаць аперацыю сіламі брыгады «Штурмавая».

Для больш цеснай каардынацыі ў брыгаду спецсамалётам быў накіраваны палкоўнік Грэкаў. Натуральна, у брыгаду Грэкаў прыбыў пад прозвішчам Сігаеў.

Сустрэча з камандаваннем брыгады была цёплай. Яшчэ раней, знаходзячыся сярод партызан, Сігаеў паспеў пасябраваць з Грынёвым, дый з начштаба Пазняковым і начальнікам разведкі брыгады Марозам у яго склаліся добрыя прыяцельскія і даверныя адносіны.

Сабраліся ў штабной зямлянцы. Было тры гадзіны ночы. Сёй-той пазяхаў, камісар Сенгін праціраў заспаныя вочы.

Начальнік штаба расклаў буйнамаштабную карту, на якой былі адзначаны ўсе брыгадныя батальёны, роты, а таксама тры партызанскія атрады, нядаўна падпарадкаваныя Цэнтральным штабам партызанскага руху брыгадзе «Штурмавая». На гэтай жа карце былі адзначаны і сілы праціўніка, уключаючы населеныя пункты, дзе размяшчаліся паліцэйскія падраздзяленні. Чырвоным алоўкам было пазначана слова «Сёмкава», а чорным чарнілам абведзены бліжэйшыя да Сёмкава гарнізоны.

Пачакаўшы, пакуль госць азнаёміцца з картай, Сенгін кіўнуў галавой начштаба:

— Ну што, Павел Міхайлавіч, дакладвай.

Пазнякоў узяў у рукі самаробную ўказку і стаў ля карты так, каб яна было добра відаць удзельнікам нарады:

— Я прапаную ў такім складзе абмеркаваць асноўныя дэталі плана, а затым збяром камандзіраў батальёнаў і атрадаў. Прапаную даць аперацыі кодавую назву «Кроў». Гэта абумоўлена тым, што мы ратуем жыцці дзяцей і іх кроў, за якую фашысты павінны адказаць сваімі жыццямі і сваёй крывёй. Зараз пра наш план: мы лічым, што за суткі да пачатку аперацыі неабходна арганізаваць блакіраванне найбліжэйшых да Сёмкава гарнізонаў. Сілы, якія будуць блакіраваць, не павінны замінаць звычайнаму перамяшчэнню транспарту праціўніка і дзейнічаць толькі тады, калі з блакіраванага гарнізона немцы паспрабуюць накіраваць падмацаванне ў Сёмкава. А калі пачнецца аперацыя непасрэдна ў Сёмкаве, калі гэта неабходна, яны павінны самі атакаваць гарнізоны, якія яны блакіруюць. Інакш кажучы, скаваць дзеянні праціўніка ў яго ж логаве, а пасля заканчэння аперацыі ў Сёмкаве і вывазу адтуль дзяцей спакойна адысці ў лясы. Мы ўпэўнены, што праследаванне нашых падраздзяленняў акупантамі малаверагодна. Фашысты не гатовыя весці такія дзеянні ў лесе зімою.

Аперацыю ў Сёмкаве штаб лічыць мэтазгодным правесці ўначы. Пачаць у дваццаць дзве гадзіны, а можа, і раней і да дзвюх-трох гадзін скончыць з тым, каб да наступлення світання глыбей адысці ў лес. На выпадак, калі вораг для праследавання прыменіць авіяцыю, чаго нельга выключыць, усе коні, сані, ездавыя і дзеці будуць прыкрыты белым парашутным шоўкам.

Для эвакуацыі пяцісот дзяцей мы плануем задзейнічаць не меней як семдзесят саней — простых саней, запрэжаных коньмі. Адбор і коней, і саней галоўным чынам скончаны. Размешчаны яны ў лясах паблізу Астрашыцкага Гарадка, Радашковіч і вось у гэтых трох кропках, — Пазнякоў указкай паказаў кропкі на карце. — Такім чынам, абозы могуць прыбыць да Сёмкава на працягу сарака пяці—шасцідзесяці мінут.

Для забеспячэння атрада, які непасрэдна будзе атакаваць палац, выдзяляецца пяцьдзясят саней з коньмі. Першая і другая роты трэцяга батальёна ўкамплектаваны лыжамі. Гэта таксама паляпшае манеўранасць атакуючых

сіл. Вядома, што ў сёмкаўскім гарнізоне акрамя буйнакаліберных і больш лёгкіх кулямётаў маюцца тры бронетранспарцёры і зенітная ўстаноўка. — Пры гэтых словах начштаба паклаў на стол па-над картай план тэрыторыі палаца. — Адзін з бронетранспарцёраў знаходзіцца непасрэдна ля галоўнага ўвахода ў палац. Другі — на галоўнай дарозе, якая вядзе да цэнтральных варот, а трэці бронетранспарцёр — з тылу палаца. Для іх знішчэння ў перадавую групу, якая бясшумна пракрадзецца на тэрыторыю, уключаем двух байцоў з процітанкавымі ружжамі, у іншых байцоў будуць не толькі звычайныя, але і супрацьтанкавыя гранаты. Задача першага батальёна атакаваць абарончыя збудаванні праціўніка ў лоб. Батальёну будуць супрацьстаяць тры кулямётныя вышкі і два кулямётныя гнязды, акрамя іх у акопах будуць знаходзіцца да пяцідзесяці немцаў і літоўскіх і латышскіх паліцаяў. На абедзве роты лыжнікаў з супрацьтанкавымі ружжамі ўскладаецца задача атакаваць гарнізоны з тылу. Там для лыжнікаў цалкам падыходзячыя ўмовы: густы лес і глыбокі снег. — Начштаба зрабіў невялікую паўзу і, паклаўшы перад сабой план-схему палаца, працягнуў: — Пры planаванні аперацыі мы ні на хвіліну не забывалі пра галоўнае: аперацыя будзе прызнана паспяховай толькі тады, калі ўсіх дзяцей выратуем і сярод іх ніякіх, нават адзінкавых, не будзе страт. Мы плануем захапіць у палон кіраўніцтва цэнтра. Прычым не толькі ваенна-адміністрацыйнае камандаванне, але і катаў-медыкаў і, вядома ж, забраць усю дакументацыю, якая запатрабуецца для следча-судовых органаў. Гэтая частка плана найбольш складаная і адказная. Перад вамі на схеме паказаны так званы карэтны двор, размешчаны ў двухстах дваццаці метрах ад палаца. Паміж імі — рэчка Чарнушка. Дык вось, з палаца ў карэтны двор вядзе падземны тунэль, ён пракладзены пад рэчкай і знаходзіцца ў добрым стане. Мы плануем з дапамогай адданых людзей з мясцовага насельніцтва неўзабаве пасля наступлення цемры на санях і пешшу прабрацца ў карэтны двор, які ў апошнія дні ахоўваюць два-тры літоўскія паліцэйскія. Пасля ліквідацыі аховы адчынім дзверы тунэля. Ключ ад яго дзвярэй Ганна Мікалаеўна перадала ўжо нам. Яна ж адчыніць дзверы другога канца тунэля. Некаторы час, а дакладней не меней як гадзіну, тунэль будзем праветрываць. Пры гэтым перадавая група з процітанкавымі ружжамі, трыццаццю разведчыкамі, трыма ўрачамі і трыма медсёстрамі праз тунэль пранікаюць у склеп палаца, адкуль ёсць патаемны ход у корпус, дзе ўтрымоўваюцца дзеці. Ахова там малалікая, не больш за трох чалавек. У камандзе разведчыкаў тры жанчыны, узброеныя бясшумнымі пісталетамі. Яны, апранутыя як працаўніцы, павінны з дапамогай дзвюх мясцовых жанчын ліквідаваць ахову. Разведгрупа з дапамогай Ганны Мікалаеўны захоплівае камандзіраў і медперсанал, а таксама дакументацыю. Падчас гэтай аперацыі дзеці, ужо апранутыя, праз патаемны ход спускаюцца ў склеп і па падземным тунэлі перасоўваюцца ў карэтны двор, дзе іх будуць чакаць коні, запрэжаныя ў сані. У санях — цёплыя коўдры, кажухі, паўкажушкі. Мы пастараліся, каб у кожных санях было пабольш сена і цёплых рэчаў, частку з якіх пад распіску пазычылі ў сялян. Пасля аперацыі мы абавязкова вернем уладальнікам. Дзеці будуць размешчаны ў дваццаці дзвюх вёсках у надзейных людзей, якія маюць магчымасць часова даць ім прытулак. Гэтым сем’ям адразу ж выдамо кансервы, крупы і іншы харч. Усё, што даслала Вялікая зямля для гэтых мэт, мы складавалі ў дзесяці месцах і цяпер гатовыя пачаць размяркоўваць.

Пазнякоў зрабіў паўзу, яўна правяраючы сябе: ці не выпусціў што-небудзь важнае, а затым, як бы падводзячы вынікі даклада, сказаў:

— Вось так выглядае канцэпцыя ці, у агульных словах, план. Натуральна, намі прапрацаваны ўсе пытанні канцэнтрацыі размяшчэння падраздзяленняў,

якія ўдзельнічаюць у аперацыі, зроблены разлік і па часе, у тым ліку адводу гэтых падраздзяленняў да месца базіравання.

— Як з сувяззю? — спытаў Сігаеў.

— Дзякуючы цэнтру сувязь будуць мець усе батальёны, роты і групы. У штабе ўстановяць пяць радыёстанцый, гэта неабходна, каб радыёстанцыі не перашкаджалі адна адной, падабраны дасведчаныя радысты.

— Як з рэзервам?

— З дапамогай брыгады «За перамогу» ўтвораны рэзерв для ўсіх падраздзяленняў і будуць прыкрыты ўсе шляхі адыходу.

— Калі прапануеце пачаць?

— Паслязаўтра. Заўтра будзем ставіць пэўныя задачы, інструктаваць усе камандныя звенні. Да вечара пачнецца рух. З мэтай адцягнуць праціўніка на поўдзень і паўднёва-заходні накірунак ад Мінска суседнія брыгады правядуць серыю дыверсій на чыгунках і шашэйных дарогах. У Мінску, Койданаве, Баранавічах запланаваны на важных аб’ектах сіламі падпольшчыкаў дзевяць дыверсій. Акрамя таго будзе здзейснена шэсць дэманстратыўных нападаў на гарнізоны праціўніка.

— Як плануеце гарантаваць бяспеку Ганны Мікалаеўны?

— Складанае пытанне, — задуменна сказаў начальнік штаба. — Як бы ні хацелася, але яна тут цэнтральная фігура. Яна павінна забяспечыць свабодны доступ да тунэля, арганізаваць адпраўку з палаца дзяцей і разам з разведгрупай, якая прыбудзе, узяць у палон кіраўнікоў, а таксама забраць з сейфа дакументацыю.

— Я, таварыш палкоўнік, — звярнуўся да Сігаева Мароз, — замацаваў за Ганнай Мікалаеўнай трох разведчыкаў-аўтаматчыкаў. Ім будзе аддадзены загад: ні кроку ад Ганны Мікалаеўны. Не скрыю, мы вельмі хвалюемся за яе. Яна — сапраўдная гераіня. Нават у такой сітуацыі змагла выратаваць траіх дзяцей.

— А якая інфармацыя паступае з Мінска?

— Па дадзеных нашай агентуры ў вышэйшым эшалоне ўлады ўсе ахоплены трывогай і страхам перад магчымым вясновым наступленнем Чырвонай Арміі. Вышэйшыя кіраўнікі ўсё нарабаванае спрабуюць сплавіць у Германію.

— Як з рэпрэсіямі?

— Павялічыліся. Пасля знішчэння практычна ўсіх яўрэяў уся карная сістэма пераключылася на мірнае насельніцтва. Гімлер жа заявіў, што для Германіі досыць пакінуць у жывых толькі дваццаць пяць працэнтаў насельніцтва, астатнія семдзесят пяць Гімлер са спасылкай на Гітлера загадвае знішчыць. Людзей, як жывёл, у таварных вагонах масава вывозяць у Германію.

— Так, так, іх там выкарыстоўваюць для работы на ваенных заводах, тысячамі ўтрымліваюць у канцлагерах, многіх аддаюць у рабства мясцовым памешчыкам, — пацвердзіў Грынёў.

— Як я зразумеў, сітуацыя вакол Сёмкава ў Мінску ў кіраўніцтва акупацыйных улад турботы не выклікае. — Палкоўнік Сігаеў нечакана ўсміхнуўся і прадоўжыў: — Так, як змяніўся наш партызанскі рух. Хіба мы маглі год-два назад марыць, што вы зможаце праводзіць такія аперацыі?! Але расслабляцца не варта. Асабіста мне план падабаецца. А вам, Сяргей Іосіфавіч?

— Вы што, Міхаіл Міхайлавіч, лічыце, што камбрыг можа заставацца ўбаку ад распрацоўкі такой аперацыі?

— Разумею. Ну што, даяце «дабро», Сяргей Іосіфавіч?

Грынёў узяў у рукі пёравую ручку, памачыў пяро ў звычайную школьную чарніліцу-невылівайку і чорным чарнілам у левым верхнім куце карты буйна

напісаў: «План аперацыі «Кроў» зацвярджаю. Камбрыг палкоўнік С. І. Грынёў». Выпрастаўся і, паглядзеўшы на камісара, спытаў:

— Ну што, Сяргей Антонавіч? З Богам?! Але хрысціцца я не ўмею. — Затым звярнуўся да Мароза: — Іван Мікалаевіч, ты параіўся б з Міхаілам Міхайлавічам, як быць з Цвятковым.

— Добра, Сяргей Іосіфавіч, — пагадзіўся Мароз, паглядзеў на Сігаева і разгублена прамовіў: — Але таварыш палкоўнік прама з самалёта, ужо ноч заканчваецца, а ён не спаў. Нават не размясціўся.

— Нічога, браток. Давайце зробім так. Праводзьце мяне да адведзенай мне зямлянкі, па дарозе і пагаворым.

Неўзабаве яны ішлі па цёмным заснежаным лесе. Мароз падсвечваў трафейным ліхтарыкам. Ён сцісла расказаў пра Леаніда, пра тое, як той падарваў ката-юду, а затым прадоўжыў:

— Але здарылася непрадбачанае. Выбухам разнесла ўсё памяшканне. Загінулі сябрукі Ліпковіча, такія ж марадзёры і забойцы, як ён сам. Загінуў і шэф Ліпковіча гаўтман СС Шлотэн. Наш чалавек зусім па-за падазрэннем, наадварот, начальнік паліцыі, у мінулым крымінальнік, наблізіў яго да сябе. Па нашым заданні Цвяткоў падпаіў шэфа і ўгаварыў перадаць яму дом настаўніцы Караблёвай, дзяцей якой, пасля захопу падпалкоўнікаў з Берліна, немцы маглі б схапіць, мы вывезлі. Да Цвяткова падкаціўся адзін з чыноў разведкі. Ён стаў схіляць Леаніда з’ехаць у Германію, каб вучыцца ў сакрэтным цэнтры, а затым стаць разведчыкам. Не пабаяўся сказаць Леаніду, што калі б Германія нават прайграла вайну, ён, Леанід, будзе карысны, і не толькі Германіі. Ён будзе багатым, стане карыстацца рознымі выгодамі. Цвяткоў пацікавіўся, што будзе з яго маці і трыма сёстрамі. Немец прапанаваў уладкаваць іх лёс. Але для гэтага трэба перавезці сям’ю ў іншае месца. У Гродна ці Брэст. Абяцае добрае жыллё і забеспячэнне.

— Так, гэта хранова, — задуменна прамовіў Сігаеў. — Што адказаў Цвяткоў?

— Узяў час на абдумванне прапановы.

— Правільна. У такіх выпадках, калі чалавек адпрэчвае прапанову, як правіла, яго ліквідуюць.

— Паўстала яшчэ адна праблема. Як аказалася, падчас выбуху Ліпковіч не загінуў. Яму адарвала нагу, выбіла адно вока, ён атрымаў найцяжкую кантузію, але, гад, выжыў. Цяпер ён у ваенным шпіталі ў паўсвядомым стане. Цяжка сказаць, ці ўспомніць ён той вечар. Праўда, нам пакуль удалося навесці фрыцаў на ілжывы след. Яны на месцы здарэння выявілі дзве гранаты, якія не разарваліся, іх паліцаям не выдаюць. Але ўсё адно, думаю, Цвяткова і яго сям’ю трэба тэрмінова вывозіць з Мінска.

— Вядома, гэта адзін з варыянтаў, — думаючы аб чымсьці, прамовіў Сігаеў і раптам спытаў: — Іван Мікалаевіч, а сувязь з ім ёсць?

— Так, праз сувязнога, у якога ёсць рацыя.

— Як ты думаеш, зможа Цвяткоў прыбыць сюды? Ну, не зусім сюды, а куды-небудзь за Мінскам?

— Вядома. У яго ж спецпропуск, і ён спакойна можа прайсці праз усе тры колцы аховы Мінска.

— Дзе б я мог сустрэцца з ім?

Трохі падумаўшы, Мароз прапанаваў:

— Ды хоць у Бараўлянах, гэта ў дзесяці кіламетрах ад горада, ці нават у Баравой — гэта ў трох кіламетрах.

— Ёсць там вашы людзі?

— Вядома, гэта ж нашы «аэрадромы падскоку», — усміхнуўся Мароз.

— А ў Цвяткова сваякі ў вёсцы ёсць?

— Так, у дваццаці кіламетрах ад горада, у вёсцы Узбор'е, пражываюць з сем'ямі ў сваіх хатах сястра і брат маці Цвяткова.

— Сям'ю Леаніда зможам вывезці?

— Так. У нас ёсць адпрацаваны канал уваходу ў Мінск і выйсця з яго.

— Тады звязвайся з ім, браток. Прызначай сустрэчу на заўтра ў дванаццаць гадзін. У мяне, здаецца, ёсць ідэя...

На досвітку група з шасці чалавек пакінула базу. У санях, запрэжаных гнядым жвавым канём, утульна ўладкаваліся на вялікім бярэмі сена двое. Чацвёра ехалі конна. Праўда, на гадзіну раней яшчэ чацвёра верхавых выехалі на разведку маршруту руху. Ехаць было няблізка.

Прайшло тры з паловай гадзіны, калі вузкая прасека вывела падарожнікаў з лесу. Наперадзе — невялікае паселішча Бараўляны. Ад крайняй хаты аддзялілася мужчынская постаць і рушыла насустрач. Гэта і быў Леанід Цвяткоў. У валёнках, паўкажушку, на галаве — паношаная зімовая шапка. Верхавыя прасунуліся наперад і занялі пазіцыю перад населеным пунктам. Разведчыкі, якія выехалі раней, занялі пазіцыю на ўзлеску.

— Дабрыдзень, Леанід, мяне завуць Міхаіл Міхайлавіч. Я — з Масквы, працягнуў хлопцу руку Сігаеў.

— Добрай раніцы, — усміхаючыся, адказаў Леанід. — Можа, не варта было з-за мяне так далёка ехаць?

— Варта, варта, дарагі!

— Вы пагаварыце, — прамовіў Мароз, — а я прайду ў хату, перамоўлюся з гаспадаром. Ён — надзейны чалавек.

— Надзейны, надзейны, — буркліва заўважыў Леанід, — а вось пераапрануцца ва ўсё гэта, — ён пляснуў рукой па паўкажушку, а затым паказаў на валёнкі, — доўга не даваў. Як быццам я мог кудысьці ўцячы з яго багаццем.

— Ну ты ж яму нябось паліцэйскі шынель і боты ў заклад пакінуў, — пажартаваў Мароз.

— Ды і вінтоўку, і ў прыдачу дзесяць патронаў.

— Ну, пайду, прачытаю яму натацыю, — усміхнуўся Мароз і, патанаючы ў глыбокім снезе, рушыў да хаты.

Калі яны засталіся адны, Сігаеў адразу ж перайшоў да справы:

— Дзякуй табе за тваю работу. Камандаванне брыгады накіравала ў Маскву прадстаўленне аб тваім узнагароджанні.

— Ведаеце, а ў мяне душа баліць, як падумаю — нашы прыйдуць, а на мяне суседзі будуць тыкаць пальцам — паліцай!

— Не турбуйся, гэтыя пытанні, калі яны паўстануць, мы хутка знімем. Не забывай, у цябе будуць і адпаведныя дакументы, якія сведчаць пра тое, што ты выконваў спецыяльнае заданне, а форму насіў для прыкрыцця. Але цяпер, Леанід Андрэевіч, пытанне стаіць аб больш важным. Раскажы, хто табе прапанаваў выехаць у Германію? Што ён хацеў?

Леанід падрабязна перадаў усю размову і ў заключэнне сказаў:

— Ён не хаваў, што хоча з мяне шпіёна зрабіць. Сказаў, што трэба будзе вывучыць акрамя нямецкай яшчэ англійскую і іспанскую мовы. Абяцаў райскае жыццё.

— І ты адказаў, што хочаш падумаць?

— Так.

— А як ты, Леанід, адрэагуеш, калі ў інтарэсах Радзімы дасі згоду? Аб маме і сёстрах не турбуйся, мы іх вывезем ва Узбор'е, а пасля вызвалення Мінска вернем назад. Калі будзе праблема з жыллём — дапаможам, прызна-

чым сям'і грашовае ўтрыманне. Ну а табе давядзецца некалькі гадоў пажыць, дакладней, папрацаваць за мяжой. Натуральна, мы будзем падтрымліваць з табой пастаянную сувязь. Разумееш, ужо мала хто з кіраўніцтва Германіі верыць у сваю перамогу. Зусім ясна, што перамога будзе за намі. У нас ёсць звесткі, што некаторыя высокапастаўленыя чыны з абвера і іншых спецыяльных служб ужо цяпер сталі падрыхтоўваць для сябе глебу. Яны рыхтуюць новую агентурную сетку. Яны ўжо цяпер мараць пра рэванш, пра схіленне нашых сённяшніх саюзнікаў на свой бок. Таму мы абавязаны прадпрымаць свае меры. Ты, Леанід, вельмі падыходзіш для такой работы. Патрыётам сваёй Радзімы можна заставацца, нават знаходзячыся ў логаве ворага. Менавіта такія разведчыкі, адданыя Радзіме, як ты, патрэбныя нам, Леанід Андрэевіч.

Хлопец задумаўся. Сігаеў яго не прыспешваў, даючы магчымасць гэта абмазгаваць. Ён спецыяльна пакуль замоўчваў тое, што Ліпкевіч выжыў. Палкоўнік хацеў, каб нішто не падштурхоўвала хлопца да прыняцця рашэння. Каб неяк скараціць паўзу, якая зацягнулася, Сігаеў прысеў на сані і закурыў.

Нарэшце Леанід нібы выйшаў з забыцця. Ён прысеў побач:

— Я, вядома, разумею, што вы сказалі, пра такі паварот я таксама думаў. Сваёй сям'і, жонкі, дзяцей у мяне няма. Толькі мама, сёстры, можа, і тата жывы. Разумею, што справа не толькі небяспечная, але і цікавая. Я ў дзяцінстве з захапленнем чытаў кнігі, глядзеў кінастужкі пра разведчыкаў. Але ніколі не думаў, што сам магу стаць такім. Я разумею, так здарылася, што немцы выбралі мяне, а вы таксама зрабілі стаўку на мяне.

— Не мы, Лёня, а Радзіма. Менавіта яна будзе турбавацца пра тваю бяспеку і, вядома ж, з нецярпеннем чакаць ад цябе інфармацыі. Натуральна, на першым этапе нас будзе цікавіць твой лёс — дзе ты, у якасці каго.

— А як жа сувязь?

— Мы ўпэўнены, што цябе не страцім. Калі ты пагодзішся, зоймемся тваім паскораным інструктажам.

— Ведаеце, я, у прынцыпе, згодзен. Але мне ж прапануюць маму і сясцёр перавезці ў Гродна ці Брэст, ці нават у Германію.

— Мы вырашым гэту праблему, ты ж пакуль згоды не даваў?

— Не, папрасіў дзесяць дзён на разважанне.

— Ну вось, бачыш, можна зрабіць так, што твая мама ў сувязі, скажам, з хваробай разам з тваімі сястрычкамі перабралася да сястры ў вёску Узбор'е. Староста ў ёй — наш чалавек, немцы лічаць, што жыхары вёскі лаяльныя да іх улады. Для прыкрыцця мы папросім «уступіць» у паліцыю. Ну а староста даложыць пра гэты факт сваім так званым «гаспадарам».

— Што тут разважаць, я згодзен. Толькі паклапаціцеся пра маіх родных.

— Дзякуй за разуменне. Рыхтаваць цябе будзем у Мінску. Мы паспрабуем, каб за гэтыя дзесяць дзён ты атрымаў патрэбную падрыхтоўку. Зараз яшчэ пра адно.— Сігаеў зрабіў паўзу, думаючы як паведаміць Леаніду непрыемную навіну. Але разумеючы, што хлопец, нягледзячы на маладосць, вельмі кемлівы, не стаў цягнуць.

— Так здарылася, што Ліпковіч не загінуў. Яму адарвала нагу, выбіла вока, пасекла асколкамі ўсё цела. Цяпер ён амаль увесь час у непрытомнасці. Ляжыць у ваенным шпіталі. — Бачачы, як выцягнуўся ў Леаніда твар, дадаў: — Прамой небяспекі пакуль для цябе няма. Немцам ён ужо не цікавы, ніхто з іх не пашкадаваў бы яго, калі б гэты падонак у шпіталі здох. Гаворка можа ісці пра гаўтмана, які, як і ўся банда Ліпковіча, загінуў. Але перасцярогу трэба захоўваць. На нашу карысць і тая акалічнасць, што на месцы выбуху выяўлены дзве гранаты, якія не разарваліся. З гэтага што выцякае? А тое, што

Ліпковіч захоўваў гранаты, што яму было забаронена. І магло так здарыцца, што падарваў ён сябе выпадкова. Мы яго кантралюем. Спадзяёмся, што ў яго адбіла памяць, ды і супраць цябе ў яго нічога няма, таму тваіх родных надоечы мы вывезем. Паспрабуй пагаварыць са сваім начальнікам. Растлумач, што маці захварэла і яе неабходна абавязкова адвезці ў вёску да сваякоў. Скажы, што жыхары вёскі добра ставяцца да акупацыйных улад, што стараста надзейны для немцаў чалавек. Мы перадамо табе пяток бутэлек гарэлкі, вырабленай, натуральна, да вайны, трохі сала і нават паляндвіцу. Паабяцай Галкоўскаму, што прывязеш з вёскі і для яго сёе-тое.

— Добра. Я сёння ж зайду да яго.

— Ну што ж, тады з Богам.

— Дзякуй. — Раптам Леанід неяк крыва ўхмыльнуўся. — Вось гад!

— Пра каго гэта ты?

— Ды пра Ліпковіча. Ён жа казаў, што пасля вайны з ім нічога дрэннага не здарыцца, у яго народзіцца сын, і назаве ён яго Жэнем. Так завуць маю знаёмую дзяўчыну…

## Раздзел 45

Статкевічаў пасялілі ў вёсцы Прылепы Смалявіцкага раёна. Вёска была досыць вялікая. У цэнтры — рэшткі каменнага дома, магчыма, палаца. Няцяжка было ўявіць, які выгляд адкрываўся з невялікага ўзвышша, дзе і размяшчаўся панскі дом. Унізе — рэчачка, а вакол каля сотні хат. З Прылепаў было лёгка патрапіць у Мінск, Смалявічы, Барысаў, Лагойск, гэтулькі шляхоў-дарог, якія, як прамяні, ішлі ў розныя бакі з Прылепаў. У вёсцы быў невялікі паліцэйскі ўчастак, дзе служылі галоўным чынам жыхары Прылепаў і недалёкіх вёсак, часта наязджалі нямецкія падраздзяленні з ліку карных атрадаў. Акупацыйныя ўлады добра разумелі значэнне Прылепаў, якія займалі цэнтральнае месца на стыку некалькіх раёнаў.

Немцы лічылі, што мясцовае насельніцтва досыць лаяльнае да новай улады, і ў самой вёсцы рэдка праводзіліператрусы і нават арышты нядобранадзейных. Дый насельніцтва, здавалася, займалася сваімі гаспадарчымі справамі.

Алене Пятроўне і яе дзецям дасталася невялікая хата, дзе яшчэ да рэвалюцыі жыў аканом пана, а перад вайной — сям'я агранома, якая ў першыя ж дні паспела эвакуіравацца на ўсход.

Алену Пятроўну цешыла тое, што хата не патрабавала рамонту, была цёплай, з добрай печкай, дзе дзеці з задавальненнем грэліся на ляжанцы. Дроў таксама было досыць, прынамсі, да вясны хопіць.

Па легендзе, якая была распаўсюджана сярод жыхароў, сям'я Статкевічаў прыбыла з адной са спаленых вёсак. Стараста таксама змог гэта пацвердзіць, і таму асаблівай цікавасці ці падазронасці ў жыхароў вёскі іх з'яўленне не выклікала. Гэтаму спрыяла і тое, што ў Прылепах пражывала не меней як паўтара дзясяткі прыезджых сем'яў. Было нямала і цыганскіх сем'яў, таму чарнавалосая, каравокая дзяўчынка па імені Эла не вылучалася сярод натоўпу. Праўда, здагадацца пра тое, што дзяўчынка — яўрэйка, было нялёгка, бо ўсе дзеці ў сям'і таксама былі чарнавалосыя і каравокія. Алена Пятроўна вельмі перажывала за старэйшую дачку, якая засталася ў партызанскай брыгадзе. Ведаючы яе ўпарты характар, жанчына начамі часта малілася, просячы ў Бога дапамогі. Неяк раніцай Алена Пятроўна разам з дачкой Зінай і сынам Васілём пераносілі з хлява ў хату дровы. Звычайна яны гэта рабілі, каб запасціся

дрывамі на некалькі сутак. Складзеныя ля печкі, дровы прасыхалі і добра гарэлі. Нечакана ля варот спыніліся сані, запрэжаныя знаёмай усім жыхарам белай кабылай, якая належыць старасце. Іван Міхайлавіч, крэкчучы, вылез з саней, дастаў з сена два чыгуны і накіраваўся да варот:

— Дабрыдзень, гаспадары!

— Дабрыдзень, Іван Міхайлавіч!

— Што, дроўцамі запасаецеся?

Стараста тут жа пахваліў Марыю, якая якраз скончыла чысціць ад снегу сцяжынку ад дома да варот:

— Малайчына, дачка! Глядзі, якую дарогу ўжо праклала.

— Я не адна. Вунь які ў мяне памагаты, — кіўнула Марыя на брата, пяцігадовага Валерку, які спрабаваў чысціць дарожку невялікай лапатай са зламанай ручкай.

— Бачу, бачу, дружная ў вас сям'я. Вось толькі не бачу яшчэ адной.

— Яна ў хаце, — растлумачыла Алена Пятроўна, — учора штосьці тэмпературыла. Я не пусціла яе на вуліцу.

— Зразумела. — Стараста працягнуў спачатку Алене Пятроўне, а потым Марыі чыгуны. — Вазьміце інвентар. Ён вам спатрэбіцца.

— Вось дзякуй, Іван Міхайлавіч, — узрадавалася Алена Пятроўна, — а то ў нас толькі адзін невялікі чыгунок і алюмініевая каструлька, а вы запомнілі маю просьбу.

— Як той казаў, на здароўе. Алена, ты падыдзі да мяне праз гадзінку. Мая жонка дасць табе трошкі круп, мукі і цэлы мяшок бульбы. Гэта табе падарунак ад сваякоў. А я пад'еду трохі пазней і дастаўлю ўсё гэта табе дахаты.

— Дзякуй. Вядома, прыйду.

Скончыўшы пераносіць дровы, жанчына надзела старэнькую ватоўку і валёнкі без галёшаў, зрабіла наказ дзецям і накіравалася ў другі канец вёскі, дзе жыў стараста.

Яна выдатна разумела, што падарунак ад партызан. Увайшоўшы ў хату і прывітаўшыся з гаспадыняй, Алена Пятроўна са здзіўленнем убачыла камісара брыгады Сенгіна. Яны сустракаліся ўжо некалькі разоў. Менавіта Сенгін і прывёз Статкевічаў у Прылепы.

— Дабрыдзень, Сяргей Антонавіч! Дык гэта вы даставілі мне такі каштоўны падарунак ад сваякоў?

— Я, я, Алена Пятроўна. Цяпер усе сумленныя людзі — сваякі.

Гаспадыня, надзеўшы на сябе кажух і накіроўваючыся да дзвярэй, сказала:

— Ну, вы тут пагаварыце, а я ў двары падыхаю свежым паветрам.

Калі яны засталіся адны, Сенгін спытаў:

— Як становішча ў вёсцы?

— Па-мойму, спакойнае. Немцы на грузавіках на мінулым тыдні заязджалі. Яны праездам былі, адабралі ў адной цыганскай сям'і штук пяць курэй, у другой, дзе шмат дзяцей, — адзіную свінню і з'ехалі. Праўда, калі выязджалі з вёскі з кулямёта пastralялі па хатах, але ні ў кога не патрапілі. Мясцовыя хлопцы паабяцалі ім пра гэта напомніць і жартавалі, што падкладуць ім сваю свінню.

— Гэтыя могуць, — шматзначна прагаварыў Сенгін. — Ну, я вам перадаю прывітанне ад дачкі.

— Ой, дзякуй, — не стрымалася Алена Пятроўна, — як яна там?

— Звычайна, бойкая яна, характар у яе хлапечы. Ну а я чаго сюды прыехаў? Бадзяюся па вёсках, шукаю месцы, дзе можна шмат дзяцей пасяліць. У Прылепах у нас ёсць чатыры сем'і, якія згодны даць прытулак аднаму-двум,

а некаторыя і тром дзеткам. Дзетак фашысты ўтрымлівалі ў спецыяльным цэнтры, дзе высмоктвалі з іх кроў для сваіх параненых.

— Калі трэба, я таксама гатовая ўзяць каго-небудзь.

— Пачакайце, пра гэта асобная гутарка. Мне важна ваша меркаванне. Як вы лічыце, ці можна пасяліць дзяцей у надзейных людзей у гэтай вёсцы?

— Ну, я ўсіх жыхароў не ведаю, трэба вам са старастам пагаварыць. Ён дык усіх добра ведае.

— Мы, вядома, ужо не раз з ім гаварылі. Але, як кажуць, сем разоў адмерай, а адзін раз адрэж. А вы ў нас самая надзейная дарадчыца. Вядома, мы і Івану Міхайлавічу давяраем. Ён — наш чалавек, але, самі разумееце, дзеці — гэта асаблівы клопат.

— Так, так, разумею.

— Ну а зараз інфармацыя для вас.

Алена Пятроўна расхвалявалася. «Госпадзі, — падумала, — няўжо немцы пра нас разнюхалі?!»

— Ды вы не палохайцеся. Нічога страшнага няма. Я цяпер раскажу вам дзіўную гісторыю. Нам удалося выявіць у адной з вёсак брата і сястру, яўрэяў. Яны змаглі ўцячы разам з адной дзяўчынкай з гэтага донарскага цэнтра. Бадзяліся па вёсках і знайшлі прытулак у непрыдатнай хаце, якая цудам ацалела, калі фашысты спалілі вёску. Дзяўчынка, клічуць яе Ніна, ведаючы, што ў цэнтры працуе добрая цётка, якая заўсёды дапамагала дзецям чым магла, рызыкнула. Яна пакінула брата і сястру ў халоднай хаце, дзе без дапамогі яны былі асуджаны на смерць, і ўначы прабралася міма ўзброенай аховы ў гэты цэнтр, дзе і знайшла тую добрую цётку. Гэта і выратавала дзяцей. Ніну змаглі ўладкаваць у адной багатай немкі ў выглядзе прыслугі, ну а пра брата і сястру паведамілі нам. Калі нашы прыйшлі ў гэтую хату, дзеці былі на мяжы смерці. Не было ні запалак, ні ежы. Адхадзілі іх, падкармілі, а затым яны расказалі пра сябе. Яны заявілі, што іх сям’я жыла на вуліцы Старажоўскакй, а калі спыталі, ці ведаюць яны сям’ю Статкевічаў, сказалі, што жылі па суседстве.

— Госпадзі! — застагнала Алена Пятроўна. — А як іх завуць, прозвішча дык сваё яны ведаюць?

— Ведаюць. Хлопчыка завуць Ісак, а дзяўчынку — Роза.

— Бог мой, няўжо Левіны?!

— Правільна, — усміхнуўся Сенгін, — ну, слухайце далей. Вырашылі мы пасяліць дзетак у вёсцы Дуброва. Там шмат добрых людзей жыве. У адной хаце, дзе пражывала нешматлікая сям’я, жыў толькі адзін пастаялец — хлопчык, чыіх бацькоў у гета немцы забілі, а ён, дзякуючы вашаму знаёмаму Цвяткову, быў выведзены з гета, перададзены ў брыгаду і пазней уладкаваны ў вёсцы Дуброва. Вось і прывезлі Розу і Ісака ў гэту хату. Гаспадары пагадзіліся і ім даць прытулак. Прыводжу Розу і Ісака ў гэту хату, а там гэты хлопчык па імені Абрам... Што тут паднялося: дзеці і смяюцца, і плачуць, абдымаюцца. Аказваецца, таксама ваш сусед.

— Што, Рабіновіч? Абрам Рабіновіч? — асцярожна спытала Алена Пятроўна.

— Сапраўды! Адгадалі! Нават у кіно, ды што там у кіно, ні ў якой кнізе такое не прачытаеш. — Бачачы, што Алена Пятроўна ўсміхаецца і ў той жа час плача, спытаў: — Што, закранула?

— А зараз мяне паслухайце, Сяргей Антонавіч. Вы ж ведаеце, што ў мяне ў сям’і жыве дзяўчынка Эла? Дык вось, Эла і Абрам родныя брат і сястра. Прозвішча іх Рабіновічы.

Цяпер ужо камісар расхваляваўся, ён павольна апусціўся на лаву побач з Аленай Пятроўнай:

Добра помню, як Артур Вітальевіч сам прынёс да мяне ў рэдакцыю дзве ці тры казкі невядомага мне аўтара Леаніда Улашчанкі. «Пачытай, па-мойму, у іх нешта ёсць», — сціпла паклаў на стол аддрукаваныя на машынцы старонкі. За гэтым «нешта ёсць», канечне ж, хавалася думка, што казкі сапраўды заслугоўваюць таго, каб да іх паставіліся прыхільна, магчыма, і надрукавалі...

А праз нейкі час акцёр Тэатра юнага гледача (цяпер ужо — заслужаны!) Леанід Улашчанка стаў аўтарам першага зборніка казак, адрэдагаванага Артурам Вольскім — як кажуць, «засвяціўся» на ніве літаратурнай. Шчаслівы аўтар з такой нагоды наладзіў імправізаваную «прэзентацыю» ў самой рэдакцыі выдавецтва, дзе тады Артур Вітальевіч працаваў, і на якую я выпадкова зусім трапіў. Нас было ўсяго трое, але ж гаворка ўдалася. Не ў сэнсе колькасці спажытага пачастунку, а ў сэнсе чыста творчым, скажам, артыстычна-літаратурным: былому дырэктару тэатра і яго быламу падначаленаму майстру сцэны ўжо не так часта выпадала збірацца разам, гаварыць пра тое, што ім даўно стала блізкім, сваім, не пакідала хваляваць. І ў частцы літаратурнай — таксама.

З год таму ў дзіцячай бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі мне давялося браць удзел у прэзентацыі чарговага нумара часопіса «Вясёлка». Сярод тых, хто быў запрошаны ў бібліятэку, я праз шмат гадоў убачыў Леаніда Улашчанку. Знаёмячы дзяцей з новай казкай, што была змешчана ў тым нумары, ён шчыра прызнаўся: «Калі б не Артур Вітальевіч Вольскі, не яго падахвочванне, не было б у мяне ні гэтай казкі, ні тых, што выйшлі ў мяне за гэты час. Яго ўжо няма з намі, а я, здаецца, бачу яго за сабою, чую голас яго. Ён нібыта падштурхоўвае: “Пішы...” І я, хоць праца ў тэатры і забірае шмат часу, хоць не так часта, як хацелася б, але ж бяруся, каб нешта напісаць. Як і гэту казачку, падказаную ўнучкай»...

На вялікі жаль, ён не меў гучных ганаровых званняў, хоць заслугоўваў іх болей чым хто, але былі ў яго свае, не менш значныя якасці і заслугі, дараваныя прыродай, самім жыццём і лёсам — аўтарытэт і высакароднасць, падмацаваныя несумненным талентам, дарам сапраўднага творцы, майстра слова, дзеяча культуры высокага маштабу.

Шмат чаму можна было павучыцца ў яго, паэта і драматурга Артура Вольскага: як трэба пісаць для дзяцей, як даходліва, нязмушана данесці да іх тое, што хацеў сказаць, як зацікавіць, завалодаць увагай і вытрымкай юнага чытача, як зрабіць так, каб сустрэча запомнілася, змагла прынесці карысць, пакінуць добры след у сэрцах і душах чытачоў і слухачоў, як трэба любіць родную мову, нашу Бацькаўшчыну, шанаваць тое, што засталося нам у спадчыну ад нашых далёкіх продкаў.

Сын вядомага драматурга, празаіка, вучонага, аўтара славутага «Несцеркі» — Віталя Вольскага, ён бачыўся (і не адзін раз!) з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Іван Дамінікавіч нават падарыў яму аўтаручку, чым ён асабліва ганарыўся, а да вайны вучыўся ў сталічнай 25-й чыгуначнай узорнай беларускамоўнай школе, якая насіла імя вядомага дзяржаўнага дзеяча Аляксандра Чарвякова, дзе ў свой час вёў урокі геаграфіі будучы класік дзіцячай літаратуры Янка Маўр. З самім жа Артурам Вольскім (праўда, у паралельным класе) вучылася Рыма Шаршнёва. Гэта мужная партызанка загінула ў баі, ратуючы параненага камандзіра атрада. Пасля вайны ўжо з-пад пяра паэта з’явіцца шчымлівы верш «Памяці сяброў», у якім ёсць такія радкі: «Быў клас. Было нас —дваццаць восем. І толькі сем прыйшло назад». Згадаўшы многіх сяброў пайменна, ён аддасць даніну ўдзячнай памяці і ёй, аднакласніцы Рыме: «Шаршнёва Рыма. Партызанка. Скасіў варожы кулямёт»...

Сам ён, пад неадступныя грымоты варожай навалы, спачатку змушаны быў зведаць цяжкі шлях эвакуацыі, які на ўсё жыццё пакінуў глыбокі след у яго душы і памяці. Не давала права на забыццё трагедыя, сведкам якое міжволі стаў у той дарозе, удалечыні ад радзімы. «Наш эшалон марудна цягнуўся ў Заволжа, з частымі прыпынкамі сярод голага асенняга стэпу, — згадвае паэт у сваёй аўтабіяграфіі. — На адным з такіх прыпынкаў мы выскачылі з цяплушак. Я ішоў побач са Змітраком Бядулем. Ён быў у сінім гарнітуры з ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга на грудзях. Эшалон нечакана крануўся. Мы кінуліся да вагонаў. Помню, я яшчэ дапамог дзядзьку Змітраку на хаду залезці ў сваю цяплушку. А потым здарылася нешта неверагоднае. Бядуля пахіснуўся, павольна падаўся назад...

Ва Уральску ішоў снег. А Бядуля ляжаў пад адкрытым небам на пагорку з каменнага вугалю ў сінім гарнітуры, з ордэнам.... Адсюль, з Уральска, я паехаў служыць на флот. У дарозе на Далёкі Усход мне споўнілася васемнаццаць год».

Як і шмат хто з яго аднагодкаў, Артур Вольскі зведаў усе нягоды нечуванага ліхалецця, ваенных паходаў. Служыў на караблях, ваяваў супраць імперыялістычнай Японіі, адзначаны баявымі ўзнагародамі. Вярнуўся ў родны Мінск толькі праз дзесяць гадоў. Вярнуўся да мірнага жыцця, каб, як і сам разумеў, «пачаць усё нанова»...

І — пачаў. Не з графікі і жывапісу, якім вучыўся да вайны ў мастацкім вучылішчы, а з літаратуры, з працы ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена»: загадваў аддзелам культуры і кіраваў літаратурным аб’яднаннем. А якім яно было, хто набіраўся ў ім майстэрства, сілы для ўзлёту, яскрава засведчыць адзін пералік імён: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Уладзімір Паўлаў, Міхась Стральцоў, Сымон Блатун, Барыс Сачанка, Генадзь Кляўко... Ці не яны змаглі ўпісаць сваю, адметную старонку ў летапіс роднай літаратуры?!

Калі ж у рэспубліцы пачала выходзіць «Вясёлка» — ён быў прызначаны адказным сакратаром гэтага новага дзіцячага часопіса. Дбаючы пра літаратуру для маленькіх чытачоў рэспублікі, нястомна ўвіхаўся паэт на ўласным творчым палетку, рабіў усё, каб на ім было ўраджайна і ўмалотна, каб не было сорамна ні перад кім за сваю літаратурную гаспадарку. Паэзія, проза, драматургія, пераклады, публіцыстыка, крытыка, супрацоўніцтва з кампазітарамі...

Ён вылучаўся зайздроснай працавітасцю і абаяльнасцю (так-так, і гэтым дарам!), быў праніклівым знаўцам чалавечых душ і характараў, добра ведаў жыццё. Яму не даводзілася нічога выдумляць, яму было што расказаць і дарослым, і дзецям — цёпла, з заўсёднай усмешкай, цікава.

Як я ўжо згадваў, мне выпадала не адзін раз выступаць з ім у школах і бібліятэках, і я заўсёды дзівіўся, як умела, з артыстычнай хваткай авалодваў ён любой аўдыторыяй. Хто сам бываў на такіх сустрэчах, ведае: утрымаць дзіцячую аўдыторыю, прымусіць няўседлівых хлопчыкаў і дзяўчатак слухаць цябе — не так ужо і лёгка, як таго хочацца.

Часта ён, калі яму давалі слова, як кажуць, з ходу «агарошваў» дзяцей:

— Вы ведаеце, хто я?

Дзеці імгненна сцішваліся, пачыналі пераглядвацца між сабою, каб нешта адказаць шаноўнаму госцю.

— Я — боцман! — узнёсла прамаўляў Артур Вітальевіч, а дзеці яшчэ больш цішэлі, мабыць, гадаючы ў думках, хто ж за ён, гэты пісьменнік, і чаму ён — боцман? І наогул, хто такі — боцман?

Сакрэт раскрываўся хутка: аказваецца, такі чын, такая надзвычай важная пасада ёсць у марфлоце, на караблях. А ў час Вялікай Айчыннай вайны Артур

Вітальевіч служыў якраз карабельным боцманам на Далёкім Усходзе. Прызнаюся, мне самому нават цяжка было ўявіць яго, дваццацігадовага, бывалым «марскім воўкам», вусатым, як у тым кіно, суровым, са свістком, а дзецям, напэўна, — тым болей. Аднак гэтага незвычайнага факта з яго жыццяпісу не выкрасліш: што было — тое было.

Пачаўшы з успамінаў пра той далёкі і незабыўны час службы на флоце, паэт умела «трымаў курс» да сэрцаў тых, хто знаходзіўся ў зале, вяртаючы іх у нашы дні, у іх жыццё, вучобу, клопаты, сяброўства. У цудоўны свет роднай прыроды. І, вядома ж, літаратуры, роднага слова. І для гэтага ў яго паэтычным куфэрку заўсёды знаходзіліся вязанкі вясёлых і сур'ёзных вершаў, прасякнутых іскрынкамі дасціпнага гумару, цеплынёй яго добрага сэрца.

Здаралася, Артур Вітальевіч раптам мяняў «кружэлку», гулліва пераўвасабляўся ў казачнага персанажа і знарочыста-старэчым голасам заводзіў: «Хто я? Дзед-барадзед, абышоў белы свет...», тады дзятва ажно ўсхоплівалася з месцаў, дружна падхоплівала куплет, пачынала гэтак жа гулліва падпяваць яму, бо песеньку Дзеда-барадзеда з вячэрняй тэлекалыханкі, якая цягам многіх гадоў не сыходзіла з тэлеэфіру, ведалі, здаецца, усе: і самі дзеці, і іх бацькі, людзі дарослыя.

Потым дзетак-малалетак укладвалі спаць «Калыханкі», створаныя іншымі аўтарамі, але ж «Калыханка» на словы Артура Вольскага была першай жаданай госцяй вячэрняга тэлеэкрана, спеўнай «нянькаю» дашкольнай дзятвы.

Я хаджу па белым свеце
І гляджу, як вы жывеце.
Калі трэба — памагу,
Бо я ўсё рабіць магу.

Хто я? Дзед-барадзед,
Абышоў белы свет,
А цяпер у ціхі час
Завітаў да вас.

З вамі побач буду ўсюды.
Трэба цуды — зробім цуды,
Трэба казка — раз, два, тры —
Вось і казка вам, сябры!

Хто я? Дзед-барадзед,
Абышоў белы свет...

Тое, што паэт умеў знайсці ключык да дзіцячых сэрцаў, зацікавіць іх незвычайнасцю і казачнасцю сюжэтаў, зачараваць мелодыкай радка, такой сакавітай рыфмай, якая, хочаш таго ці не хочаш, сама нібы чапляецца за дзіцячы язычок, я пераканаўся... на сваіх дзецях. Памятаю, не было ратунку ад сына, які, яшчэ не ўмеючы як след чытаць, кожны дзень неадчэпна прасіў мяне дый бабу з дзедам (усё ж лета бавіўся ў вёсцы), каб яму чыталі кніжку «Лясныя мастакі», з песенькай паравоза «Я бягу, бягу, бягу — гу-гу-гу! З рэек збочыць не магу — гу-гу-гу!..» Асабліва падабаўся малому верш пра парсючка, які нечакана захварэў:

Захварэў парсючок,
лёг на левы бачок.
І на радасць мушкам
не варушыць вушкам.
І не водзіць лычам,
як яго не клічам...

А іх, гэткіх парсючкоў, на дзедавым падворку з дзясятак ад ранку да вечара бегала. Толькі які з аблавухіх прытоміцца ды прыляжа на сонейку прыгрэцца, як малы кідаўся ў хату: «Захварэў парсючок, лёг на левы бачок!.. Трэба доктара хутчэй! Гэта без сумнення лёгкіх запаленне!» Сын сыпаў радкамі з верша і ўсё, што адбылося, успрымаў усурёз: раз парсючок лёг, значыць, захварэў і яго трэба лячыць. Ён быў перакана्ны ў гэтым. Пачуццё спагады, што раптам абудзілася ў дзіцячым сэрцы, не давала хлопцу спакою: хапаў з талеркі на стале недаедзены блін, парсючку нёс. А таму ўжо млосна і няўлежна ад сонейка стала, ад тых жа надакучлівых мушак, падняўся, сам да ганка падышоў, нібы чакаў таго пачастунку. «Будзе жыць! Будзе жыць!» Зноў жа радкамі верша выказаў сваю радасць малы дабрадзей.

І як тут не паверыць у магію слова, у тую сілу і чароўнасць, што закладзены ў яго, не пераканацца лішні раз: размаўляць з дзецьмі, разумець іх душу, быць сваім у свеце дзіцячых захапленняў, нязмушана праз малое далучаць свайго чытача да вялікага жыцця, — трэба ўмець. І гэты талент не ўсім дадзены. А ў Артура Вольскага ён быў.

Як і ў творчасці, у размове з людзьмі ён таксама не любіў пустаслоўя. Тое, пра што гаварыў, мог заўсёды падмацаваць красамоўнымі (не прыміце за плагіят!) аргументамі і фактамі. Часцей — са свайго багатага на падзеі і сустрэчы жыцця. І ў іх, гэтых разнастайных жыццёвінках, было нямала павучальнага, карыснага, такога, што, упэўнены, наводзіла слухачоў на адпаведны роздум: ці правільна я жыву, ці ўсё зрабіў у жыцці, што мог бы зрабіць, ці шчыра стаўлюся да свайго, роднага?

З асаблівай цеплынёй дзяліўся ўспамінам пра незабыўную сустрэчу з выдатным савецкім паэтам Аляксандрам Твардоўскім, пра той «урок», які атрымаў ад яго. Гэта сустрэча, размова з ім дапамаглі яму, абсіверанаму мараходу, але ж неабстрэленаму на літаратурным фронце прызыўніку, глыбей разабрацца ў сваіх пачуццях, у адносінах да мовы, стаць менавіта беларускім паэтам.

А было ўсё так.

На першую пасляваенную канферэнцыю далёкаўсходніх пісьменнікаў, якая праходзіла ў Хабараўску ў верасні 1949 года, з Масквы кіраўнікамі семінараў прыехалі не нейкія там выпадковыя літаратары, а сам аўтар знакамітага «Василия Тёркина» Аляксандр Твардоўскі, не менш вядомыя Эмануіл Казакевіч і Міхаіл Луконін. Амаль усе ўдзельнікі той нарады, маладыя тады пісьменнікі, былі ў вайсковай форме. Карабельны старшына Артур Вольскі дабіраўся ў Хабараўск на спадарожных, таму на дзве ці тры хвіліны спазніўся. На ім, калі зайшоў, пазвоньваючы медалямі, і спыніўся пранікλівы пагляд Аляксандра Твардоўскага:

— Вот с тебя, старшина, и начнём.

Разгубіўшыся ад нечаканасці і таго, што перад ім сам Твардоўскі, пачаў нервова чытаць вершы на рускай мове і, вядома ж, тыя, дзе пераважалі марскія матывы, адпаведная тэрміналогія:

Словно чайка на просторе,
Белый парус над водой.
И весёлый звон шкаторин
Слился с песней боевой.

З іранічнай усмешкай слухаў звонкія радкі маладога паэта Аляксандр Твардоўскі. І раптам спытаў:

— Говорят, старшина, ты и на белорусском пишешь?

— Пішу, — быў нясмелы адказ.

— Давай читай по-белорусски, — быццам падахвоціў яго Твардоўскі, усім выглядам паказаўшы, што наважыўся ўважліва слухаць працяг перапыненага выступлення.

І ў зале загучала беларуская мова:

Нафтай,
жалезам,
рыбай
славіцца край усходні.
А неба — гэткае ж, нібы
Па-над далёкай Гародняй.
І сонцам багата лета,
І жыта — сцяной у полі.
Але залатых ранетаў
Тут не расло ніколі...

Родам з суседняй Смаленшчыны, выдатны рускі паэт з маленства ведаў і разумеў нашу мову, таму, выслухаўшы вершы, запытаў у маладога аўтара на беларускай мове:

— А ці друкаваліся вашы вершы ў Беларусі?

Потым, абвёўшы позіркам прысутных, ён патлумачыў ім сваё запытанне:

— Я спросил у него, печатался ли он в Белоруссии?

У той момант ад сваёй ацэнкі і нейкіх заўваг славуты паэт устрымаўся. Калі ж у перапынку убачыў Артура Вольскага, то, затрымаўшы яго, выказаўся рашуча, нават даволі рэзка:

— А ты, старшина, не валяй дурака, пиши на белорусском! Это у тебя лучше получается. Почему? Ведь это твой родной язык, он тебе более близок…

Што праўда, то праўда. У гэтым ён і сам ніколькі не сумняваўся. І да вайны, калі яшчэ школьнікам зведаў салодкую радасць першага надрукавання ў дзіцячым часопісе «Іскры Ільіча», і цяпер, калі, вымушаны падпарадкавацца абставінам вайсковай службы далёка ад радзімы таму асяроддзю, у якое трапіў, беларускамоўны радок пачынаў прабівацца з глыбіні душы і сэрца ўсё часцей і часцей. Тым болей, часопіс «Бярозка», паслядоўнік тых «Іскраў Ільіча», нібы руку падтрымкі працягнуў — ахвотна прыняў і надрукаваў адзін з ягоных вершаў для дзяцей «Мой брат». Вядома ж, радкі навеяны службай на флоце, рамантыкай марскіх прастораў.

Будзем шчырымі: цяперашнім хлопцам такая рамантыка можа падацца да смешнага наіўнай, празмерна «асавечанай», той-сёй з іх, магчыма, з нейкім намёкам пакруціць пальцам каля скроні, а тады ўсё было, як... тады. Тут няма аўтарскай прадузятасці і «нацяжкі».

Навакол
марскія далі,
б’юцца ў борт
сівыя хвалі.
Над лінкорам
ззяюць зоры.
Брат мой служыць
на лінкоры.
Гоніць вецер вал за валам.
Брат — на вахце,
за штурвалам.
Шлях марскі яму вядомы,
ён у моры, нібы дома.
Злева — рыфы,
справа — мель,
але пройдзе карабель...

Можна цалкам пагадзіцца са справядлівай высновай нашага выдатнага майстра паэтычнага слова Рыгора Барадуліна: «Артур Вольскі быў адным з першых пасляваенных літаратараў, якія пачыналі па-сур'ёзнаму мудра і даходліва, з захапленнем гаварыць з маленькім чытачом». І сапраўды, з гадамі клопат «пра самую неабходную кожнай літаратуры, кожнай культуры змену — пра маленькіх чытачоў», стаў «самым большым клопатам у Артура Вольскага». Нават першая кніжка паэта, якая выйшла ў 1955 годзе, адрасавалася ім — «Маленькім сябрам». Кідалася ў вочы вокладка: на ёй — марак сядзеў на лаўцы сярод цікаўнай дзятвы. І мастак, які аздобіў кніжку малюнкамі — не выпадковы для паэта: яго сябар па вучобе ў віцебскім мастацкім вучылішчы Юзаф Пучынскі.

Хоць не пераставалі трывожыць паэтычнае ўяўленне і натхненне «Водбліскі далёкіх маякоў», «Далёкія і блізкія прычалы», «Выратавальны круг», «Дабрата» і «Строма», «Наваселле дрэў», паэт з гэтага часу ніколі не забываў пра «падарункі» дзецям. І заўсёды быў надзвычай шчодры на іх. Па-свойму арыгінальны і непаўторны, добразычлівы і патрабавальны, сур'ёзны і вясёлы... Аднак жа... ёсць чаму здзіўляцца ў іншым...

Нядаўна, пераглядаючы «Анталогію беларускай паэзіі», якая выйшла ў трох тамах у 1993 годзе, я чамусьці не знайшоў у ёй ніводнага радка... Артура Вольскага. Чаму так выйшла, хто вінаваты ў гэтым — не ведаю. Толькі адчуваю, як крыўдна было яму, цудоўнаму паэту-лірыку, аўтару добрага дзясятка кніг высокага прафесійнага ўзроўню, раптам застацца не заўважаным, як бы знарок выкінутым за борт шматлюднага «паэтычнага карабля», пазбавіўшы законнага, выслужанага права быць у шэрагах яго творчай каманды, быць у «экіпажы». Аднак ён спакойна, без лішняга вэрхалу і разборак, якія мог бы ўчыніць іншы пакрыўджаны аўтар, палічыўшы такі выпад знарочыстай абразай, паставіўся да гэтага «недагляду», не стаў прыбягаць да скаргаў — выпрабаванай зброі «шукальнікаў праўды і справядлівасці». Павёў сябе як сапраўдны боцман, з вытрымкай і загартоўкай, што атрымаў на флоцкай службе, сярод мужных і згуртаваных дружбай людзей.

Ёсць у арсенале паэта вельмі знакавы зборнік яго выбранай лірыкі — «Чалавек, якому баліць». А ў ім такія радкі:

Я — чалавек, якому баліць  
за ўсё,  
што было,  
ёсць  
і будзе на свеце.  
Чым і на чым гэты свет стаіць?  
Як у ім жыць будуць нашы дзеці?

За найвялікшую страту лічу  
дзень — без адкрыццяў,  
без нейкай знаходкі.  
Некуды еду, кудысьці лячу,  
слухаю ўважліва метэазводкі.  
Стоміцца вецер абшары бяліць.  
Вернецца лісце на роднае вецце.  
А чалавеку ўсё роўна баліць  
за ўсё,  
што было,  
ёсць і будзе на свеце.

Гэтак ён сказаў нібыта пра самога сябе. Яму, паэту і грамадзяніну, патрыёту роднай Беларусі, сапраўды за ўсё балела. Асабліва за лёс роднай мовы,

нашай літаратуры, усяго свайго, нацыянальнага. Мабыць, не кожны б з нас, літаратараў, не маючы ніякай педагагічнай практыкі, каб пераканаўча даказаць чыноўнікам з міністэрства і тым жа школьным настаўнікам, што ўрокі роднага слова можна праводзіць цікава, займальна, з найбольшай карысцю для вучняў, раптам апантана акунуўся ў вір школьнага жыцця, стаў педагогам, паспытаўшы смак настаўніцкага хлеба. Не кожны б адважыўся, а ён змог. Не з-за нейкага там піяру, як гэта цяпер у модзе, а зацікаўлена, пераканана, шчыра ўзяўся Артур Вітальевіч за ажыццяўленне сваёй ідэі, здзяйсненне задуманага. І, як аказалася, яго «ўрокі», яго «школьная практыка», «плаванне» ў Краіну ведаў расцягнуліся не на адну школьную чвэрць, не на адзін год! Некаторыя верылі, што гэта ў яго сур’ёзна, мэтанакіравана, а некаторыя сумняваліся, лічылі гэта часовым захапленнем, нават нейкай паказушнай акцыяй.

Прызнацца, я таксама мала верыў у тое, пра што ён часам згадваў пры гаворцы з ім. Ну, паехаў у школу, ну, выступіў перад дзецьмі, правёў урокі з імі раз, другі, трэці... А што далей? Каб весці ўрокі роднага слова паводле школьнай праграмы, згодна раскладу, як мае быць, — цяжка было ўявіць такое...

Недзе на зыходзе 90-х запрасілі мяне на першавераснёўскую лінейку ў адну са школ, якая знаходзіцца ў мікрараёне Уручча. Нумар яе, на жаль, выветрыўся з памяці, а ў самога Артура Вітальевіча ўжо не спытаеш, не зможаш удакладніць... Чакаючы ў настаўніцкай, пакуль пачнецца ўрачыстасць, паразумеўся з жанчынай, якая загаварыла са мной па-беларуску. Як выявілася, з выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры.

— Нашы дзеці любяць чытаць і размаўляць па-беларуску, — пахвалілася яна. — А вы ведаеце, хто вёў урокі літаратуры ў нашай школе? Артур Вітальевіч Вольскі. Вы знаёмы з ім?

— Даўно, — пацвердзіў яе цікаўнасць я. — Хто яго не ведае? Нам, хто піша, таксама ёсць чаму ў яго павучыцца. А школьнікам — тым болей...

— Шкадуем, што ён з гэтага года ўжо не будзе ў нас працаваць, — без прытворнага шкадавання прамовіла мая субяседніца. — Яго можна зразумець. Школа ўсё ж вымагае лішняга часу. А ён жа пісьменнік у першую чаргу... Вельмі цікава ўрокі праводзіў, дзеці як зачараваныя слухалі яго. Ведама ж, пісьменнік расказваў, які сам многа напісаў, і ведае пра пісьменнікаў больш, чым у падручніках напісана Для іх жа кожны ўрок быў — як нейкае адкрыццё...

Як было не пагадзіцца з ёй?

Як і Васіль Вітка, Артур Вітальевіч лічыў, што любові да роднай мовы, да нашага слова, гісторыі і спадчыны, нават да роднай прыроды дзяцей трэба вучыць з дзіцячага садка, са школьнай парты. І рабіць гэта з душою, вынаходліва, жывой, а не казённа-кніжнай мовай. У яго было шмат знаёмых і сяброў сярод людзей, хто працаваў ва ўстановах, звязаных з вучобай і выхаваннем дзяцей. Ці не таму, будучы старшынёй секцыі дзіцячай літаратуры нашага Саюза пісьменнікаў, ён час ад часу наладжваў яе пасяджэнні непасрэдна ў школах сталіцы, каб ведаць, што больш цікавіць нашых чытачоў, настаўнікаў, якія творы ім патрэбны.

Памятаю, як мы збіраліся ў 176-й сталічнай школе, дзе настаўнікам літаратуры не адзін дзясятак гадоў працаваў сябра яга дзяцінства Фрыдрых Міхайлавіч Модаль — сын пісьменніка, надзвычай улюбёны ў сваю прафесію і паважаны ў школьным калектыве чалавек. Дзякуючы яго стаeранням, тут надзвычай плённа многія гады працавала літаратурна-мастацкая студыя «Імкненне», у якой вучыліся творчаму майстэрству дзясяткі таленавітых хлапчукоў і дзяўчатак, што жылі ў мікрараёне Захад. Менавіта сюды з суседняй школы

прыходзіла тады на заняткі юная паэтэса Таня Сівец, якая прыемна здзівіла ўсіх нас сталасцю сваіх першых спроб пяра, сур'ёзным поглядам на творчасць. Артур Вітальевіч першы заўважыў яе літаратурныя здольнасці і пры нагодзе перадаў мне цэлую нізку яе вершаў, каб я выкарыстаў іх у радыёперадачы «Першыя сцяжынкі», якую вёў цягам трох дзясяткаў гадоў. Што я і зрабіў, «блаславіўшы» Таццяніны творы невялікай прадмоўкай і на старонках тагачаснай «Чырвонай змены». Праўда, тут ім яшчэ давялося «трымаць экзамен», прайсці праз «сіта» даволі прынцыповага і прыдзірлівага літкансультанта газеты Алеся Бадака. Але ж прэм'ера, як кажуць, адбылася!

Сёння Таццяна Мікалаеўна Сівец, ужо як галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», сама бласлаўляе ў друк творы многіх аўтараў старэйшага і маладзейшага пакаленняў, даючы ім выдатную магчымасць: адным — ярчэй «засвяціцца» ў літаратуры, другім — лішні раз пацвердзіць свой творчы патэнцыял, прафесійны ўзровень. Не забываючы тым часам і пра сваю працу ў літаратурным цэху, пра ўласныя паэтычныя здабыткі і рост майстэрства.

Здаралася, што Артур Вітальевіч заўчасна адпрошваўся з пасяджэнняў секцыі, перадаючы кіраўнічыя лейцы свайму намесніку Міхасю Зарэмбу, каб не спазніцца на рэпетыцыі ў Тэатр юнага гледача ці ў тэатр лялек, дзе ён выступаў у ролі вядучага, адкрываў спектаклі словам на роднай мове. Рабіў гэта не з-за нейкага там «прыварку» да пенсіі, а болей — з прынцыповай пераканананасці, бо верыў, што жывое пісьменніцкае слова са сцэны хутчэй знойдзе дарогу да сэрцаў людзей, асабліва дзяцей, глыбей западзе ў іх, кране праніклівей, чым статычна завучаны дыялог іншага акцёра ці персанажа, да таго ж прамоўлены не дужа чыста, не зусім па-беларуску.

Ён любіў нашу мову, імкнуўся, каб яна гучала ўсюды, каб да яе хінуліся, ставіліся паважліва, шаноўна, не саромеліся нідзе карыстацца ёю, звацца беларусамі. Ці мог ён падумаць калі, што за гэту вернасць і любоў да яе, ужо на старасці гадоў, давядзецца расплачвацца... здароўем? Не думаў, але такое здарылася...

Позняй восенню цямнее рана, а тая сустрэча з вучнямі ў гімназіі зацягнулася. Калі выйшаў з яе, на вуліцы было ўжо даволі цёмна, нават малалюдна. Дамоў не спяшаўся, бо хацелася зайсці і праведаць унучку Адэлю: жыла ж з бацькамі не дужа далёка адсюль. Каб скараціць дарогу, пайшоў праз сквер. Зграя падпітых малойцаў нібы падпільноўвала ўжо, вынырнула з цемры нечакана. Як гэта здараецца нярэдка, для зачэпкі папрасілі закурыць. Атрымаўшы адказ паэта і ветэрана вайны на беларускай мове, гэтыя злыдні жорстка збілі Артура Вітальевіча, потым, як тыя рабаўнікі, разулі і раздзелі яго, пакінуўшы, беспрытомнага ўжо, ляжаць на падмёрзлай восеньскай зямлі. Бліжэй да поўначы яго падабралі ў скверы выпадковыя людзі. Выклікалі «хуткую дапамогу».

Пасля гэтага здарэння здароўе паэта рэзка пагоршылася: апрача прастуды лёгкіх абвастрыўся рэцэдыў той цяжкай хваробы, якая з нейкай пары ўжо няўмольна падточвала яго загартаваны, здавалася б, арганізм, памалу, але немінуча набліжаючы да той мяжы, дзе над жыццём пачынаюць валадарыць ужо іншыя сілы. Дзе не прыносіць збавення выратавальны круг, які можа ўратаваць у бурлівым моры, а не тут... Хоць і на зямлі, сярод людзей...

Нягледзячы на ўсе абставіны, ён усё ж працягваў змагацца за жыццё. І яно быццам не хацела заўчасна адпускаць яго, але ж 5 верасня 2002 года, калі ў школьных калідорах, магчыма, чулася яшча знаёмая, пранікнёная, мелодыя песні: «Збірае верасень лісты ў агністы колер, сышліся зноў і я і ты ў роднай

школе...», напісанай на словы Артура Вольскага, ён ціха развітаўся з жыццём, назаўсёды адышоў ад нас. Пайшоў з жыцця, пакінуўшы ў дар нашчадкам сваю любоў і таемную святлынь падказаных сэрцам твораў, ад сустрэчы з якімі становіцца сонечна на душы, багатых на жыццёвую мудрасць і хараство кніг. Калі б іх сабраць ды паставіць адна за адной, яны занялі б цэлую паліцу. Не толькі ў хатняй, а і ў гарадской ці вясковай бібліятэцы, куды ён заўсёды ахвотна ішоў, каб сустрэцца з гаманлівай дзятвой, з чытачамі, з тымі, для каго жыў і захоплена тварыў...

Я трымаю ў руках зборнік яго паэзіі, адметнай, шчымліва-пранікнёнай, пачуццёва-праўдзівай, з такой сімвалічнай назвай — «Выратавальны круг». Як і некаторыя іншыя кнігі паэта, ён з аўтографам, дарагім мне: «Міколу Чарняўскаму — слаўнаму хлопцу і сябру па літаратуры на добры ўспамін. 6.1.1976». А даўні аўтограф — успамін пра яго, чалавека і паэта, нястомнага творцу, такога ж «слаўнага хлопца і сябра», якім быў для ўсіх, хто ведаў і сустракаўся з ім, і якім застаўся ў памяці. Не толькі ў маёй...

Не кожны боцман можа дамагчыся такога высокага ўзлёту — стаць капітанам карабля. А ён, Артур Вольскі, змог. Змог стаць у шэраг прызнаных камандораў і рупліўцаў, каб сказаць і мне, і ўсім, хто рыхтуецца ступіць на палубу гэтага выпрабаванага штормамі часу, чароўна-казачнага лайнера, які плыве ў шырокі свет жыцця, у будучыню пад назвай «Беларуская дзіцячая літаратура», такія запаветныя словы:

«Цяпер выхаваўчае значэнне дзіцячай літаратуры ўзрастае, хоць ёй і даводзіцца нялёгка. Неабходна ўступаць у своеасаблівае спаборніцтва з тэлебачаннем, кіно, якія часта бяруць знешняй прывабнасцю, маляўнічасцю. Слова ж толькі тады прыйдзецца да дзіцячага сэрца, калі яно ідзе з самой глыбіні. Быць дзіцячым пісьменнікам і не любіць дзяцей — нельга. Калі б з’явіўся такі літаратар, дык, магчыма, ён і дасягнуў бы нейкага майстэрства, а вось што датачыцца шчырасці, непасрэднасці, сумняваюся…»

Як не прыслухацца да голасу Майстра і Настаўніка?!

## Як Іван Міхайлавіч стаў Іванам Фёдаравічам

*Тэлефонны званок Янку Маўру. — Нечаканая разгубленасць. — Зноў — кур’ёзная гісторыя, але ўжо... ніжэй даведаецеся, якая. — Сустрэча, што не адбылася. — Развітанне.*

Магчыма, некаторым з вас ужо карціць перапыніць мяне і запытаць, канечне ж, пра Янку Маўра, бо ён быў і застаецца легендай нашай айчыннай літаратуры, асабліва — дзіцячай. Я і сёння час ад часу (верце, нешта такое надыходзіць!) бяру ў рукі той ці іншы том яго твораў, нібы зноў вяртаюся ў маленства, раблю з яго героямі дзівосныя падарожжы ў свет прыгод і адкрыццяў, і... зайздрошчу сам сабе: гэта ж мне, у адрозненне ад іншых чытачоў, паспагадаў лёс бачыцца з гэтым пісьменнікам-чараўніком, размаўляць з ім, і выбраць тую сцежку ў жыцці, якую калісьці выбраў ён — пісаць для дзяцей.

Як і многія вядомыя тагачасныя пісьменнікі, Янка Маўр жыў у доме 36 па вуліцы Карла Маркса. А крышку наўскос, праз дарогу, але ўжо на вуліцы Энгельса, 9, якраз каля самага гмаха ЦК кампартыі Беларусі стаяў двухпавярховік, у якім знаходзіўся Саюз пісьменнікаў БССР. Той дом слыў у памяці мінчан тым, што ў час вайны ў ім жыў «сам гаўляйтар Кубэ» і там яму партызаны і падпольшчыкі вынеслі смяротны прысуд — кажучы мовай слыннага

лысагорца, «аддаў бясслаўны свой канец». На жаль, ранейшы будынак не захаваўся для гісторыі і нашчадкаў мужных народных помснікаў: каб не быў, як бяльмо на воку, па загадзе зверху, ладуючы яшчэ адзін парадны пад'езд да будынка ЦК партыі, яго бяздумна разбурылі і знеслі.

А тады, калі ў гэтым доме знаходзіўся штаб пісьменніцкай арганізацыі, у ім віравала цікавае творчае жыццё: адбываліся юбілейныя вечарыны, на якія збіралася шмат студэнцкай моладзі, сустрэчы з кампазітарамі, артыстамі, спевакамі, праходзілі пісьменніцкія сходы, пасяджэнні творчых секцый, абмеркаванні кніг аўтараў, хто збіраўся паступаць у саюз, розныя святочныя мерапрыемствы... Адным словам, параўноўваючы з тым, што маем сёння, можна толькі ўздыхнуць і развесці рукамі: дзе гэта ўсё дзелася?

Хоць Янку Маўра стараліся асабліва не турбаваць, бо ведалі, што ў яго праблемы са зрокам, ён усё ж даволі часта выбіраўся ў Дом пісьменніка на прызначаныя мерапрыемствы, прыходзіў і на пасяджэнні секцыі дзіцячай літаратуры, якую тады ўзначальвала Эдзі Агняцвет. Памятаю, ён часта садзіўся неяк трошкі збоку і, абапёршыся на кіёк, уважліва слухаў, што гаварылі, у розныя палемікі і спрэчкі асабліва не ўступаў. Аднак калі нейкая гаворка заходзіла, як кажуць, у тупік, не маглі прыняць канчатковага рашэння, Эдзі Сямёнаўна заўсёды звярталася да яго:

— А як вы думаеце, Іван Міхайлавіч?

Да яго думкі прыслухоўваліся, і вельмі часта яго слова схіляла шалі спрэчных пытанняў да станоўчага ці адмоўнага зыходу. І ў тых, каму не шанцавала, па-мойму, не ўскіпала асаблівай крыўды, бо гэта было слова самога Янкі Маўра!

Дагэтуль засталася ў памяці тэлефонная размова, што адбылася ў мяне, калі я працаваў ужо ў рэдакцыі часопіса «Бярозка». У маі 1968 года Янку Маўру павінна было споўніцца 85. Як лепш адзначыць гэты юбілей на старонках часопіса? На той час, знясілены хваробамі, пісьменнік ужо нічога новага не пісаў і не друкаваў. Але ж юбілей адзначыць трэба, хоць сам Янка Маўр па сціпласці сваёй пра гэта не нагадваў. Што выбраць з яго твораў? Апавяданне, урывак з аповесці? Я спыніўся на ўрыўку з аповесці «Палескія рабінзоны». Напісаў прадмоўку да яго і панёс усё гэта да галоўнага рэдактара Кастуся Кірэенкі.

Прабег ён вачамі падрыхтаваны мною матэрыял, бачу, незадаволена нахмурыўся:

— Навошта нам ужо чытанае-перачытанае друкаваць? Звяжыся з Янкам Маўрам, пацікаўся, можа, ён для нас што-небудзь новае падрыхтуе. Ну не апавяданне, дык хаця б якое слова, пажаданне сваё дзецям напіша. Пазвані яму спачатку, а потым, калі спатрэбіцца, схадзі да яго. Разам што-небудзь прыдумаеце.

— А раптам адмовіцца?

— Адмовіцца не адмовіцца, а ты спачатку перамоўся з ім, — нават крышку зазлаваў галоўны.

Трубку падняў сам Янка Маўр. Прывітаўшыся, я пачаў тлумачыць, што яго турбуе «Бярозка».

— Гаварыце мацней, — пачуўся знаёмы мне голас. —Я слаба чую. Што вам трэба ад мяне?

Не ведаю, як гэта здарылася, але ў тую хвіліну мною чамусьці апанавала нечаканая разгубленасць, адбыўся нейкі імгненны правал у памяці і я паўтарыў сваю просьбу, звярнуўшыся да яго — «Іван Фёдаравіч».

Хоць Янка Маўр любіў жарты, розыгрышы, мог выкінуць любога «коніка»,

чым нярэдка прыводзіў у замяшанне ды ў камічнае становішча сяброў і знаёмых, гэту недарэчнасць з майго боку ўспрыняў, як падалося мне, з усёй сур'ёзнасцю.

— Малады чалавек, — пачулася ў трубцы.. — Я Іван Міхайлавіч, а не Іван Фёдаравіч. Фёдараў — гэта маё сапраўднае прозвішча.

— Ой, даруйце! — спахапіўся я. — Канечне ж, ведаю, што вас завуць Іван Міхайлавіч. Загаварыўся трохі… — І зноў выказаў пажаданне нашай рэдакцыі.

— Я вам падкажу выйсце: вы нічога не давайце, — з прысутнай яму іроніяй, выслухаўшы, параіў Янка Маўр. — Новага ў мяне нічога няма, і ўжо не будзе. У мяне скляроз, катаракта, я ўжо даўно нічога не пішу. Так што — выбачайце.

На гэтым размова скончылася. Сустрэча, на якую спадзяваўся, не адбылася. А «Бярозка» ўсё ж адзначыла юбілей, урыўкам «Трывожная ноч», што я раней падрыхтаваў.

Праз тры гады славутага пісьменніка не стала. На яго пахаванне ў Дом пісьменніка сабралася шмат людзей — літаратараў, студэнтаў, вучняў, прадстаўнікоў розных устаноў і арганізацый. З яго ж творамі ўвайшло ў жыццё не адно пакаленне маладых беларусаў. Разам з маладзейшымі хлопцамі-літаратарамі я нёс труну з целам Янкі Маўра, каб на Паўднёвых могілках аддаць яго на вечны спачын той зямлі, якая нарадзіла і надзяліла яго крылатай фантазіяй і талентам, той таемнай сілай, што змагла авалодаць душамі і сэрцамі цэлых пакаленняў людзей, зрабіць чараўніком таямнічага вострава Кнігі.

А я... Ці мог я нават у сне прадбачыць пасля той выпадковай сустрэчы ў рэдакцыі часопіса «Вясёлка», што калі-небудзь таксама змагу назвацца пісьменнікам, траплю на той таямнічы востраў, і мае творчыя здабыткі, мае пошукі будуць адзначаны ганаровай літаратурнай прэміяй, якая носіць яго імя? Вядома ж, не мог. Адно турбуе цяпер: ці такое прыцягальнае і даходлівае тваё слова да сэрца чытача, як слова Янкі Маўра?

## «Каб быць бліжэй да Буало...»

Той, хто бываў у кампаніі з Рыгорам Барадуліным, ведае: па жартоўнае, дасціпнае, а нярэдка і падперчанае слоўца яму глыбока ў кішэню лезці не трэба. Можна толькі падзівіцца ды пазайздросціць віртуознаму ўмельству паэта «схапіць» і абыграць, як кажуць, на ляту тую ці іншую трапную пародыю ці эпіграму, проста сяброўскі, аздоблены рыфмаю шарж. Кажу гэта, бо сам не адзін раз быў сведкаю яго класных, як цяпер любяць казаць, прыколаў-экспромтаў, вартых таго, каб стаць здабыткам чытацкай увагі, прафесійнага позірку на іх... Можа, і даследавання нават. Шкада, што запомнілася не ўсё. Ды ўсё ж...

Памятаю, недзе ў сярэдзіне 60-х (мінулага, вядома, стагоддзя), калі такі ж неардынарны творца Уладзімір Караткевіч жыў яшчэ ў халасцяцкай «хрушчоўцы» па вуліцы Веры Харужай, непадалёк ад тагачаснай аўтастанцыі, я, спакушаны сяброўскай прыхільнасцю Рыгора Іванавіча да сваёй маладой, «зялёнай» у творчым разуменні асобы, не адмовіўся зайсці з ім да Уладзіміра Сямёнавіча ў госці, на сяброўскую бяседу. Сустрэўшы ў дзвярах сваёй «гасподы», гаспадар без лішніх роспытаў адразу запрасіў нас на кухню, адкуль ужо чулася ажыўленая гамана, дзе ўжо, занятыя размовай, сядзелі за сталом неразбежныя сябры, літаратуразнаўцы, кандыдаты філалагічных навук на

той час, не скупы на добразычлівую ўсмешку Мікола Грынчык і загадкава-заглыблены Адам Мальдзіс. Расчырванелыя, у хмарах папяроснага дыму, што вісеў над імі, яны нешта даказвалі адзін аднаму, падмацоўваючы словы рэзкім узмахам рук. Відаць было, што ўсе яны да нашага прыходу даходліва «падыскутавалі» — попельніца поўная «бычкоў», ад закусі заставаўся хіба ўспамін у наяўнасці хлеба ды кволага канчура каўбасы. Тое-сёе было раскідана па талерках. Добра, што мы дарогаю нешта прыхапілі з сабой. Хоць курылі толькі двое — Грынчык і Караткевіч — дыму хапала на ўсіх пяцярых. Тым болей, кухня была традыцыйная, прасторнасцю не вызначалася.

Прыпаліўшы ў чарговы раз цыгарку, гаспадар да стала ўжо не падсаджваўся.

— Не, не, хлопчыкі, ужо як-небудзь без мяне. — І, мусіць, у другі ці трэці раз неяк спакутавана выдыхнуў: — Ой, цяжка, ой, цяжка, хлопцы, мне! Ты верыш, Адась?

— Веру, веру, — пагадзіўся з ім Адам Мальдзіс. — Адпачыць табе трэба.

І сапраўды, выгляд у яго быў нейкі стомлены, пахмуры, без прывычнай усмешлівасці, гарэзлівага бляску вачэй. Рыгор Барадулін, перапыніўшы ажыўленую гаворку з субяседнікамі па застоллі, раптам быццам схамянуўся, неяк імпульсіўна ўзмахнуў раз-другі перад сабой рукою, быццам падганяў да сябе аднекуль патрэбныя радкі і рыфмы, нечакана выпаліў сваёй скорагаворкай:

— Ага, ага, Валодзечка. Адразу відаць па табе. — І прадоўжыў ужо вершам.

Змучаны мы вельмі,
Лёс у нас цяжкі.
На стале бутэлькі,
Пад вачмі мяшкі.

Сябры засмяяліся. Грынчык пацягнуўся да бутэлькі, якая яшчэ не паспела стаць у шэраг пустых, каб, як ён сказаў, на правах галоўліта «завізіраваць» з'яўленне новага твора, а Уладзімір Сямёнавіч трохі пакрыўджана махнуў рукою:

— А ну вас... к чарцям сабачым! Вам смешна, а мне сапраўды цяжка. — І падаўся ў свой пакой.

З часам абодвум пашанцавала: ім палепшылі жыллёвыя ўмовы. Спярша — Барадуліну, пазней — Караткевічу. На той час Уладзімір Сямёнавіч адважыўся зрабіць рашучы крок у сваім халасцяцкім жыцці — завесці сям'ю, заручыцца з Валянцінай Браніславаўнай. Ён перабярэцца ў даволі шыкоўныя апартаменты ў пісьменніцкі дом, што па вуліцы Карла Маркса, 36, а Рыгор Барадулін атрымаў кватэру ў новым доме па вуліцы Рэспубліканскай (цяпер гэта Раманаўская Слабада). Усё выйшла быццам па нейкай загадзя прадугледжанай задумцы камедыйнага жанру: дом 26, кватэра 26, школа побач з домам, у якую перайшла вучыцца дачка Ілона, таксама нумар 26.

Як адбываўся пераезд, пад'ём вязанак з кніг і рэчаў хатняга нажытку на прадапошні паверх, ды ўручную і на гарбах добраахвотных грузчыкаў Уладзіміра Правасуда, Іосіфа Скурко, Яўгена Пушкіна, Анатоля Валахановіча і аўтара гэтых згадак, без дапамогі ліфта, бо ён, паслухмяны волі камунальшчыкаў, а не навасёлаў, тады не хадзіў, — расказваць не буду. Хто не бачыў — не ўявіць. Гэта быў яшчэ адзін непаўторны сюжэт, і таксама для камедыйнага фільма.

Мабыць, вартай драматычнага асэнсавання выдалася толькі вячэра, якую ў новай кватэры наладзіла пасля ўсяго «грузчыкам» шчодрая на пачастунак

жонка паэта Валянціна Міхайлаўна: чамусьці ні ў кога з іх у той момант не было асаблівай ахвоты ні піць, ні есці, нават гаварыць. Гаспадыні давялося прыкласці нямала намаганняў, каб трохі «разварушыць» прымоўклых мужчын спакусай армянскага напою ды нашай родненькай «Белавежскай».

Пераезд, які чакаўся ў сям'і з непадробнай радасцю, а паэту бачыўся з вышыні здзяйснення новых творчых задум, адбыўся.

Здавалася б, жыві і радуйся, твары ў хаўрусе з натхненнем, займеўшы асобны куточак у новай чатырохпакаёўцы, няхай сабе і не такой прасторнай, як хацелася б, жылой плошчаю ў 42 квадраты ўсяго, але ў гэту ідылію няўмольна ўмяшаўся знешні фактар, тагачасная рэчаіснасць, абумоўленая развіццём тэхнічнага прагрэсу, шырокага «фронту будаўніцтва», які назіраўся ў сталіцы. Нястомная, гулкая «песня будаўніцтва» пазбавіла паэта на новым месцы нармальнага сну і адпачынку. Справа ў тым, што дом, у якім жыў цяпер Рыгор Іванавіч, стаяў (дый стаіць цяпер!) пры самай вулічнай магістралі, а кватэра з лоджыяй і ўсімі пакоямі, узнятая на вышыню восьмага паверха, калі не лічыць паверхі рэстарана «Нарач» пад імі, нібы звісала над ёю, днём і ноччу паглынаючы гул, пыл і смурод, што ўзнімаўся ўгару ад праезнага транспарту. Тады гэта вуліца была вельмі ажыўленай, нагадвала танкадром, няйначай: не заціхала нават ноччу ад рокату цяжкагрузных фураў, аўтацягачоў з мноствам бетонных канструкцый і панэляў на даўжэзных прычэпах, што чамусьці не маглі перачакаць да раніцы, каб трапіць на якую будоўлю горада. Дрыжалі шыбы ў вокнах, наглуха зачыняліся форткі, лоджыя. Не кожны дзень выпадала спрыяльная нагода, каб выйсці на яе і дыхнуць свежым паветрам, прахалодай летняга вечара. Я сам гэта зведаў, калі разоў колькі заставаўся там пераначаваць падчас рамонту ў сваёй кватэры. А калі такое трываць з дня ў дзень, з месяца ў месяц?..

Я жыў тады на вуліцы Карла Маркса. Дарога займала хвілін дваццаць хадзьбы ад барадулінскага па'езда. Кватэра ў мяне асаблівымі зручнасцямі не вызначалася (ранейшы гаспадар, адзінокі Я. Ш. у ёй нават ванну прыладкаваў на... кухні, чым яна многім сябрам і запомнілася), але вокнамі «кватэрка» (як выказаўся, прапануючы яе, старшыня літфонду Мікола Татур) выходзіла ў двор і ў ёй было цішэй, чым у каго.

Спакутаваны бяссонніцай, аднаго разу Рыгор Іванавіч патэлефанаваў мне:

— Можна, я прыйду і, пакуль сын будзе ў школе, пасплю ў цябе пару гадзінак. Ніяк галава не можа супакоіцца, баліць ад усяго гэтага тлуму!

— Канечне, — сказаў я. — Можна на ўвесь дзень. Сашу скажу, каб ціха рабіў урокі, не шумеў. І тэлефон адключу, калі трэба.

На другі ці на трэці раз, апынуўшыся такім чынам у нашай кватэры, Рыгор Іванавіч раптам пацікавіўся: можа, у мяне ёсць зборнік твораў Буало. Ён быццам ведаў, што кніжка гэтага французскага аўтара — паэта і тэарэтыка літаратуры, такі акуратненькі томік у жаўтлявых вокладках — у маёй хатняй бібліятэцы быў. Я, памятаю, набыў яго ў цэнтральнай кнігарні па зніжаным кошце. Час ад часу я сам браў той зборнічак і перачытваў яго некаторыя старонкі, часцей дзеля звычайнай цікаўнасці (яшчэ раней — універсітэцкая праграма па зарубежнай літаратуры вымагала знаёмства з ім), а цяпер ён, па ўсім відаць, нечым спатрэбіўся паэту.

Перабіраючы кніжкі, я зняў з паліцы том выбраных твораў старэйшай беларускай паэтэсы, аўтаркі шчымліва-пранікнёнай песні «Люблю наш край, старонку гэту...» Канстанцыі Буйло, які на той час выйшаў з друку, прымеркаваны да яе чарговага юбілею. Нічога дзіўнага ў гэтым не было, хіба што неяк нязвыкла было чытаць прозвішча паэтэсы — Буйло. Дагэтуль ва ўсіх школьных

чытанках, на ўсіх яе ранейшых зборніках значылася — Канстанцыя Буйла. За многія дзесяцігоддзі чытачы прызвычаіліся да яго, а тут раптам *а* перайшло ў *о*, прозвішча загучала неяк, як я ўжо сказаў, нязвыкла, русіфікавана — Буйло. Выходзіла, як у той сатырычнай камедыі Кандрата Крапівы «Брама неўміручасці»: адна з дзейных асоб Алена Максімаўна была прозвішчам ЛАПАТА, а стала — ЛАПАТО. Нібыта далікатней загучала, не гэтак груба.

Няўжо і наша паважаная пісьменніца паддалася «моднай» спакусе такім чынам «акультурыць» сваё прозвішча? Нездарма ж з маладых гадоў у Маскве жыве, далёка ад роднай мовы. Такое меркаванне я і выказаў Рыгору Іванавічу. Чакаю, што ён скажа на гэта. А Барадулін перагарнуў старонкі знойдзенага мною томіка Буало, акінуў позіркам паліцу, куды я паставіў ужо на ранейшае месца блакітна-шэры том беларускай аўтаркі, раптам вымавіў, зноў жа, як тую скорагаворку:

Каб быць бліжэй да Буало,
І Буйла робіцца Буйло.

Каб, як таму паляўнічаму, прыкласціся і трапна «выстраліць» катораю з эпіграм ці пародый, яму, самі бачыце, парою дастаткова было лічаных хвілінак, нават імгненняў. Памятаю, прачытаў я аднойчы новую кніжку вядомай гродзенскай паэтэсы, якая, плённа працуючы ў «дарослай» лірыцы, паспела «засвяціцца» і ў дзіцячай літаратуры, і выдала чарговы зборнік для дзяцей «Дагані на кані». Былі ў ім добрыя вершы, якія адпавядалі яе прызнанаму таленту, але ж траплялiся творы, дзе аўтарка надта ж злоўжывала ласкальна-памяншальнымі суфіксамі, нібы забаўлялася з маленькімі чытачамі, празмерна «сюсюкаючы» з імі, і ў такой меры, што некаторыя радкі гучалі проста парадыйна. Перамаўляючыся з Рыгорам Іванавічам па тэлефоне, я прачытаў яму некаторыя мясцінкі з кніжкі, выказаў недаўменне, чаму няўважліва паставіліся да ўсяго гэтага ў выдавецтве.

— Прадыктуй мне, я запішу гэтыя вершаняткі, — узгарэўся Рыгор Іванавіч. — Сапраўды, нельга ж левай нагой пісаць, што ўзбрыдзе.

Не паспеў я адысціся ад тэлефона, як раздаўся званок.

— Паслухай, што атрымалася, — пачуўся ў трубцы таропкі голас Барадуліна. — Як табе? — І прачытаў:

Я пішу, як захачу,
Пра жабоцек, качак.
Я скачу і рагачу,
Плача мой чытачык.

— Цудоўна! — рассмяяўся я. — Можна аддаваць у «ЛіМ». Аўтарка можа пакрыўдзіцца, але ж усё праўдзіва.

Так яно і было.

Тады ж, няйначай пад гарачую руку, ён здаў пародыю ў «ЛіМ», дзе яна, «падзапрэжаная» ў вазок новых пародый, з рогатам «праскакала». Праўда, пазней у выдадзеных ім сатырычна-гумарыстычных зборніках, сярод іншых твораў такога кшталту, я чамусьці не знайшоў яе. Можа, няўважлівы быў, прагледзеў? А можа, ён не захацеў у чарговы раз «зачапіць» самалюбства паэтэсы? Жанчына ўсё ж, і таленавітая.

Затое, перачытваючы нядаўна яго зборнік «Прынамсі...», на які нават прыдзірлівы Пімен Панчанка адгукнуўся рэцэнзіяй «Прынамсі, гэта таленавіта», я затрымаўся на эпіграме «Чытацкае пытанне Уладзіміру Караткевічу». Пытанне даволі прынцыповае, патрабавальнае, як і сам чытач:

«Каласы пад сярпом тваім»,
Пад тваім жа цапом — зярняты!
Дае працяг абяцаны?
Чым,
Творца, рукі твае заняты?

Па-мойму, «дзе працяг абяцаны», чаму доўга яго не было, Рыгор Іванавіч, як сябра, ведаў лепш, чым хто. Як вядома, знакаміты гістарычны раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» быў упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў 1965 годзе, калі там яшчэ «гаспадарыў» сам Максім Танк. Чалавек шчыры, неабыякавы да лёсу роднай літаратуры і яе творцаў, ён не заўсёды згодліва прыслухоўваўся да тых «парад», што чуліся нярэдка «зверху», браў на сябе адказнасць і смеласць друкаваць творы, якія не заўсёды адпавядалі прынцыпам тагачаснай ідэалогіі. Сам ведаю, што раман «Каласы пад сярпом тваім» не ўсе прынялі адназначна: апрача станоўчых рэцэнзій (і такіх было нашмат болей!), відаць, з падачы нейкіх зацікаўленых асоб, асабліва на чытацкіх канферэнцыях, выказваліся крытычныя папрокі аўтару, быццам ён надта ж захапіўся паказам жыцця розных там саноўнікаў, магнатаў ды шляхты, іх звычак, гулянняў ды забаў, а жыццё сялянства, простых людзей пададзена ў тым святле, якое выклікае ў чытача замілаванне, а не спачуванне, іх доля не такая гаротная, як асвятлялася ў творах ранейшых аўтараў.

І сапраўды: твор не ўкладваўся ў рамкі ранейшых стэрэатыпаў пра нашу гісторыю, жыццё людзей на Беларусі ў часы прыгону, памешчыцкага самаўладдзя. З гэтых меркаванняў, напэўна, да рамана было шмат прычэпак у галоўліта, што, само сабой зразумела, не магло не адбіцца на яго выданні асобнай кнігай у выдавецтве. Ды раман усё ж выйшаў. Хоць праз тры гады пасля публікацыі ў часопісе і з пэўнымі вымушанымі «папраўкамі» аўтара, аднак выйшаў. У 1968 годзе. І хутка разышоўся.

«Дзе працяг абяцаны?» Сапраўды, пісьменнік абяцаў, што будзе працяг, будзе працаваць над новымі кнігамі рамана. Але гэта цяганіна з выдаўцамі, лішнія прыдзіркі, нейкі недавер, шушуканні за спінаю аўтара, вядома ж, каштавалі яму нерваў, душэўных згрызот і хваляванняў, што не магло не адбіцца на яго творчай працы, ажыццяўленні задуманага. Прадаўжэнне працягу — зацягнулася.

Чаму я сам «зачапіўся» за гэту эпіграму? Бо ведаю, якою была яна ў першым варыянце. Памятаю, пры мне Рыгор Іванавіч прачытаў яе Генадзю Кляўко і той быў у захапленні. На жаль, я ўсю не запомніў, а вось апошнія два радкі засталіся ў памяці дагэтуль: «Каласы пад сярпом тваім, пад чыім жа цапом — зярняты?» Чаму паэт у пэўным сэнсе «пакрывіў душою», як бы «прычасаў» радкі, прыгладзіў іх, ведаючы той час, здагадацца няцяжка: намёк на ўладны «цэп» быў зразумелы кожнаму.

Хоць Барадулін усё-ткі «ўшчыпнуў» сябра, упэўнены, Караткевіч ніколечкі не пакрыўдзіўся за гэта, а толькі басавіта-голасна разрагатаўся, як гэта выходзіла толькі ў яго: ён жа, як ніхто, ведаў падаплёку такога «пераўвасаблення» і, магчыма, быў усцешаны, што хоць гэтак сябра ад імя чытачоў лішні раз нагадаў пра існаванне яго рамана. Што ж да падобных «выдаткаў», дык на іх (па волі цэнзуры) і яму не раз даводзілася ісці, мірыцца з рэчаіснасцю. Ён толькі, нібы ў адказ на «Чытацкае пытанне», трохі павінаваціўся ў пасляслоўі да рускамоўнага выдання рамана «Каласы пад сярпом тваім»: «Не папракайце мяне за тое, што затрымаў працяг “Каласоў”. Мне проста шкада кінуць гэтых людзей, маіх сясцёр, сяброў, братоў, таварышаў у каламутны вір вайны, нянавісці, выгнання. Шкада аддаць іх кайданам, ссылкам, шыбеніцам. Падвесці

пад апошняе прыніжэнне і ўзвышэнне, якое ёсць — смерць... I яшчэ крыху, мабыць, мне шкада самога сябе. Як тую грушу над кручай Дняпра, якая ўпала ў яго хвалі ў 1963 — а ў рамане — у 1850 годзе, як усіх забітых і закатаваных за праўду на гэтай зямлі... Дык патрывайце крыху. Дайце сабраць сілы...»

Як мне падаецца, гэтым шчырым, па-філасофску абгрунтаваным «адказам» знакамітага майстра слова ў рэшце рэшт засталіся задаволеныя ўсе: і чытачы, і крытыкі. I, канечне ж, сам не менш знакаміты аўтар эпіграмы, які ў нейкай меры часткова ўзяў на сябе ролю аднаго з гэтых крытыкаў.

Як і наша сённяшняя ява, той час (асабліва 60-я гады) таксама быў у нечым стыхійны, метамарфозна-парадаксальны. Памятаю, зайшоўшы ў гастраном, можна было каля рыбнага аддзела па этыкетках на кансервавых бляшанках вывучыць багацце марскіх і рачных глыбіняў, іх насельнікаў. Ад славутай кількі ў тамаце ды траскі да... лепш не пералічваць, не паўтараць класічна-звыклае «Няма таго, што раньш было...»! На прылаўках, у вялізных, кілаграмаў пад пяць, бляшанках ільсніліся скарбы чорнай ікры, над якой роем віліся мухі, і — о дзіва! — ніхто ў чарзе не стаяў, не лез праз галовы, каб атаварыцца ёю. Як сёння бачу: далікатэсныя ікрынкі змарнела засыхалі (так-так, засыхалі!) на дваццацікапеечных бутэрбродах у кафэ-аўтамаце непадалёк ад нашага інтэрната па вуліцы Свярдлова, бо своечасова не знаходзілася ахвотнікаў паласавацца такой смакатой. Мы, студэнты, гідаліся купляць тых крабаў і печань траскавую, за якімі потым ужо даводзілася «паляваць» па знаёмстве, здабываць з-пад прылаўка. Не за сціплыя капейкі ўжо, а за не такія танныя тады рублі!

I ў нейкае адначассе гэта рыбная гурманія раптам знікла, нібы растварылася ў бязмежжы мора-акіяна, адкуль «прыплывала» ў наш гандаль. Прынадная ікра (і чорная, і чырвоная), стаўшы ўраз не проста дэфіцытнай, але і цяжкаваговай у кошце, маладаступнай звычайнаму пакупніку з дыпломам інжынера ды настаўніка, нібы на мелкаводдзі, «асела» ў цянётных «сецях» абкама-цэкоўскіх і саўмінаўскіх сталовак ды буфетаў, чыноўных сталоў заказаў. А з уладанняў воднага цара Нептуна «выплылі» на прылаўкі крам і да людскіх сталоў нячутыя дагэтуль, у нечым экзатычныя нават, насельнікі марскіх глыбіняў — шабля, хек, прастыпома (народ ахрысціў яе па-свойму скептычна — «прости Господи»), більдзюга... Калі з хекам звыкліся хутка, ён прыжыўся ў нас, стаў «сваім», асабліва ва ўстановах грамадскага харчавання, то з апошняй у рыбапрамыслоўцаў атрымаўся яўны «пракол»: «белокурая бестия» більдзюга тут жа стала прадметам творчасці дасціпных вострасловаў, персанажам простанароднага фальклорнага гумару.

Не ўтрымаўся і чуйны да такіх з'яў Рыгор Барадулін. Яго іранічны экспромт (і не ў адным варыянце) нават увайшоў у застольны «рэпертуар» знакамітага опернага баса, народнага артыста Віктара Ч. Часта ў кампаніі такіх жа служак Мельпамены ён, дастаткова падвяселены прыхільнасцю сяброўскага застолля, не саромеўся твіставаць і шэйкаваць, падмацоўваючы танцавальныя рухі раскацістым суправаджэннем: «Більдзюга ты, більдзюга — я...» Памятаю, на адной з юбілейных вечарын паэта спявак прызнаваўся, што гэта «Більдзюга» надзвычай станоўча спрыяла праяўленню яго жыццярадасных эмоцый, творчага запалу, вясёлага настрою.

Дзе «Няўрокам кажучы», а дзе знарок (але без абразы) пра выбітных творцаў, а найчасцей — сяброў сваіх — адмысловы майстар парадыйнага жанру, слынны віртуоз-рыфмар Рыгор Барадулін, між тым, не пазбаўлены і таленту самаіроніі, мусіць, ніколі не забываў, што ёсць таксама ўсе падставы для таго, каб «куснуць»... самога сябе! I даволі ўедліва, так, як, магчыма, не адважыўся б

нават ніхто са злоснікаў-крытыкаў ці тых жа парадыстаў. Не верыце? А як вам такое?

З ушацкага крутога току
Слоў зерне трачу пакрыху.
За рыфму
Да Уладзівастока
Гатоў па шпалах гнаць блыху.

Уяўляеце: толькі за рыфму! Што тут скажаш?!

Не сумняваюся, болей важкім, да самага века з каптурком напакаваным быў бы парадыйны куфар віртуознага майстра, калі б у той час былі ў звыклым, як сёння, абыходзе дыктафоны і ўсялякія «крутыя», найсучасна модныя «мабілы», з якімі, быццам з цацкамі тымі, забаўляюцца цяперашнія дзеці. Бо колькі экспромтаў засталося ў сяброўскіх застоллях, на вечарынах, дзе ён прысутнічаў і нярэдка вёў рэй, на кнігах, што надпісваў сваім знаёмым, сябрам, чытачам, на фотаздымках! Шкада, што ў тым віры ды ў спешцы мала каму прыходзіла ў галаву, каб нешта запісаць, пакінуць на памяць. Сам жа за сабою запісваць не будзеш: не заўсёды прыстойна рабіць гэта, што могуць падумаць прысутныя? А прысутныя часта ўспрымалі іх за нейкую самую звычайную жарт-забаўку, не болей таго.

Я ж, каб не выглядаць бяздоказным пустасловам, згадаўшы пра барадулінскія аўтографы на фотаздымках, не без гонару магу прызнацца: адзін з такіх «дакументаў» ужо гадоў пад сорак захоўваецца ў фотазборы нашай сям'і. На здымку Рыгор Іванавіч — маладжавы, з бародкай, якую паспеў толькі завесці, і ў светла-шэрым, ручной вязкі світары. Гэты світар калісьці (у «заходнікаў» — швэдар) звязала і падарыла яму маці маёй жонкі Уладзіслава Эдвардаўна. З любасцю і павагай да яго. А тады такія абновы ў казённых крамах можна было ўзяць толькі з-пад прылаўка, таму цешчын падарунак прыйшоўся паэту як нельга лепш даспадобы. Ён нават сфатаграфаваўся ў ім.

Можа б, згаданая фатаграфія не трапіла ў нашы рукі, калі б не жонка мая Лена-Гелена. Убачыла яе, прыстала: «Падарыце, мама рада будзе!» Хіба ж можна было адчапіцца ад учэпістай «кошкі» (мянушка, якая прыстала да жонкі з лёгкай рукі, не — языка — Рыгора Іванавіча), дый не парадаваць вясковую жанчыну напамінам пра яе рукатворны цуд? І ён падарыў той фотаздымак, тут жа, пры нас, пакінуўшы на ім свой дарчы надпіс-экспромт:

Хоць не вучыўся ў хедары,
Але мой плён нятленны.
Мне вельмі цёпла ў швэдары,
Што звязан мамай Лены.

Чаму захацелася падзяліцца тым, што затрымалася ў памяці, з гадамі не выветрылася з яе? Проста падумалася: можа, калі-небудзь і спатрэбяцца камусьці яны, гэтыя згадкі, дапамогуць трошкі шырэй прыадчыніць дзверы ў творчую майстэрню любімага паэта, а заадно — і яго сяброў-творцаў, такіх жа таленавітых і здатных на дасціпны жарт, вясёлы гумар, на вынаходлівасць і фантазію — спадарожніц кожнага, сапраўды прыроджанага таленту.

Зноў жа паўтаруся: шкада... Шкада, што, як і многія, таксама быў разявакам, шмат чаго прапусціў міма вушэй, саманадзейна паспадзяваўся на памяць: нікуды ўсё не дзенецца, як трэба будзе, — успомніцца. А ёй жа, як і ўсяму, уласцівы свой істотны недахоп: яна з гадамі становіцца... дзіравай.

Што ж датычыць Буало, дык ён, тэарэтычна падзяляючы літаратурныя жанры на «высокія» і «нізкія», адмоўна ставячыся да народнай творчасці,

усё ж пачынаў з ніжэйшага — сатыры. І потым не адмаўляўся ад яго, гэтага жанру: сатыра і іронія «аздабляюць» многія радкі знакамітага тэарэтыка класіцызму. А чым у той раз, шукаючы ў мяне цішыні, зацікавіўся ў французскага паэта беларускі паэт Рыгор Барадулін, што хацеў знайсці ў яго вядомай кнізе «Паэтычнае мастацтва»? Можа, наважыўся быў на ўсякі выпадак болей грунтоўна «падкавацца», узяць урок-другі ў гэтага Буало, каб таксама... быць бліжэй да яго, але ўжо ў творчым пошуку, у парадыйна-сатырычным жанры — у прыватнасці? А што, прыслухацца да настаўленняў-парад такога майстра — хіба залішне было для аўтара, які не цураўся эксперыментавання, вольнага абыходжання з радком і рыфмай, любіў спакусіцца арыгінальнасцю ў вершатворчасці?

О вы, кого манит успеха путь кремнистый,
В ком честолюбие зажгло огонь нечистый,
Вы не достигнете поэзии высот:
Не станет никогда поэтом стихоплёт.
Не внемля голосу тщеславия пустого,
Проверьте ваш талант и трезво и сурово.

Природа щедрая, заботливая мать,
Умеет каждому талант особый дать:
Тот может всех затмить в колючей эпиграмме,
А этот — описать любви взаимной пламя.

Но иногда поэт, к себе не слишком строгий,
Предел свой перейдя, сбивается с дороги.

Будь то в трагедии, в эклоге иль в балладе,
Но рифма не должна со смыслом жить в разладе,
Меж ними ссоры нет и не идёт борьба:
Он — властелин её, она — её раба.

Хотите, чтобы вас любили мы?
Однообразия бегите, как чумы!
Тягуче гладкие, размеренные строки
На всех читателей наводят сон глубокий.
Поэт, что без конца бубнит унылый стих,
Себе поклонников не обретет меж них.

Как счастлив тот поэт, чей стих, живой и гибкий,
Умеет воплотить и слёзы и улыбки.

Чым усё ж зацікавіў Буало нашага паэта? Можа, хацеў прыкласці руку ды творчае ўмельства, каб ён, гэты разумнік з берагоў Сены, «загаварыў» з намі па-беларуску? Як і англійскі лорд Байран у свой час. Тады спытаць у Рыгора Іванавіча не асмеліўся, пабаяўся: а калі не зразумее майго гумару, прыме за насмешку? А цяпер — таксама перадумаў: пытаць пра такое ў народнага паэта, слыннага майстра сатыры і гумару, неверагоднага парадыста ці зусім далікатна, бяскрыўдна? Яшчэ, чаго добрага, адкажа новай эпіграмай ці пародыяй. Ды на гэты раз ужо — пра цябе ж самога! Хіба забыў пра той, даўні прыкол-каламбур: «Коля — мілы калабочак, накачаўся каля бочак?» Каля якіх бочак? Хто старэйшы, той, напэўна, памятае: на колішняй сталічнай Камароўцы. Патаптаўшыся там каля дыягенавых «каровак», прывезеных з вінаградных плантацый Малдовы, якія па-братэрску шчодра, як пенным сырадоем, даіліся... маладым вінам, тады шмат хто, хацеў ці не хацеў, а мусіў пагадзіцца з не такой ужо вясёлай рэальнасцю: «Кішэнь стала лёгкай, а шклянка — цяжкою...»

Аднаго не баюся прызнаць: каламбурамі такога кшталту тады быў «узнагароджаны» не адзін я. І не зусім беспадстаўна. Хоць прыдзірлівы мсье Буало трымаўся сваёй думкі: «Зачем стремиться вам, чтоб Эпиграммы жало Таило каламбур во что бы то ни стало?» Але ж ён не мог ведаць творчай няўрымслівасці і паэтычнага ўмельства «ўшацкага мальца», нашага з вамі знакамітага паэта!

## Нагда і Кілун

Што ні кажы, абязлюдзелі цяперашнія вёскі. Ідзеш па вуліцы, а насустрач табе — хоць бы якая жывая душа. Ні старога, ні малога. Толькі дворышчы зарослыя болей тамтэйшыя джунглі нагадваюць, чым той куток, што калісьці водарам чаромхі дурманіў, ад сонца яблыкаў залаціўся. І нябёсы будзіў лёскатам ад кляпання кос, рыканнем красуль, дзіцячай гаманой, разборкамі сварлівых кабет каля студні. Усё віравала, не зважала на змены пораў года, жыло і радавала, цешыла надзеяй на ўсё добрае, што павінна быць у добрых людзей.

Хоць бракавала дабра ў хатах, затое хапала дабрыні ў душах, яе цяпла і спагады. І на ўсякую, нават самую няўдзячную, дармавую часцей, работу хапала рупных людскіх рук. Рупных, бо іначай не маглі, хоць працавалі нават не за рублі сённяшняй вартасці (пра долары тады і пачуту сярод вяскоўцаў не было!), а за працадні, за «палачкі». Іх, памятаю, у майго бацькі, пастуха вечнага, па дзве тысячы за год набіралася, хоць імі плот гарадзі, як у нас казалі, а мы галодныя сядзелі, кожнай выпадковай абноўцы, як святу, радаваліся.

А святы ў людзей бывалі. Зажыналі жыта сярпамі — спявалі, дажыналі — спявалі, нават застольныя бяседы ладзілі, у сям'і нарадзіўся нехта — хрэсьбіны спраўлялі, выдавалі замуж ці жанілі — гулялі, праводзілі хлопца ў армію — не абыходзілася без вечарынкі. І, чаго граху таіць, не ўсе вясковыя гулянкі заканчваліся мірна, без п'яных калатнеч-разборак. Моладзі ж было — о-го-го! А між іх не ўсе анёльскага нораву трымаліся. Ахвотнікаў усчаць бучу-катавасію ўсе ведалі, маглі прадказаць беспамылкова: калі на вечарынку Валодзька Арцёмаў (як водзіцца, на падпітку) прывалачэцца, то не ўсе шыбы ў хаце гаспадара, дзе гуляла моладзь, застануцца цэлыя. Таму і стараліся «лакалізаваць» яго, каб не разбушаваўся. Праўда, не заўсёды такія «манеўры» ўдаваліся, але ж спробы рабіліся.

І, канечне ж, не абыходзілася без вулічных мянушак. Вёскі ж людныя былі, многія прозвішчы і імёны перапляталіся, як тыя карані яблынь у садзе, супадалі, здаралася, паштавікам прыбаўлялі клопату: здагадайся, якому Івану ці Сямёну тое пісьмо несці? У сваім, звыклым абыходжанні, выручалі мянушкі: Пепа, Карпа, Камуніст, Паляк, Блат, Галота, Сараград, Ліцьвін, Храпка, Ухабака, Анэгда, Улыбачка, Стрэйкіс, Хахол, Шкода, Арпуца, Рабы, Лётчык, Каваль, Зялёны… І ці ўсе ўспомніліся? Я сам, напрыклад, быў Коля Мікалашкаў. Бо майго бацьку Мікалашкам людзі звалі. Не ў вочы, канечне, а між сабою. Чаму — не ведаю. Адно ведаю: Мікалаяў, ды з нашым прозвішчам да таго ж, у вёсцы было трое ці чацвёра.

Нікому не сакрэт, што мянушкі гэтыя ў вёсках вельмі часта чапляліся да чалавека за словы-паразіты. Чаму да Іллюка Пахомава прыстала мянушка Нагда, не адзін я ў нашай вёсцы ведаў. Гэта слова на манер рускамоўнага «иногда» злятала з яго языка пры гаворцы з людзьмі часцей, чым якія. Раз за разам, як у нас казалі — часцей дыхання. Вось і прыжылося за ім — Нагда ды Нагда.

Іллюкова постаць у маёй памяці — як жывая. Здаецца, бачу яго і цяпер, ступаючы запусцелай вуліцаю: цяжкаваговы, метры са два ростам, але не дужа абцяжараны з-за тагачасных вясковых харчоў і працы, жыватом, ён, калі ішоў, то чамусьці неяк пакалыхваўся туды-сюды і здавалася, што вось-вось пераломіцца ў паясніцы і грымнецца вобзем. Боты, невядома якога там памеру, яму ладзіў пад свае капылы вясковы, наш буднецкі шавец Гаўрыла, бо на прывоз такіх у вясковую лаўку ці ў раймаг спадзеву не было. Хоць «лісапеты» тады не ў кожным двары вяліся, былі раскошай, у Іллюка веласіпед быў. Праўда, не свой, а казённы, «паложаны па службе». З нейкага часу калгаснаму ветэрынару, каб яму лягчэй было ўпраўляцца з буйнарагатай і віславухай жыўнасцю на мясцовай жывёлагадоўчай ферме, дадалі ў штат адзінку памочніка. І жывёльны лекар прыгледзеў сабе ў такія памагатыя Іллюка. І невыпадкова: чаго-чаго, а сілы ў яго хапала. Утрымаць жа бугая, карову ці наравістага кныраку, як гэта часта даводзілася рабіць пры чарговай вакцынацыі ці кастрацыі, сіла ды ўчэпістыя рукі ой як патрэбны былі! Слабака разгневаная жывёліна магла як бач на рогі ці на лыч падчапіць, калекаю пакінуць.

Тую «лісапету» Іллюк часцей у руках вадзіў, бо яна заўсёды была ў яго абвешана markрознымі прычындаламі, сумкамі, напакаванымі ветэрынарскімі лекамі і струмантам. Калі ж ён садзіўся на свайго «каня», пачынаў ціснуць на педалі, здавалася, што той не вытрымае цяжару седака, трэсне сядло ці рама, паляцяць спіцы ў колах. І ён не ехаў, а — «зібаў». Яшчэ адно слова, што часта блыталася ў яго не такім ужо багатым і красамоўным лексіконе. Сам не чуў, ад людзей толькі, як Іллюк нібыта хваліўся шпаркай яздой на сваёй «лісапеце»: «Нагда так зібаў, аж кусцікі мільгалі. За паўтара часа да станцыі даехаў». А да нашай чыгуначнай станцыі — усяго ж шэсць кіламетраў! Таму і падсмейваліся ў нас часам, пакеплівалі, калі нехта спазняўся, не ў час прыходзіў: «Ну, ты, відаць, зібаў, як той Іллюк да станцыі на лісапеце».

Але гэта яшчэ не ўсё. Пабачыўшы яго завіханні пры прадугледжанай кастрацыі падсвінака на падворку, людзі час ад часу бацьку яго згадвалі, Пахома: «Па бацьку сваім пайшоў. І лечыць, і калечыць. І такі ж здаравяк вымахаў, як Пахом». А як можна адначасова і лячыць, і калечыць? Сакрэт які, ці што? Няўцям было мне, падшыванцу басаногаму, у галаве ўкласціся не магло тое, што ведалі людзі, кажучы гэта…

Пачуў я гэту гісторыю выпадкова. Калі ўжо вучыўся ў сёмым ці восьмым класе. Ад бацькі майго школьнага таварыша Шурыка Іванькова. Чалавек вясёлы сам па сабе, дзядзька Ляксандра, будучы ў гуморы, і распавёў нам яе аднойчы, захліпаючыся ад смеху, што разбіраў яго. А дзіцячая ж памяць, самі ведаеце, учэпістая. Што трэба і не трэба, цікава ці не цікава — усё фіксуе, пакідае ў сабе, і варта за гэта ёй дзякуй сказаць на доўгі-доўгі час… Цяпер часта чытаю, слухаю па радыё і тэле, як маладыя хлопцы ідуць на ўсялякія хітрыкі, нярэдка нават падсудныя, каб «адкасіць» ад службы ў арміі. Усё ідзе ў ход — і подкуп, і сімуляцыя, і наўмыснае калецтва. Праўда, не чуў, каб да апошняга выкруту нашы маладыя вундэркінды надта часта прыбягалі, але ж знаходзяцца «спецыялісты», што робяць на гэтым свой бізнес. Менавіта такім «цёмным бізнесам» і займаўся ў свой няблізкі ўжо час Іллюкоў бацька Пахом. Ну, займаўся — можа, не зусім дакладна, але ж нешта меў са сваёй «вузкай спецыялізацыі». Тым, хто хацеў «адмазацца» ад службы ў войску, ён набіваў… грыжы. Ці, як у нас часцей казалі, — кілы. І рабіў ён гэта па-свойму адмыслова і проста. За «аперацыйную» ў яго была звычайная вясковая ёўня з глухімі сценамі і такімі ж дзвярмі, а інструментам, якім карыстаўся пры такой незвычайнай «аперацыі» — вялікі палец правай

рукі. Плата па тым часе была не такая ўжо і малая — пяць рублёў. Але ж на якія выдаткі не пойдзеш, каб не пайсці ў салдаты, а там, можа стацца, і на вайну. А на вайне ж страляюць, можна заўчасна Богу душу аддаць!.. Лепей ужо тут Пахомавы пакуты прыняць…

А яны, гэтыя самыя пакуты, былі. Ды яшчэ якія! Для сарамяжнага хлопца-небаракі — спачатку распрануцца, паўстаць перад сваім «хірургам» такім, як маці нарадзіла, ды яшчэ ў поўнай невядомасці. А ў таго было за рытуал: спярша прачасціцца паўнюткай шклянкай першаку, для трываласці — смачна закусіць салам, што прыносіла ахвяра, і, працёршы тым жа самагонам рукі, брацца за «аперацыю». Прэтэндэнт на кілу станавіўся перад «доктарам» шырока раскірэчыўшы ногі, а той, седзячы перад ім на табурэце, выстаўляў вялікі, як у бугая рог, палец, на ўвесь размах адводзіў руку, прыцэльваўся, а потым з усяе сілы біў выстаўленым, натрэніраваным для гэтага, пальцам у пахвіну, пад самую мужчынскую прыладу з яечкамі, у месцейка, аднаму яму вядомае, прыдатнае для выскоквання той грыжы. Надрыўна войкаючы, «пацыент», як звар'яцелы, лётаў па ёўні, кідаўся на дзверы, але выскачыць з яе ніяк не мог, бо перад гэтым прадбачлівы Пахом старанна браў іх на дзве-тры зашчапкі. Калі ж праз нейкі час пакутнік супакойваўся, прыходзіў да памяці, лекар-кілун наліваў яму належную чарку гарэлкі і выправоджваў за дзверы, наказаўшы трымаць язык за зубамі, не рассакрэчваць усё, што рабілася ў ёўні, бо за такое дзейства можна было сесці ў турму. А каму з іх такога хацелася? Грыжа ж тая не заседжвалася ў чалавеку, у сваім патаемным месцейку, не адразу, ды выскоквала там, дзе ёй было наканавана і гвалтоўна, сілаю падказана выскачыць, гарантуючы свайму «абранніку» статус «белабілетніка». Не надта пашаноўны ў вясковага люду, але ж куды дзенешся, калі яна, нягодніца, на свет выбівалася?! Сваякі ж погалас пускалі — на працы надарваўся. Як Лазар з Селівонаўкі. Той па дурноце сваёй, наўмысна падахвочаны вясковымі «жартаўнікамі», заўсёды хапаўся за самую цяжкую працу, пакуль пуп не надарваў, на гэту самую кілу не ўзбіўся. Ад чаго, бывала, скідаўшы стог, стагнаў і курчыўся ад болю. А «жартаўнікі» тыя толькі зубы скалілі, пацяшаліся з бедалагі…

Хоць і дзеелася ўсё тайна, без лішняга людскога вока, але ж усё тайнае з часам становіцца яўным. Як па сённяшнім часе кажуць, адбыўся ў Пахома «пракол», самы неспадзяваны канфуз у ягонай «практыцы». І адбыўся ён па недаглядзе, сваёй жа страце пільнасці.

Хведзька, сын Гараські Канцавога, рос хлопцам працавітым, здатным да касы і плуга. Але ж прыспела пара салдацкую кайстру ў дарогу збіраць. Не хацелася бацьку, каб ён з хаты не на адно лета адлучаўся, поўзаў ды маршыраваў пад каманду розных там унтэр-афіцэраў. Хопіць таго, што сам пабегаў ды павыструньваўся перад імі за сем гадкоў свайго рэкруцтва. Сын жа няхай лепей хатняй гаспадаркі трымаецца, усю ўвішнасць прыкупленай дзесяцінцы паказвае. А што з грыжаю, з кілою гэтай будзе — не такая ўжо бяда вялікая. Па ёй, калі ажэніцца, дзеці будуць. Шапнуў Гараська Пахому, а той згодзен: «Прыводзь сына, калі так…»

Усё, здавалася б, ішло, як і ўсе разы. Баднуў Пахом адтапыраным пальцам-рогам Хведзьку ў пахвіну, падскочыў той ад невыноснага болю пад столь ёўні, зароў, як рэзаны, пачаў кідацца па ёўні, тыцкаючыся, як сляпы, ва ўсе куткі і шукаючы дзвярэй, каб вырвацца з яе, кінуцца ў свет белы, тады, можа, боль хутчэй мінецца. Напароўся-такі ў гарачцы на дзверы, налёг на іх з разбегу — і зашчапка зляцела з крука, дзверы разнасцежыліся раптам, дыхнуўшы клубкамі марознай пары. Не паспеў скеміць Пахом, што адбылося, а Хведзька,

голенькі, як быў, вопрамеццю выскачыў з ёўні і, не выбіраючы дарогі, збіўшы з ног бацьку, які тупаў воддаль дзвярэй, цераз поле, па снезе, кінуўся, куды вочы глядзяць…

Апамятаўся толькі ў суседнім Зарэччы. Туды Гараська змушаны быў следам з кажухамі ехаць, каб адагрэць ды забраць сына з хаты аўдавелай Аўдоткі Петрыкавай, куды той, ляскаючы зубамі, басаНож ды галяком, неспадзявана з грукатам уваліўся, шукаючы ратунку ад неміласэрнага холаду, што паспеў астудзіць яго і вярнуць з «пасляаперацыйнага» шоку да ранейшага розуму. Ці то праўда была, ці то выдумка вясковых жартаўнікоў, а бедная Аўдотка, казалі, пасля такога спуднага відовішча яшчэ болей на вывіхнутую ад прыроды нагу кульгаць стала і раз за разам жагнацца на кожны стук дзвярной клямкі.

Пашанцавала абодвум: да суда не дайшло. Кажуць, і сам Гараська Канцавы, і Пахом добра-такі «падмазалі» сведкаў гэтай не надта ўжо вясёлай і прыстойнай гісторыі, і яна далёка не пайшла. Сышла за звычайную выдумку, якіх нямала хадзіла па вёсках, часцей ад языкастых кабет. А пакутніку Хведзьку грыжа-кіла не перашкодзіла праз нейкі час ажаніцца, як і меркаваў стары Гараська, нажыць з жонкай Маланняй трох сыноў, такіх жа ўпраўных, як і сам, і дзвюх дачок. Праўда, мянушка прыстала — Кілун, ды гэта яго мала бянтэжыла. Сыны пажаніліся, дочкі павыходзілі замуж, а сам і ў Айчынную вайну, калі ў армію падграбалі без асаблівага разбору, шчасліва адкараскаўся — не бралі ў войска з такім дэфектам, як у яго быў. Можа, яно і да лепшага, што так выйшла: партызанам потым, як ішлі на дыверсіі ці вярталіся з задання, было дзе знайсці прыстанак і падхарчавацца. Хведзька дапамагаў ім, чым тады мог дапамагчы, каб не выклікаць падазрэння ў немцаў і мясцовых паліцаяў.

Пасля вайны доўга ўпіраўся, не адважваўся пайсці на аперацыю, ды ўсё ж у рэшце рэшт сваякі ўгаварылі. Пазбавіўся ад грыжы. Толькі мянушка Кілун засталася. І да крыўднага несправядліва — да дзяцей перадалася: Грышка Кілуноў, Маруся Кілунова…

Каб жа Хведзька мог ведаць, а Пахом прадбачыць такі паварот той пакутнай аперацыі, той гісторыі, якую згадваць было і смех, і грэх!

Праўда, Іллюку свайму Пахом пабаяўся правесці такую «хірургію», таму ён артылерыстам (каму ж, як не яму было цягаць скрынкі са снарадамі да гарматы!) «празібаў» праз усю вайну, але застаўся жывы. Толькі двойчы паранены быў. Відаць, добра-такі падлячылі ў франтавым шпіталі, бо на раны мала скардзіўся. Кідаў з мужчынамі стагі, скірдаваў салому, касіў, памагаў ставіць хаты пагарэльцам. Словам, не цураўся ніякай калгаснай працы. І лёс быццам аддзячыў яму за ягоную рахманасць ды цягавітасць: хоць на схіле гадоў, ды на «культурную» работу ўзбіцца — у памочнікі да жывёльнага лекара. А выгадваў ён яшчэ і ў тым, што яго не такі ўжо зайздросны заробак не звыклымі «палачкамі» налічваўся, а рублямі. Сціпленькімі, але ж — грашыма.

Адно толькі здзіўляе — не курыў, не смактаў «казіныя ножкі» дый таўшчэзныя самакруткі, як многія вясковыя «дымачадцы». Бывала, сышоўшыся ля крамы з тым жа Хведзькам Кілуном, які дыміў самакруткаю, нібыта кепска скадзеная печ, мог прыгадаць: «Нагда на фронце, пасля бою, седзячы на станінах арудзія, так хацелася пакурыць, аж у грудзях смактала. А закурыць нечага — прамяняў махорку заядлым курцам за хлеб. Есці ж нагда шчэ болей хацелася. Ужэ чорт з ім, з етым курывам было! Хаценне здзелаць зацяжку можна абдурыць, а галодны жывот не абдурыш, ліха яго матары, калі пустату чуе.

За мой рост мне двайная норма палагалася, аднак жа хто яе прыдзержываўся на фронце? Прыедзе кухня, дык хапаешся, каб хоць лыжку якую кашы

той у кацялок закінуць! Нагда вязло наесціся, калі ўжэ ў шпіталь пападаў. Дык яно ж, калі балела, дык тая яда ў рот не хацела лезці. Карцела ў такой сітуацыі дыму глытнуць, аднак жа не, цярпеў, каб не прывыкаць дужа. Знаў жа: вылечаць, выпішуць, зноў на фронт адправяць, а там, каб не цягаць ногі з голаду, зноў трэба будзе махорку на хлеб ці тушонку мяняць. — І быццам папракаў субяседніка: — Ты ж етага не знаў, табе цяжка паняць, пабыць было ў маёй гарэтнай шкуры… Цяпер дык саўсім не цягне ету суслу пасмуктоліць. Лучшай чарку лішнюю ўзяць, каб у горле падзёрла, як таркай тою. Думаю, для здароўя не такая ўжэ шкода, як курэнне тваё».

Кілун, быццам прапусціўшы міма вушэй яго намёк, пагаджаўся з ім, але дадаваў, цыркнуўшы слінай наўзбоч: «Лучшы за ўсё — і тое, і тое ўзяць. Абы, як ты кажаш, на здароўе было». І звыклым рухам падцягваў — ледзь не локцямі абедзвюх рук — штаны, якія, здавалася, толькі і чакалі зручнага моманту, каб з’ехаць з паясніцы, як і тады, — абцяжараныя набыткам Пахомавай «хірургіі».

— Дык, можа, зойдзем да мяне, пакуль Маланка мая ў градах корпаецца, разгавеемся трохі. Я ўчора выціснуў маленька. Не дужа ўдалася, усяго па літроўцы з гільзы браў, ды нам, думаю, хваціць.

— Ну, калі не шкадуеш, то хадзем, — доўга не ўпіраўся Іллюк. — Нагда трэба расслабіцца. А заўтра ў нас з Панасавічам атветственны дзень — загадана вакцынацыю ад яшчура правесці. Нагда лучша апярэдзіць яго, чым апасля хапацца, гнацца за ім…

І яны «зібалі» на Хведзькаў падворак: гаспадар — наперадзе, а Іллюк Нагда, трымаючы неразлучную «лісапету» за руль і сядло, схіліўшыся над ёю, нязграбна дыбаў следам, цяжка перастаўляючы прыкметна-такі стаптаныя і запыленыя «кірзачы»…

…Іду па вуліцы, азіраюся, быццам перапалоханы гэтай нязвыклай цішынёй і пустэльнасцю на ёй, і туга-журбота, як стрэмкаю забыцця, паколвае ў сэрца: ці я позна вярнуўся сюды, ці яны рана пакінулі гэтыя зніякавелыя хаты, заўчасна пайшлі адсюль?

Хто ведае, што было б, калі б я зноў убачыў іх такімі, якімі сустракаў раней? Відаць, ужо не смяяўся б — хаця б і ў душы! — а выцер слязіну, якая ўзбегла б на вейкі ад любасці, што зноў апынуўся сярод людзей сваіх. Быццам пасядзеў з ім на парозе дабрыні і шчымліватага болю па незваротных імгненнях жыцця, якім ужо ніколі не паўтарыцца, а толькі суджана сагрэць душу і сэрца незабыўным, ды такім салодкім успамінам.



## Таццяна МУШЫНСКАЯ

### «ГОРКІ ПРЫСМАК РАССТАЙНАЙ ДАРОГІ...»

* * *

Расхінулася неба
Блакітам бязгрэшным,
І жыцця далячынь
Мне здаецца бязмежнай.

Праменні іскрыста
На хвалі іграюць,
Зіхоткае свята
Душы абяцаюць.

Чапляюцца воблакі
За соснаў кроны.
Дзень нарадзіўся —
Вясёлы й зялёны.

Усміхаецца неба
Бяздоннай пяшчотаю.
Усміхаюцца дрэвы,
Што няма адзіноты.

---

***Мушынская Таццяна Міхайлаўна*** *нарадзілася 26 чэрвеня 1958 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991 года — рэдактар аддзела музыкі часопіса «Мастацтва».*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных кніг «Я вандрую ў стагоддзях» (1998), «Рабро Адама» (1999), «Сны кахання» (2006), «Души ожиданье» (2006), кніг прозы «Доўгае развітанне» (1997), «Джульета і экстрасэнс» (2013), кніг для дзяцей «Калі тата — Дзед Мароз» (2000), «Свята печанай бульбы» (2003), «Вожыкі ў футбол гуляюць» і інш.*

Празрыстае мроіва
Над лугам дрыжыць.
Неабдымная радасць
У сэрцы звініць.

Вясёлкавай радасцю
Свет азораны —
І пад сонцам сляпучым,
І пад зыркімі зорамі.

* * *

Спачатку Бог стварыў Любоў,
Мелодыяй яе чамусь назваў.
Напэўна, каб, узнёслая, яна
Зрабілася заўсёдным камертонам
І вызначэннем правільнага тону
Ва ўсіх учынках нашых і Яго.
А потым Бог стварыў і Жэст, і Слова.
Нарэшце на планеце ўсё было гатова...
Ды вызначальнаю пакінуў ён Любоў.
Мелодыяй яе чамусь назваў.

* * *

Водар акацыі белай,
Хмельнай, салодкай і спелай,
Водар акацыі белай
Мне закружыў галаву.

Сцежкі даўно утравелыя,
Хмельныя вусны і смелыя...
Ой ты, акацыя белая,
Тайну маю зберажы!

Дрэва зялёныя косы,
Лугу гаючыя росы...
Сэрца ўзлятае ў нябёсы,
Птушкай сігае ў траву.

* * *

Чаму пагляд твой кожны —
Як сонечны прамень,
Што свеціць, ззяе, грэе
І ў ноч, і ў ясны дзень?

Чаму твой кожны дотык
Заўжды мяне хвалюе
І далягляды светлыя
Міжволі намалюе?

* * *

З хаосу згадак я
Гармонію ствару.
Самоту ўласную
Ператвару я ў вершы.
У вершах будзеш ты
Героем лепшым, першым.
Цябе я слухаю —
З Сусветам гавару.

## НОЧ

У глухой, непрытульнай,
Непрыветнай начы
Мне не зможа ніхто
І ніяк памагчы.

Як віруе рака —
Паглынае адчай.
А туга ўсё шчыльней:
«Ты стрывай, ты стрывай!»

І век доўжыцца цемрадзь
Непрытульнай начы.
Хоць гукай, хоць ты кліч,
Хоць ты плач і крычы.

А за цёмнымі вокнамі —
Чалавечыя лёсы.
А пад цёмнымі вокнамі —
Елак хмурыя косы.

Ой, зара-заранiца...
Слепіць вочы святлынь.
Быццам пробліск надзеі —
Неабсяжная сінь.

* * *

Завея віхрыць у прасторах бязмежных,
Сплятаючы белых нітоў карагоды.

Пачую я ў пошуме стылай завеі
Крок новага веку, крок новага году.

Завея акрэсліць мне лёсаў узоры,
Яна намалюе любімыя твары.
Ў завейнай прасторы ўміг выблісннуць зоры,
Завея трывожыць нязбытнасцю мары.

Завея варожыць бясконцасцю руху,
Яна зачаруе няспыннаю страсцю,
Яна замятае няўдачы і скруху,
Завея наблізіць жаданае шчасце.

* * *

Па лёгкіх прыступках
Тваёй радасці
Узнімаюся ўсё вышэй і вышэй —
Ажно да самага неба…

* * *

Пасеяў вецер ты міжволі, незнарок.
Цяпер ты пажынаеш шторм і буру.
Так уваходзяць у марскія хвалі,
Спакойныя, пяшчотныя на выгляд,
Што асалоду толькі абяцаюць.
Ніхто не ведае, што цішыня ў самой сабе
Магутны, несціханы шторм хавае.
Што мне зрабіць, калі ў пачуццях шторм,
Калі ў душы грыміць ён і ў крыві?
Як ацалець і як уратавацца,
У буры цэлай і жывой застацца?
Пачуццяў мора! Мы — плыўцы абое.
Ніколі мора нам не пераплыць,
Хоць бы жывым да берага даплыць!
Адчуць нарэшце дно, надзейную зямлю...
Пасеяў вецер ты — суціш яго. Малю!

* * *

Цішыня
Ціхамірна маўчыць.
Цішыня
Адчайна крычыць.
Цішыня
Скавыча і плача.

Цішыня
Рагоча і скача.

* * *

Палон радка за ўсе
Палоны саладзей.
Палон радка —
Радзей, радзей, радзей!
Я — між людзей,
Я — між падзей.
А ён прыходзіць
Да мяне радзей...

* * *

Калі ўласная свядомасць
Здаецца табе
Нерухомай і мёртвай пустыняй
І, у які бок ні крыкні,
Ніхто і нішто табе не адгукаецца —
Ні людзі, ні неба, ні прырода, —
Што рабіць тады
Самотнаму чалавеку
Са сваёй самотай
На самотнай зямлі?

* * *

Мы калісьці блукалі з табой
Лугавымі сцяжынкамі роснымі.
Ды жыццё развяло, павяло
Нас сваімі шляхамі няпростымі.

І няхай шмат гадоў праміне,
Хваляванні адыдуць, трывогі, —
Адшукае паўсюды мяне
Горкі прысмак расстайнай дарогі.

**Валянціна ЛОКУН**

# МАСТАЦКІ «КОД» АЛЕНЫ БРАВА

Здаецца, што пра вайну мы ведаем ужо ўсё. Ці амаль усё. І пра Першую сусветную, і пра Другую сусветную. Ад непасрэдных яе ўдзельнікаў: Э. Хемінгуэя, Э. М. Рэмарка, Р. Олдзінгтона, А. Барбюса, М. Гарэцкага, В. Быкава, Ю. Бондарава, Р. Бакланава, В. Някрасава, К. Сіманава, В. Гросмана… Літаратура ўспрымала вайну дзіцячымі вачыма («Апошнія і першыя» Б. Сачанкі, дылогія «Партызаны» А. Адамовіча, «За сто кіламетраў на абед» І. Чыгрынава) і жаночымі («У вайны не жаночы твар» С. Алексіевіч). Сапраўдны ўсплёск мастацкай свядомасці ў свой час выклікала аповесць В. Казько «Суд у Слабадзе». Аднак у літаратуру прыходзяць усё новыя пакаленні творцаў — са сваім стаўленнем да вайны, найчасцей да памяці вайны. З'яўляюцца новыя тэксты, новыя «формазместы», новыя прачытанні вайны.

Незвычайна і смела падышла да гэтай тэмы Алена Брава. Творы пісьменніцы займаюць адметнае месца ў беларускай культурнай прасторы — пачынаючы ўжо ад першых тэкстаў: «Бязлітасны мой воін» (2001), «Імя ценю — святло» (2003), «Каменданцкі час для ластавак» (2004).

«*У писателя есть одна обязанность,* — адзначыць А. Карлюкевіч у інтэрв'ю з пісьменніцай, — *рассказать о том, что он как человек наделенный талантом особого зрения, рассмотрел вокруг себя. И совсем не важно, является ли художник слова привязанным к одной теме, пишет о давно ушедших событиях или создает фантастическую картину завтра. Главное — правда и разговор о ней со своим современником*» [1, с. 199]. А. Брава, цалкам пагаджаючыся з літаратуразнаўцам, таксама лічыць сваім абавязкам «*рассказать именно правду, хотя при этом мне часто приходится разбивать типичные иллюзии*» [1, с. 201].

Проза А. Брава рэалістычна заземленая і алегарычна-метафарычная, псіхалагічная і інтэлектуальна вытанчаная, філасофская і публіцыстычная. Яна прасякнута трагічным адчуваннем свету і болем за кожнага асобнага чалавека. Яна — рознастылёвая і інтэртэкстуальная. Як падкрэсліць І. Шаўлякова, проза А. Брава «*паўстае з дзіўнага сінтэзу жорсткай рэалістычнасці, нават натуралістычнасці і пранізлівай эмацыйнай шчырасці, якая на піку аповяда пераходзіць у пачуццёвую аголенасць*» [2, с. 6].

Такой «*пачуццёвай аголенасцю*» вызначаецца і невялічкая па памеры, але ёмкая па думцы і ўнутранай энергетыцы аповесць «Дараванне». Упершыню твор быў надрукаваны ў часопісе «Маладосць» у 2011 годзе. У перакладзе на рускую мову аповесць друкавалася ў расійскім часопісе «Сибирские огни». Літаратурная Асацыяцыя пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў (г. Масква) адзначыла твор беларускай пісьменніцы літаратурнай прэміяй Канстанціна Сіманава. Летась аповесць А. Брава выйшла асобнай кніжкай адразу на трох мовах (беларускай, рускай і нямецкай) у Выдавецкім доме «Звязда» пад назвай «Дараванне = Прощение = Vergebung». Заключае гэты незвычайны выдавецкі праект змястоўнае «интервью-послесловие» «Диалог со временем» вядомага пісьменніка і літаратуразнаўцы Алеся Карлюкевіча з аўтарам кнігі.

Фармальна тэкст складаецца з дзвюх сюжэтных ліній. Першая — жыццё гераіні «тут і зараз», другая, рэтраспектыўная, — яе мінулае жыццё, або, дакладней, «не-жыццё».

Галоўная гераіня аповесці Ларыса Вашкевіч-Краўз, народжаная ў 1966 годзе ў Беларусі, жыве ў Германіі, даглядае немца Ганса, ветэрана вайны, які пакутуе на хваробу Альцгеймера — від бяспамяцтва, вельмі распаўсюджаны ў Германіі і іншых развітых краінах Еўропы. Ларыса прыехала сюды з невялічкага беларускага горада, але нібыта ў іншы свет патрапіла — такая бездань раздзяляла яе краіну і Германію ў соцыуме, у побытавым жыцці. Гэта былі «*дзве цывілізацыі, якія ўмудрыліся паралельна суіснаваць на рубяжы тысячагоддзяў на еўразійскім кантыненце*» [1, с. 19]. Матыў супастаўлення жыцця і не-жыцця — яскрава вылучаецца ў тэксце. З аднаго боку, пральныя машыны-аўтаматы, пра якія гераіня нават не чула, чыстая бруканка, быццам бы вымытая «*найдалікатнейшым дзіцячым шампунем*», і нават «*велічэзны куст руж, якія глядзелі навокал з годнасцю каранаваных асоб*» [1, с. 19]. Усё сведчыць аб парадку і годнасці. З другога — спрэс бруд і смецце, убогія клумбы, на якіх нават кветкі былі «*прасякнуты страхам, што іх патопчуць, вырвуць з коранем, ліквідуюць як клас, і таму намагаюцца выглядаць драбнейшымі, непрыкметнейшымі, прыніжана сціснуцца ў камяк, як і людзі ў тым горадзе, — нават кветкі разумеюць, дзе ім выпала нарадзіцца*» [1, с. 19]. Вось так, па-мастацку ўдала сацыялагізуе аўтар знешні свет, атрыбутыку гарадскога жыцця. Толькі ўсё гэта трэба ўспрымаць найперш як асабістыя стасункі гераіні да краіны, — у якой нарадзілася, і той, дзе жыве. У гэтым плане «Дараванне» перагукваецца з аповесцю «Каменданцкі час для ластавак», дзе гераіня, апынуўшыся на Кубе, пазначае свае адносіны да радзімы, ствараючы сваю версіфікаваную мадэль «псеўдарэальнасці», «не-жыцця», укладваючы ў гэты «праект» жыцця шмат пачуццёвасці, асабіста перажытага.

Жыла Ларыса ў краіне, прыдуманай трыма стваральнікамі «*вялікага вучэння*», «*трохгаловай істотай*», у краіне, якой на самай справе не існавала, «*а існавала іншае: вечная галеча, мокрыя ногі, абгорнутыя газетай (дзякуй, маці навучыла) усё з тымі красамоўна канстатуючымі факт усеагульнага і поўнага працвітання тэкстамі — мокрыя ногі ў працякаючых, яшчэ матчыных, ботах...*» [1, с. 15] Было фантастычнае жыццё ў фантастычнай краіне, дзе «*прызвычаіліся да звышвопыту болю*», дзе «*чалавечая пакута вымяралася такімі маштабнымі катаклізмамі, як вайна, рэпрэсіі, Чарнобыль*» [1, с. 14]. Пэўна таму, гераіня і прыйшла да высновы, што яе «*асобна ўзятае няшчасце нікога не ўражвала, дый увогуле мала што значыла*» [1, с. 14]. Як нічога не значыла і жыццё яе маці, «*змардаванае катаржным бытам*» і скончанае ў пакутах: пасля інсульту, яшчэ жывая, яна гніла ў перапоўненым калідоры бальніцы, «*дзе інтымнасць растаптана, няма ўжо ні мужчын, ні жанчын, адно бясполыя істоты, як перад печчу крэматорыя*» [1, с. 16].

Соцыум дэвальваваў і жыццё, і смерць чалавека. «*Нічыя смерць ужо нічога не ў стане даказаць. Як і нічыё жыццё. Яе, Ларысы Вашкевіч-Краўз у тым ліку*» [1, с. 14]. Жыццё ахвярнае, без магчымасці самарэалізацыі, жыццё-мана.

Як і ранейшыя героі А. Брава, Ларыса надзелена вельмі тонкай душэўнай арганізацыяй, другім сваім унутраным «я» — самаахоўным, выратавальным. Яна ратуе сябе самападманам — рэальнай стратай зроку. (У аповесці «Рай даўно перанаселены» пісьменніца аналагічна выкарыстоўвала метафару Шклянога яйка.) Гераіня жыве ілюзорнымі спадзяваннямі, што «*усё ў яе зараз будзе «як у людзей»*». Толькі ж — як, «*як у людзей*»? Усе савецкія людзі жылі па адных законах, хадзілі ў адзін дзіцячы садок, адну школу, адну ВНУ, мелі адзін прафсаюз, адну кампартыю, адных правадыроў і, нарэшце, адну калектыўную свядомасць. Соцыум нівеліраваў жыцці людзей. А Ларыса хацела быць шчаслівай. Адметнай. Значыць, не такой, як усе. Свае ілюзіі яна пачала страчваць пасля інстытута, асабліва пасля шлюбу. Муж спачатку спіўся, потым прайграўся і, нарэшце, павесіўся на дзязе на трубе батарэі ацяплення — «*у іх пустой, хоць у футбол гуляй, аднапакаёвай кватэры*» [1, с. 16]. Пасля другіх за год хаўтураў гераіня зразумела,

што «*страта зроку выратоўвала яе ад страты розуму: яе «я» інстынктыўна хавалася ў кокан слепаты, каб не бачыць, а жыццё гвалтоўна расплюшчвала ёй вочы — не, адразу павекі! — і вось цяпер яна ўспрымае свет аголенай сятчаткай, як, напэўна, успрымалі Сонца будыйскія містыкі*» [1, с. 17]. Містыкі рабілі над сабой бязлітасную аперацыю, каб стаць відушчымі, а яна па ўласным жаданні рабілася сляпой — «*наіўная дурышча з тыповым комплексам шматпакутніцы-гаротніцы*» [1, с. 17].

Стаўшы відушчай, Ларыса пакідае Бацькаўшчыну. Гэта быў яе пратэст супраць не-жыцця. Тым больш, што трэба было ратаваць дачку, у якой дактары знайшлі спадчынную хваробу зроку — міяпію. Дачка, як і яе маці, пачала страчваць зрок. Вось і выбрала ў шлюбным агенцтве 33-гадовая Ларыса сабе новага мужа — заможнага немца Ральфа Краўза. Галоўным аргументам у яе выбары было тое, што Ральф не ўжывае алкаголь і робіць ранішнія прабежкі. Дзеля Светкі, супакойвае сябе Ларыса, пакінула яна свой дом, дзеля Светкі яна «*будзе цярпець маразматычныя выхадкі Ганса, не больш страшныя, чым ранішнікі ў спецгрупе для даўнаў*» [1, с. 19]. Толькі ж у сапраўднасці, жывучы ў Германіі, гераіня тым не менш будзе адчуваць «*тугу па радзіме!*» [1, с. 29] І менавіта гэтую тугу яна прыкрывае «*хітрыкамі Мнемазіны*», «*выбіральнасцю свайго ўнутранага зроку*», схільнаму да змрочных шкельцаў.

Ці знайшла сваё шчасце гераіня А. Брава ў далёкай Германіі? Здаецца, гэта зноў-такі было жыццё самотніцы, жыццё-існаванне, жыццё-ахвяраванне — мужу, якога яна не кахала (ды і ён трымаў яе дома не столькі за жонку, а як больш танную для яго кашалька сядзелку), і дачцэ, з якой яны так і не сталі духоўна блізкімі. І ўвогуле вобраз Светкі эпізадычны ў творы, дакладней, службовы — вобраз-«аргумент» у выбары галоўнай гераіні. Дый увогуле і галоўнае ў аповесці — не «псіхатып», не характар, а мадэлюемая аўтарам сітуацыя, з якой паступова будзе «вырастаць» галоўная тэма твора — тэма памяці вайны, памяці — як даравання і памяці-бунту. У структуры тэксту з'явіцца і галоўны «носьбіт» вайны — Ганс Краўз, дакладней, ён прысутнічаў і раней, толькі хутчэй у якасці «фону».

Звароты пісьменніцы да матыву памяці вайны былі выкліканы яе адчуваннем «*катастрофической для человечества в целом черты: отсутствие исторической памяти*» [1, с. 203]. А *«страціўшы памяць, непазбежна губляеш ісціну»* [1, с. 11], бо ісціна, як тлумачыць аўтар, у перакладзе са старажытнагрэчаскай «алетейя» абазначае «*адсутнасць забыцця*» [1, с. 11]. Гэтая філасофская максіма пісьменніцы літаральна паўтарае словы рускага пісьменніка В. Распуціна: «*Правда в памяти. У кого нет памяти, у того нет и жизни*» (аповесць «Жыві і помні») [3, с. 158].

Адным з першых пісьменнікаў, які ўзняў праблему памяці вайны, памяці як віны, быў англійскі пісьменнік Р. Олдзінгтон, удзельнік Першай сусветнай вайны, аўтар рамана «Смерць героя». Ён адчуваў асабістую віну за ўсіх забітых на вайне, за ўсіх яе ахвяр. Пісьменнік лічыў, што памяць-віна павінна быць унутры кожнага з нас, маральная, духоўная. «*Увесь свет вінаваты ў крывавым злачынстве, увесь свет нясе на сабе пракляцце, нібы Арэст, і звар'яцеў, і сам імкнецца да пагібелі, нібы Зуменір*» [4, с. 55]. Р. Олдзінгтон вінаваціўся не толькі за тых, хто загінуў, але і за тых, хто забіваў. Больш за тое, пісьменнік лічыў, што гэты цяжкі крыж на сваім сумленні нясуць не толькі яны, удзельнікі і сведкі вайны, але і тыя, «*хто ідзе за намі*» [4, с. 56]. Усе атруціліся памяццю-віной і ўсе — кожны ад сваёй — павінны ад яе збавіцца. «Смерць героя» — гэта і ёсць пачатак збаўлення ад віны — асабістай і агульнай, усечалавечай. Ці не такая ідэя-віна нарэшце была ўсвядомлена і быкаўскім героем Сотнікавым («Сотнікаў»). І ўжо нібыта сам Хрыстос, ідзе на смерць Хведар Роўба, узяўшы віну сына і людзей, што за ім палявалі, як за ваўком, на сябе — разам з сабою, утапіўшы ў балоце («Аблава»). Ці не такой ідэяй-віной кіравалася ў сваім жыцці і смерці пакутніца Сцепаніда Багацька («Знак бяды»)?

З развіццём гуманістычнай думкі, якая ўсё больш кіравалася ў бок хрысціянскай маралі, асабліва напрыканцы ХХ— пачатку ХХІ ст., катэгорыя памяці-

віны будзе эвалюцыянаваць у катэгорыю памяці-даравання. У тэкстах А. Брава паняцце памяці звязана з духоўнай «сферай» чалавека. «*Память — это зеркало духовной красоты бабушки*», «*чью душу не смогли высушить ни война, ни смерть близких, ни клеймо дочери врага народа*» [1, с. 202], — скажа пісьменніца пра гераіню аповесці «Рай даўно перанаселены». Такой жа духоўна багатай з'яўляецца і гераіня «Даравання», толькі яе моцны дух схаваны пад маскай «клінічна абвостранай уразлівасці».

Паступова ўся структура тэксту будзе напоўнена матывам памяці — індывідуальнай, калектыўнай, нацыянальнай. Дакладней, бяспамяцтва. Кожнае новае пакаленне ўсё далей адыходзіць ад трагедыі вайны, імкнецца пазбавіцца ад гістарычнай памяці, «*як ад старой рухлядзі*». На думку аўтара, асабістая памяць чалавека ёсць «*набор вопыту*». У маладых яна пустая, «*як незапоўнены лазерны дыск*» [1, с. 32]. Гэтай памяці проціпастаўляецца калектыўная памяць, памяць народа. Наколькі больш прадуктыўным было б жыццё чалавека, калі б ён нараджаўся by defanlt, з ужо запісанымі ў галаве гатовымі копіямі файлаў з рэсурсу калектыўнай памяці. Напэўна, тады, перакананна пісьменніца, «*чалавецтву хапіла б усяго адной вайны, якая б стала апошняй*» [1, с. 33].

Драму сучаснасці А. Брава бачыць у тым, што ніхто не можа пакарыстацца чужой памяццю, а, дакладней, не хоча. Публіцыстычны голас аўтара ўзрастае. Пісьменніца звяртаецца да рэальнай інфармацыі. Праз шэсцьдзясят гадоў пасля Халакоста жыхары Дахау падтрымалі ідэю закрыцця мемарыяла, які быў створаны на месцы былога нацысцкага канцлагера, а жылыя дамы, змешчаныя побач з крэматорыем, лічацца лепшымі, бо прылягаюць да ціхіх зялёных раёнаў. Ды і сам Дахау цяпер папулярны найперш дзякуючы тамтэйшаму бардэлю.

Сімптомам бяспамяцтва пазначаны і мясцовы рускамоўны эмігранцкі часопіс, што выдаваўся былымі аўтахтонамі СССР. У рубрыцы «9 мая ў сусветнай гісторыі» няма нават напамінку пра май 1945 года. Замест гэтага, там можна было прачытаць, што «*9 мая 1964 года на вяршыні амерыканскага хітпараду апынуўся «вялікі Луі Армстранг з песняй «Hello, Dolly*» [1, с. 31]. Або пра тое, што наш суайчыннік 24-гадовы Аляксандр, зрабіўшы 35 аперацый, ператварыўся ў Аляксандру. Цяпер 9 мая — дзень яго «*цудоўнага ператварэння*», дзень народзінаў.

«*Чаму ніводнае пакаленне не жадае пакарыстацца крэдытам — беспрацэнтным! — з банка агульначалавечай памяці...*» [1, с. 41] — усклікае А. Брава разам са сваёй гераіняй. Гісторыя чалавецтва, лічыць пісьменніца, — гэта гісторыя бяспамяцтва. «*Кожны з людзей самотны, нібыта рукавіца, згубленая ў снезе, мы хапаемся, як за абломкі ільдзін, за высновы аўтараў кніг, але яны ўжо не спатрэбяцца нам, бо свету, у якім жылі тыя, больш не існуе. Суцэльныя пласты рэальнасці адколваюцца ад нашага берага і касяком адыходзяць у нішто*» [1, с. 42]. Такім чынам, і болю вайны не існуе, бо гэты боль — вопыт мінулых пакаленняў, жыццё якіх таксама «*адыходзіць у нішто*».

Сваю ідэю памяці-бяспамяцтва пісьменніца падмацоўвае характэрным для яе стылю алегарычным пісьмом. Яна ўводзіць у мастацкую прастору твора сімвалічны сон-забыццё гераіні, у якім падаецца міфалагізаваны вобраз Мнемазіны (у старажытнагрэчаскай міфалогіі — дачка Урана і Геі (або Зеўса і Клімены), багіня памяці. Мнемазіна танцуе з люстэркам, «*нібыта на подыуме, на астраўку сушы, які катастрафічна змяншаецца, а ўнізе струменіцца Лета. Люстэрка тытаніды і зімовая вада Леты адлюстроўвае адно ў адным, памяць сцірае забыццё, забыццё змывае памяць...*» [1, с. 42] Такі двухадзіны працэс развіцця гістарычнай памяці, па А. Брава.

«*Аповесць «Даравание»,* — скажа С. Марозава, — *факт надзвычайнай смеласці аўтаркі. Алена Брава ўзялася за складаную тэму (маю на ўвазе тое самае «рэха вайны») — і здолела сказаць у ёй сваё слова, а адэпты ваеннай тэмы прызналі аповесць «сваёй». А між тым яна — пра сучаснасць*» [5, с. 4]. Так, пра сучаснасць, але і пра вайну таксама. У першую чаргу пра вайну. Пра **вайну**, якая адлюстроўваецца ў свядомасці сучаснікаў.

Вобраз ветэрана вайны Ганса — гэта ўжо іншая ідэя памяці. Быў май 1944 года, пачыналася адступленне нямецкіх войск. У гэты час Ганса і прызвалі на фронт. Ваяваць 17-гадовы юнак не хацеў. Але з жаданнямі такіх, як ён, ніхто не лічыўся. Яго накіравалі ў тылавы гарнізон, што пад Мінскам. Там ён праслужыў усяго два месяцы, быў цяжка паранены і — на гэтым вайна для яго скончылася. Гэта — знешні бок вайны Ганса Краўза. Але была ў Ганса яшчэ адна вайна, яго, асабістая, якая была схавана глыбока ў яго памяці, і толькі пасля сустрэчы з Ларысай узбунтавала яго хворую свядомасць. Ганс нібыта зноў вярнуўся ў невялічкі гарадок пад Мінскам, дзе некалі жыла яго Зоська, а зусім нядаўна адтуль прыехала Ларыса. Былы ветэран канчаткова страціў уяўленне пра свой узрост, жыў кашмарамі вайны, якую ў далёкім 1944 недаваяваў, бо не пакараў зло. Яго псіхалагічны стан перадаецца праз неадэкватнасць яго паводзін. Ён «*перасоўваў мэблю, вытрэсваў скрыні з тумбачак, выкідваў адзенне з шафы, здзіраў бялізну з ложкаў...*» [1, с. 21] А пасля пачаў размаўляць з люстэркам, усё парываўся знікнуць з дома.

Не адразу Ларыса прыняла паводзіны Ганса і яго вайну. Пра той трагічны час яна ведала ад бабулі. У час вайны яе бабуля з трыма дзецьмі сядзела ў балоце, па пояс у ледзяной жыжы. А на іх палявалі немцы з паліцаямі. Дзеля выратавання дваіх старэйшых, яна ахвяравала малодшым, двухмесячным, усунуўшы яму ў рот смочку, аж пакуль той не задыхнуўся. Бацька Ларысы пасля жыў па дакументах таго немаўляці, бо ягоныя згарэлі разам са спаленай хатай. Памяць Ларысы спачатку адмаўляла памяць Ганса, яе ўвесь час тачыла думка: «*А раптам Ганс быў у тым лесе?*» [1, с. 30] Хацела нават кінуць усё «*да д'ябла*» і вярнуцца дамоў — «*але як пакінуць тут Светку?*» [1, с. 28]

Алена Брава перадае амаль дакументальна працэс развіцця хваробы Ганса. Стары ўсё глыбей пагружаўся ў **сваю** вайну. Ён капаў акопы, разварочваў ложак, размаўляў з люстэркам, хаваўся ад людзей-адбіткаў, хапаўся за галаву, стагнаў. І трызніў, трызніў.

Ганс — таксама ахвяра вайны. Ён не хацеў ваяваць, не хацеў нікога забіваць, асабліва безабаронных жанчын і дзяцей. Ён хацеў жыць, кахаць сваю Зоську. Гэта ён папярэдзіў жыхароў вёскі, што заўтра карнікі будуць іх спальваць, і ўратаваў іх. Толькі іх усё роўна пасля высачыў мясцовы паліцай на востраве ў балоце. Іх расстралялі, а пасля спалілі. Расстралялі і Зоську. Яна была разам з маці. З тых часоў і шукае Ганс паліцая, — каб адпомсціць за Зоську, за сваё каханне, за жыццё сваё, зруйнаванае вайною і людзьмі.

Калі матыў даравання — дамінанта вобраза Ларысы, то з вобразам Ганса звязаны матыў памяці-помсты. Пачынаючы з процістаяння, гэтыя два матывы-канцэпты будуць пастулова збліжацца. Яшчэ нядаўна Ларыса хацела кінуць мужа, «*каб ніколі больш не бачыць Ганса бегаючым па доме ў мілітарысцкай кашулі, не чуць яго «Auf Wiedersehen... Auf Wiedersehen...*» [1, с. 55] Яшчэ нядаўна яна марыла здаць яго ў багадзельню хоць на кароткі тэрмін, а лепш, каб назусім. І вось мара Ларысы збылася. Яна адвезла Ганса ў дом састарэлых, пакуль на 21 дзень. Але замест таго, каб радавацца, Ларыса адчувае нейкі невытлумачальны ўнутраны неспакой. Яна пачала бараніць Ганса перад доктарам, яна супраць павелічэння дозы мелперону, бо печань старога можа не вытрымаць. А развітваючыся з Гансам, «*яна абняла і пацалавала старога ў вялую прахалодную шчаку — упершыню за час іх жыцця пад адным дахам*» [1, с. 57]. А вось і словы Ганса, звернутыя да яе, Ларысы: «*Не пакідай мяне! — раптам сказаў Ганс, абсалютна разумна гледзячы на яе*» [1, с. 57]. Ад усяго гэтага Ларыса адчула «*камяк у горле*». «*Няўжо яна даравала яму, былому акупанту?*» [1, с. 55]. Так, гераіня даравала Гансу-акупанту, даравала, не жадаючы гэтага, супраціўляючыся гэтаму пачуццю. Ларысу «*калаціла*», і яна раптам зразумела, «*што калоціць яе не ад холаду, а ад адчування віны — канечне ж, абсалютна недарэчнага*» [1, с. 57].

Ларыса-жанчына даравала Гансу-нацысту яшчэ да прачытання запісаў апошняга. Гэта — вельмі істотны момант у трактоўцы вобраза гераіні. Запісы Ганса толькі паскорылі яе рашэнне забраць хворага дамоў. Сімвалічна, што менавіта

яна, жанчына са славянскай, **беларускай** душою, адважылася на такі высокадухоўны, хрысціянскі ўчынак.

Разам з тым напрошваецца яшчэ адна выснова. А. Брава, як правіла, працуе ў фармаце адмысловага алегарычнага пісьма, максімальна метафарызуючы свае дыскурсы. Улічваючы гэтую акалічнасць, можна сказаць, што пісьменніца ў гэтым тэксце распісала хваробу Альцгеймера не толькі ў дачыненні да аднаго хворага, але і ў дачыненні да ўсяго сучаснага грамадства, якое ўсё выяўней пачало пакутаваць на бяспамяцтва, на праявы гэтай хваробы, якія носяць нечакана прыгожыя грэчаскія назвы: агнозія, афазія, апраксія. Словы пісьменніцы аб распаўсюджанні хваробы Альцгеймера ў тэксце сустракаюцца некалькі разоў, што наводзіць на думку аб яе тыповасці.

Крытык М. Верціхоўская слушна адзначыла, што «*гераіні твораў А. Брава — дзеці свайго часу, яго люстэрка*» [6, с. 6]. Такім жа люстэркам свайго часу з'яўляецца ўся творчасць пісьменніцы. Як падкрэсліла сама А. Брава, яна адлюстроўвае свет не толькі праз сваё асабістае «я», але праз «я» ўсяго свайго пакалення. «*Дело писателя — попасть в «десятку» надежд и тревог своего поколения, максимально точно выразить дух времени. У каждой эпохи свой собственный код. Его и нужно стараться почувствовать и выразить*» [1, с. 206]. Да гэтага дадамо, што пісьменніца мае і свой індывідуальны мастацкі «код», які і дапамагае ёй выразіць «код эпохі».

## Спіс літаратуры:

1. Брава, А. В. Дараванне = Прощение = Vergebung : аповесць / Алена Брава ; пер. на ням. мову Андрэ Бёма. — Мінск : Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 208 с.
2. Шаўлякова, І. Міфалогія (святла) целаў / І. Шаўлякова // ЛіМ. 2011. — 25 сакавіка.
3. Распутин, В. Прощание с Матёрой / В. Распутин // Распутин, В. Повести / В. Распутин — М. 1976.
4. Манн, Т. Художник и общество / Т. Манн // Называть вещи своими именами: программные выступления мастеров западноевропейской литературы XX века — М., 1986.
5. Марозава, С. Дараванне памяці / С. Марозава // ЛіМ, 2012. — 27 студзеня.
6. Верціхоўская, М. Рай абароненасці / М. Верціхоўская // ЛіМ, 2012. — 13 ліпеня.

Артыкул пастуміў у рэдакцыю 8 кастрычніка 2013 года.

## Валянціна ЛОКУН
## Мастацкі «код» Алены Брава

### Рэзюмэ

У артыкуле даследуюцца адметнасці творчасці Алены Брава, якая мае і свой індывідуальны мастацкі «код», што і дапамагае ёй выразіць «код эпохі».

## Valiantsina LOKUN
## The Artistic «Code» of Aliena Brava

### Summary

The article analyses Aliena Brava's artistic characteristics, her artistic «code», that helps to express the «epoch code» as well.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# «ПАМЯЦЬ МУСІЦЬ ЦЯМІЦЬ»*
## *(нататкі пра сучасную паэзію)*

### Артыкул трэці

Гэта — «вершаказ» сучаснага Рыгора Барадуліна. Так, напэўна, мог сказаць Геракліт, калі б ён жыў сёння. Не проста радок, а завершаны, закончаны верш з вялікай прасторай думкі, праблемнасцю, ёмістым абагульненнем.

Гаворка ідзе пра філасафічнасць у паэзіі, філасафічнасць з уласцівай ёй усеабдымнасцю, багаццем жыццёвага і духоўнага досведу.

Каштоўнасць паэзіі не толькі ў тым, што яна адлюстроўвае супярэчнасці рэчаіснасці і паглыбляе ў чалавеку незадаволенасць сучасным станам рэчаў, але і ў тым, што яна пераадольвае гэтыя супярэчнасці і дапамагае духоўнаму ўпарадкаванню жыцця, выхоўвае, нягледзячы ні на што, надзею і аптымізм. Сучасная паэзія вучыцца самастойна думаць, і гэта можна лічыць перадумовай развіцця філасофскага пачатку. Існуе думка, што філасофія — атожылак паэзіі, вытворная ад яе. Услухайцеся ў гэтыя вось фрагменты з антычных філасофскіх тэкстаў (нездарма я ўспомніў Геракліта):

«Усім кіруе маланка»;
«Людзям не стала б лепш, калі б усе іх жаданні збыліся»;
«Час складаецца з асобных «цяпер»;
«Ва ўсім ёсць частка ўсяго».

Што гэта нагадвае? Мне здаецца, радкі М. Танка, які вырас з зямлі і ўзняўся да самых высокіх вяршынь духу, не адарваўшыся ад яе. Ён не выбіраў паміж матэрыяльным і духоўным, а як стыхійны дуаліст (ад філасофскага паняцця дуалізм) натуральна і нязмушана сцвярджаў гэтыя два пачаткі ў іх гарманічнай згодзе і спалучанасці. У сваю сталую, познюю пару Танк пісаў, звяртаючыся да старажытнай міфалагізацыі, гуманістычнай і філасофскай па сваёй сутнасці:

Зямля трымаецца на трох сланах,
Сланы — на велізарнай чарапасе,
Чарапаха — на голубе,
Голуб — на хлебным коласе,
Колас — на калысцы,
А калыска — на песні матчынай...
І пакуль песня будзе гучаць,
Калыска будзе калыхацца,
Зерне прарастаць,
Голуб — віць гняздо пад страхой,
Чарапаха — ісці Млечным Шляхам,
Сланы — пераступаць з нагі на нагу, —
Зямля будзе век
Зелянець, зелянець, зелянець...

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 12, 2013 г.; № 1, 2014 г.

У яго вельмі часта сустракаюцца прыёмы містыфікацыі, выкарыстанне дзіцячай непасрэднасці, наіву, казачнай парадаксальнасці, фальклору. Пашыраюцца асацыятыўна-філасофскія сувязі.

Не хацеў адставаць ад Танка Панчанка. Пытанні, якія задаваў сабе і іншым ён, былі напоўненыя ўнутранай экспрэсіяй.

І хто нам раскажа пра гэта,
Ці быў наш задуманы лёс
На грані крывавых трагедый,
Пад страхам пякельных нябёс?

Ці мы захацелі замнога
У прагнасці лютай сваёй
Ад маці-прыроды, ад Бога,
Ад крохкай натуры людской?

Забылі зямлі прыцягненне
І космасу жудасны лёд,
На розум зышло зацямненне,
Няма ўжо ні мар, ні натхнення:
Ля бездані — мудры наш род...

Пытанні заставаліся без адказу, але разам з пытаннямі заставалася і надзея. У тым ліку надзея і на паэтаў, на паэзію, на ўласцівы ёй узровень рэфлексіі, імкненне да асэнсавання супярэчнасцей унутранага свету чалавека і навакольнай рэчаіснасці, адчуванне глыбіні быцця.

У пачатку 90-х гадоў П. Панчанка пісаў пра свайго сабрата па паэзіі Р. Барадуліна: «У апошнія гады паэт напісаў многа вершаў і паэм, у якіх ён пазбавіўся палітызацыі і публіцыстычнасці (якімі многа грашылі некаторыя паэты, у тым ліку і я). Барадулін дападаў да самых першародных асноў народнага жыцця, працы, звычак, абрадаў, светапогляду». Нешта падобнае можна было сказаць і пра самога Панчанку, які ў гэты час таксама пачаў «дападаць» да першароднa-антала-гічных пластоў чалавечага быцця, ізноў пісаць пра «нятленнае», пра вечнае.

Сёння мастацка-філасофскі ўзровень нашай паэзіі ў многім вызначае творчасць Р. Барадуліна. Гэта буйны, шматгранны паэт.

Пра яго шмат пісаў слынны крытык Рыгор Бярозкін: «У Барадуліна ёсць найважнейшыя для паэта якасці: уважлівасць і цікавасць да ўсёй шкалы рэальных, жыццёвых каштоўнасцей. Тут, калі хочаце, яго канцэпцыя, яго ідэя. Мы цэнім ідэі, калі яны сфармуляваны. "Разлітыя" ў гуках, колерах і аб'ёмах, яны не заўсёды да нас даходзяць. Між тым сіла Барадуліна якраз у гэтым умельстве адчуць і перадаць у слове шматколернасць, рознамаштабнасць і "важкасць" усяго, што акаляе кожнага з нас і што складае паняцце жыцця ў сэнсе вопыту, кожнаму з нас даступнага».

Народная свядомасць — яна ўся ў слове, у мове. Для Р. Барадуліна слова — з'ява ўніверсальнага парадку, якая ўзыходзіць да сівой даўніны. Р. Бярозкін меў рацыю: мова стала для яго «хросніка» фактарам мастацка-эстэтычнага ўсведамлення жыцця. З дапамогай аднаго слова, адной рыфмы ён (а разам з ім і мы) авалодваем новымі адчуваннямі:

Быццам дыхае глыбіня,
Толькі ўслухайся:
пушча,
пашча,
Пошапт шчэбету —
шпачаня.
Не бывае
Мовы прапашчай!
*(«Андрэю Вазнясенскаму»)*

Выдатны літаратуразнаўца М. Бахцін пісаў (нібы прачытаўшы перад гэтым вершы беларускага паэта): «...мова патрэбна паэзіі ўся, усебакова і ва ўсіх сваіх момантах, ні да аднаго нюансу лінгвістычнага слова не застаецца абыякавай паэзія». Складваецца ўражанне, што паэзія і мова для Р. Барадуліна шмат у чым тоесныя:

Неруш ранішні —
родная слова,
Мне шукаць цябе, покуль гляджу,
Пад зялёным крысом верасовак,
Пад крысом і спякоты й дажджу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад абразы, ад позірку злога,
Шлях заблытаўшы для наслання,
Неруш ранішні —
матчына слова,
Мне, як бору, цябе засланяць.

*«Неруш»*

«Я родам з вайны, — гаворыць ён пра сябе. — Першая мая свядомая памяць — з вайны. Ушаччына была партызанскім краем...» Адсюль гэта — «Мне, як бору, цябе засланяць». Ён адваяваў у забыцця ідэйна-вобразную карціну мінулай вайны, жорсткіх блакад, ажывіў постаці тых людзей, якія ўдзельнічалі ў гэтай эпапеі (у лірыцы, у паэме «Блакада»).

Паэт нібы вызваляе стоеную ў слове духоўную энергію і, асвойваючы гістарычны вопыт народа, яшчэ і яшчэ раз нагадвае сучаснікам пра яго існаванне. Успомнім хоць бы Адама і Еву (з аднайменнага верша), якія жывуць дзесьці на Далёкім Усходзе — «капаюць бульбу у тайзе». Трэба быць Барадуліным, каб так гэта ўбачыць і так напісаць.

Інертная плынь жыцця 1970—1980 гг., застойныя парадкі, нерухомасць выклікалі ў паэта абурэнне (гл., напрыклад, паэму «Смаргонская акадэмія»). З сярэдзіны 1980-х гг. на нашых вачах руйнавалася сацыяльная і культурная супольнасць, якая ўвайшла ў гісторыю як эпоха аўтарытарызму і таталітарызму, і на яе абвалінах нараджалася новая рэчаіснасць.

Што адбываецца ў паэзіі Р. Барадуліна?

Павялічваецца філасофска-асацыятыўная ёмістасць мастакоўскага мыслення. Словы бяруцца паэтам не ў эмпірычным, а ў філасофскім сэнсе.

Чорны вол маёй трывогі,
Белы вол маёй надзеі
Цягнуць лямку да знямогі,
Змрок турбот ані радзее.
Плыўныя аблокі,
Крыгі,
Маладыя снегапады,
Як заядлыя барыгі,
Загрузіць па дышаль рады.

Абстрактна-ўмоўнае («чорны вол маёй трывогі») і мастацка-канкрэтнае («аблокі», «крыгі», «снегапады») сінтэзаваныя ў адным эстэтычным радзе. Мастацкая плоць паэтавай думкі прасякаецца духам абноўленага старажытнага міфа. Міфалагізацыя — адзнака ўніверсалізацыі паэтычнага мыслення.

Калі галоўны клопат сучаснай беларускай паэзіі — пошук сваёй нацыянальнай духоўнасці, то Р. Барадулін па-ранейшаму на чале гэтага пошуку. У 2005 г. убачыла свет кніга вершаў «Ксты», у прадмове да якой ксёндз Уладыслаў Завальнюк піша: «Кнігу “Ксты” можна аднесці да духоўнай літаратуры. Паэт у сваіх вершах звяртаецца да Госпада Бога і да кожнага чалавека. Ахрышчаны

ў каталіцтва рымскага абраду, а потым стаўшы каталіком усходняга абраду, Рыгор Барадулін у сваёй паэзіі па-над канфесіямі. Ён нясе людзям агульныя пастулаты Хрысціянства, якія і агульначалавечыя».

Але сумненні засталіся, пра што расказвае верш «Пытанне» з эпіграфам-прысвячэннем: «Сабе»:

Каму патрэбны мае радкі,
Мой шэпт салодкі,
Мой лямант горкі?
Прыцьмелі зоркі.
Прыселі ўзгоркі.
Зямлёй зрабіліся землякі.

Адно рака забыцця цячэ,
А дно глыбее ў яе штохвіліны.
Лёс абяцаў мне
Даць мёд чмяліны,
Які ніхто не спытаў яшчэ.

І травы й кветкі ўсе дацвілі.
Зьніцелі цені
Цемры ў дагоду.
Тым і жыву,
Што чакаю мёду.
Чаму ж зьляцелі мае чмялі?

Адназначнага адказу на гэтае пытанне даць нельга, таму што гэтае пытанне паэтычнае, у якім «за» і «супраць» жывуць разам і разам сведчаць пра час, у якім жывуць. Паэт у сваім развіцці імкнецца да цэласнага разумення і ўспрымання свету, жадае бачыць свет прыгожым, гарманічным, не хоча прымаць хаосу, якога хапала ў перабудовачныя гады ды і сёння таксама.

Хай будзе ўсё як будзе —
Рака цячэ ў вякі.
Хай вейкі асакі
Дрыжаць у перапудзе.

Хай людзіцца
бязьлюдзьдзе,
І ў раніцы з рукі
Расу п’юць жаўрукі.
Хай будзе ўсё як будзе.

Натхнёны паэт, Р. Барадулін глыбока ўзняўся ў сферы духу, аднак і тут, у духоўнай паэзіі застаецца язычнікам. Язычнікам, які не стамляецца дзівіцца тым запасам энергетыкі, якімі прыроду надзяліў Бог.

Сучасны чалавек, нягледзячы ні на што, не перастаў, не развучыўся ўспрымаць прыгажосць жыцця, дзівіцца яго навізне, хваляваццa, радавацца і сумаваць, знаходзячыся ў пастаянных сувязях з яго шматстайнай штодзённасцю, няспынным ходам і развіццём. Усё гэта жывіць філасофскую аснову паэзіі. Усё гэта надта блізка Васілю Зуёнку, які не стамляецца вяртацца да перажытага, да свайго паэтычнага досведу, аналізуе творчыя ўдачы і няўдачы, дашукваецца прычын і наступстваў.

Было: карпеў — але чаму
Мой верш гаркотная няўдача
Падсьцерагала, і яму
Я спачуваў зьнямелым плачам?..

Цяпер даўмеўся: ён ня мой —
Ён быў чужы, ён быў прыёмны,

Ён жыў чужою галавой
І ў дамаганьнях быў нястомны.

То партыя, то правадыр
Яго зацята дыктавалі,
І на зубах рыпеў, як жвір,
Харэй, а ямбам запівалі...

Мой верш, цябе я праклінаў, —
І ўсё ж чагосьці — а дамогся:
Душу сваю не распранаў,
Не прадаваў, маўчаў у злосьці.

Ну што ж, няхай не перамог
Нікога ў гэтай паняверцы.
Але душу сваю зьбярог
І не аддаў на згубу сэрца...

Філасафічнасць паэзіі В. Зуёнка грунтуецца на імкненні разгадаць загадку вялікіх і малых рэчаў, што спадарожнічаюць чалавеку ў жыцці. Гэтыя рэчы могуць здацца на першы погляд вельмі звычайнымі, будзённымі. Аднак тое, што з'яўляецца звычайным і прывычным для кожнага з нас, у паэта можа выклікаць асаблівую душэўную рэакцыю: ён здзіўляе нас нечаканасцю мастацкага адкрыцця. Вось як расказаў ён пра сваю дачу на знакамітай Лысай гары:

За грэбнем елак завостраным,
Я знаю, — за сіняй смугой,
Паляна сонечным востравам
Чакае прыходу майго.

У квецені сьвятаяньніку
(Ён жа і зьверабой)
Сонца, прачнуўшыся раненька,
Заварвае зельле-напой.

Усім: і сьвятому, і грэшнаму
Замоўлены тут абярог.
А мне спрыяньне найпершае
Нашэптвае траўны бог.

Прымаю сьвятло непагаснае,
Каб вабіў родны абшар, —
І Зьверабою паганскага,
І Яна святога дар.

У вырай птушкі зьбіраюцца
За тысячны небакрай,
А я сьпяшаю штораніцы
Сьцяжынкай у блізкі рай...

«Паэт, — тонка адзначыў крытык-філосаф У. Калеснік, — шукае гармонію Сусвету ў прыродзе і ў сабе, ды неўпрыцям сам становіцца Сусветам». Сказана быццам пра В. Зуёнка. Вершы сведчаць пра важкасць і значнасць яго асабістага жыццёвага вопыту, які дыктуе тэмы — вечныя і заўсёды новыя: вера ў людское дабро, чалавечнасць, здольнасць да маральнага ўдасканалення. Знешне яго вершаваныя формы часта выглядаюць традыцыйна, нават старамодна (у параўнанні, скажам, з так званымі сучаснымі «метафарыстамі»), але гэта толькі на першы погляд. Асаблівасці формы В. Зуёнка строга падпарадкаваны змястоўным задачам. Лірычнае дзеянне падкрэсліваецца, узмацняецца сродкамі гнуткай, выразнай, па-сапраўднаму экспрэсіўнай паэтыкі.

Паэзія імкнецца пераняць ад філасофіі тэарэтычную рэфлексію, ход абстрагіруючай думкі, іерархію лагічна сфармуляваных каштоўнасцей, але патрэбна індывідуальная псіхічная энергія, каб акумуліраваць усё гэта іператварыць у мастацкае перажыванне. Г. Лорка ў сваіх клопатах і марах пра сапраўдную паэзію пісаў: «Мы павінны ўмець поўнасцю адпрэчыць яе, і тады яна сама падзе голая ў нашы абдымкі. Чаго паэзія не церпіць ні пад якім выглядам — гэта абыякавасці. Раўнадушша — трон д'ябла, а між тым менавіта яно вытыкаецца на ўсіх скрыжаваннях у блазенскіх строях «самазадаволенасці і культуры».

Звяртаючыся да складаных праблем, якія хвалююць людзей, сучасная паэзія, як бачым, асэнсоўвае жыццёвы матэрыял на іншай, больш шырокай ідэйна-філасофскай аснове. Адзін з самых значных, самых буйных сучасных паэтаў — Уладзімір Марук, які, на вялікі жаль, вельмі рана пакінуў нас, пайшоў, як кажуць, у лепшы свет. Індывідуальна-філасофскі стыль яго асабліва яскрава выявіўся ў вечных тэмах і пытаннях духоўнага быцця чалавека. Яго паэзію густа крануў роздум, пазначаны рэфлексіяй і самааналізам.

Пекла,
якое ж ты ўсё-ткі ружовае,
Хоць і не бачыў цябе аніколі,
Вельмі прыўкрасы твае пераможвалі
Тыя,
тваёй што не хочуць спатолі.

Мне ад цябе —
ні спалоху,
ні сполаху,
Ты,
як і рай,
аніколі не меркла...
Ціха ўсміхнуся жыцця свайго подыху,
Каб не цурацца ружовага пекла.

Талент паэта-філосафа рэдкі, таму што для гэтага мала аднаго эмацыянальнага пачуцця жыцця, мала ўмення пісаць вершы, думаць вобразамі... Патрэбна сталасць светапогляду, які ў сваю чаргу становіцца актыўным у эстэтычным плане — дабратворна ўплывае на развіццё майстэрства. Самавыяўленне свайго «я» ў Марука звязана з імкненнем да эмацыянальнай праўдзівасці і псіхалагічна насычанай рэалістычнасці ў паэзіі. Глыбокія эмоцыі нярэдка перабіваюцца плынню простых жыццёвых падрабязнасцей, як бы паэту няма патрэбы выходзіць за межы звыклага, прывычнага.

Я ў царкве,
я малюся,
малюся,
Не зважаю на ўсё і на ўсіх.
Я ніколі ў жыцці не зракуся
Ні малых,
ні найсамых старых.

Я малюся,
і скроні сівеюць,
Бы вяртаецца страчаны лёс.
Выйду з храма.
Шугае завея
І мяне працінае да слёз.

Паэзія У. Марука вылучаецца глыбокай цікавасцю да ўнутранага ў чалавеку, да яго духоўнасці, і гэтым яна цікавая і нам.

Філасофскай апоры шукае таленавіты роздумны Васіль Жуковіч:

Што жыць не хочацца, так аніколі
Ты пра любой няўдачы не кажы.
Дачка мая, так цяжка не грашы,
Бо ў свет прыйшла ты па нябёсаў волі.

Мудрэй, стражэй рашы: «Ныцця даволі!»
Пажар адчайных думак патушы,
Ідзі ў жыццё і справы там вяршы, —
Мо боль прыглушыцца чыімсьці болем.

Зірні на свет яскравы й непаўторны, —
У ім не так і многа фарбы чорнай...

Сябе і свет ні ў чым не дакарай,
Ніколі пекла не ўяўляй зямное.
Жыві і дыхай круглы год — вясною...
Як зберагчы цябе, ты мне парай.

Адзінота і ізаляванасць чалавека, — даводзіць паэт, — ілюзорныя, бо на самай справе кожны з людзей прыналежны Богу як іманентна ўласцівай Сусвету крэатыўнай сіле.

Мы разумеем філасафічнасць у паэзіі, такім чынам, як своеасаблівасць падыходу мастака да рэчаіснасці, як спосаб тыпізацыі жыццёвых з’яў з высокім каэфіцыентам перадачы жыцця ў мастацкім вобразе. У лірыцы Я. Міклашэўскага вобраз вырастае да сімвала.

У кожнага ўзросту — свая Вясна,
Свой Захад і свой Усход,
І ўсё, што мінула ўжо, — даўніна,
Чарговы наш пераход.
Ад Сёння да Заўтра — новых часоў —
Нябачны нам перавал.
Там будзе і шум спрадвечных лясоў,
І новы жыццёвы шквал.
У кожнага ўзросту — беды свае,
Дзе сум і радасці ёсць.
І кожны ўзрост нам надзею дае,
Як і сама маладосць.

Такія вершы дапамагаюць духоўнаму самавызначэнню сучасніка, падтрымліваюць на жыццёвай сцяжыне.

Паэты-філосафы нярэдка звяртаюцца да сакральных вобразаў. Цікавы верш маладога Паўла Барахвостава «Раство» — аповед пра нараджэнне Ісуса Хрыста. Тэма, трэба сказаць, тонкая і далікатная, у паэзіі яна патрабуе адпаведна тонкага і далікатнага падыходу, чагосьці асабістага ў інтэрпрэтацыі даўняга падання. У аўтара верша гэта ёсць.

Снег ідзе без супынку... Праз тысячы год
Я хаваюся ў куртку, як Ты — у пячору.
Завірухі няшчаднай сівы карагод
Да світання пануе над змоўклым прасторам.

Камякоў асавелая круціцца бель,
Засцілае мне вочы і шлях мой няблізкі.
Помніш вечар той ціхі, з саломы пасцель
І анёла крыло над Тваёю калыскай?

Ты тады быў не Богам, а толькі дзіцём.
Пацалунак матулі шчакі дакранаўся.
Для пустыні бязлюднай любое жыццё
Незвычайна — і вецер злаваўся.

І нічога — ні Ірад, ні цяжкі твой лёс —
Не трывожыла цемру чароўнае ночы.
Віфліемская зорка з высокіх нябёс
Пазірала ў дзіцячыя вочы.

Паэт праводзіць пэўную «тыпалогію» паміж героем евангельскага падання і звычайным чалавекам — нашым сучаснікам, знаходзіць у іх нешта супольнае, актуалізуе паміж імі сувязь. Эстэтычна гэта рэалізуецца праз стылявое зніжэнне падзеі, якая апісваецца ў вершы, яе абытаўленне і адначасова пошукі духоўнай сутнасці.

* * *

Цяпер пра тую паэзію, якую можна абазначыць паняццем эксперыментальная. Яна звяртае на сябе ўвагу перш за ўсё духам адкрытага мастацкага доследу з невядомым загадзя вынікам, духам свабоднага пошуку. Цэнтральная постаць на гэтым напрамку — Алесь Разанаў (нарадз. у 1947 г.). Яго першыя кнігі — «Адраджэнне» (1970), «Назаўжды» (1974) — былі цікавыя мастакоўскай дапытлівасцю, пафасам самасцвярджэння, мноствам паўстаўшых пытанняў, на якія аўтар, у многім апярэдзіўшы свой час, шукаў адказу, аднак па форме яны выглядалі досыць традыцыйна. Прынамсі, нам так здавалася, на што ўказвала і наяўнасць лірычнага героя, актыўнага і эмацыянальнага, нераўнадушнага да жыцця, які прагнуў па-новаму, па-свойму адкрыць свет, лічыў яго незавершаным.

О, адкрыццё!
Твае дарогі
яшчэ ніхто не разгадаў, —

усклікае ён у адным з вершаў. Запалу было шмат.

Калі ўсе згублены ключы,
калі ні шанцу,
анічога —
усё ж ідзі,
любі,
крычы
і пасягай на перамогу.

Тут па сутнасці пералічаны ўсе «доблесці» героя савецкай паэзіі: гераізм, безаглядная смеласць, безразважная адданасць ідэалу, імкненне ісці да канца. Хто іншы з паэтаў і ішоў гэтай дарогай, не раздумваючы, А. Разанава ж пачалі адольваць сумненні.

Развей няведання туман
і адкажы нам,
непазбежнае,
ці гэта час належыць нам,
ці гэта мы яму належныя?

Алесь Разанаў аказаўся паэтам думаючым. У яго творах («паэмах», «пункцірах») з'явілася крытыка тагачаснай савецкай рэчаіснасці, а заадно і савецкай літаратуры з яе сацыялістычным рэалізмам, паэт шырэй стаў звяртацца да агульначалавечай праблематыкі. Паэзія на нашых вачах ператваралася ў філасофію:

Снег растае —
а гэтак
шмат абяцаў,
калі падаў.

Але заставалася паэзіяй:

У лесе пахмурым
бярозы —
белыя паланянкі.

Падобныя творы аўтар называў «пункцірамі». Вось яшчэ падобны «пункцір»:

Разводдзе.
Быццам чыясьці рудая шапка —
стог сена ў вадзе.

Каб не ісці пратоpанай дарогай, А. Разанаў зблiжае сваю паэзію з прозай. На кнізе выбранага «Танец з вужакамі» (Мн., 1999) серыя выдання пазначана: на тытульным лісце — «Беларуская паэзія ХХ стагоддзя», а на вокладцы — «Беларуская проза ХХ стагоддзя». Вядома, гэта, пэўна, недагляд рэдактара, але... Але гэта, невыпадкова. У рамках вершаванага радка паэту стала зацесна, і ён пахіліўся да яго празаізацыі, напоўніўшы тое, што ён назваў «паэмамі», разнастайным гістарычным і філасофскім матэрыялам і скарыстаўшы празаічную форму выкладу. На жаль, часам ахвяраваў камунікабельнасцю.

А. Разанаў заснаваў і ўвёў у беларускую паэзію новыя формы — версэты, вершасказы, квантэмы, зномы. Вось яго верш у прозе пад назвай «Гліна» («вершасказ» паводле аўтарскага вызначэння):

***«Гліна — «мгліна»: яна спіць у імглістай глыбіні і сніць свае запаветныя «магчымасці».***

***Для каменя гліна — адліга, для вады — «лыга», але чаго нельга зрабіць з каменю ці з вады, льга з гліны.***

***Гліна гнуткая, як гліна, і лінія яе паводзін супадае з лініяй паводзін надвор'я: загаспадарыць спёка — і гліна спякаецца, нібы крыца, ліне дождж — і гліна «ліняе» і ліпне да ботаў, да пахлапнёў, да галёшаў, якімі, як лінатыпамі, вандроўнікі выдрукоўваюць свой «глінапіс».***

***Гліна — галеніца: у ёй няма нічога лішняга, і гніль не здольная да яе падступіцца, і голад не здольны яе праглынуць.***

***Чалавек вырабляе з гліны ўсялякія рэчы: кафлю, цагліны, глякі, — але і сам ён з гліны, і да канца сваіх дзён ён лепіць з сябе такі твор, які адпавядае яго ўяўленням, задумам і ўчынкам: нягеглы і глёўкі — калі яны глёўкія і нягеглыя, «гімалайны» і «галілейны» — калі гэтакія яны.***

***З гліны ўсё паўстае, і ў гліну ўсё гіне.***

***Гліна — нігіль, нішто, але ў боскіх руках яна становіцца геніяльнай».***

Верш падзелены на своеасаблівыя строфы, кожная з якіх прадуктуе свой сэнс, вядзе галоўную тэму, будуе кампазіцыю гэтага мастацка-філасофскага, паэтычнага эсэ.

Сёння няма пэўнасці ў пытанні пра тое, у якой ступені ў паэзіі павінна прысутнічаць біяграфія аўтара. Часопіс «Вопросы литературы» выказваецца на гэты конт наступным чынам: «Відаць, адной з важнейшых агульных рысаў з'яўляецца адыход сучаснай паэзіі ад ідэі самавыяўлення, увогуле — апісання аўтарскіх перажыванняў. Яшчэ Мандэльштам гаварыў пра канец біяграфіі як культурнай каштоўнасці. Магчыма, Бродскі — апошні паэт, біяграфія якога прысутнічае ў яго вершах». Гэта, думаецца, тычыцца і творчасці А. Разанава. Вось яшчэ адна красамоўная яго прыпавесць — «Дым»:

***«Безмаёмасны, бы манах-дамініканец, і багаты, бы цар Мідас, дым падымаецца ўгору і падымае з сабою, што ўзняцца само не можа: бадылле,ігліцу, галіны, а часам нават будынкі.***

***Але калі ў паднябессі ён адтуляе абдымкі, каб адняць ад сябе свой набытак, каб адмыцца і ачысціцца ад яго, ён адымаецца і сам: становіцца проста яснасцю, проста «невідзімнасцю», і паднябессе, як мытня, бесперашкодна прапускае яго ў свой эдэм.***

***Дым думае, і хоць на мадэль яго думання ўплываюць шмат якія ўмовы і абставіны: адкуль ён распачынае сваю вандроўку — з даліны, з гары, ці з выдмы, якія «модлы» — каінавы ці авелевы — нясе з сабою і каму прысвячаецца — дэману ці дэміургу, — найпершая, найдамінантная ўмова — каб ён рухаўся, каб падымаўся, каб быў дынамічны, бо нерухомы — ён толькі сажа, толькі куродым, толькі туман.***

***Дзе дым, там дом, і калі агонь для дома — дыямент, дык дым — дыядэма.***

***Дым дамаўляецца і знаходзіць супольную мову з усімі стагоддзямі і гадамі і ўпадабняецца то матыльку, то гатычнай бажніцы, то пірамідзе, то дзьмухаўцу, то, урэшце, Дамоклаваму мячу, і па дыме, нібы па здымку, можна даўмецца, якія гэта стагоддзі і якія гады.***

***Дым не падманвае нас: ён — матыў, які вынаходзіцца намі самімі і ў якім ёсць мы, ты і вы...»***

Гэта, безумоўна, літаратурна-мастацкі твор, але яшчэ больш філасофская алегорыя, прыпавесць, якая перадае глыбінныя токі, што існуюць паміж чалавекам і навакольным светам, «адкравенне сакравеннага» (выраз самога А. Разанава). Тым самым паэт спрабуе заглянуць у падсвядомае жыццё чалавека, зразумець яго месца ў свеце. У паэзіі А. Разанава назіраем дыялог свядомасці з падсвядомым. Падсвядомае месціцца ў гуку, свядомае — у сэнсе. Паэт закапаўся ў мову — «дом быцця», паводле вызначэння М. Хайдэгера. Не, яго паэзія не бессуб'ектная, з аўтагероем усё ў парадку, але «я» паэта знаходзіцца пераважна ўнутры мовы, паэтыкі, выбудаванага ім свету. Ён адкрыў сваю жылу — гук і свядома вядзе разведку новых межаў паэтычнага.

Гром загрымеў
І адразу
аціхлі ўсе галасы:
нябёсы гавораць!

А. Разанаў «выпукляе гукі», як сказала даследчыца яго творчасці А. Ціхановіч.

Маланка — ламанка:
яна ломіць магутныя дрэвы і вымалёўвае
трапятлівыя — «ліхаманкавыя» — узоры...

Удалы тэкст той, які ўтрымлівае ў сабе агульназначны сэнс, сэнс праўдзівы і ёмісты. Такіх тэкстаў у паэта шмат. Сёння яму імпануе лаканізм паэтычнага радка, аб'ектывізаваная, так бы мовіць, мудрасць. А як будзе далей? Ці неператворыцца верш А. Разанава ў нейкую безасабовую, дэперсаналізаваную субстанцыю, якая будзе імкнуцца выявіць момант утварэння фонасэнсаў, «пазаасабовай мудрасці», спалучэння біялагічных і касмолага-гістарычных рытмаў, якім падпарадкуецца існаванне чалавека, а сам яго ўнутраны свет са сваёй разнастайнасцю застанецца ўбаку? Хочацца напомніць, што беларуская паэтычная традыцыя здаўна грунтавалася на прынцыпе эстэтычнага антрапацэнтрызму, гэта значыць, галоўным у мастацкім творы з'яўляецца вобраз чалавека. Ён і ёсць носьбіт усіх каштоўнасцей. Каштоўнасці, якія людзі рэалізуюць у сваіх учынках, якраз і складаюць сэнс чалавечага быцця, сэнс паэзіі.

Творы А. Разанава становяцца карацейшымі, лаканічнейшымі, але застаюцца, пры ўсёй сваёй філасафічнасці, фактамі паэзіі, паэтычнага роду літаратуры, хаця і з адбіткам пазаасабовасці і пазачасавасці.

Сучасны крытык Ц. Чарнякевіч піша пра яго наступнае: «Я лічу, за апошнія гады Разанаў кардынальна змяніўся, і той ягоны вобраз эксперыментатара-рэвалюцыянера, што пануе ў падручніках і расхожых меркаваннях, мякка кажучы, не адпавядае сёння сапраўднасці. Ён даўно перастаў шукаць тое архімедаўскае апірышча, на якім можна свет перавярнуць. Далібог, сёння Разанаву цалкам дастаткова непасрэдна гэтага свету, назіранняў за агульнавядомымі “гановерскімі птушкамі”. Калі браць усходнія паралелі (некалі важныя для паэта), воін хавае свой меч і ўглядаецца ў квецень сакуры. Сённяшняя стыхія Разанава — зямля. І можа, таму ён менавіта цяпер, як мне падаецца, найшчыльней суаднесены з беларускасцю, з нацыянальнай традыцыяй, па-свойму, вядома, інтаніруючы яе».

Пакінем убаку «астралагічныя штудыі» крытыка і пагодзімся з ім у тым, што А. Разанаў ужо не такі, якім быў калісьці. Аб адным хіба што можна пашкадаваць: паэт стаў закрыты як чалавек, у вершах знікла цікавасць да самога сябе, знікае сам час.

Калісьці В. Шклоўскі сказаў пра сябе: «Я змяніўся, таму што не стаміўся расці». Нешта падобнае маглі б сказаць пра сябе многія беларускія паэты. Напрыклад, Р. Барадулін, пра якога мы ўжо гаварылі. Сённяшняя яго паэзія, пры ўсім агульным духоўна-эстэтычным адзінстве, складаная і разнастайная. Узрастаюць рэфлексія, псіхалагізм, а разам з тым і маштабы творчай думкі. Роздум — пра чалавека, прыроду, Сусвет спалучаецца са шчодрым самавыяўленнем мастака, багатага на дабрыню і шчырасць. З нагоды святкавання 75-годдзя з дня нараджэння паэта ў перыёдыцы нечакана з’явіліся такія вось яго вершы:

Лесу дровы не ў галаве.

* * *

Радасць чуе толькі сябе, як і маладосць.

* * *

Доля на долькі ня дзеліцца.

* * *

Зоркі з надзеяй трымаюцца за нашыя позіркі.
Словам можна перавязваць раны.
Шлях — той рух, які ня ведаем мы, а ён нас ведае.
Час па частках мяне разьбірае, як гадзіннік стары.

Прывычнага, традыцыйнага Барадуліна ў гэтых вершах можна і не пазнаць. Змяніўся светапогляд. Р. Барадулін звычайна выкарыстоўваў дакладнае рэалістычнае апісанне, на аснове якога ў яго вырастала пэўнае маральна-філасофскае абагульненне, сцвярджэнне. Цяпер абагульненне выступае нібы само па сабе, у форме аднаго лаканічнага радка:

* * *

Чалавек задуманы як пытальнік, а пнецца ў клічнікі.

* * *

Думкі свой узрост не заўважаюць.

* * *

Ня часта падаюць зоркі ў студню душы.

Гэта своеасаблівыя барадулінскія «вершасказы», за кожным з якіх узвышаецца гара зместу. Паэт перадае стасункі чалавечай істоты са светам, як экзістэнцыйны страх перад разнастайнымі небяспекамі, з якімі яна сутыкаецца і так ці інакш паддаецца іх уздзеянню.

* * *

Памяць мусіць цяміць.

* * *

Чым зважыць камень,
што ляжыць на сэрцы?

* * *

Самае адкормленае ў свеце — зло.

* * *

Маліцца словам і слову маліцца.

* * *

Я саромеюся чыстага сьнегу.

* * *

Толькі ў мамы ты лепшы самы.

* * *

Часу няма калі адпачыць.

* * *

Рацэ ад берага не ўцячы.

Гэта — паэтавы пасланні сучасніку і адначасова лісты ў вечнасць. Не магу, каб яшчэ і яшчэ раз не працытаваць, не напомніць гэтыя выдатныя ў сваім радзе тэксты:

* * *

Аголены меч ня мае часу на роздум.

* * *

Смех перабягае дарогу смерці.

* * *

Душа ў людскім бары кукуе зязюляй.

* * *

І памерці самім сабой.

* * *

Чалавека, як скарб,
хаваюць у зямлю ад жыцьця.

* * *

Наступнае наступае на мазалі мінуламу.

* * *

Дзе навучыцца душы не спатыкацца?

Рыгор Барадулін трактуе паэзію як форму існавання вечнага, першаснага, ісціннага.

* * *

Гром не чуе сябе, бліскавіца не бачыць.

* * *

Карані — зямлі,
вершаліны — небу.

* * *

А мне баліць недабінтаваная бярэзінка.

* * *

Незабытыя не старэюць.

* * *

У роднай зямлі і нябожчыку цёпла.

* * *

Радзіма там, дзе начуе душа.

Мастацкі эксперымент паэтаў старэйшых пакаленняў не супроцьпастаўлены традыцыйнаму коду нацыянальнай культуры, чаго нельга сказаць пра маладую паэзію. Гарачая моладзь, моладзь, якая думае, ва ўсе часы шукала і шукае сабе новых багоў, адхіляючы куміры бацькоў. Шукаць і аспрэчваць — занятак здаровы і прыемны, а галоўнае — патрэбны. Маладыя смяюцца з відавочнасцей, разбураюць стэрэатыпы, ігнаруюць бясспрэчнасці, пазбаўляюць свядомасць «ад дыктату ісцін у апошняй інстанцыі», бунтуюць супраць паэтычных нормаў папярэдняй эпохі.

Значэнне паэзіі нельга ўстанавіць не выходзячы за межы літаратуры, абмяжоўваючыся толькі законамі самога мастацтва, законамі паэтыкі. Твор — непаўторны канцэнтрат духоўнай энергіі чалавека, выяўлены ў рытміцы страфы, і ў руху фабулы. Без духоўнай энергіі мастацтва не магчыма, таму што словы напаўняюцца сэнсам, прыводзяцца ў рух, уладкоўваюцца ўсім зместам асобы паэта, усім яго жыццём.

На мяжы XX—XXI стагоддзяў звярнуў на сябе ўвагу Анатоль Сыс (1959—2005), якога натхняла вольнае, раскаванае слова, да якога ён часта звяртаўся ў сваіх вершах. Уяўленне пра публіцыстычны характар яго паэзіі можа даць верш «Маналог Зміцера Жылуновіча».

Як пазашлюбны плод,
свае хаваю думы:
адвеку мой народ
нібы пад ветрам дзюны.
А вецер дзьме і дзьме,
то ўсходні, то заходні,
за ім не разглядзець
ні сонца, ні паходні.

А вецер дзьме і дзьме,
то чорны, то чырвоны,
прывучвае людзей
да грошай, да пагонаў...

Як пазашлюбны плод,
свае хаваю думы:
чаму ж ты, мой народ,
падатлівы, як гума?

Кажуць, калі паэзія занадта аптымістычная, дык у свеце нядобра. Аптымістычная паэзія звычайна нешта ўтойвае. А. Сыс нічога ўтойваць не збіраўся і на аптымізм не прэтэндаваў. Высока ацэньвае спадчыну А. Сыса яго сябар А. Федарэнка: «Лічаныя гады прайшлі з дня яго смерці — і ўсё становіцца на свае месцы, і славутая эпатажнасць яго паводзін бачыцца цяпер абсалютна бяскрыўднай — наіўна-дзіцячым самаабарончым рэфлексам. Далей яшчэ больш будуць забывацца, адыходзіць у вобласць анекдоцікаў розныя “паднашэнні баршчоў”, ды выпіўкі, ды перакульванні бюстаў, і ўсё больш будзе ачышчацца, вызваляцца з-пад гэтага шалупіння Постаць, паэт, рэдкі Талент, пасланы Богам на Беларусь, у такі неабходны для яе час».

У творчасці А. Сыса знайшоў выяўленне пасіянарны тып асобы, якая валодае звышнарматыўнай жыццёвай энергіяй і выкарыстоўвае яе для актыўнай дзейнасці, для высокіх мэтаў. Паэт імкнуўся да інтэнсіўнасці і смеласці паэтычнай думкі, маштабнасці і кантраснасці вобразнасці, часта ахвяраваў побытавым планам.

Яго наватарскі і свабодны стыль нярэдка шакіраваў публіку, але ў гэтым адчуваліся павевы часу. Сучасныя паэты не інфармуюць, а выражаюць сваё адчуванне свету, адчуванне сваёй экзістэнцыі, рэфлексуюць, імкнуцца надаць сваім перажываннем неабходную меру паэтычнага асэнсавання, дасягнуць пэўнай духоўнай незалежнасці.

Сярэднія, невыразныя вершы нікому не патрэбныя. Стандартная, эпігонская паэзія губляе чытача. Але ж не набывае яго і паэзія псеўданаватарская, вершы, цяжкія для ўспрымання, наўмысна цёмныя і ўскладнёныя. Такіх «твораў» сёння шмат. Я пагартаў кніжачку аднаго маладога аўтара (не буду казаць каго), яна ўся складаецца з такіх вось вершаў:

маленькае кацяня граецца на двары
ў маленькага кацяня вялікія вочы
што робі кожны
ён робі апошні
цябе па-за плотам
чакае вартоўнік
твае
няспраўджаныя твае
надмараныя твае
паслухмяныя жахі —
руйная бясьпека стагодзьдзяў.

Паэты сачыняюць тэксты, якія звычайна называюць вершамі. Можа таму, што складаюць іх у «слупок». Такія вершы можна сачыняць кілаграмамі. Тут хочацца выказаць апасенне: каб паэзія не стала падменай чагосьці сапраўднага, жыцця, рэальнасці.

Вершы можна праверыць на слых — сапраўдныя вершы гучаць. А паспрабуйце агучыць гэты «верш» — ці атрымаецца? Адзіная яго «начынка» — пустата.

Мне здаецца, што і ў нас кніг, твораў пакуль што з’яўляецца болей, чым яркіх творчых індывідуальнасцей. Шмат стандартнага, «сярэднеарыфметычнага», і, з другога боку, штучна-мудрагелістага, вычурнага, ілюзорнага, такога, як працытаваны намі «верш».

Некаторыя сцвярджаюць, што паэзія маладых апярэдзіла рэальнасць, а нам здаецца, што яна ў многіх выпадках не можа яе дагнаць і нават пакінула гэта рабіць. Уражанне такое, што мы, у большасці, і не толькі маладыя, працягваем заставацца ў прамежку паміж старым і новым. Новае — гэта змена культурнай парадыгмы, працэс сцвярджэння новага светапогляду, крах веры ў рацыяналізм з яго прэтэнзіямі на ўсеагульную гегемонію, у панаванне чалавека над прыродай, актыўнае нарошчванне інфармацыйных тэхналогій. Зразумела, паэзія застаецца вернай данавуковаму, першабытнаму, калі хочаце, ладу мыслення, архетып паэта — дзіця, але гэта не значыць — знаходзіцца ў нейкай эстэтычнай рэзерва-

цыі. Новае павінна так ці інакш адлюстравацца ў мастацкай творчасці, у пашырэнні эстэтычных магчымасцей паэтычных жанраў.

Маладых шмат, але новага цэласнага пакалення, асобнай генерацыі, нам здаецца, няма. Усё ж такі пакаленне ўяўляе сабой пэўную супольнасць, і не толькі ўзроставую, але перш за ўсё ідэйную, эстэтычную, светапоглядную, а пра цяперашніх маладых гэтага не скажаш. У іх усё-такі мала сур'ёзнага, мала асобаў, мала арыгінальнага, яны, на мой погляд, не ставяць перад сабой вялікіх задач. Да Куляшова, Танка, Панчанкі, Броўкі, Пысіна сучасным маладым далёка. Г. Бураўкін з горычу заўважае:

Ідуць паэты пачкамі —
Дэбютаў паласа, —
Але няма
Ні Панчанкі,
Ні Танка,
Ні Сыса.

Усе таленавітыя,
Ня схібілі нідзе,
Ды толькі з іх малітвамі
У храм ніхто ня йдзе.

Ня лечаць,
Як ня торгайся,
Духоўнай глухаты
Ні іхнія перформансы,
Ні іхнія хіты.

Маладыя паэты часта страката апранутыя, але гэта, на жаль, пры адсутнасці асобасных якасцей, не дадае ім прывабнасці, не вядзе да поспеху. Слабасць многіх твораў апошніх гадоў у тым, што аўтары іх толькі сузіраюць і апісваюць жыццё, а не ацэнваюць яго на аснове вышэйшых чалавечых каштоўнасцей. Вынік усяго гэтага — упадак этычнай актыўнасці паэзіі, адсутнасць этычнага моманту як састаўной часткі эстэтычнага перажывання. Паэзія, ігнаруючы патрабаванні формы, блудзіць у зарасніках знешняй складанасці, цураючыся эстэтычна прадуманай прастаты, упарадкаванасці.

У індывідуальным (мы ўжо казалі пра гэта) стылі павінны прысутнічаць традыцыі — нацыянальныя і іншыя. І вельмі дзіўна, калі паэт адмаўляе нацыянальны складнік у сваёй творчасці. Вядомая паэтка Вальжына Морт, якая піша па-беларуску, прызнаецца ў інтэрв'ю адной з амерыканскіх газет: «Ненавіджу, калі мяне называюць беларускай паэткай. Я заўсёды думала, што паэт — гэта само па сабе нацыянальнасць, якая не мае патрэбы ў дадатковых азначэннях. Няма такога паняцця, як беларускі паэт, ямайскі паэт... Ёсць добры паэт альбо дрэнны, і іншай альтэрнатывы не існуе».

Вальжына Морт нарадзілася і жыла ў Мінску, у 2006 годзе пераехала ў ЗША. Паводле яе слоў, пісаць па-беларуску для яе «жыццёва важна», але беларускай паэткай яна сябе не лічыць». Ну, што ж, гэта яе справа, якой ці чыёй паэткай быць. Дапускаю, што можна быць небеларускім паэтам, але пісаць па-беларуску, але чыімсьці ўсё ж такі трэба быць!

Многія з маладых робяць стаўку на іронію, некаторыя злоўжываюць ёю, распаўсюджваючы іранічны погляд на ўсё навакольнае, мінулае і сучаснае. Наўрад ці такое можна ўхваліць.

Неабходнасць пашырэння сваіх грамадскіх, філасофскіх і, зразумела, эстэтычных даляглядаў — такая праблема, думаецца, стаіць перад кожным маладым літаратарам. Нядаўна да мяне падышла адна ўжо і не такая маладая паэтэса і сказала, што заангажаваная паэзія — гэта мана і лухта, паэт не ў стане перарабіць свет, трэба пісаць пра іншае. «Пра што?» — спытаў я. — «Толькі прыгажосць адратуе

свет!» — адказала яна. Выглядала паэтэса неяк разгублена. Час наш такі, што разгубіцца можна нават самаму мэтанакіраванаму чалавеку. Што ж, разгубленасць, як на маю думку, паэту падыходзіць больш, чым залішняя самаўпэўненасць. Але ж прыгажосць, падумаў я, таксама трэба шукаць у жыцці. Хочацца пажадаць гэтага і маладой паэзіі.

Калісьці вядомы рускі паэт М. Асееў свой зборнік артыкулаў пра паэзію назваў пытаннем: «Кому и зачем нужна поэзия?» Гэта было паўстагоддзя таму, але пытанне актуальнае і сёння і, думаецца, будзе актуальным і заўтра. Пытанне, інакш кажучы, вечнае. Як на яго адрэагаваць?

У паэтычных прызнаннях і азарэннях мы шукаем адказы на важнейшыя пытанні сучаснасці, хочам адчуць яе на смак, зразумець, якая яна і якой павінна быць. Паэзія — спадарожніца часу, спалучэнне рэальнага і ідэальнага. Зноў узнікае патрэба ў асобе мастака, паэта, які б сам быў увасабленнем ідэалу, з сябе, з сваіх слоў і спраў ствараючы феномен духоўнага высакародства, які б перарастаў рамкі літаратурнай фікцыі і станавіўся магнетычным цэнтрам самой рэчаіснасці (як, скажам, Леў Талстой). Паэт — захавальнік і стваральнік духоўных каштоўнасцей. Такім бачыць яго грамадства, так ён сябе і ўсведамляе. Паэт пастаянна «праектуе» сябе: якім ён павінен быць, каб выявіць і сцвердзіць самыя неабходныя свайму часу каштоўнасці, што наспелі ў самой рэчаіснасці.

Не будзем забываць, што паэзія па сваёй сутнасці — гэта яшчэ і палеміка з мовай, ці, дакладней кажучы, з штодзённым, звычайным маўленнем, у якім адлюстроўваецца звыклая, будзённая свядомасць. Маючы на ўвазе праблему мастацкага наватарства, Гётэ падкрэсліваў: «Найболей арыгінальныя пісьменнікі навейшага часу арыгінальныя не таму, што прапаноўваюць нам штосьці новае, а таму, што яны ўмеюць гаварыць пра рэчы, як быццам гэта ніколі не было сказана раней».

Гэтаму уменню варта вучыцца асабліва настойліва. Прыклад — Алесь Разанаў.

Зразумела, у цэлым праблема змястоўнасці паэзіі застаецца, і яна вострая. Наш час патрабуе да сябе філасофскіх адносінаў, што, вядома, зусім не азначае разрыву з сучаснымі канкрэтна-сацыяльнымі рэаліямі і адыходу ў адну якуюнебудзь «незалежную» сферу.

Словам, пошук павінен ісці па ўсіх напрамках.

Здабыткі нашай паэзіі апошніх гадоў, ад пачатку XXI стагоддзя, як мне здаецца, даволі сціплыя. Магчыма, я памыляюся. «Лицом к лицу лица не разглядеть...» Пройдзе час, і на адлегласці нешта ўбачыцца ў іншых маштабах? Наўрад.

Завяршаючы размову, трэба сказаць, што сёння няма паэта, які мог бы прэтэндаваць на ролю валадара дум і прапаведніка. За апошнія дзесяцігоддзі, як нам здаецца, статус паэта ў грамадстве знізіўся, памяншаецца духоўна-творчая прырода лірыкі, некаторыя кажуць пра стомленасць гэтага літаратурнага роду і яго жанраў. Усеагульная камерцыялізацыя жыцця адчуваецца і тут. Перад сучаснай паэзіяй, як і перад літаратурай увогуле, стаіць нямала праблем. Крытыка напоўнілася скаргамі на тое, што бягучая літаратура выдыхлася, патанула ў панылым апісальніцтве, што свабода пайшла ёй не на карысць і што літаратурай страчана адна з каштоўнейшых якасцей — жыццесцвярджальны пафас. Усё больш адчуваецца інфляцыя паэтычнага слова.

Патрэбна паэзія, моцная ў мастацкіх і маральных адносінах, здольная абнавіць сэнс традыцыі, пераўтвараць яго, павярнуўшы да сучаснасці. Сучасным паэтам, і не толькі маладым, патрэбны намаганні, каб асэнсаваць цяперашні час у катэгорыях быційных і метафізічных. Як бы там ні было, сучасная беларуская паэзія сведчыць, што яе цікавіць сутнасць рэчаў, сутнасць свету, і хай яна і надалей імкнецца адшукаць ісціну, неад’емную ад высокай маральнасці і прыгажосці, ісціну, якая толькі і можа адкрыцца праз паэтычнае азарэнне.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ,**
**Вячаслаў РАГОЙША**

# ПАСЛАННІ АПОСТАЛА ПРАЎДЫ І НАВУКІ

## *Да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі*

***І день іде, і ніч іде.***
***І голову схопивши в руки,***
***Дивуєшся, чому не йде***
***Апостол правди і науки!***

Тарас ШАЎЧЭНКА

У жыцці кожнага вялікага паэта наступае такі момант, калі ён, перапоўнены трансцэндэнтнай энергетыкай, не толькі можа, але і мае поўнае права па-апостальску звярнуцца да людзей. І не так важна, каму адрасуецца сказанае, ці гэта супляменнікі, ці людзі іншых краін і нацый. Важней іншае: *што* гаворыцца ў такім пасланні паэта-прарока. Бо сказанае ў ім, як і ў вядомых пасланнях апосталаў з Новага Запавету, аднолькава тычыцца і сваіх і чужых, і пэўнага народа і чалавецтва ў цэлым.

У канцы 1845 г. на трыццаць другім годзе жыцця вялікі ўкраінскі паэт Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка адчуў у сабе надзвычайную творчую моц, поўнае права звярнуцца да роднага ўкраінскага народа з паэтычным пасланнем ***«І мёртвым, і жывым, і ненароджаным землякам маім на Украіне і не на Украіне маё сяброўскае пасланне»***. Пасланне гэта было ўпісана ў рукапісны зборнік «Три літа» з творамі 1843—1845 гг., на форзацы якога паэт алоўкам намаляваў — цалкам знамянальна! — выяву апостала. Самому ж твору папярэднічаў эпіграф з Сабornага паслання Іаана: «Аще кто речетъ, яко люблю Бога, а брата сваего ненавидитъ, ложъ есть» (глава 4, с. 20).

У той час да голасу Тараса, які не толькі ўслаўляў родны край, Украіну (дарэчы, менавіта так ён называў яе ў сваіх творах і ніколі тагачасным афіцыйным імем — «Маларосія»), актыўна выступаў супраць самадзяржаўя і прыгоннага права, у абарону прыгнечаных, абяздоленых і пакрыўджаных, прыслухоўвалася ўся Расія. І не толькі. Яго творы сотнямі распаўсюджваліся ў спісах, былі вядомыя ў Заходняй Украіне, якая тады ўваходзіла ў Аўстра-Венгрыю, у многіх іншых краінах, садзейнічалі надыходу еўрапейскай «вясны народаў» 1848 года. Выдатны доказ таму — выдадзены ў 1859 г. у прускім горадзе Лейпцыгу зборнік «Новые стихотворения Пушкина и Шевченко», куды ўвайшлі ніколі і нідзе не друкаваныя датуль, забароненыя ў Расіі вершы і паэмы Кабзара «Каўказ», «Халодны Яр», «Разрытая магіла», «За думаю дума…», «Як памру, то пахавайце…» У тым ліку — «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…» Па сведчанні сучаснікаў, некаторыя расіяне і не расіяне вывучалі ўкраінскую мову толькі для таго, каб чытаць і лепш разумець Тараса Шаўчэнку.

Відавочна, адну з першых і ўвогуле праўдзівых характарыстык творчасці Шаўчэнкі (вядома, са свайго пункту гледжання) далі следчыя сумнавядомага ІІІ аддзялення ўласнай «яго вялікасці канцылярыі», што вялі ў 1947 г. расследаванне дзейнасці таемнага Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва, да якога належаў паэт: *«Шевченко… сочинял стихи на малороссийском языке самого возмутительного содержания. В них он то выражал плач о мнимом порабощении и бедствиях*

*Украины, то возглашал о славе… и прежней вольницы казачества, то с невероятной дерзостью изливал клеветы и желчь на особ императорского дома… Сверх того, что все запрещенное увлекает молодость и людей с слабым характером, Шевченко приобрел между друзьями своими славу знаменитого малороссийского писателя, а потому стихи его вдвойне вредны и опасны… По возмутительному духу и дерзости, выходящей из всяких пределов, он должен быть признан одним из самых важных преступников»*. Як вядома, такая «характарыстыка» паслужыла наступнаму выраку паэту: «Определить рядовым в Оренбургский отдельный корпус», на якім цар Мікалай I уласнаручна напісаў: «Под строжайший надзор и с запрещением писать и рисовать»…

Але чым так славутае пасланне «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…»? Назва яго складаецца ажно з 17 слоў і адразу настройвае чытача/слухача на развагі шырокага дыяпазону. І сапраўды, у пасланні Кабзара разгорнуты ўсе найбольш важныя тэмы, якія Шаўчэнка ўздымаў у сваёй творчасці да 14 снежня 1845 г., калі пісаўся твор, дый пасля таго. У творы ў адзін філасофскі вузел знітаваны праблемы сацыяльна-палітычныя, маральна-этычныя, культурна-духоўныя і нацыянальныя. Здзіўляе глыбіня гістарычнага мыслення паэта, яго ўменне паяднаць мінулае з сучасным, а таксама з візіямі будучага часу.

Шаўчэнка як сапраўдны патрыёт адчуваў адказнасць за ўсё, што адбывалася, адбываецца і будзе адбывацца з яго народам. Прычым, народ ён разумеў як адно цэлае, хаця і бачыў выразна яго сацыяльна-класавы характар. З аднаго боку, гэта тыя, што *«Кайданами міняються, / Правдою торгують. / І Господа зневажають, / Людей запрягають / В тяжкі ярма. Орють лихо, / Лихом засівають…»*. З другога боку — *«брати незрящі, гречкосії»*, *«люд потомлений»*, *«заковані люде»*, *«прості люде»*. Па сутнасці, пасланне скіравана найперш да прадстаўнікоў першага сацыяльнага асяроддзя: украінскага панства, шляхты, чынавенства. Паэта хвалюе і абурае рабскае становішча прыгонных сялян, і ён недвухсэнсоўна просіць, папярэджвае сваіх адрасатаў: *«Схаменіться! Будьте люди, / Бо лихо вам буде. / Розкуються незабаром / Заковані люде, / Настане суд, заговорять / І Дніпро, і гори! / І потече сторіками / Кров у синє море / Дітей ваших…»* Апошні вобраз, дарэчы, знайшоў працяг у вобразным ладзе верша-запавету «Як памру, то пахавайце…», напісаным усяго на дзесяць дзён пазней, 25 снежня 1845 г.: *«Дніпро…понесе з України / У синєє море / Кров ворожу…»* Несумненна, ворагамі роднага народа, «простых людзей», паэт лічыў не толькі розных замежных крывасмокаў *(«лях», «москаль», «куций німець узловатий»*), але і «ясновяльможных гетманаў», прадажных уладароў сваёй гадоўлі. *«Гірше ляха свої діти / Її розпинають»*, — гаворыць паэт пра сучасную яму Украіну. Вострай інвектывай гучаць наступныя радкі шаўчэнкаўскай эпісталы:

Раби, подножки, грязь Москви,
Варшавське сміття — ваші па́ни
Ясновельможнії гетьмани.
Чого ж ви чванитеся, ви!
Сини сердешної Украйни!
Що добре ходите в ярмі,
Ще лучше, як батьки ходили.
Не чвантесь, з вас деруть ремінь,
А з їх, бувало, й лій топили.

Заўважым, між іншым: колішняя шаўчэнкаўская характарыстыка ўкраінскага панства прыдалася Янку Купалу нават у ХХ ст. — для выяўлення касмапалітычнай сутнасці некаторых беларусаў у трагікамедыі «Тутэйшыя» (1922). Так, на закід пярэваратня-касмапаліта Мікіты Зноска ў бок патрыёта Янкі Здольніка *«Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці недалюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі»*, той годна адказвае: *«Для вас, як для рускага калежскага рэгістратара, яна, можа, й чыстая, але для мяне яна — «Варшавске смецце, гразь Масквы», як сказаў вешчы Шаўчэнка»…*

Тарас Шаўчэнка быў заклапочаны тым, што некаторыя ягоныя землякі выхваляліся гераічнай казацкай мінуўшчынай, але нічога не рабілі дзеля слаўнай цяпершчыны і будучыні. Вы, кажа паэт, «*славите Запорожжя*», у той жа час на зямлі Запарожскай Сечы, напоенай казацкай крывёю, *«мудрий німець / Картопельку садить, / А ви її купуєте / Їсте на здоровья…»*. Разам з тым, *«чванитесь, що ми Польщу / Колись завалили!.. / Правда ваша: Польща впала, / Та й вас роздавила!»*. Як трэба было любіць Украіну, сваіх землякоў-украінцаў, каб кідаць ім у вочы такія праўдзіва-жорсткія словы!

Вельмі шырокі эмацыйна-інтанацыйны спектр паслання. Гэта паглыбляе яго аналітызм і насычае незвычайнай энергіяй выказаныя ў ім думкі. Шаўчэнка ў сваім творы традыцыйна-выкрывальны, сатырычна-з’едлівы ў дачыненні да ворагаў народа і яго здраднікаў. У прыватнасці тых, хто шукае пракокаў і куміраў сярод іншых народаў, пры гэтым зневажае родную культуру, мову, адмаўляе ім у гістарычнай перспектыве. У пасланні часта паўтараюцца словы «немец», «нямецкі»: *«німець скажа», «в німецькі землі», «німець не второпа», «німець покажа», «по німецькому показу»*… Гэта ў радках, дзе паэт востра крытыкуе сваіх гора-патрыётаў: *«І знову шкуру дерите / З братів незрячих, гречкосіїв, / І сонця-правди дозрівать / В німецькі землі, не чужії, / Претеся знову!..»* Вобраз «немца» асабліва яскрава паўстае пры высмейванні касмапалітызму, своеасаблівага ўкраінскага «тутэйшавізму»: *«Німець скажа: «Ви моголи». / «Моголи! моголи!»… / Німець скаже: «Ви слав’яне». / «Слав’яне! слав’яне!»* О, як з’едліва характарызуе такіх сваіх супляменнікаў Шаўчэнка! Яны — *«Золотого Тамерлана / Онучата голі»; «Славних прадідів великих / Правнуки погані!»* Менавіта да іх ён звяртаецца са знішчальнай іроніяй: *«І в славянофіли / Так і претесь… І всі мови / Слав’янського люду — / Всі знаєте. А своєї / Дастьбі… Колись будем / І по-своєму глаголать, / Як німець покаже / Та до того й історію / Нашу нам розкаже…»*

Паўстае пытанне: каго пад «немцамі» меў на ўвазе Шаўчэнка? Відавочна, рэальных немцаў, якія ў той час, карыстаючыся вялікай прыхільнасцю царскай улады, літаральна запалонвалі Расію. Разам з тым бачыцца тут і эўфемістычнае выкарыстанне гэтага айконіма. Бо галоўнай пагрозай для ўкраінскай культуры, мовы, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі тады быў не нямецкі, а расійскі шавінізм. Не па-нямецку, а па-руску імкнулася «глаголаць» украінская эліта, не ў «не чужыя» нямецкія землі (на самай справе яны былі «чужыя»!) яна «перлася», а ў метраполію, у Пецярбург ды Маскву. Вядома, што ідэолагі царскай Расіі не прызнавалі асобнага ўкраінскага народа і яго мовы (як і беларускага народа і беларускай мовы), грэбліва называлі яго «племенем», украінскую мову — «наречием русского языка». У XIX ст. з’явілася нават некалькі афіцыйных указаў і прадпісанняў аб забароне ўкраінскага друку на тэрыторыі Расіі, паколькі, быццам бы, *«никакого малороссийского языка не было, нет и быть не может»* (з цыркуляра міністра ўнутраных спраў Расіі П. Валуева ад 8.07.1863 г.). Дарэчы, гэтыя ўказы і цыркуляры аўтаматычна распаўсюджваліся і на беларусаў. Так, звычайнымі матывамі тагачасных цэнзурскіх забарон публікацыі твораў на беларускай мове было імкненне не дапусціць, *«кроме «малорусской», создать еще «белорусскую» литературу и таким образом ослабить литературное и национальное единство, а вследствие этого и политическое могущество русского народа»*. На жаль, да афіцыйных улад часам далучаліся нават асобныя прадстаўнікі расійскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера. У прыватнасці, «неистовый Виссарион» — Бялінскі пераконваў грамадскасць: *«Литературным языком малороссиян должен быть язык их образованного общества — язык русский. Если в Малороссии и может появиться великий поэт, то не иначе, как под условием, чтобы он был русским поэтом, сыном России…»* З’едліва-іранічна ён адгукнуўся на выхад у свет украінамоўнага альманаха «Ластівка» (1841), дзе былі апублікаваны лепшыя творы тагачасных украінскіх пісьменнікаў — Шаўчэнкі, Квіткі-Аснавяненкі, Баравікоўскага, Забілы і інш. Прачытаўшы іх тэксты, Бялінскі пагардліва заў-

важыў: *«Наконец я понял всю ценность борща, сала и галушек!»* Некаторыя пісьменнікі пасля такой прынізлівай крытыкі Бялінскага адышлі ад літаратурнай творчасці на ўкраінскай мове (як гэта сталася, напрыклад, з паэтам-рамантыкам Якавам Шчогалевым). Па слушным меркаванні Міхайла Драгаманава, Бялінскі не здолеў распазнаць у Шаўчэнку свайго аднадумца ў барацьбе за свабоду праз сваю «арыстакратычнасць і вузкую дзяржаўнасць» мыслення. Мікалай Чарнышэўскі, своеасабліва выбачаючыся за такіх велікаросаў, пісаў у артыкуле з вымоўнай назвай «Народная бестолковость»: *«Ещё недавно русская литература смотрела на попытки предоставить малорусскому языку литературное значение иногда с чванливой улыбкой, иногда просто с враждебностью…»*

Сапраўдны патрыёт, Шаўчэнка заклікаў у пасланні шанаваць сваё, роднае, бо *«хто матір забуває, / Того Бог карає, / Того діти цураються, / В хату не пускають»*. У той жа час ягоныя словы *«І чужому научайтесь, / І свого не цурайтесь»*, якія сталі з часам крылатымі, выразна сведчаць пра сутнасць праграмы развіцця нацыянальнай культуры. Паэт раіў абапірацца на ўласную першааснову, і на дрэва роднай культуры прышчэпліваць усё лепшае, прагрэсіўнае з іншанацыянальных духоўных здабыткаў. Эпістала «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…» выявіла ці не найгалоўную канцэпцыю Шаўчэнкі-мысляра — ідэю ўкраінскай нацыятворчасці, кансалідацыі ўсяго ўкраінскага народа ў рэчышчы еўрапейскага культурнага прагрэсу і дэмакратыі. Што, зрэшты, актуальна і для нашага часу.

У самым канцы паслання — дзіўная, на першы погляд, просьба-мальба паэта ў духу класавага салідарызму: *«Обніміте, брати мої, / Найменшого брата — / Нехай мати усміхнеться, / Заплакана мати»*. Перад гэтым, як мы бачылі, у вобразе страшнага біблейскага суда Шаўчэнка маляваў карціны магчымай крывавай помсты прыгнечаных сваім прыгнятальнікам. А тут… Аднак «новага ліха» паэт не жадае, братазабойчай вайны не хоча. Украіна і так нацярпелася і пастаянна церпіць ад яе знешніх ворагаў. І таму паэт намагаецца дастукацца да цвярозага розуму нацыянальнай эліты — панства, дваранства, інтэлігенцыі, каб абысціся без крывапраліцця. Тарас Шаўчэнка не толькі папераджальна-пагражальны. Ён моліць, просіць, заклінае: *«Обніміться ж, брати мої, / Молю вас, благаю!»*

Гэтымі браталюбнымі, гуманнымі ў вышэйшым сэнсе словамі ў духу заклікаў біблейскіх апосталаў і заканчваецца пасланне. Пасланне апостала праўды і навукі Тараса Шаўчэнкі.

* * *

Нарадзіўся Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка 9 сакавіка 1814 г. ва ўкраінскай вёсцы Морынцы (цяпер Звенігародскі раён Чаркаскай вобласці). І дзіцем, і падлеткам, і ўжо сталым чалавекам яму давялося зведаць усю горыч прыгону, бяспраўнасць і прыніжэнні беднага і абяздоленага, амаль раба, ад свавольнага, бяздушнага і багатага пана. Здольны да малявання, дапытлівы, кемлівы хлапчук не меў магчымасці вучыцца, аднак менавіта за гэтыя прыроджаныя якасці яго забралі з вёскі ў панскі дом, дзе прызначана было яму быць у вечным услужэнні. І ўсё-такі лёс усміхнуўся Тарасу. Ганарлівы пан Энгельгарт, жадаючы нейкім чынам вылучыцца ў сваім асяроддзі, вырашыў мець пры сабе хатняга мастака. Спачатку ён узяў пятнаццацігадовага Тараса разам з іншымі дваровымі людзьмі з сабою ў Вільню і аддаў падвучыцца маляванню ў вядомага віленскага мастака Яна Рустэма. Дарэчы, з Украіны ў Вільню панскі абоз ехаў праз Беларусь, у прыватнасці праз Лоеў, Рэчыцу, Жлобін, Бабруйск, Ігумен, Мінск. Тады паэт упершыню пазнаёміўся з беларусамі і іх тагачасным жыццём. Пазней у аповесці на рускай мове «Музыкант» (1854—1855) ён апісаў тое сваё першае знаёмства з краем *«постоянно голодным»*. Аднак у Вільні Энгельгарт доўга не затрымаўся — не далі падзеі польскага паўстання 1830 г. З усёй світай ён выпраўляецца ў сталіцу Расійскай імперыі. Пераехаўшы ў Пецярбург, выпраўляе Шаўчэнку да майстра мастацкіх спраў Шыраева. Навука

праходзіла пераважна ў доўгія гадзіны летніх белых начэй, калі Шаўчэнка маляваў з натуры і вывучаў дасканалую прыгажосць скульптур Летняга саду. Менавіта пры такіх абставінах адбылася сустрэча Шаўчэнкі з земляком, мастаком Іванам Сашэнкам. Іх знаёмства перарасло ў моцнае сяброўства. Пасля доўгіх і настойлівых намаганняў Сашэнку разам з іншымі выдатнымі дзеячамі расійскай культуры (К. Бруловым, В. Грыгаровічам, А. Венецыянавым, В. Жукоўскім, Я. Грабінкай) удалося за вялікія грошы выкупіць 24-гадовага Тараса з прыгону. Гэта сталася 22 красавіка 1838 года.

Акрылены воляй, Шаўчэнка з галавой акунаецца ў навуку. Самаадукацыяй ён дасягае ўзроўню найбольш асвечаных людзей свету. З дапамогай пецярбургскіх сяброў і знаёмых Шаўчэнку залічваюць у Акадэмію мастацтваў. За выдатныя поспехі ў выяўленчым мастацтве яго некалькі разоў узнагароджваюць срэбнымі і залатымі медалямі. Апрача малявання, ён актыўна займаецца і паэзіяй. У 1840 г. у Пецярбургу тыражом у тысячу асобнікаў выходзіць ягоны «Кабзар» — першы невялікі паэтычны зборнік, куды ўвайшло ўсяго восем твораў — вершы «Ой вы, думы, мае думы…», «Перабендзя», «Думка» («Нашто чорныя мне бровы…»), «Да Аснавяненкі», «Іван Падкова», паэмы «Кацярына», «Таполя» і «Тарасава ноч». Асобныя творы («Тарасава ноч», «Кацярына», «Да Аснавяненкі») публікаваліся з цэнзурнымі купюрамі. На самым пачатку 1841 г. паэт уласным коштам выдае паэму «Гайдамакі». Перад ім адчыняюцца дзверы арыстакратычных дамоў, Шаўчэнка жаданы госць літаратурных і мастацкіх салонаў сталіцы. Аднак ён адчувае непарыўную сувязь з роднай Бацькаўшчынай, яго запаветная мара — вярнуцца назаўсёды на Украіну. Кліча яго родная зямля, роднае ўкраінскае слова. Шаўчэнка пачынае ствараць «Жывапісную Украіну» — серыю карцін на тэму ўкраінскай гісторыі і прыроды.

У Пецярбургу Шаўчэнка знаёміцца з польска-беларускімі пісьменнікамі Рамуальдам Друцка-Падбярэскім, Янам Баршчэўскім, Тадэвушам Лада-Заблоцкім, якія чытаюць яму ўласныя вершы не толькі на польскай, але і на беларускай мове, паэму «Энеіда навыварат», спяваюць народныя беларускія песні. Аўтар Кабзара заахвочвае іх пісаць менавіта на беларускай мове, з захапленнем выказваецца пра беларускія песні, хваліць некаторыя аўтарскія беларускамоўныя творы і асабліва — ананімную паэму. Расказвае і пра свае ўражанні ад Беларусі падчас паездкі ў 1843 г. з Пецярбурга на мілую яго сэрцу Украіну «беларускім трактам» (праз Віцебск, Оршу, Шклоў, Магілёў, Прапойск, Чачэрск, Гомель)…

У 1845 г., скончыўшы навучанне ў Акадэміі мастацтваў, Шаўчэнка выязджае на Украіну ў пошуках сталай працы і сталага месца жыхарства. Гэта быў, як ужо сказана, час росквіту творчых сіл паэта. Менавіта ў тым годзе на Бацькаўшчыне Шаўчэнка піша свае самыя, бадай, выдатныя паэтычныя творы, сярод якіх не толькі эпістала «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…», вядомы «Запавет», але і паэмы «Каўказ», «Ерэтык». Кіеўскі перыяд жыцця стаў для Шаўчэнкі часам палітычнага ўзмужнення. Паэт становіцца на шлях актыўнага пратэсту супраць існуючай сацыяльнай і нацыянальнай дыскрымінацыі роднага народа. Ён уступае ў таемную палітычную арганізацыю «Кірыла-Мяфодзіеўскае брацтва», мэта дзейнасці якога — стварэнне федэрацыі вольных славянскіх народаў, у якой «не будзе ні цара, ні пана, ні прыгону і прыгонных».

1847 год — год арышту большасці членаў арганізацыі. Ці не найбольшы ўдар быў нанесены па Шаўчэнку. Яго пад канвоем, і зноў «беларускім шляхам» (Чачэрск, Магілёў, Орша, Віцебск), этапуюць у Пецярбург, садзяць у казематы Петрапаўлаўскай крэпасці, дапытваюць. Але паэт трымаецца годна. Больш за тое, нават у тых страшэнных турэмных умовах піша вершы, якія склалі цэлую нізку з 13 твораў «У казематце» («Ты прыгадай, сяброў сям'я…», А мне ўсё роўна, ці я буду…», «Садок вішнёвы каля хаты…», «У няволі цяжка… Хоць і волі…» і інш). Тарасу Шаўчэнку, апрача ўсяго, быў вынесены прысуд таксама і за *«сочинение возмутительных и в высшей степени дерзких стихотворений»*. Цар і царскія

прыслужнікі не маглі дараваць яму глыбока патрыятычную і сацыяльна-палітычную, сатырычную паэзію, што ўвайшла, у прыватнасці, у канфіскаваны рукапісны зборнік «Три літа» (паэмы «Сон», «Каўказ», «Ерэтык», «Вялікі лёх», пасланне «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…», верш «Халодны Яр» і інш.). Паэта аддалі ў салдаты, выслалі ў далёкія арэнбургскія стэпы з катэгарычнай царскай забаронай пісаць і маляваць. Для творчага чалавека, зразумела, такая забарона была найбольш жорсткім пакараннем.

У ссылцы Шаўчэнку давялося пражыць больш за 10 гадоў. Аднак і ў выгнанні сустрэліся Шаўчэнку высакародныя людзі, якія як маглі дапамагалі яму маральна і матэрыяльна пераждыць страшэнныя нягоды, голад, холад, салдацкую муштру, здзекі афіцэраў. Сярод іх былі і многія выхадцы з беларускіх зямель, змагары за аднаўленне Польскай дзяржавы: Эдвард Жалігоўскі (Сава), Браніслаў Залескі, Ясафат Агрызка, Балтасар Калясінскі, Павел Круневіч… І змог Кабзар, насуперак розным забаронам і невыносным абставінам, пакрысе маляваць, а таксама тварыць паэзію, запісваць вершы ў невялікія сшытачкі, якія хаваў у халявах ботаў. Таму яны і зберагліся для нашчадкаў, атрымаўшы назву «захаляўных кніжак». Сябры паэта ў сталіцы імперыі актыўна клапаціліся пра яго вызваленне. У 1857 г. доўгачаканы дазвол быў нарэшце атрыманы. Шаўчэнка вярнуўся ў Пецярбург загартаваны, духоўна нязломны ў перакананнях, але вельмі сур’ёзна хворы.

Ён працягвае пісаць вершы, прозу (аповесці на рускай мове «Наймичка», «Княгиня», «Музыкант», «Художник» і інш.), займаецца маляваннем, уваходзіць у кола расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў, знаёміцца з некаторымі пецярбургскімі беларусамі — Віктарам Каліноўскім (родным братам Кастуся Каліноўскага), скульптарам Мікалаем Мікешыным (аўтарам помніка Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве), некаторы час вядзе свой «Дзённік» (у ім ён упамінае і Беларусь). У 1860 г. перавыдае, а па сутнасці выдае новы «Кабзар», куды, апрача ранейшых твораў, што склалі «Кабзар» 1840 г., уключае некалькі новых («Давідавы псалмы», «Гайдамакі», «Наймічка», «Утопленка», «Гамалія», «Вецер буйны, вецер буйны…») Шэраг вершаў і паэм друкаваліся з цэнзурнымі купюрамі. Канчаткова падарванае ў ссылцы здароўе ўрэшце дало пра сябе знаць. 10 сакавіка 1861 года Тараса Шаўчэнкі не стала. Ён памёр у 48 гадоў, у росквіце творчых сіл. У пахаванні яго прынялі ўдзел лепшыя тагачасныя рускія літаратары: Ф. Дастаеўскі, М. Някрасаў, М. Салтыкоў-Шчадрын, М. Ляскоў, М. Памялоўскі і інш.У маі таго ж года труна з целам паэта была перавезена з Пецярбурга на Украіну. Шаўчэнка быў пахаваны, паводле ягонага запавету, на роднай зямлі, каля Канева, на Чарнечай гары. Каб відны былі і палі разлогія, і вішнёвыя сады каля белых мазанак, і каб ля падножжа гары каціў свае хвалі годны сведка велічнай і трагічнай гісторыі Украіны магутны Дняпро-Славуціч.

Пазней Іван Франко скажа пра Тараса Шаўчэнку: «Ён быў сынам мужыка, а стаў valадаром у царстве духу. Ён быў прыгонны і вырас у волата чалавечай культуры».

* * *

Тарас Шаўчэнка прыйшоў у прыгожае пісьменства амаль праз паўстагоддзя пасля першага класіка новай украінскай літаратуры Івана Катлярэўскага (1769—1838). Зразумела, у літаратурным працэсе паміж гэтымі постацямі з’явіўся шэраг іншых цікавых творцаў украінскага мастацкага слова. Але менавіта Шаўчэнка пераняў эстафету ад Катлярэўскага, аўтара знакамітай «Энеіды» (1798), прадоўжыў запачаткаваную ім справу кансалідацыі ўкраінцаў. Толькі калі Катлярэўскі выконваў місію асветніцкую і асобныя важныя тэмы закранаў асцярожна, іх трэба было разглядзець за травесційна-бурлескнай маскай, дык Шаўчэнка ў адкрытую паставіў праблему Бацькаўшчыны, ён як пісьменнік і мысляр працаваў з усіх сіл

сваёй няўрымслівай натуры дзеля Украіны, украінскай дзяржавы, украінскага народа. Шаўчэнка — бунтар, змагар і прарок. Адстойваючы ідэю суверэннасці ўсіх нацый, ён пракладаў шлях у будучыню, прадказваў сённяшні дзень.

Літаратурная спадчына Шаўчэнкі — гэта найперш яго паэзія, што сёння звычайна друкуецца ў кнігах пад аднолькавай назвай — «Кабзар», а таксама дзевяць аповесцей (з дваццаці задуманых), п'еса «Назар Стадоля», яшчэ некалькі ўрыўкаў драматычных твораў, «Буквар», «Дзённік» і эпісталярый. Разам з тым Шаўчэнка — паэт, драматург, празаік — быў яшчэ і гісторыкам, і этнографам, і фалькларыстам, і педагогам. І мастаком — жывапісцам, гравёрам. Ён пакінуў нашчадкам больш за тысячу твораў выяўленчага мастацтва. А над усім створаным ім узвышаецца Шаўчэнка-мысляр. Знаходзячыся ў «зеніце славы», ён адначасна знаходзіўся і ў «зеніце пакут», «караючыся, мучачыся». Ды ён «не каяўся», не адракаўся ад сваіх думак, перакананняў, ад сваіх герояў. Ён фармаваў саму Украіну і ўкраінцаў, ствараў міф пра незалежную Украіну, што стаў рэальнасцю толькі ў канцы XX ст. Таму яго і ўспрымаюць як нацыянальнага прарока, апостала.

Іван Катлярэўскі працаваў у стылі класіцызму. Услед за гэтым літаратурным метадам з'явіўся рамантызм, які ва Украіне выявіў сябе яскрава і выразна. Рамантычнае светаадчуванне вельмі блізкае нацыянальнаму характару ўкраінцаў, таму рысы рамантызму прысутнічаюць і ў рэалістычных формах украінскага мастацтва. Тарас Шаўчэнка ў сваёй творчасці паяднаў адзнакі рамантызму з выявамі рэалізму. У рамантычным духу Шаўчэнка піша творы на гістарычную тэму. Ён праслаўляе гераізм запарожцаў, гетманскую казацкую славу апетых у фальклоры герояў украінскай мінуўшчыны. Узнёслая танальнасць змяняецца на трагічную, калі гаворка вядзецца пра страты, смерць людзей, братазабойчыя войны. У такіх творах паэт заўсёды эмацыйна ўзрушаны, гістарычныя падзеі падаюцца ўзбуйнена-маштабна. Калі ж Шаўчэнка закранае тэму сучаснага для яго жыцця ў царскай імперыі, ён выступае як рэаліст, ствараючы праўдзівыя карціны жыцця, смела і востра крытыкуе ўсё, што замінае яго сучаснікам «людзьмі звацца». Непераўзыдзены творца, мысляр, філосаф, змагар, прарок, бацька ўкраінскай нацыі — вось хто такі Тарас Шаўчэнка. Геній Кабзара надзвычай шырокі і шматгранны. Асноўныя тэмы і матывы творчасці Тараса Шаўчэнкі — сіроцтва, сацыяльная няроўнасць, трагічны лёс прыгоннай жанчыны, і ў той жа час — сіла і працавітасць украінскага народа, яго свабодалюбства і маральная краса. Жаночыя вобразы вельмі глыбока і пранікнёна выпісаны ў шматлікіх вершах і паэмах Шаўчэнкі. Такога палымянага культу мацярынства, такога апафеозу жаночага кахання і жаноцкай мукі не знайсці, відаць, ні ў аднаго з паэтаў свету. *«Нешчаслівы ў асабістым жыцці, Шаўчэнка найвышэйшую і найчысцейшую красу бачыў у жанчыне, у маці»*, — адзначаў Максім Рыльскі. У творчасці Кабзара мы знаходзім своеасаблівы святы трыпціх. У свядомасці чытачоў знітаваныя ў адным вобразе Божая маці, маці-Украіна і зямная жанчына-маці, якая ў муках нараджае новае жыццё.

Праз усю творчасць паэта праходзіць тэма гісторыі Украіны, казацкай волі, запарожскай мінуўшчыны, крывавых бітваў з ворагам. Апісваючы розныя гістарычныя падзеі, ствараючы вобразы народных герояў, якіх народ здаўна праслаўляў у фальклорных творах, закранаючы праблемы сівой даўніны, Шаўчэнка заўсёды праецыруе іх вырашэнне ў сучаснасць, звяртаючыся да нацыянальнай свядомасці сваіх землякоў, прамаўляючы да іх годнасці, гонару, заклікаючы не забывацца пра «славу казацкую».

Найбольш яго непакоіць прыгоннае права, царская палітыка ўціску як рускага народа, так і нацыянальных меншасцей. Можна сказаць, што Шаўчэнка біў у звон, звяртаючы ўвагу ўсяго свету на азначаныя праблемы, пры гэтым падымаў шмат пытанняў грамадскага і маральнага зместу. Найвыразней пра гэта сведчаць паэмы Кабзара «Сон», «Каўказ» і «Ерэтык», што таксама могуць успрымацца як яго пасланні.

* * *

Паэму Тараса Шаўчэнкі «Сон» (1844) можна без перабольшання аднесці да шэдэўраў сусветнай палітычнай паэзіі. Выразны антыманархічны пафас твора зближае яго з паэмамі Адама Міцкевіча «Дзяды» і Генрыха Гейнэ «Зімняя казка». Свайму твору Шаўчэнка даў падзагаловак «камедыя». Аднак знаёмства з тэкстам пераконвае чытача ў тым, што аўтар, карыстаючыся сродкамі камічнага, у тым ліку сатырай, гратэскам, гіпербалай, іроніяй, на самой справе паказаў трагічныя праявы жыцця народа.

У паэме канкрэтныя сюжэтныя карціны кампазіцыйна звязаныя ў адно цэлае ўвядзеннем у тэкст лірычных адступленняў, у якіх аўтар раскрывае свае думкі і пачуцці адносна таго, што паказвае ў творы. Асноўны сюжэтны стрыжань паэмы складаецца з трох замалёвак. Аўтар па-майстэрску выкарыстоўвае літаратурны прыём сну, ён лёгка перамяшчаецца па краіне ў пошуках запаветнай, райскай, шчаслівай зямлі. Пралятае над Украінай, далей пераносіцца ў Сібір, потым трапляе ў Пецярбург. У першай частцы ідылічныя ўкраінскія пейзажы становяцца кантрастным фонам для паказу бяспраўнага, рабскага, паднявольнага жыцця працоўнага люду на Бацькаўшчыне. Райскія куточкі любай паэту роднай старонкі пры бліжэйшым разглядзе абарочваюцца пеклам. У далёкай Сібіры аўтару адкрываюцца ўсе жахі агромністай, без краю і межаў, турмы. Тут, сярод іншых зняволеных, намаляваны вобраз «цара волі», які сваімі рысамі нагадвае катаржніка-дзекабрыста. Сталічная пецярбургская рэчаіснасць, здаецца, можа быць набліжана да разумення раю. Аўтар, трапіўшы ў царскія палаты, выгуквае: *«Так от де рай!»* Аднак назіральнае і аналітычнае вока паэта не можа не заўважыць, што сытасць і дабрабыт — гэтыя вонкавыя прыкметы раю — вызначаюць толькі парадны фасад жыцця сталічнай вярхушкі. Раскоша і фанабэрыстасць манарха і яго акружэння вырастаюць з крыві і поту працоўных нізоў. Асноўная маса гараджан зарабляе свой хлеб надзённы цяжкой працай. Ды і сама сталіца, пабудаваная на балотах, моцна стаіць толькі таму, што ў падмурак горада пакладзены сотні тысяч людскіх жыццяў. Як паказвае Шаўчэнка, цар *«Болота засипав / Благородними костями; / Поставив столицю / На їх трупах катованих!»*. Структура дыктатуры заўсёды трымаецца выключна на «палачнай» сістэме. Геніяльная метафара — сцэна «генеральнага мордабіцця» (І. Франко) — цудоўна засведчыла і права, якое абапіраецца на моц кулака, і рабскую пакорлівасць, ціхмянае падпарадкаванне ўладару яго падначаленых, «*золотом облитих блюдолизів*». Вось гэта сцэна: *«…Цар підходить / До найстаршого… та в пику / Його як затопить!.. / Облизався неборака; / Та меншого в пузо — / Аж загуло!.. А той собі / Ще меншого туза / Межи плечі; той меншого, / А менший малого, / А той дрібних…»*. Відаць, ва ўсёй сусветнай літаратуры няма такога сціслага і адначасна яскравага, выразнага выкрыцця дзяржаўнай сістэмы дыктатуры, як у паэме «Сон» Тараса Шаўчэнкі.

У трэцяй частцы паэмы шмат увагі паэт надаў вобразу цара Мікалая І. Перакананы ў тым, што дзяржава павінна абапірацца на дэмакратычныя законы развіцця і кіравання, Шаўчэнка лічыў сваім абавязкам выкрыць агідную сутнасць самадзяржаўя, папярэдзіць шырокую грамадскасць аб тым, што ў асобе расійскага манарха фарміруецца «жандар усёй Еўропы». Імператар Мікалай І, які знішчаў усё прагрэсіўнае, з’явіўся для паэта рэальнай падставай для стварэння абагуленага вобраза дэспата, тырана, моц якога — выключна ў насіллі. У адпаведнасці з гэтым намаляваны і знешні воблік імператара, а таксама яго жонкі, імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. У мастацкім творы цара ўпершыню параўналі не з «ясным сонейкам», а з мядзведзем, лютым і злосным, апухлым ад п’янства: *«Високий, сердитий <…> неначе з берлоги / Медвідь виліз, ледве-ледве / Переносить ноги. / Та одутий, аж посинів, / Похмілля прокляте / Його мучило»*. З няменшай з’едлівай іроніяй намаляваны і вобраз царыцы: *«Цариця-небога, / Мов опеньок засушений, / Тонка, довгонога»; «Цар цвенькає, / А диво-цариця, / Мов та чапля меж птахами, / Скаче, бадьориться»*. Гэтым «багам» цалкам адпавядаюць

і іх паслугачы, дзяржаўныя чыноўнікі: *«За богами — панства, панства / В срібрі та златі, / Мов кабани годовані, / Пикаті, пузаті!..»*

Калі следчыя III аддзялення на допыце запыталі Шаўчэнку: «Какими случаями доведены вы были до такой наглости, что писали самые дерзкие стихи против государая-императора?..», той годна адказаў: *«Будучи еще в Петербурге, я слышал везде дерзости и порицания на государя и правительство. Возвратясь в Малороссию, я услышал еще более и хуже между молодыми и между степенными людьми; я увидел нищету и ужасное угнетение крестьян помещиками, посессорами и экономами-шляхтичами, и все это делалось и делается именем государя и правительства…»*

Ствараючы вобраз самадзяржаўнага Пецярбурга, Шаўчэнка не прамінуў хаця б некалькімі штрыхамі «чыркануць» і земляка-лакея *«з циновими гудзиками»*, які шпарыць *«по-здешнему»*, на руска-ўкраінскай трасянцы (у простай мове выдатна перадаецца тая трасянка). Паэт таксама замаляваў і іншых «землячкоў» — дробных чыноўнікаў, якія *«по-московській так і ріжуть, / Сміються та лають / Батьків своїх, що змалечку / Цвенькать не навчили / По-німецькій…»*. Паэт пры гэтым не можа, каб не ўсклікнуць: *«Україно! Україно! / Оце твої діти, / Твої квіти молодії, / Чорнилом политі. / Московською блекотою / В німецьких теплицях / Заглушені!..»*. Зноў жа, якая яскравая мастацкая дэталь, што ілюструе паглынанне імперскай метраполіяй жыццядайных сіл са сваіх «крэсаў»!

Такім чынам, у сярэдзіне XIX ст. у імперскай Расіі дзякуючы Тарасу Шаўчэнку з'явілася першая палітычная паэма, у якой самадзяржаўе, дыктатарскі рэжым былі асуджаныя з пазіцый працоўнага люду.

Як сапраўднага дэмакрата, Шаўчэнку апякала гора не толькі ўласнай бацькаўшчыны-Украіны, але і бяда-гора прадстаўнікоў іншых нацый. Сапраўдны патрыятызм ніколі не можа мець нічога агульнага з нацыянальным эгаізмам і нацыянальнай абмежаванасцю. Інтэрнацыяналізм Шаўчэнкі выяўляўся ў бунце супраць нацыянальнага ўціску, супраць дыскрымінацыі народаў усёй планеты. Наймацнейшае вастрыё ягонай крытыкі было скіравана ў бок рэжыму тагачаснай Расійскай імперыі — «турмы народаў».

Геніяльнай сатырай на палітычныя, сацыяльныя, ідэалагічныя асновы царскай Расіі па праве лічыцца паэма Тараса Шаўчэнкі «Каўказ» (1845). Яна прысвечана сябру паэта Якаву дэ Бальмену, які загінуў на каўказскай вайне ў ліпені 1845 г. Шаўчэнка выступае ў паэме супраць захопніцкіх войнаў, шавіністычна-прынізлівага стаўлення царызму да нацыянальных меншасцей, якія насялялі Расію. Каўказская тэма — складаная і супярэчлівая. Далучэнне да Расіі ўратавала каўказскія народы ад паглынання іх Турцыяй і Персіяй. Аднак Шаўчэнку непакояць праявы каланіялізму і мілітарызму ў дзеяннях расійскага цара-тырана: палітыка пабораў, здзеку цэнтра над нацыянальнымі ўскраінамі, узбагачэнне кіруючай эліты шляхам насілля. Каўказскі матыў набывае пад пяром Шаўчэнкі шырокае абагульняючае значэнне. У развагах паэта адчуваецца паяднанне рэальнага і сімвалічнага, зямнога і касмічнага, сучаснага і вечнага.

Пачынаецца паэма сімвалічным малюнкам горнага краю: *«За горами гори, хмарою повиті, / Засіяні горем, кровію политі»*. Потым паэт пераходзіць да паказу адвечных пакутаў міфічнага Праметэя ў імя высокай мэты служэння народу: *«Споконвіку Прометея / Там орел карає, / Що день божий добрі ребра / Й серце розбиває. / Розбиває, та не вип'є / Живущої крові — / Воно знову оживає / І сміється знову»*. Нарацыйны характар твора даволі складаны. Калі тут мы бачым яшчэ ўвогуле спакойны, жывапісна-апісальны аўтарскі аповед, прамоўлены ад імя імпліцытнага «**я**», то непасрэдна за гэтымі радкамі «**я**» пераходзіць у экспліцытнае «**мы**», у палкі зварот да Бога. Змена характару аповеду, як гэта звычайна бывае ў Шаўчэнкі, падкрэсліваецца і зменай рытма-інтанацыйнага ладу: харэічны памер (чаргаванне 4-стопнага харэя з 3-стопным) змяняецца 4-стопным ямбам: *«Не нам на прю з Тобою стати! / Не нам діла Твої судить!.. / Кати знущаються над нами, / А правда наша п'яна спить»*. З гэтага часу і далей паэт вядзе свой апо-

вед ад імя гэтага сумарнага «**мы**» («нас», «наш» і г. д.), звернутага да сумарнага «**вы**» («вас», «ваш» і г. д.) — да каўказскіх народаў: *«Борітеся — поборете, / Вам Бог помагає! / За вас правда, за вас слава / І воля святая»*. Праўда, цяпер толькі зрэдку займеннік «**мы**» мае ранейшы сэнс (як увасабленне калектыву з антываеннымі настроямі). Аўтар наўмысна ўваходзіць у ролю аднаго з «пакарыцеляў Каўказа» і пачынае гаварыць наскрозь іранічна: «*милостиві ми», «ми настоящі християне, ми малим ситі», «нам тільки сакля очі коле»* і г. д. І ўсё, выказанае ім, павінна ўжо ўспрымацца не ў прамым, а ў пераносным сэнсе. І заклікі, і пахвальба: *«До нас в науку! Ми навчим / Почому хліб і сіль почім!»; «Якби ви з нами подружились, / Багато б дечому навчились! / У нас же й світа як на те — / Одна Сибір наісходима, / А тюрм! А люду!.. Що й лічить! / Од молдованина до фіна / На всіх язиках все мовчить, / Бо благоденствує!»; «Всьому навчим; тільки дайте / Свої сині гори / Остатнії... бо вже взяли / І поле і море»*. Якая злосная іронія, які з’едлівы сарказм! Як гэтыя словы выкрываюць ілжывасць, аблуднасць *«словословів, лицемірів, Господом проклятих»* — паноў, чыноўнікаў, царкоўнікаў, усіх тых, хто ажыццяўляў палітыку цара-тырана! У канцы твора маналог апаведача ў форме «**мы**» пераходзіць у суб’ектыўна палкі зварот самога паэта да забітага горцамі яго сябра Бальмена: *«І тебе загнали, мій друже єдиний, / Мій Якове добрий! Не за Україну, / А за її ка́та довелось пролить / Кров добру, не чорну. Довелось запить / З московської чаші московську отруту!»*

Такім чынам, «Каўказ», як «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…», можа з поўнай падставай успрымацца як пасланне. Пасланне пераважна іранічнае — па сваёй жанравай разнавіднасці і сацыяльна-палітычнае — па ідэйнай скіраванасці. Шмат якія радкі твора сталі крылатымі, бо былі і застаюцца актуальныя і сёння. Бо сатыры паэта спадарожнічае лірычны і гераічны пафас паэта-патрыёта і інтэрнацыяналіста.

Своеасаблівым пасланнем успрымаецца і паэма Шаўчэнкі «Ерэтык», напісаная ў тым самым 1845 годзе. Яна прысвечана сучасніку і аднадумцу паэта, выдатнаму вучонаму, паборніку славянскай еднасці, дзеячу нацыянальнага адраджэння чэхаў і славакаў Паўлу Шафарыку, пра якога з павагай паэт упамінаў у эпістале «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным…»: *«І Коллара читаєте / З усієї сили, / І Шафарика, і Ганка...»*. У «Ерэтыку» ўздымаюцца праблемы, актуальныя і сёння для ўсяго славянскага свету: чалавечай годнасці, нацыянальнай самасвядомасці, еднасці славянскіх народаў у барацьбе з чужаземнымі экспансіямі, дэнацыяналізацыяй, глабалізмам.

Паэма вядомая таксама пад назвай «Іван Гус». Цэнтральнай фігурай у ёй з’яўляецца Ян Гус, герой Чэхіі, які выступіў супраць улады на сваёй зямлі нямецкіх баронаў і ватыканскай інквізіцыі. Яна Гуса, барацьбіта за родны край, за «праўду святую», за «славу, сілу і волю» заняволенага народа на царкоўным саборы ў нямецкім мястэчку Канстанц аб’яўляюць ерэтыкам і спальваюць жывым на вогнішчы. Прафесар Пражскага ўніверсітэта, прапаведнік-рэфарматар Ян Гус паказаны ў паэме праўдзівым і добрым, моцным у перакананнях і рашучым. Па сутнасці, Шаўчэнка стварае ў паэме вобраз нацыянальнага героя Чэхіі. Яго трагічная смерць успрымаецца як выява мужнасці і сілы духу, якая падымае на барацьбу іншых.

Развіваючы тэму барацьбы супраць усялякай тыраніі, Шаўчэнка выказвае ідэю славянскай узаемападтрымкі. Ён заклікае да таго, *«щоб усі слав’яне стали / Добрими братами, / І синами сонця правди, / І єретиками / Отакими, як констанцький / Єретик великий!»*. Для тагачаснай рэчаіснасці паэма гучала як палітычны дакумент, паколькі ўспрымалася як заклік да аб’яднання славян на шырокіх дэмакратычных падставах. Па сутнасці, твор Шаўчэнкі перагукваўся з канцэпцыяй палітычнай праграмы Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва, цэнтральным стрыжнем якой было славянскае пытанне. Ідэя вольнай сям’і вольных народаў Славяншчыны, на думку сяброў брацтва, магла быць рэалізавана толькі шляхам стварэння славянскай федэрацыі. Менавіта таму паэт выказвае падзяку Шафарыку:

Слава тобі, Шафарику,
Вовіки і віки!
Що звів єси в одно море
Слав’янськиї ріки!

Гэтыя словы неўміручага Тараса не згубілі свайго значэння і сёння.

* * *

Усё, што стварыў Тарас Шаўчэнка — напісаў, намаляваў, — гэта своеасаблівыя пасланні. Пасланні сваім сучаснікам і нашчадкам, землякам украінцам і людзям іншых нацыянальнасцей. Звыш ста гадоў таму назад беларусы цудоўна зразумелі галоўнае ў гэтых пасланнях і вуснамі Янкі Купалы (верш «Памяцi Шаўчэнкі», 1909 г.) папрасілі:

Дух збудзіў свайму народу
Сваім гучным словам,
Навучыў любіць свабоду,
Родны край і мову.

Яго «бацькам» ахрысціла
Памятна Украйна.
Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!

Аднак яшчэ задоўга да гэтага купалаўскага закліку нашы землякі прыслухоўваліся да слоў «бацькі Шаўчэнкі». Як вядома, першыя пераклады твораў украінскага паэта на беларускую мову (Я. Купалы, А. Паўловіча, А. Гурло, Ф. Чарнушэвіча) з’явіліся толькі ў пачатку XX ст., калі руская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905—1907 гг. зняла нарэшце запоры з беларускага нацыянальнага друку. У той жа час асобныя творы Шаўчэнкі шырока распаўсюджваліся ў рукапісах, бытавалі ў беларускім фальклоры, а «Кабзары» 1840 і 1860 гг. адразу пасля іх выхаду ў свет сталі вядомыя і ў Беларусі. Нездарма царскія чыноўнікі, забараняючы першы «Кабзар» пасля арышту яго аўтара ў 1847 г., актыўна шукалі кнігу па ўсёй тэрыторыі «Северо-Западного Края». Слова Шаўчэнкі даносіў да беларусаў і рускі друк, публікуючы яго творы ў часопісах «Библиотека для чтения», «Современник», «Искра», у кнізе «Кобзарь» Тараса Шевченко в переводе русских поэтов» (1860) і інш. Да рускага друку актыўна далучаўся і польскі, не менш (а можа, нават і больш) даступны і зразумелы для тагачаснай беларускай інтэлігенцыі.

У 1863 г. «*у Вільні, городі преславнім*» (Т. Шаўчэнка) выйшаў у перакладзе на польскую мову «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі. І пераклаў яго «сапраўдны пясняр зямлі беларускай» (А. Брукнер), «вясковы лірнік», як называлі яго сучаснікі, польска-беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля. Кніжка пачыналася невялікай прадмовай, што сведчыла як пра ўзнаўленне ўкраінскіх твораў яшчэ пры жыцці іх аўтара, так і пра адносіны да паэта самога перакладчыка: *«Тарас Шаўчэнка, паэт, наш сучаснік (poeta żyjący), які вядомы сваімі рознымі цікавымі жыццёвымі прыгодамі, заслугоўвае прызнання найбольшага сёння песняра Украіны. Адчуваючы, што яшчэ дачасна рабіць аналіз жыцця і творчасці жывога аўтара, мы пераклалі без каментарыяў ягоны «Кабзар», збор вершаў і паэм, што вызначаюцца мужнасцю, сілай, глыбокім веданнем народа і любоўю да яго. Украінская паэзія, якая распачала новую эру, не можа быць для нас чужой».* Знакамітае прызнанне! Перакладаючы паэзію Шаўчэнкі на шырока распаўсюджаную на беларускіх землях польскую мову, Сыракомля, як і ў сваёй уласнай творчасці, адрасаваўся найперш да беларусаў, жыхароў Беларусі. З дапамогай Шаўчэнкі ён імкнуўся ажывіць нацыянальную і сацыяльную свядомасць сваіх землякоў, для якіх прыклад самаахвярнага служэння аўтара «Кабзара» ўкраінскай мове, культуры, роднаму народу шмат што значыў. Гэта было вельмі важна менавіта

напярэдадні паўстання 1863 г., адпавядала яго мэтам і задачам. Тэмы, сюжэты, вобразы, эмацыйнае напаўненне перакладзеных вершаў і паэм былі надзвычай блізкія беларусам, родным братам украінцаў.

Такім чынам, яшчэ ў XIX ст. Шаўчэнкавы творы часткова ў арыгінале, а часцей у рускіх і польскіх перакладах становяцца вядомыя беларусам, уплываюць на іх светапогляд, эстэтычны густ, садзейнічаюць узнікненню і развіццю арыгінальнай літаратуры на беларускай мове. У XX ст., побач з усё больш даступнымі арыгіналамі твораў і перакладамі іх на рускую мову, асноўную працу па азнаямленні з імі беларусаў бяруць на сябе беларускамоўныя публікацыі. Публікацыі як перакладаў, так і даследаванняў твораў Шаўчэнкі. «Шаўчэнкава дарога ў Беларусь» (Р. Лубкіўскі) пралягла праз сотні такіх перакладаў і даследаванняў, што публікуюцца літаральна ва ўсіх літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных часопісах і газетах Беларусі (асабліва да юбілейных дат). Даволі рэгулярна выходзяць на беларускай мове і асобныя выданні твораў украінскага паэта: «Кацярына» (1911), «Кабзар» (1939), «Наймічка» (1940), «Выбраныя творы» (1941), «Выбраныя вершы і паэмы» (1948), «Кабзар» (1952), «Кацярына» (1964), «Вершы. Паэмы» (1989), «Вершы. Паэмы» (1995) і інш. Перастварэнні, на якіх адбіўся свой час і залішне суб’ектыўны стыль перакладчыкаў, патрабуюць новых узнаўленняў. На змену вядомым майстрам мастацкага перакладу яшчэ даваеннага часу (Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, П. Броўка, А. Куляшоў, П. Глебка, М. Клімковіч, М. Танк і інш.) прыходзяць новыя творчыя сілы (М. Аўрамчык, Р. Барадулін, В. Зуёнак, Н. Гілевіч, С. Грахоўскі, Н. Мацяш, Я. Сіпакоў, Т. Мельчанка, В. Стралко і інш.). Такім чынам, асобныя вершы і паэмы Кабзара маюць па некалькі беларускіх узнаўленняў. Найбольш іх, відаць, у славутага «Запавету» — звыш дзесяці.

Творчасць Шаўчэнкі знайшла даволі шырокі водгук у беларускім літаратуразнаўстве, што ў значнай ступені абумоўлена вывучэннем яе ў сярэдніх школах і на гуманітарных факультэтах нашых універсітэтаў. Беларускае шаўчэнказнаўства развіваецца ў некалькіх напрамках. Найперш гэта асэнсаванне ідэйна-тэматычнага ўніверсуму і эстэтычнай каштоўнасці творчай спадчыны Кабзара, што распачаў яшчэ М. Багдановіч у артыкулах «Памяці Т. Р. Шаўчэнкі» і «Краса і сіла: Вопыт даследавання верша Т. Р. Шаўчэнкі», надрукаваных да 100-годдзя паэта адпаведна ў яраслаўскай газеце «Голос» (1914, 25 лютага) і маскоўскім часопісе «Украинская жизнь» (1914, № 2). У першым артыкуле Багдановіч акрэсліў кола тэм і праблем *«божией милостью — поэта», чей стих полон изящной простоты, поэта, который в формах строго национальных выявил общечеловеческое содержание», «человека большой идейной твердости, не сломленной целым рядом невзгод»*, пісьменніка, *«которому была суждена величественная роль сделаться символом культурной ценности целого народа»*… Багдановічаўскія думкі развіваюць, паглыбляючы і пашыраючы іх, у сваіх артыкулах і выступленнях многія беларускія пісьменнікі і літаратуразнаўцы, ацэньваючы Шаўчэнку, услед за аўтарам «Вянка», меркамі Пушкіна і Міцкевіча: Я. Купала («Вялікі Кабзар украінскага народа»), М. Лужанін («Вядомы ў свеце»), У. Караткевіч («І будуць людзі на зямлі»), П. Макаль («Агонь яго сэрца»), Я. Сіпакоў («З думаю пра незнішчальнасць народа»), К. Хромчанка («Свабоды і дружбы народаў пясняр») і інш. Што да другога артыкула, то ў ім Багдановіч упершыню ў расійскім друку тонкім даследчыцкім сцілом раскрыў таямніцы паэтыкі Кабзара, выразна даказаў, што ў асобе Шаўчэнкі *«мировая литература имеет поэта со стихом мелодичным и изящным, — поэта, который красоту своих произведений строил не на бьющих в глаза средствах поэтического воздействия, а, наоборот, на средствах наиболее тонких — ассонансах, аллитерациях, внутренних рифмах; поэта, который к этой* ***красоте*** *указанных элементов стиха присоединил еще необыкновенную* ***силу*** *своих ритмов, а также оригинальность, живость и грациозность разнообразных метров»*. Дарэчы, па ўспамінах Якуба Коласа, вядомы рускі пісьменнік

Карней Чукоўскі, калі пазнаёміўся з гэтым выказваннем, зайздросна-здзіўлена спытаў: «*Няўжо ў вас быў такі дасканалы крытык?*»

Даволі актыўна вядзецца ў Беларусі вывучэнне разнастайных сувязей Шаўчэнкі з Беларуссю і беларускай літаратурай. Яшчэ на пачатку стагоддзя вывучэнне такіх кантактных сувязей распачаў Р. Зямкевіч сваім артыкулам «Тарас Шаўчэнка і беларусы» (1911). Прадоўжылася яно ў кнігах і артыкулах П. Ахрыменкі («Тарас Шаўчэнка і Беларусь»), М. Ларчанкі («Славянская супольнасць»), А. Мальдзіса («Сыны зямлі беларускай — сябры Кабзара»), В. Рагойшы («Далучэнні: Шаўчэнкаўская мазаіка)» і інш. Да кантактных сувязей адносіцца і мастацкі пераклад. Стан і праблемы ўзнаўлення твораў Кабзара сродкамі беларускай мовы сталі прадметам зацікаўлення С. Александровіча («Янка Купала — перакладчык твораў Т. Шаўчэнкі»), Д. Палітыкі («Янка Купала — перакладчык»), В. Рагойшы («Кабзар» гучыць па-беларуску»), Э. Мартынавай («Беларуска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад») і інш. 5 мая 1939 г. у Кіеве на VI пленуме праўлення ССП СССР, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі, Якуб Колас выступіў з дакладам «Шаўчэнка і беларуская паэзія». Як падкрэсліваў сам пясняр, гэта была *«першая спроба даследаваць ролю Шаўчэнкі ў развіцці беларускай паэзіі»*, праўда, спроба «*далёка не поўная і праілюстраваная галоўным чынам паэзіяй Янкі Купалы, Якуба Коласа і Паўлюка Труса».* Перад намі — адзін з першых у беларускім літаратуразнаўстве ўзораў вывучэння ўплыву творчасці і асобы Шаўчэнкі на развіццё беларускай літаратуры. З таго часу генетычныя сувязі пачынаюць пастаянна цікавіць беларускіх шаўчэнказнаўцаў: тых жа П. Ахрыменку, М. Ларчанку, а таксама В. Барысенку («Шаўчэнкаўскія матывы ў творчасці Янкі Купалы»), Ю. Пшыркова («Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура»), В. Івашына («Шаўчэнка і шляхі развіцця беларускай паэзіі») і інш. Нарэшце, асабліва на пачатку XXI ст., у поле зроку даследчыкаў трапляюць тыпалагічныя сыходжанні творчасці Шаўчэнкі і асобных беларускіх пісьменнікаў. Сучасная метадалогія вывучэння тыпалагічных сувязей (што не ігнаруе сувязі кантактныя і генетычныя) дазволіла М. Тычыну («Карані: культуралагічны дыскурс»), Т. Кабржыцкай («Шаўчэнка і Беларусь: некаторыя аспекты кантактна-тыпалагічных сувязей. Гісторыя і тэорыя пытання»), Ж. Шаладонавай («Адну слязу з вачэй карых…»: Тэма кахання ў творчасці М. Багдановіча і Т. Шаўчэнкі»), Ус. Рагойшу («Тарас Шаўчэнка і традыцыі ўкраінскай класічнай літаратуры ў творчасці Алеся Гаруна») у многім па-новаму ўбачыць агульнае і адметнае ў творчай спадчыне Кабзара і некаторых класікаў беларускай літаратуры.

Своеасаблівымі водгукамі на пасланні Тараса Шаўчэнкі гучаць шматлікія творы беларускіх паэтаў, прысвечаныя вялікаму Кабзару. Гэта вершы Янкі Купалы «Памяці Т. Шаўчэнкі» і «Памяці Шаўчэнкі», яго паэма «Тарасова доля», вершы Якуба Коласа «Баяну-кабзару», Петруся Броўкі «Праз Беларусь», Максіма Танка «Кабзару», Пімена Панчанкі «Свята ў Палерма», Анатоля Вярцінскага «На паклон Кабзару», Алеся Пісьмянкова «Вольнай Украіне», Віктара Шніпа « Балада Тараса Шаўчэнкі» і інш.

* * *

І к нам твае слоўца не раз далятала;
Мы слухалі ўцешна, што баяў сусед, —

слушна пісаў калісьці Янка Купала пра паэтычныя пасланні апостала праўды і навукі. Далятала раней гэтае слова да беларусаў, далятае і сёння!

У сталіцы незалежнай Беларусі Мінску побач са старажытным Віленскім трактам, па якім у абозе графа Энгельгарта «казачок» Тарас кіраваўся ў Вільню, у 2000 годзе паўстала велічная бронзавая фігура таго, хто і дагэтуль навучае нас «*любіць свабоду, родны край і мову*».

Таццяна ШАМЯКІНА

# ПЕТРАГРАД І БРЭСТ: УРОК ГІСТОРЫІ

Раман «Петраград—Брэст» рэдка згадваўся сярод іншых твораў Івана Шамякіна — нават у грунтоўных аналітычных разглядах пры характарыстыцы ўсёй творчасці пісьменніка. І справа не ў адсутнасці эстэтычных вартасцей твора, а выключна ў тэме. Тэма Брэсцкага міру 1918 года для Беларусі надзвычай балючая. Праўда, Шамякін, беручыся за яе, не столькі звяртаў увагу на юрыдычныя і дыпламатычныя перыпетыі па сутнасці першай міжнароднай акцыі бальшавіцкага ўрада, колькі меў намер паказаць драматызм выхаду краіны са страшнай, разбуральнай, абсалютна народу непатрэбнай імперыялістычнай вайны. Брэсцкі мір, пры ўсіх яго геапалітычных выдатках для Беларусі, азначаў яе заканчэнне.

Іван Шамякін, сам ветэран сусветнай вайны — Другой, дасягнуўшы сталасці, усвядоміў некаторыя асаблівасці гістарычнага працэсу ў XX ст. Ён зразумеў, што Першая і Другая сусветныя войны — фактычна адна вайна, расцягнутая ў часе. Вядучыя дзяржавы свету, закончыўшы адну вайну, пачалі тут жа рыхтавацца да другой: імперыялістычны Захад, як і акула, павінен пастаянна знаходзіцца ў руху — экспансійным руху, інакш ён развівацца не можа. Ды і задачы Першай сусветнай вайны не вырашыліся да канца, бо не былі канчаткова падзелены рынкі збыту паміж вядучымі дзяржавамі: у многім іх планы разбурыў Савецкі Саюз, узнікненне якога ніяк не чакалася і нават не ўяўлялася.

І. Шамякін ужо звяртаўся да тэмы Першай сусветнай вайны ў аповесці «Першы генерал». Матэрыял захапіў яго. Хацелася яму вярнуцца і да вобраза Леніна, які ў аповесці выступаў яшчэ эпізадычна. Аднак выхад рамана «Петраград—Брэст», за які аўтару прыйшлося шмат змагацца, амаль супаў з пачаткам «перабудовы», калі разгарнуўся, спачатку прыхаваны, а затым усё больш ваяўнічы наступ на савецкую гісторыю, а з канца 1980-х гг. — і на асобу Леніна. Сёння мы разумеем, як шмат — побач з раскрыццём раней закрытых старонак гісторыі — было ў развянчанні савецкага перыяду кан'юнктуры, скажэнняў, а вельмі часта і проста яўнай хлусні, бессаромных фальсіфікацый. За чвэрць стагоддзя, што прайшло з таго часу, выйшла немалая колькасць сур'ёзных навуковых доследаў, прычым доследаў і сумленных гісторыкаў на Захадзе, якія ўшчэнт развянчалі многія міфы «перабудовы» і 1990-х гадоў, у тым ліку міфы, што тычацца асобы У. І. Леніна. Сёння ясна, што гэта быў адзін з геніяў XX ст., які ажыццявіў нябачны ў гісторыі праект — пабудову сацыялістычнага грамадства. Пачатак рэалізацыі праекта і надае чытачу раман Івана Шамякіна «Петраград—Брэст».

Ні адно грамадскае, дзяржаўнае будаўніцтва немагчыма было пачынаць ва ўмовах вядзення вайны. Таму выхад з яе стаў жыццёвай неабходнасцю для маладой савецкай дзяржавы. Брэсцкі мір завяршаў сабою ўдзел Расіі (а з ёю, натуральна, і Беларусі) у Першай сусветнай вайне і адначасова быў вынікам складанай сацыяльнай і палітычнай сітуацыі, якая склалася на тэрыторыі былой Расійскай імперыі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.

Раман «Петраград—Брэст» узнаўляе драматычныя перыпетыі заключэння міру, што аказалася зусім няпроста. Шамякін паставіў перад сабой задачу пака-

заць шматлікія перашкоды на гэтым шляху, абумоўленыя як пазіцыяй ваюючых дзяржаў, у першую чаргу Германіі, так і асаблівым стаўленнем да сацыяльных, геапалітычных працэсаў тых радыкальных сіл, якія прыйшлі да ўлады ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі — бальшавікоў і левых эсэраў.

У цэнтры рамана — асоба У. І. Леніна і яго барацьба з антаганістамі. Сярод антаганістаў найперш вылучаецца асоба Л. Д. Троцкага. Гэта было навацыяй Шамякіна — увядзенне ў мастацкую структуру твора вобраза Троцкага, на імя якога з канца 1920-х гадоў у савецкай гістарычнай навуцы і мастацкай літаратуры было накладзена негалоснае табу. Уласна кажучы, менавіта з-за вобраза Троцкага раман з такімі вялікімі цяжкасцямі праходзіў у друку. Пры гэтым беларускія гісторыкі актыўна дапамагалі пісьменніку ў пошуку дакументаў, у прыватнасці, прадставілі мемуары Троцкага і яго асноўныя публіцыстычныя працы, тады цяжкадаступныя для звычайнага чытача; а таксама пастаянна давалі парады і ацэньвалі напісаныя раздзелы. Асноўным кансультантам быў тады кандыдат, а неўзабаве (у 1990 г.) доктар гістарычных навук, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі М. С. Сташкевіч. Пазней Мікалай Стэфанавіч распавядаў калегам, як праходзіла іх з І. Шамякіным праца. Даследчыка ўразіла «ўедлівасць» пісьменніка: ён распытваў пра самыя розныя дэталі, нават драбніцы работы У. І. Леніна, бальшавіцкага ўрада, так што Сташкевічу прыйшлося неаднаразова звяртацца ў архівы і карпатліва вывучаць шматлікія, часам зусім малавядомыя, дакументы. Прычым ён і сам захапіўся пошукам, быў удзячны Шамякіну за яго цікавасць да ўсіх рэалій тагачаснага перыяду гісторыі. Што б ні казалі пра твор, які шмат каго раздражняў, але сумесная даследчыцкая работа І. Шамякіна і М. Сташкевіча ўяўляе добры прыклад творчага супрацоўніцтва мастака і даследчыка-вучонага.

У гаворцы пра раман нельга скідваць з рахунку менавіта гэты факт: пастаяннае кансультаванне Шамякіна з гісторыкамі, у тым ліку расійскімі, якія аказаліся намнога большымі савецкімі артадоксамі, чым беларускія даследчыкі, талерантныя і памяркоўныя. Прычым азнаёміцца з раманам расійскія эксперты пажадалі выключна ў рускім варыянце, у выніку аўтару гэтых радкоў прыйшлося надзвычай хутка, літаральна ў шалёным тэмпе, бо ў Маскве не хацелі чакаць, перакласці вялікі раман на рускую мову.

Дзякуючы глыбокаму і пранікліваму вывучэнню (а Шамякін заўсёды чытаў надзвычай уважліва і таму ўсё добра памятаў) прац Леніна і Троцкага, а таксама і кніг даследчыкаў, пісьменнік выпрацаваў уласны погляд і на падзеі, і на дзеючых асоб гістарычнай драмы. Сёння бачна, што ў нейкіх рэчах ён памыляўся — з-за таго, што не ведаў *усёй* праўды. Але ўсёй праўды мы не ведаем і цяпер. Яе ўвогуле зведаць немагчыма — па многіх прычынах. Адна з іх — розныя ідэалагічныя пазіцыі розных людзей, у прыватнасці гісторыкаў, кожны з якіх, уласна, па-свойму інтэрпрэтуе гістарычныя факты, падобна таму, як кожны з літаратуразнаўцаў адметна тлумачыць мастацкі твор. Што тычыцца самога аўтара рамана, то Шамякін стаяў, бясспрэчна, на пазіцыях саветызму, і асоба Леніна ў той перыяд была для яго, як і для многіх іншых савецкіх людзей, у нейкім сэнсе літаральна сакральнаю.

У наш час дзякуючы публікацыі вялікай колькасці дакументаў, якія як бы самі аб'ектыўна гавораць за сябе, воблік Леніна вымалёўваецца больш пэўна, выразна, а галоўнае — шматаспектна. У рамане ж «Петраград—Брэст» ён як грамадскі дзеяч паўстае ў сваёй стваральнай функцыі, што зусім не супярэчыць аб'ектыўнай рэальнасці (пэўнага яе боку).

Бясспрэчна, У. І. Ленін не быў святым, але нельга яго прадстаўляць і катам. Прайшоўшы праз каласальныя трагічныя перыпетыі гісторыі ў ХХ стагоддзі, мы павінны нарэшце ўсвядоміць, што поўнае адмаўленне дзяржаўнай улады ад некаторага ўціску і прымусу, зафіксаваных у законе, ставарае не ідылію, а прыводзіць, на самай справе, да найбольш страшных ахвяр сярод мірнага насельніцтва, да хаосу, да анархіі. Праблема анархізму паўстае і ў рамане І. Шамякіна. Ленін, наадварот, імкнуўся гарманізаваць сацыяльны і бытавы хаос, да якога прывяла

зусім не Кастрычніцкая рэвалюцыя, як звычайна думаюць, а яшчэ Лютаўская (1917 г.) — буржуазная. Менавіта Часовы ўрад, які прыйшоў да ўлады пасля Лютаўскай рэвалюцыі, абсалютна не здолеў кіраваць краінай, давёўшы яе да поўнага развалу, і радыкалы-рэвалюцыянеры 25 кастрычніка, уласна кажучы, проста падхапілі ўладу, што ляжала пад нагамі, бо ніхто не хацеў браць адказнасць за лёс дзяржавы. Бальшавікі, Ленін узялі.

Ленін цвярозы і рацыянальны палітык, хоць на пэўныя сантыменты ў абмалёўцы Уладзіміра Ільіча Шамякін час ад часу збіваецца (гэта ўвогуле характарызуе яго як мастака). Але Ленін — гуманіст і рэаліст — не верыў, што можна праз гвалт, праз уціск і рэпрэсіі штурхаць гісторыю намаганнямі гістарычнай волі, як думалі Троцкі, анархісты, эсэры.

Іван Шамякін, ствараючы вобраз Леніна, кіраваўся працамі найперш самога правадыра і шматлікімі ўспамінамі пра яго — людзей розных нацый, розных ідэалагічных поглядаў. У цэлым мемуары сведчылі пра чалавекалюбства Уладзіміра Ульянава. Дадаў да вобраза Шамякін і ўласныя рысы — мяккага, добрага, рахманага чалавека. У глыбокае засмучэнне прыйшоў Іван Пятровіч, калі ў перыяд «перабудовы» з'явілася шмат «выкрывальных» публікацый, заснаваных на некаторых гнеўных выказваннях і запісках Леніна («расстраляць дзесятак сабатажнікаў», «пасадзіць у турму сотню хуліганаў і спекулянтаў» і г. д.).

Іван Шамякін, як і іншыя наіўныя чытачы і слухачы, пад уціскам і СМІ, і такіх таленавітых расійскіх пісьменнікаў, як, напрыклад, Уладзімір Салаухін, літаральна зразумеў некаторыя наноў «адкрытыя» тэлеграмы і лісты Леніна, хоць павінен быў бы ўсведамляць, што рэзкія выразы правадыра нельга успрымаць як сапраўдныя дырэктывы для выканання на месцах. Сам жа Шамякін цудоўна ведаў, які каласальны аб'ём работы быў у Леніна, і значыць, Уладзіміру Ільічу было не да пошуку дыпламатычных выразаў. Тым не менш нават Шамякін аказаўся пад уладай маніпулятараў гісторыі, разгубіўся і перастаў згадваць свой раман, распавядаючы пра ўласную творчасць у шырокай аўдыторыі, хоць, на самай справе, твор для яго быў дарагі, і развянчанне былога куміра — Леніна — праходзіла псіхалагічна не без драматызму. У пэўны перыяд яму было цяжка думаць пра Леніна, але і не думаць ён не мог: залішне моцна ён зжыўся з гэтым чалавекам, ведаў яго, як ніхто з беларускіх аўтараў, і бачыў яго веліч. А ўрэшце прыйшоў да высновы, кіруючыся мудрымі словамі А. С. Пушкіна, што мы маем тую гісторыю, «якую нам Бог даў...», і неабходна прымаць яе такой, якая яна ёсць.

Сур'ёзныя даследчыкі, палітыкі і пісьменнікі (С. Кара-Мурза, В. Кожынаў, С. Міронаў, Р. Мядзведзеў, А. Папцоў, А. Праханаў і інш.) у наш час пішуць, што праект Леніна быў выратавальны для краіны менавіта ў той трагічнай сітуацыі. Ленін геніяльна ўлавіў спадзяванні і мары самых шырокіх мас: для сялянства гэта — «зямля і воля», для салдат — канец вайны, мір. У прынцыпе план будаўніцтва сацыялістычнай дзяржавы быў прыняты працоўнымі, народ падтрымаў Леніна. Іншая справа, што ўтапічная ідэя сусветнай рэвалюцыі, якую ўпарта праводзіў сацыялістычны ўрад на працягу 1920-х гадоў, дорага каштавала насельніцтву СССР.

Ленін паставіў перад сабой каласальную задачу: і тэарэтычна, і на практыцы будаваць не проста новую дзяржаву — новую цывілізацыю, новы лад, нябачны ў гісторыі, але такі, пра які марылі простыя людзі спрадвеку. І. Шамякін у рамане піша: «...Ленін узяў на сябе непамерны цяжар філосафа-марксіста, якому трэба растлумачыць усе сацыяльныя з'явы, унутраныя, расійскія, і міжнародныя, і адначасова — арганізатара-практыка, які павінен падказаць, як руйнаваць старыя буржуазныя інстытуты і стварыць новыя, савецкія. І ўсё гэта трэба рабіць адразу, размежаваць нельга».

Іван Шамякін пранікліва звярнуў увагу на тое, што аказалася слабым месцам і ў апанентаў Леніна (скажам, левых эсэраў), і ў іх нашчадкаў — буржуазных лібералаў 1990-х гг.: яны шмат і прыгожа ўмелі гаварыць, захапляючы слухачоў рытарычнымі пасажамі і гучным пафасам, але не ўмелі займацца рэальнымі

справамі, кіраваць дзяржавай; успомнім хоць бы рэформы Гайдара-Чубайса, якія абрынулі Расію літаральна ў катастрофу, зрабілі жабракамі сотні тысяч людзей. І. Шамякін на гэты конт адзначае: «Інтэлігенты даюць выдатныя парады і кіруючыя ўказанні, але аказваюцца да смешнага, да недарэчнага, да ганебнага “бязрукімі”, няздольнымі правесці ў жыццё гэтыя парады і ўказанні, правесці практычны кантроль за тым, каб слова ператварылася ў справу <...> Ленін выказвае надзвычайную веру ў арганізатарскія таленты рабочых і сялян. І тут жа папярэджвае, што трэба змагацца супраць усялякага шабланізавання і спроб устанаўлення аднастайнасці зверху, да чаго так схільны інтэлігенты. Поўны прастор ініцыятыве мас, спаборніцтву мас!» Уласна, гэта і ёсць сацыялізм, пра які марыў У. Ленін, але і І. Шамякін таксама.

Пісьменнік звяртае асаблівую ўвагу на тэарэтычныя працы Леніна, ацэньвае іх — магчыма, нават як урок для сучасных яму кіраўнікоў (старога, нямоглага, бездапаможнага як тэарэтыка Л. І. Брэжнева).

Аўтар пачынае раздзелы рамана, непасрэдна прысвечаныя У. І. Леніну, са сцэн адпачынку апошняга зімою 1918 г. у фінскім санаторыі (Расіяй Фінляндыі яшчэ не была прадастаўлена незалежнасць). Час ад часу Ленін пасылаў сваіх калег у санаторый адпачыць і падкарміцца, нарэшце выехаў і сам разам з жонкай і сястрой. Ён, аднак, і ў час адпачынку шмат працаваў. Глыбокія думкі, якія прыходзілі тут Леніну, Шамякін звязвае з адчуваннем асалоды яго героя ад прыроды — зімовага лесу, халоднага паветра, птушак. Ленін поўны даверу да жыцця, да бясконцых праяў яго мудрасці. У гэтым плане асабліва важная дэталь усяго раздзела — снегіры, якімі захапляўся Уладзімір Ільіч: жывое, арганічна-актыўнае, прыгожае штурхала думку да адыходу ад дагматычных схем і шаблонаў. А наватарства Леніна якраз і вылучае яго сярод іншых — бясспрэчна, таксама выдатных тэарэтыкаў, таго ж Троцкага. Вельмі важна для ўспрыняцця таго ці іншага персанажа першае з’яўленне яго ў творы. У гэтым плане Шамякін выбраў абсалютна правільны падыход — паказ найперш эмацыянальнай сферы свайго героя, які зацвердзіўся ў свядомасці мільёнаў як правадыр і ідэйны змагар, а не як чалавек з усімі ўласцівымі яму рысамі індывідуальнасці.

Праўда, эмацыянальна-этычны пачатак у героі не выключае ідэйнага пафасу і грамадска-злабадзённай абумоўленасці ўсіх яго дзеянняў і ўчынкаў, роздумаў і творчасці. Пісьменнік нават літаральна цытуе некаторыя тэзісы з ленінскага «Дзённіка публіцыста», каб паказаць, што хвалявала (менавіта хвалявала!) Леніна праз два месяцы пасля рэвалюцыі. Напрыклад, «кватэры беднаты і яе харчаванне». І тут жа — ажно дзесяць пунктаў аб вайне і міры. Іх Шамякін прыводзіць амаль цалкам, таму што іх і ўвасобіць неўзабаве Ленін у сваёй дзейнасці. Ленін думае і адчувае ў маштабах вялікай гістарычнай эпохі жыцця краіны. Галоўнае: ён адчувае адказнасць за гісторыю, чаго якраз не хапала многім яго калегам. Доказ таму — артыкулы самога Леніна. Пры гэтым яны арганічна кладуцца ў агульную структуру твора. Арганічна таму, што побач з імі мы бачым падрабязны аналіз думак і адчуванняў іх аўтара, перададзены І. Шамякіным.

У гэты час у Брэсце ўжо ішлі перагаворы аб міры. Аб пачатку іх Энцыклапедыя гісторыі Беларусі піша: «26.10. (8.11) 1917 2-і Усерас. З’езд Саветаў прыняў *Дэкрэт аб міры*, у якім было прапанавана ўсім дзяржавам — удзельнікам 1-й сусветнай вайны заключыць перамір’е і пачаць мірныя перагаворы. Аднак краіны Антанты не адказалі на прапанову. 7 (20) 11.1917 СНК Расіі аддаў загад аб прыпыненні баявых дзеянняў з мэтаю адкрыцця мірных перагавораў. 8 (21).11. 1917 нарком па замежных справах Л. Д. Троцкі даслаў тэкст дэкрэта паслам краін Антанты і зноў прапанаваў заключыць усеагульнае перамір’е, адказу зноў не было. 14 (27). 11. 1917 Германія дала згоду на афіц. вядзенне перагавораў, таму што сама знаходзілася напярэдадні крызісу. 18. 11 (1.12) 1917 да яе далучылася Аўстра-Венгрыя. На думку ням. камандавання сепаратны мір з Расіяй павінен быў пазбавіць армію ад неабходнасці вядзення вайны на 2 франты і дазваляў

пачаць наступальныя аперацыі на Зах. фронце. Немцы глядзелі на мір як на магчымасць за кошт пераможанай Расіі і акупіраваных абласцей б. Расійскай імперыі папоўніць свае збяднелыя за час вайны харчовыя і сыравінныя запасы. Перагаворы пачаліся 20.11 (3.12) 1917 у Брэст-Літоўску, дзе размяшчалася камандаванне ням. войск на Усх. фронце. 2 (15). 12.1917 было падпісана пагадненне аб перамір'і з Германіяй і яе саюзнікамі. 9 (22) 12.1917 у будынку інжынернага ўпраўлення Брэсцкай крэпасці пачаліся мірныя перагаворы. У склад савецкай дэлегацыі ўвайшлі Н. А. Біцэнка, А. А. Іофе (старшыня), Л. Б. Каменеў, Карахан (сакратар), М. М. Пакроўскі. Сав. бок выставіў у якасці асновы дагавору прынцыпы дэмакр. міру без анексій і кантрыбуцый. 12 (25). 12. 1917 Кюльман ад імя герм.-аўстрыйскага боку заявіў аб далучэнні да асн. тэзісаў сав. дэкларацыі пры ўмове, што да іх далучацца і ўрады краін Антанты. 17 (30). 12. 1917 Троцкі накіраваў зварот да народаў і ўрадаў краін Антанты і ЗША "з апошняй прапановай прыняць удзел у мірных перагаворах". У выпадку адмовы віна за магчымае незаключэнне сепаратнага міру ўскладалася "на імперыялістычныя колы краін Антанты і ЗША". Зварот зноў астаўся без адказу. 27.12. 1917 (9.1.1918) Кюльман заявіў, што, паколькі Антанта не далучылася да перагавораў, герм. блок лічыць сябе вольным ад сав. мірных прапаноў. Пачаўся 2-і этап канферэнцыі, які вызначыўся абвастрэннем супярэчнасцей паміж удзельнікамі перагавораў. У Германіі за больш жорсткія ўмовы міру выступалі прадстаўнікі Гал. штаба П. Гіндэнбург і Э. Людэндорф. У Расіі таксама нарастаў апазіцыйны рух у адносінах да будучага міру, бо бальшавікі чакалі хуткай пралетарскай рэвалюцыі на Захадзе, а яна не пачыналася. У сувязі з гэтым для савецкай дэлегацыі была выпрацавана агульная лінія паводзін: як найдаўжэй зацягваць мірную перадышку, выкарыстоўваючы агітацыйныя магчымасці перагавораў для далейшай рэвалюцыянізацыі міжнар. рабочага класа з мэтай набліжэння сусв. рэвалюцыі. Расійскую дэлегацыю ўзначаліў Троцкі»[1].

На гэтым этапе мірнай канферэнцыі і застаюць чытача падзеі рамана.

Адразу адзначым адну цікавую ідэалагічную тэндэнцыю, характэрную для беларускіх навукоўцаў пасля развалу СССР. Прайшло зусім няшмат часу пасля напісання Шамякіным рамана «Петраград—Брэст», а ацэнка, паколькі КПСС ужо не існавала і можна было яе не баяцца, асноўных дзеячаў Кастрычніцкай рэвалюцыі кардынальна змянілася. У артыкуле з Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, якая рыхтавалася пры галоўным рэдактары гісторыку М. А. Ткачове, а выходзіла пры пісьменніку Б. І. Сачанку ў 1994 г., імя Леніна амаль не згадваецца — усю працу па заключэнні міру, паводле беларускіх аўтараў, рабіў як быццам адзін Л. Д. Троцкі, хоць ясна, што ні адно рашэнне не абыходзілася без калегіяльнага абмеркавання і непасрэдна санкцыі У. І. Леніна як кіраўніка ўрада. Раман І. Шамякіна якраз узнаўляе штодзённую (менавіта штодзённую) працу Леніна, што тычылася заключэння міру. Было ў гэтай працы шмат аспектаў. Найперш — аб'ектыўны аналіз сітуацыі, улік настрою салдацкіх, сялянскіх мас, чаго «левыя» бальшавікі на чале з М. Бухарыным абсалютна не рабілі. А вось Ленін, пры ўсёй яго занятасці, збіраў і вывучаў пэўную інфармацыю: скажам, ён сустрэўся з дэлегатамі з'езда па дэмабілізацыі арміі і распаўсюдзіў сярод іх анкету з дзесяці пытанняў, на якія папрасіў адказаць пісьмова. «Ваенныя амаль аднадушна пацвердзілі, што ваяваць нельга». Як сведчаць дакументы, салдаты на фронце нават пра «зямлю і волю» так прагна не марылі — толькі пра канец вайны.

Уладзіміру Ільічу даводзілася астуджваць гарачыя галовы, якія закружыліся ад трыумфальнага шэсця рэвалюцыі. Левыя «ніяк не хацелі зразумець, што засталіся гіганцкай цяжкасці задачы, вырашэнне якіх не можа быць трыумфальным шэсцем з разгорнутымі сцягамі. Першая з гэтых задач — арганізацыя ўлады, вытворчасці. Толькі надзвычай цяжкай, напружанай доўгай працай, высокай самадысцыплінай

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 2. Беліцк — Гімн / Беларус.Энцыкл.; Рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн.: БелЭН, 1994. — С.102.

можна перамагчы той развал эканомікі, грамадства, які зрабіла вайна. Для гэтага трэба працаваць і працаваць. Другая задача — міжнародная. Сапраўды наіўна думаць, што мы адолеем міжнародны імперыялізм гэтак жа лёгка, як Керанскага. Два драпежнікі счапіліся паміж сабой, і гэтая акалічнасць дала нам магчымасць лёгка перамагчы; умовы, якія вельмі шчасліва склаліся, прыкрылі Савецкую рэспубліку ад міжнароднага імперыялізму. Але трэба помніць, што гэта ненадоўга, і выкарыстаць любую перадышку, каб арганізавацца, узброіцца».

Абсалютна ясна, што любая ўлада найперш клапоціцца пра сваё захаванне і ўмацаванне. Ленін на гэта і нацэльваў калег, але тых уласная краіна не хвалявала (як і сённяшніх ліbeралаў) — яны спадзяваліся на сусветную рэвалюцыю, таму рыхтаваліся да рэвалюцыйнай вайны, займаліся ўздымам міжнароднага пралетарскага руху і лічылі кашчунным ісці на пагадненні з іншаземнымі драпежнікамі — імперыялістамі. Л. Д. Троцкі яшчэ да паездкі ў Брэст выказаў свой запаветны лозунг: «Ні міру, ні вайны». Гэтая формула, якая магла заблытаць любога не тое што салдата, а інтэлігента, асабліва непакоіла Леніна: «Проста і д'ябальскі хітра. Як заўсёды ўмеў Троцкі — простыя ісціны заблытаць настолькі, што нават светлыя галовы не маглі дайсці, дзе пачатак, дзе канец». Атрымлівалася, што неабходна разброіць войска і адкрыць фронт немцам. Можа быць або мір, або вайна — нешта трэцяе немагчыма. Але краіне неабходны быў мір. У гэтым і пераконваў Ленін савецкую дэлегацыю, якая адпраўлялася ў Брэст на перагаворы з прадстаўнікамі Германіі.

Ужо 10 студзеня 1918 г., прыехаўшы з санаторыя ў Петраград, Ленін атрымаў звесткі, што фронт фактычна адкрыты; многія ўчасткі пакінуты войскамі і нікім не ахоўваюцца. Значная частка рамана прысвечана клопату Леніна аб арганізацыі новай арміі — не царскай, а Чырвонай. Не менш хваляванняў выклікаў міжнародны аспект праблемы. Вядучыя дзяржавы свету не прызнавалі бальшавікоў, але іх пасольствы ў Петраградзе, тым не менш, заставаліся, і як Ленін, так і Троцкі з пасламі сустракаліся. Галоўная задача паслоў, у прыватнасці, англійскага і французскага, — прымусіць Расію працягваць вайну, каб адцягнуць увагу Германіі ад сябе, ад Заходняга фронту. Англія нават цынічна прапаноўвала Глаўкаверху бальшавікоў Крыленку па сто рублёў у месяц за кожнага рускага салдата, які застанецца на фронце і будзе весці хоць бы акопную вайну. Магчыма, на гэта і разлічваў Троцкі са сваім лозунгам «Ні міру, ні вайны».

Ленін ставіў праблему міру сярод іншых найважнейшых праблем часу, а яны былі разнастайныя. «А што ў такой рэвалюцыі, як наша, неістотнае? — думаў Ленін. — Але, безумоўна, у першую чаргу — зямля і мір, улік класавых сіл і саюзнікаў, фінансы і прадавольства». Шматлікія пытанні, якія вырашаў Ленін у гэты час — першыя месяцы рэвалюцыі, — Шамякін або ўкладае ў яго вусны пры гутарках з рознымі суразмоўцамі, або непасрэдна цытуе працы Леніна, і яны з'яўляюцца важнейшым доказам намераў старшыні Саўнаркома. Усё гэта перамяжоўваецца аўтарскім аповедам аб непасрэдных справах правадыра. Так, не абыходзіць ён увагай і пытанні культуры: «... папрасіў Скрыпнік паставіць у парадак дня бліжэйшага пасяджэння Саўнаркома пытанне аб звароце Польшчы скарбаў нацыянальнай культуры». Ленін лічыў, што гэта важна не столькі для Польшчы, поўнасцю акупаванай немцамі, колькі «нам, расіянам, — тым "асветнікам", якія хочуць пакласці ў сваю кішэню чужое...»

Асаблівасцю Шамякіна-празаіка з'яўляецца разнастайнасць сродкаў мастацкага выяўлення, наратыўных прыёмаў і сюжэтных хадоў пры стварэнні твора. У яго на адной старонцы мог быць прыведзены дакумент, напрыклад, тэлеграма Леніна ці ўрывак з яго артыкула, дыялог з калегамі, размова з хатняй работніцай, згадвацца дэталь, які ён еў суп на абед, і ўсё гэта побач з аўтарскім аповедам дзеянняў і адчуванняў, поглядам на падзеі як бы вачыма самога героя. Напрыклад: «Эсэры шукалі зачэпкі для абструкцыі. Выглядала смешна: людзі, якія нядаўна прызнавалі, па сутнасці, адзіны метад барацьбы — тэрор, кіданне бомб, раптам захацелі паказаць сябе законнікамі. Пашкадавалі капіталістаў. А рабочых, дарагія таварышы, вам не шкада?»

Згадванне пра надзвычай складаныя праблемы ідэалагічнай барацьбы, клопаты пра пад’ём эканомікі, заключэнне міру ў рамане часам перабіваецца і высвятленнем працэдурных пытанняў, непакоем Леніна пра ўмацаванне дысцыпліны ва ўладных структурах: «Нельга змагацца з анархічнай распушчанасцю, недысцыплінаванасцю ва ўсіх установах, калі дысцыпліны не будзе ў Саўнаркоме! Члены ўрада спазняліся на пасяджэнні, некаторыя без даволі ўважлівых прычын не з’яўляліся зусім. Троцкі, напрыклад, можа падняцца на самым гарачым пытанні. Сталін часта выходзіць курыць». Недысцыплінаванасць членаў бальшавіцкага ўрада адзначана аўтарам дакладна і правільна: яна частка той агульнай сацыяльнай анархіі, якая ўвогуле характэрна для любой рэвалюцыі, скіраванай заўсёды на разбурэнне. Усялякае стварэнне патрабуе парадку, структураванасці, пэўнай фармалізацыі.

Нярэдка Шамякін сведчыць пра настрой Леніна, яго эмацыйны стан: «Працавалася весела»; «Ленін узрадаваўся прыезду ўкраінцаў...»: «Ільіч весела павітаўся з вартавымі...»; «Уладзімір Ільіч <...> увачавідкі пазмрачнеў...»; «Ленін сказаў спакойна, далікатна...»

Згадванне пра настрой разам з пастаянным указаннем на рухі, жэсты, міміку («ускудлачыў бародку», «пацёр скроні», «падняўся з крэсла», «характэрна ўзяўся рукамі за лацканы пінжака», «спыніўся перад картай» і г. д.) ствараюць выразны партрэт — літаральна кінематаграфічны: жывы, рухомы, праўдзівы.

Размовы з рознымі наведвальнікамі даюць рэальнае ўяўленне пра безліч праблем, якімі займаўся Ленін. Прычым менавіта ад яго ідзе традыцыя калегіяльнасці кіраўніцтва, якая працягвалася фактычна да 1980-х гадоў; яе трымаўся, як ні парадаксальна гэта гучыць, і Сталін (дастаткова пазнаёміцца са стэнаграмамі розных пасяджэнняў): ён заўсёды выслухваў розныя меркаванні. Скажам, у 1920-я гады, пасля смерці Леніна, калі ў партыі і ва ўрадзе змагаліся людзі з рознымі ідэалагічнымі платформамі, калегіяльнасць была адзіна магчымай формай кіравання — рашэнні прымаліся большасцю галасоў. З цягам часу гэтая большасць усё часцей арыентавалася на прапановы Сталіна.

Ленін усе пытанні ставіў на абмеркаванне. Так, у студзені 1918 г. да яго папрасіліся на прыём паслы замежных дзяржаў. Ці варта іх прыняць, Ленін раіўся з членамі ЦК, Саўнаркома. «Амаль усе падтрымалі Старшыню Саўнаркома. Нават Мікалай Іванавіч Бухарын, які, як ніхто, умеў заблытаць самае простае пытанне, ствараць праблемы і ўчыняць абструкцыі, нечакана згадзіўся, што паслоў трэба прыняць».

А Ленін паклапаціўся, як найлепш «аформіць» гэтую неардынарную тады падзею: загадаў на пасты ў Смольным паставіць больш матросаў, бо яны сваім баявым выглядам робяць адпаведнае ўражанне, а ў пакой сакратарскі — вешалкі для пасольскіх паліто і футраў.

Самі ж паслы глядзелі на Леніна як на прышэльца з іншай планеты. Ён тады яшчэ не ведаў усіх тонкасцей дыпламатыі, буржуазнага этыкету, імправізаваў па ходзе сустрэчы. У няпростай дыскусіі з вопытнымі буржуазнымі дзеячамі Уладзіміра Ільіча выручалі яго глыбокі аналітычны розум і жалезная логіка. А даведаўшыся ад сакратаркі, што паслы, адыходзячы, мацалі кішэні сваіх футраў і паліто, весела смяяўся, казаў Свярдлову: «А знаеце, я веру, што такія філістэры маглі баяцца за свае пальчаткі. Абывацельская логіка: маўляў, калі бальшавікі маглі экспрапрыіраваць зямлю, маёнткі, заводы і банкі, то чаму ім не сцягнуць у паслоў пальчаткі: Буржуа толькі так думае аб пралетарыях. Не здзіўлюся, калі ў нейкай газеце з’явіцца, што ў Фрэнсіса ў Смольным укралі пальчаткі ці галошы».

Шамякін усё жыццё ў сваіх творах выкрываў абывацельскую псіхалогію, а ў бальшавіках, у прыватнасці ў Леніну, імкнуўся паказаць яе адсутнасць. Сапраўды, такія ідэйныя камуністы — бескарыслівыя, шчырыя людзі, калектывісты, аскеты — бясспрэчна, былі, і Іван Пятровіч шмат каго з іх асабіста ведаў, сам за імі цягнуўся. Ды і працавалі яны шмат, паспелі зрабіць усё ж нямала.

У той жа дзень, калі прымаў паслоў, Ленін яшчэ бачыўся з сацыялістамі Платэнам і Садулем, распытваў іх пра сітуацыю з рабочым рухам у еўрапейскіх краінах, выступаў на мітынгу, дзе на яго быў зроблены замах з боку тэрарыстаў, а вечарам вёў пасяджэнне Саўнаркома, пісаў дакументы... Скончыў работу каля трох ночы, каб на наступны дзень, а палове дзявятай гадзіны, зноў быць на сваім рабочым месцы. Дарэчы, Шамякін вельмі акуратна адзначае не толькі даты, але нават гадзіны, лічачы іх лёсавызначальнымі для будучай дзяржавы.

Ёсць яшчэ адна, акрамя фіксацыі часу, асаблівасць структуры твора, менавіта яго хранатоп: эпізоды, прысвечаныя правадырам рэвалюцыі, у прыватнасці Леніну, перамяжоўваюцца раздзеламі, у якіх дзеянне перанесена ў Беларусь: паказаны ўчастак нямецка-расійскага фронту; стары і новы, сфарміраваныя з рабочых ваенныя падраздзяленні і іх начальнікі. Такім чынам, твор выразна падзелены па месцы дзеяння. На гэта ўказвае і яго назва.

Дарэчы, сінтаксічная структура загалоўка рамана для Шамякіна незвычайная. Петраград — у той час сталіца новай, ужо савецкай дзяржавы, але ўсё семантычнае напаўненне яго назвы звязана з былой магутнасцю Расійскай імперыі. Захапіўшы краіну, бальшавікі эксплуатуюць сімвал ранейшай дзяржаўнай моцы, а Шамякін, выбіраючы загаловак для твора, адштурхоўваецца ад назвы горада, як ад нейкага трансцэндэльтальнага цэнтра; у той час як Брэст — перыферыя. Але такая перыферыя, з якой заўсёды, у тым ліку пасля абвяшчэння незалежнасці Польшчы і Кастрычніцкай рэвалюцыі, асацыіраваўся прасторавы пачатак імперыі. Акрамя таго, Петраград як сталіца дажываў тады апошнія дні (хутка, у сакавіку, савецкі ўрад перабярэцца ў Маскву) і, значыць, страчваў паняцце цэнтра, фармальна застаючыся ім. Выкарыстанне аўтарам у загалоўку сінтаксічнай канструкцыі з працяжнікам актуалізуе значэнне працягласці, прасторы, маршруту, знаходжання ў дарозе, а значыць, у няпэўнасці, памежжы, зыбкасці. Менавіта такою і была палітычная сітуацыя. Акрамя таго, яна сведчыць пра пастаяннае перамяшчэнне дзеяння рамана — з Петраграда ў Беларусь, і адваротным шляхам.

У Івана Шамякіна заўсёды, нават не ў сімвалічных назвах, паміж загалоўкамі і самімі творамі ўзнікае моцнае сэнсавае поле. Назвы фармуюць пэўную сістэму адносін паміж асноўнымі вобразамі-сімваламі і персанажамі твораў. Так і ў гэтым рамане: за адно і тое ж ідзе змаганне на розных участках, у розных месцах, а героі — таксама ва ўсім розныя. Сітуацыя на фронце, паблізу Брэста, паказаная і аб’ектывізавана, ад аўтара, і вачыма асноўных герояў гэтай часткі — Багуновіча і Міры, выдатна падсвечвае драматычнае становішча краіны і схіляе чытача на бок Леніна, які вядзе такую ўпартую барацьбу за мір.

Сяргей Багуновіч — камандзір палка старой царскай арміі, выбраны салдатамі, Міра — маладзенькая агітатарка, пасланая партыяй бальшавікоў на фронт весці агітацыю сярод немцаў, каханая і неўзабаве жонка Багуновіча. Не адну сітуацыю на фронце ацэньвае Багуновіч, але і Міру мы бачым яго вачыма. Ён адчувае сябе не толькі каханым дзяўчыны, але і яе як бы братам, бацькам, сябрам. Яна сапраўды намнога маладзейшая, толькі з гімназіі, і па-юнацку максімалістка ў сваім рэвалюцыйным энтузіязме, як максімалістамі былі многія маладыя людзі ў рэвалюцыі, ды нават і кіраўнікі новай дзяржавы. Багуновіч — вопытны афіцэр, мінскі інтэлігент, загартаваны жорсткай вайной чалавек. Уласна, раман і пачынаецца з ваяжу Багуновіча і Міры ўздоўж лініі фронту для ацэнкі сітуацыі. Міра з яе ідэалізмам верыла, што перад імі нямецкія рабочыя ў салдацкіх шынялях, і радавалася будучай сусветнай рэвалюцыі; Багуновіч жа убачыў новую баявую часць, падрыхтаваную для далейшай агрэсіі, хоць па ўмовах перамір’я нельга было замяняць вайсковыя часці. Немцы, аднак, замянялі, і значыць, зрабіў правільную выснову Сяргей, збіраліся парушыць перамір’е, пачаць новыя ваенныя дзеянні, што далей і адбылося. Начальнік палка ўстрывожаны і актыўна рыхтуецца да абароны, хоць зрабіць гэта надзвычай цяжка: з перыяду паміж рэвалюцыямі і панавання Часовага Урада армія поўнасцю дэмаралізавана; кожны дзень

салдаты ўцякалі з фронту; зброі не хапала, карміць не было чым. Камандзіры — Багуновіч, Пастушэнка, Сцяпанаў, Бульба-Любецкі — пастаянна вырашалі цэлы комплекс вялікіх і малых праблем перш за ўсё жыццезабеспячэння войска. «Ёсць хлеб — ёсць жыццё, радасць, ёсць армія. Не накармілі сёння салдат — і з акопаў знікла баявая ахова. Не накарміць іх заўтра — і палка не стане, участак фронту будзе аголены».

З харчаваннем полк трохі выручала вясковая камуна, што ўтварылася ў маёнтку памешчыка графа Зэйфеля, які збег да немцаў. Кіраваў камунай Антон Рудкоўскі, былы балтыйскі матрос. Усіх герояў мы бачым у асноўным праз успрыняцце іх Багуновічам. Так, Рудкоўскі яму падабаўся «сваёй энергіяй і нейкай асаблівай, якую Багуновіч да рэвалюцыі не сустракаў у людзей, перакананасцю ў шчаслівай будучыні, нягледзячы на ўласнае калецтва, якое наўрад ці паможа збудаваць асабістае шчасце <...> Веру такую — у шчасце — ён адначасова бачыў яшчэ ў аднаго чалавека — у Міры». Аўтар рамана імкнецца давесці, што сустрэчы з такімі аматарамі новага ладу нават афіцэра царскай арміі Багуновіча схілялі на бок рэвалюцыі.

Сяргей Багуновіч з цікавасцю назіраў, як людзі імкнуліся наладзіць новае жыццё, зусім новае, такое, якога яшчэ нідзе ніколі не было. Ён фіксуе і шчыры энтузіязм, чалавечую радасць, калектывізм, але і праявы індывідуалізму, сквапнасці, эгаізму. Ён сам у пастаянных сумненнях, але верыць у будучае. Яго спрэчкі з Мірай, якую ён бязмерна кахае, — імкненне вопытнага і адукаванага чалавека ўвесці стыхію ў рамкі (як у Петраградзе гэта робіць Ленін), дадаць да навізны разумныя традыцыі, спрадвечныя этычныя нормы, культурныя каштоўнасці, недзе і маральныя табу. Дарэчы, гэтым зноў-такі займаўся і Ленін, які пісаў, што культура новага грамадства павінна ствараецца з улікам пастаяннага ўзаемадзеяння «паміж вопытам мінулага <...> і вопытам сённяшняга дня». Не ўсё ў сённяшнім прыносіла задавальненне. У прыватнасці Багуновіча абурала пагардлівае стаўленне Міры да яго бацькоў — беларускіх інтэлігентаў (бацька — адвакат) і ўсяго ладу іх сям’і, які Міра лічыла буржуазным. Але, як мудры чалавек, Сяргей не крыўдзіўся на дзяўчо, разумеў дзіцячую апантанасць Міры полымем рэвалюцыі, яе разбуральнай энергіяй. Без такіх шчырых, можа быць, нават фанатычных энтузіястаў нельга было захапіць простых людзей сацыялістычнымі ідэямі.

Багуновіч таксама, як і Ленін, па-свойму змагаецца за мір. Ён актыўна дзейнічае. У адрозненне ад наіўнай летуценніцы Міры, на рэвалюцыйную агітацыю сярод нямецкіх салдат зусім не спадзяецца. Добра вывучыўшы становішча варожага войска, закладвае асновы для партызанскай вайны. Акрамя таго, Багуновіч разам з начальнікам свайго штаба Пастушэнкам шле тэлеграмы ў штаб фронту, непасрэдна ў Смольны Леніну такога кшталту: «Армія галадае. Распадаецца. Самадэмабілізуецца. Асобныя ўчасткі фронту аголены, нікім не ахоўваюцца. Стрымаць наступленне немцаў, калі яно пачнецца, немагчыма. Салдаты 136-га Кастрамскога палка чакаюць міру. Салдаты патрабуюць міру. Камандзір палка Багуновіч».

Падобныя тэлеграмы з розных участкаў фронту давалі Леніну аб’ектыўны інфармацыйны матэрыял, аргументы для спрэчак, для змагання з «левымі».

Праўда, Багуновіч, як напачатку і Ленін, спадзяваўся на заключэнне мірнага дагавору. Расказваючы салдатам пра сустрэчу з кіраўніком дэлегацыі Савецкай Расіі наркомам замежных спраў Троцкім, калі той праязджаў праз іх станцыю Маладзечна ў Брэст-Літоўск, Багуновіч абвясціў: «Нарком сказаў усім, хто быў на станцыі: мы прывязём вам, таварышы, мір».

Гэта была надзвычай радасная навіна для змучаных акопамі салдат. Ды толькі нічога падобнага Троцкі не гаварыў. Проста Багуновічу хацелася, каб нарком так сказаў. І ўвогуле ад сустрэчы з наркомам у афіцэра засталося супярэчлівае пачуццё.

Яго каханая Міра літаральна абагаўляла Троцкага. «Міру ажно ліхаманіла, калі яна пачынала гаварыць пра Троцкага. Знайшла газеты з яго прамовамі, арты-

куламі, перачытвала іх з алоўкам, робячы выпіскі. Калі Багуновіч паспрабаваў пажартаваць на гэты конт, дзяўчына гатова была кінуцца на яго з кулакамі...»

Калі вагон з дэлегацыяй прыбыў на станцыю, яго сустракалі Багуновіч, Міра, Пастушэнка і яшчэ некалькі чалавек. Да іх на перон ніхто не выйшаў, тады яны самі папрасіліся да кіраўніка дэлегацыі. «Салон быў палацна-шыкоўны. Паўвагона. Доўгі стол пасярэдзіне, канапы, крэслы, абабітыя бардовым аксамітам, толькі са спінак спораты вензелі...»

Троцкі, «чалавек у залатым пенснэ, з шапкай густых чорных ускудлачаных валасоў», сустрэў іх ласкава, гутарыў добразычліва, пяшчотна паляпаў Міру па шчацэ. Гэта яе, ды і Багуновіча, абразіла. Міра «ажно пабялела і адступіла назад. Яго таксама непрыемна ўразіў такі паблажлівы жэст. Расхацелася дакладваць гэтаму весела-самаўпэўненаму чалавеку, сагрэтаму заячым футрам, у хораша напаленым шыкоўным салоне, аб тым, як галадае і замярзае армія».

Наўрад ці ў гэтай сцэне Шамякін псіхалагічна дакладны. Даўно ўжо даследчыкі-псіхолагі заўважылі, што фанаты вельмі рэдка расчароўваюцца ад непрыглядных дзеянняў сваіх куміраў, тым больш, што Троцкі нічога амаральнага не ўчыніў — паставіўся да Міры выключна як да дачкі (можна ж і так разумець). Яе не павінны былі абразіць яго дзеянні, ва ўсялякім разе, яна магла б знайсці ім апраўданне, як знайшлі Багуновіч і Пастушэнка шыкоўнаму салону: ехалі прадстаўнікі вялікай дзяржавы заключаць дамову аб міры; не ў салдацкіх жа цяплушках, з сухарамі, ім ехаць — неабходна трымаць гонар новастворанай улады. Троцкі прынізіў сябе ў вачах Багуновіча, чалавека тонкага, вопытнага і выхаванага на традыцыях рускіх інтэлігентаў з іх абвостраным пачуццём чалавечай годнасці. Але Троцкі сфарміраваўся пад уплывам іншай культуры — заходняй, частку жыцця правёў за мяжой, а галоўнае, кіраваўся прыўнесенай з захаду, марксісцкай, ідэалогіяй. Варта было б Багуновічу гэта растлумачыць сваёй рамантычнай каханай.

Аднак для чытача важна першая сустрэча з адным з галоўных персанажаў рамана — Троцкім. Паўстаў ён у вачах галодных і змучаных салдат, якія трымалі фронт, хутчэй панам, чым сапраўдным бальшавіком, абаронцам працоўных мас. У далейшым Шамякін падкрэслівае гэтае яго панства амаль пры кожным згадванні, напрыклад, Ленін не раз успамінае з іроніяй, што Троцкі любіў камфорт. Нават на пасяджэннях Саўнаркома ён, Троцкі, адзіны сядзеў у мяккім крэсле.

Шамякін не адступае тут ад гістарычнай праўды: шыкоўныя цягнікі Троцкага, яго пражыванне ў старых сядзібах рускіх князёў шырока вядомыя. У той час гэта разглядалася як прыкмета буржуазнага разлажэння. На самай справе тлумачыцца як выхаваннем Троцкага, сапраўды, буржуазным (бацька — памешчык), і тут ужо нічога не зробіш, так і яго знаходжаннем у турме і эміграцыі: спакутаваны чалавек прагнуў утульнасці. Ленін, сам аскет, ставіўся да гэтага паблажліва і з гумарам.

З’явіўшыся на першых старонках кнігі і паказаны праз успрыняцце Багуновіча, Троцкі пачынае іграць важную ролю ў другой частцы рамана, якая называецца «Урок гісторыі».

Другая частка пачынаецца з аналізу міжнароднай абстаноўкі: адбыліся выступленні рабочых у розных краінах, у выніку чаго расійская дэлегацыя ў Брэсце на чале з Троцкім стала манеўраваць у перагаворах з Германіяй і мір не заключала, нягледзячы на абсалютна пэўныя ўказанні Леніна. Галоўнае, што вызначала дзіўную пазіцыю Троцкага, — гэта яго тэорыя сусветнай (перманентнай) рэвалюцыі, адсюль і свядомае, і несвядомае імкненне рабіць тое, што б яе набліжала.

Шамякін імкнецца да паказу Троцкага знутры, асноўваючыся ў асноўным на мемуарах самога Льва Давідавіча. Пісьменніку здалося, што ён улавіў яго сутнасць. Так, ён піша пра свайго героя: «Суадносіў сваю персону толькі з глабальнымі сусветнымі падзеямі. А ў сапраўднасці, як усялякім смяротным, валодалі ім самыя звычайныя чалавечыя пачуцці, і думкі былі пабытавыя, сумбурныя, дробныя».

Пранікаючы ў думкі Троцкага аб бягучым палітычным моманце, Шамякін звяртаецца да прыёму плыні свядомасці, прасочвае асацыятыўны ланцужок і паступова вяртае героя да ўспамінаў — спачатку пра дзвюх жонак і дзяцей, затым пра бацьку і жыццё ў маёнтку пад Херсонам. Развагі Троцкага пра мудрасць бацькі ў многім раскрываюць сутнасць характару самога Льва Давідавіча. Бясспрэчна, шмат што ў яго лёсе абумоўлена бацькавым розумам, яго правільным выхаваннем дзяцей: і прывычка тых да працы, і сувязь з народам, і добрае веданне моў — рускай, украінскай. «З уласцівым яму гумарам Троцкі падумаў: "Гэта адзінае, што звязвае мяне з капіталізмам — рамантыка маленства і юнацтва. Не баюся прызнацца. Неафіта з мяне нішто не зробіць; я верны адной рэлігіі — сацыялізму"».

Шамякін умее выдатна паказаць «дыялектыку душы» сваіх герояў: хуткасць асацыяцый, імгненны пераход ад думкі да думкі, адлюстраванне мінулага ў сучасным. Усё гэта пераплятае з роздумамі персанажаў пра цяперашні момант іх жыцця, непасрэдныя перыпетыі ідэалагічнай барацьбы, з вырашэннем шматлікіх будзённых праблем, філасофскімі развагамі. Гэта аднолькава тычыцца і генія Леніна, і мудрага Троцкага, і разумнага чалавека афіцэра Багуновіча.

Самыя розныя прыёмы псіхалагічнага аналізу (унутраныя маналогі, успаміны, мары, няўласна-простая мова), ацэнкі і заўвагі самога аўтара ўдала спалучаюцца, што ўвогуле характэрна для І. Шамякіна, з прыёмамі сюжэтна-кампазіцыйнымі.

Першая частка кнігі — уся на атмасферы няпэўнасці і чакання. Другая — рэалізацыя планаў герояў, іх дзеянні, але і паказ незалежных ад іх працэсаў. Ёсць і моманты перагуквання, «рыфмавання» паміж сабою пэўных эпізодаў у адной частцы і ў другой. Напрыклад, у першай Ленін сустракаецца з прадстаўнікамі розных міжнародных колаў, у другой з замежнымі гасцямі гутарыць пераважна Троцкі. Усё тут — на тонкіх, ледзь заўважных, кантрастах. Пры гэтым калі Леніна найбольш хвалявала атрыманне неабходнай інфармацыі і перакананне апанентаў у сваёй пазіцыі, то Троцкага — прадставіць сябе ў найлепшым выглядзе перад міжнароднай грамадскасцю.

Шамякін, аднак, не малюе Льва Давідавіча суцэльна ў негатыўным плане, як можна было чакаць. Таму з такой цяжкасцю і праходзіў у друку раман, што аўтар спыняе ўвагу на многіх выдатных якасцях Троцкага, які, безумоўна, уражваў сваёй чалавечай неардынарнасцю. Так, Троцкі быў выдатным аратарам, публіцыстам; ведаў людзей, умеў прадказаць іх дзеянні. Ён мог рабіць шырокія жэсты: адаслаў у Эрмітаж мэблю і абсталяванне са старога будынка Міністэрства замежных спраў, які ён заняў па праве такога ж статусу, што і царскі міністр. Беднаваты інтэр'ер месца працы крыўдзіў эстэтычныя густы наркома, які любіў прыгожае і сапраўднае, але «яго ўльтрарэвалюцыйныя прынцыпы патрабавалі руйнаваць усё старое». І ў такіх супярэчнасцях герой паўстае пастаянна. Уласна, як і ўвогуле дзейнасць бальшавікоў, якія павінны былі ажыццяўляць многія буйныя праекты насуперак уласнай сутнасці. Інакш кажучы, уладу ўзялі разбуральнікі, але неабходнасць уладу ўтрымаць прымусіла іх зрабіцца стваральнікамі. Ды і заяўленыя гучныя лозунгі, камуністычная ідэя, уласная ідэалогія з яе базавымі ўстаноўкамі штурхалі, найперш Леніна, клапаціцца пра жыццё простых людзей, што і забяспечыла ўрэшце яму папулярнасць.

У той жа час шмат якія сучасныя аналітыкі ўсё ж не разглядаюць Кастрычніцкую рэвалюцыю і далейшае сацыялістычнае будаўніцтва выключна як авантуру бальшавікоў. Рэвалюцыю і заключэнне ганебнага міру можна параўнаць з хірургічнай аперацыяй. Часам, каб выратаваць арганізм, неабходна ісці на жорсткія меры. Інакш немагчыма было выйсці з надзвычай складанай і супярэчлівай сітуацыі, якая склалася ў былой Расійскай імперыі, што працягвала быць удзельніцай сусветнай вайны. Усе — не толькі народ, але і інтэлігенцыя, прагнулі новага, хацелі пачаць усё спачатку, на чыстым месцы, з белага ліста. Але зрабіць гэта можна было толькі ва ўмовах міру.

Сітуацыя пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — уся на супярэчнасцях і парадоксах. Так што ўсё, што пішуць пра тую эпоху, — праўда. Праўда, што гэта была катастрофа, сацыяльна-палітычная Хірасіма, магутнейшы гістарычны, нават цывілізацыйны катаклізм. Але праўда і тое, што бальшавікі, узначаліўшы «бунт» (паводле А. С. Пушкіна), урэшце ўтаймавалі яго. Рэвалюцыя і заключэнне міру выратавалі краіну як самастойную, незалежную дзяржаву і пратрымалі яе яшчэ семдзесят гадоў. Дзякуючы гэтаму і Беларусь набыла дзяржаўнасць. Інакш кажучы, падзеі такога глабальнага маштабу, як рэвалюцыя, відаць, не варта ацэньваць адназначна.

Што ж тычыцца непасрэдна заключэння міру, тут Троцкі свядома ішоў на яго зацягванне, што, безумоўна, намнога пагоршыла сітуацыю на Беларусі ў далейшым. Шамякін асноўваецца не толькі на аб'ектыўных дадзеных, чаго не заўсёды стае аўтарам Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, але і на сведчаннях незалежных аўтараў, у тым ліку тых, хто добра ведаў Троцкага. Так, амерыканскі мільянер палкоўнік Райманд Робінс у адным са сваіх данясенняў з Расіі на радзіму пісаў адносна Троцкага: «Я быў задаволены, што менавіта ён працягвае Брэсцкую канферэнцыю... Я быў задаволены, таму што я знаў яго. Ён быў нешта накшталт “прымадонны”. Я знаў, што Троцкі зацягвае канферэнцыю наколькі гэта магчыма, таму што яна давала найбольш поўнае задавальненне яго эгаізму (эгацэнтрызму). Ён быў у цэнтры сусветных падзей... ён красамоўнічаў перад самай шырокай аўдыторыяй, на якую мог разлічваць раней і ў будучым». Іншае меркаванне, ужо сучаснага аўтара, ускосна апраўдвае Льва Давідавіча: гэта рэвалюцыйныя прынцыпы Троцкага не дазволілі яму пайсці на ганебны мір з капіталістычнай краінай[1]. «З іншага боку пачуццё рэальнасці не дазволіла Л. Троцкаму падтрымаць М. Бухарына і іншых левых бальшавікоў у іх патрабаванні аднавіць “рэвалюцыйную вайну”. Тады ім быў сфармуляваны лозунг: “ні міру, ні вайны”»[2]. Так піша беларускі даследчык Алесь Века.

Сапраўды, Леніну прыйшлося весці жорсткую барацьбу са сваімі таварышамі па партыі — «левымі бальшавікамі», былымі аднадумцамі. Шамякін паказвае пазіцыю кожнага — Свярдлова, Сталіна, Бухарына, Дзяржынскага, Бубнова, Бонч-Бруевіча, Стасавай. Кожны з іх — носьбіт сваёй часцінкі праўды. Задача Шамякіна — засведчыць прадбачлівасць і глыбіню ленінскай думкі, які ўмеў трымаць у полі зроку ўсю сітуацыю цалкам — міжнародную і ўнутраную, ва ўсіх яе нюансах. Але паўтараем: кожны перажываў па-свойму. Так, Дзяржынскаму «больш, чым каму іншаму, балела, што той мір, які заклікае падпісаць Ленін, аддае нямецкім імперыялістам на гвалт Польшчу, Беларусь, Літву». Так вырашыў адносна Дзяржынскага аўтар рамана.

Ёсць, аднак, яшчэ адна думка сучасных даследчыкаў (напрыклад, А. Бураўскага), якраз найбольш распаўсюджаная сярод абывацеляў. Паколькі частка бальшавіцкага ўрада на чале з Леніным — стаўленнікі германскага Генеральнага штаба (ён забяспечыў праезд бальшавікоў праз Германію ва ўмовах вайны), а частка на чале з Троцкім прыплыла на караблі з Нью-Ёрка на грошы амерыканскіх банкіраў, то адпаведна, у інтарэсах сваіх гаспадароў, яны сябе і паводзілі: Ленін адстойваў мір, выгадны Германіі, а Троцкі патрабаваў працягу вайны, каб задаволіць Антанту і ЗША, адкуль атрымоўваў грошы. Праўда, урэшце і адзін, і другі абдурылі сваіх гаспадароў. Магчыма, такая версія таксама мае права на існаванне, хоць, калі пісаўся раман, Шамякін яе не ведаў і прыпісваў выключна высакародныя імкненні большасці сваіх герояў, у прыватнасці Леніну. Хутчэй за ўсё, і Ленін, і Троцкі з самага пачатку падманвалі сваіх спонсараў — абы грошы ўзяць, а кіраваліся ўсё ж ідэйнымі меркаваннямі. Мы ж павінны ацэньваць рэальнасць дадзенага твора.

---

[1] История России с древнейших времен до наших дней. — Мн.: Современный литератор, 2001. — С. 556.

[2] Там сама. С. 556.

Калі немцы парушылі перамір'е і пачалі наступленне па ўсім фронце, прыйшлося сабрацца Цэнтральнаму камітэту. І хоць стэнаграфістак тады не было, але Алена Дзмітрыеўна Стасава запісала ход спрэчак, і Шамякін яго дае амаль у поўным аб'ёме. Прычым нават графічна афармляе як звычайна афармляюць драматычны твор: піша прозвішча выступоўцы і прыводзіць яго маналог. Гэта дазволіла пісьменніку перадаць увесь напал барацьбы, што вёў Ленін за падпісанне міру. Фактычна дакументальна фіксуецца гісторыясофскі паядынак. У прыватнасці, правадыр адзначаў: «Сялянства неймаверна стамілася ад крывавай вайны. Яно хоча ўрабляць зямлю, якую яму дала рэвалюцыя... сеяць хлеб... Ваяваць без хлеба нельга — гэтак жа, як і без патронаў...»

Даючы дырэктыву Троцкаму і яго намесніку па мірнай дэлегацыі Іофе, Ленін падкрэсліў: «Некаторыя таварышы забываюць, што ў эміграцыі можна было рашаць словамі... Цяпер — трэба рашаць справамі. Важнейшая са спраў Рэспублікі Саветаў — выхад з вайны, атрыманне мірнай передышкі».

Штодня Леніну прыходзілася даказваць сваю пазіцыю апанентам, якія ўсё яшчэ не маглі адысці ад рамантызму рэвалюцыі, ад прывычкі да лозунгаў, гучных і ўзнёслых фраз. А Ленін быў практык, яму пастаянна даводзілася вырашаць сотні практычных спраў, што тычыліся лёсу людзей, у тым ліку лёсу людзей на фронце. Таму ён змагаўся з фразай, з дэмагогіяй, з тымі аргументамі, якія зусім не адпавядалі рэальнасці. Дзіўна, што людзі, якія, не задумваючыся, аддавалі жыццё за рэвалюцыю, за сацыялізм, мелі пра сацыялізм вельмі цьмянае ўяўленне. Уласна, гэта была міфалагічная вера ў залаты век, у рай, у тое, што камунізм можна пабудаваць ужо праз паўгода, да наступнага лета — прычым пабудаваць у сусветным маштабе. З гэтым міфам, утопіяй, наіўнай верай і прыходзілася змагацца прагматычнаму Леніну. З другога боку, рэвалюцыя — такі магутны катаклізм, што немагчыма прадбачыць яе другасныя і ўсе іншыя наступствы. Людзі ішлі па цаліку, сапраўды шмат чаго не разумелі, і мы, з вышыні нашага гістарычнага часу, наўрад ці можам іх асуджаць, тым больш, што самі нарабілі масу памылак. Праўда, Ленін лічыў рэвалюцыйнае фразёрства левых выяўленнем дробнабуржуазнай разгубленасці перад бязлітаснай рэальнасцю. Магчыма, і так: Ленін лепш ведаў сваіх таварышаў. Але ён не крыўдзіў іх падобнымі абвінавачваннямі.

Дзясяткі старонак прысвячае Шамякін усё новым і новым аргументам Леніна, спрэчкам з калегамі, з Троцкім, які зацягнуў перагаворы да такой ступені, што немцы, пачаўшы наступленне і прасунуўшыся даволі далёка, захапіўшы значную частку Беларусі, сталі дыктаваць зусім новыя, намнога больш жорсткія, умовы заключэння міру.

Усе падрабязнасці шматлікіх слоўных змаганняў Леніна з апанентамі маглі б абцяжарыць тэкст рамана, стаміць чытача, калі б аўтар не ўвёў раздзелы, у якіх прасочваў асабісты лёс людзей — найперш Багуновіча і Міры, не паказаў рэальную абстаноўку на фронце. Такі паказ дадаткова падсвечваў усе перыпетыі барацьбы ў бальшавіцкім урадзе.

Непасрэдна перад наступленнем немцаў адбылося вяселле Багуновіча і Міры. Сяргей імкнуўся абставіць яго найбольш рытуальна-сімвалічна, хоць супраць любых рытуалаў рашуча выступала Міра. Аднак Багуновіч не думаў, што варта адмяняць тое, што з'яўлялася народнай традыцыяй: «Можа, традыцыі трэба расшыраць, паглыбляць, вызваляць ад рабскіх, рэлігійных, класавых, нацыянальных забабонаў?» Яму з жанчынамі, яго хатняй гаспадыняй і яе дачкой, давялося патраціць нямала часу, каб угаварыць Міру апрануць святочную сукенку і «ўвогуле згадзіцца на гэтую "камедыю", як яна з самага пачатку называла ўсё, што ён задумаў, пра што дамовіўся з мясцовымі кіраўнікамі». Але ўрэшце наіўная дзяўчына сама адчула важнасць моманту і неабходнасць хоць нейкага афармлення іх з Сяргеем адносін. Усё наноснае, абумоўленае часам, урэшце ад яе адступіла і адкрылася звычайная жанчына з усімі, уласцівымі жанчынам, жонкам і будучым маці, пачуццямі.

Падчас наступлення немцаў Міра, усё яшчэ верачы ў салідарнасць рабочых усяго свету, імкнецца іх спыніць: «... насустрач злавеснай сцяне, што з калыханнем набліжалася, бегла маленькая постаць у салдацкім шынялі — як хлапчанё неразумнае — і махала чырвонай касынкай, як бы вітала чужых салдат». Стрыманы Пастушэнкам, Багуновіч спадзяваўся, што ўсё ж у дзяўчыну ворагі не адважацца страляць, возьмуць у палон. Але «з нямецкага боку сакатнула кулямётная чарга, і жанчына ў шынялі ўпала, як падкошаная, у снег». Яе чырвоная касынка, як сцяг, плыла ўздоўж лініі фронту — «па снежнай роўнядзі каціўся маленькі чырвоны клубочак, і не аднаму рускаму салдату здалося, што гэта паплыў струмень алай крыві агітатаркі».

Наступленне немцаў аказалася, нягледзячы на ўсе ранейшыя захады Багуновіча аб падрыхтоўцы абароны, трагічным для палка Сяргея. Сам ён, паранены, трапіў у палон. Немцы доўга не падбіралі раненых, палонных дзве гадзіны трымалі ў полі, на сцюдзёным ветры, а потым размясцілі ў стайні маёнтка.

Трэці раздзел кнігі «Уратаванне», што вырашае калізію з заключэннем міру, пачынаецца драматычна — з ультыматуму Германіі, якая значна прасунула свой фронт — менавіта па беларускай тэрыторыі, хоць бальшавікі лічылі яе часткаю расійскай. Між тым, жыццё ў Смольным ужо ўсталявалася і звонку тут ніякай нервовасці перад поўным магчымым крахам не адчувалася. Аднак на гэтым як быццам спакойным фоне асаблівым дысанансам прагучалі ў Шамякіна старонкі, што апавядалі пра напружаную дзейнасць Леніна ў такі неспакойны час. Думкі, накіды новых артыкулаў супраць рэвалюцыйнай фразы, абдумванне новых аргументаў у барацьбе з Троцкім і «левымі», мноства самых розных сустрэч і дзеянняў. Прычым для Леніна не было малаважных пытанняў. «Усё, што вырашалася, — умацоўвала эканоміку ці палітычную структуру». А між тым ультыматум немцаў быў надзвычай жорсткі: «У дадатак да брэсцкіх умоў нямецкія мілітарысты патрабуюць усю Прыбалтыку, палавіну Беларусі...» Новыя ўмовы аказаліся ў дзесяць разоў горшыя, у дзесяць разоў цяжэйшыя, чым на брэсцкіх перагаворах, праваленых Троцкім. Цвярозы Ленін разумеў, што толькі «поўнае ап’яненне рэвалюцыйнай фразай здольна штурхаць сяго-таго на адмаўленне падпісаць гэтыя ўмовы». Урэшце бальшавікі, якія баяліся здрадзіць рэвалюцыі, ідучы на стасункі з імперыялістычнымі драпежнымі дзяржавамі, скарыліся перад пагрозай увогуле страціць уладу. На гістарычным пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта партыі «сем чалавек прагаласавала за мір, чацвёра — група Бухарына — супраць, чацвёра ўстрымалася; Троцкі і Іофе, якія сарвалі падпісанне міру на значна лягчэйшых, брэсцкіх, умовах, на гэты раз устрымаліся». Ленін перамог, рэспубліку ўратаваў. Але ўратаваў і сотні тысяч людзей ад пагібелі, дзяцей ад сіроцтва. Для гуманіста Шамякіна менавіта гэты аргумент быў галоўным.

Пры гэтым шмат старонак ён прысвячае жахам палону, фізічным і маральным пакутам Багуновіча (не стрымаў наступленне ворага, не збярог жонку: «Ад усяго жыцця засталося хіба адно — пякучы боль ад успамінаў пра Міру, пра крывава-чырвоную касынку, якую вецер каціў па снежным полі»). Крывавыя сцэны здзекаў немцаў і барона Зэйфеля з палонных паказваюцца аўтарам на мяжы эстэтычнай меры, што не выключае іх праўдзівасці. Не абыходзіцца аўтар і без прыгод, што ўвогуле для яго характэрна, — вызвалення Багуновіча з дапамогай сябра — авантурнага партызана Бульбы-Любецкага.

Абыякавага да жыцця кантужанага Багуновіча прывозяць да бацькоў у заняты немцамі Мінск. Тут ён разам з сястрой наведвае сям’ю Міры. Пісьменнік як бы вяртае чытача ў перадгісторыю сваіх герояў, паказвае ўмовы выхавання — зусім розныя ў розных сем’ях. І робіцца зразумелым і рэвалюцыйны энтузіязм, наіўнасць, дабрыня Міры, і разумная інтэлігентная памяркоўнасць Сяргея. На працягу ўсяго твора аўтар імкнецца ўлавіць і паказаць розныя фактары, што ўплываюць на герояў, у тым ліку на іх фарміраванне: геаграфічныя і сацыяльныя, гістарычныя і этнічныя.

У плане сюжэтна-кампазіцыйнага канструявання Шамякін трымаецца ў рамане класічнага прыёму парнай антытэтычнасці: Ленін — і Троцкі; саюзнікі Леніна (Свярдлоў, Дзяржынскі, Сталін) — і «левыя» бальшавікі на чале з М. І. Бухарыным; разважлівы і акуратны Сяргей — і анархіст Бульба-Любецкі; ідэалістка Міра — і вясёлая сялянка Стася; наіўная летуценніца Міра — і сур'ёзная сястра Багуновіча Лёля; бацькі-інтэлігенты Сяргея — і бацькі-пралетарыі Міры.

У цэнтры рамана два героі — Ленін і Багуновіч, якія супрацьстаяць па месцы знаходжання і статусе. Само прозвішча другога з іх гаворыць пра высокае і святое. Сяргей Багуновіч — чыстая натура. Ён агорнуты святлом, якое ідзе як бы ад розных вытокаў: бацькоўскай інтэлігентнасці, родавага дваранскага гонару, патрыятызму кадравага афіцэра, універсітэцкай адукаванасці, любові да блізкіх і кахання. Гады вайны, рэвалюцыя загартавалі хлопца, умацавалі ў ім пачуццё незалежнасці, уласнай годнасці, развілі аналітызм мыслення.

Багуновіч у структурна складаным рамане выступае барометрам аўтарскай думкі і адначасова рупарам ваюючага народа. Вось чаму, у мэтах канчатковага ідэйнага і сюжэтна-кампазіцыйнага афармлення, пісьменніку спатрэбіўся яшчэ і Эпілог. Тут, на завяршэнні твора, Сяргей Багуновіч аказваецца ў Маскве, у будынку былога Дваранскага сходу, будучага Дома Саветаў, дзе ён, ужо курсант чырвонаармейскіх курсаў, выступае як ахоўнік дэлегатаў з'езда Саветаў. Ганарыцца, што ахоўвае самога Леніна (бальшавіцкі ўрад пераехаў ужо ў Маскву). З'езд павінен ратыфікаваць мірную дамову з Германіяй. Тут Сяргей пачуў размову Леніна па-французску з адным з іншаземцаў. У прыватнасці, Ленін прамовіў: «Адзін з нашых "левых" сказаў: "Ленін аддае прастранства, каб выйграць час". Гэта адзінае разумнае, што сказалі людзі фразы. Так, мы адступаем, каб выйграць час, бо мы не сумняваемся: час працуе на нас». Сапраўды, ужо праз паўгода, калі ў Германіі адбылася лістападаўская рэвалюцыя, «Савецкі ўрад дэнансаваў Брэсцкі дагавор і рушыў Чырвоную Армію на захад[1]. Нямецкая акупацыя Беларусі закончылася. Ведаючы гэта, Шамякін і выступае саюзнікам Леніна. А таксама саюзнікам, уласна кажучы, усіх простых людзей — салдат, сялян, рабочых, якія ўсе былі — за мір. Шамякін-франтавік, які сам знаходзіўся ў войску шэсць гадоў і прайшоў усю Айчынную, разумеў бязмерную стомленасць людзей ад вайны. Ленін і таксама Шамякін справядліва лічылі, што ў любым выпадку мір лепш, чым вайна, «бо ён дае магчымасць уздыхнуць народным масам...» Інакш кажучы, у дадзеным выпадку Ленін, які прымаў цяжкае рашэнне аб выхадзе з вайны, не кіраваўся ніякай дактрынай, у тым ліку адносна незалежнасці Беларусі, як ні цяжка нам гэта ўсведамляць, а зыходзіў выключна з гуманных меркаванняў фізічнага выратавання народа. Гэта і прыцягнула Шамякіна да тэмы Брэсцкага міру. На аптымістычнай ноце заканчваецца твор.

Раман «Петраград—Брэст» гістарычны, хранікальны, у той жа час глыбока канфліктны: у ім з вялікім майстэрствам спасцігаюцца сувязі паміж індывідуальным лёсам людзей і ходам гісторыі. Уласна, гэта заўсёды было моцным бокам Шамякіна-празаіка. У рамане паказваецца надзвычай драматычны момант у гісторыі краіны, нават гісторыі цывілізацыі; аднаўляецца стан пераходнасці, няпэўнасці, хаатычнасці, і рашучыя імкненні найбольш праніклівых людзей гэты стан пераадолець, што не можа не быць актуальным і на пачатку XXI ст. Героі твора ўвасабляюць напружаную работу думкі і адначасова актыўныя дзеянні, хоць і ў розных сферах. Усё гэта дазваляе гаварыць аб стварэнні Шамякіным панарамнага рамана і далейшым развіцці беларускай літаратуры на шляхах эпічнасці.

[1] Гісторыя Беларусі / А. Л. Абецэдарская, П. І. Брыгадзін, Л. А. Жылуновіч і інш.; Пад рэд. А. Г. Каханоўскага і інш. – Мн.: «Экаперспектыва», 1996. — С. 318.

Міхась ЛАГВІНЕНКА

# СУМЛЕННЕ — ПАНЯЦЦЕ АБ'ЁМНАЕ

Люблю чытаць аўтабіяграфіі пісьменнікаў. Вядома ж, не тыя, што пішуцца тады, калі чалавек паступае на работу, ці з іншай нагоды, калі неабходна расказваць пра сябе: калі і дзе нарадзіўся, дзе вучыўся і як пачаў сваю працоўную біяграфію, дый прывесці іншыя звесткі, якія патрабуе аддзел кадраў, а калі яго няма, то сама адміністрацыя ўстановы ці арганізацыі, куды ўладкоўваешся. Я ж з вялікім задавальненнем перагортваю старонкі тых аўтабіяграфій, што нагадваюць сабой мастацкі твор, часцей за ўсё — як апавяданне, у якога дакументальная аснова. Такія ж аўтабіяграфіі, як вядома, змешчаны ў кнігах «54 дарогі», «Пра час і сябе», «Вытокі песні», што даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Гэтую свайго роду бібліятэчку жыццяпісаў беларускіх літаратараў годна прадоўжыла і нядаўняя — «З росных сцяжын», некалькі гадоў назад выпушчаная тагачаснай Рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і Мастацтва», якую, кнігу гэтую, пры жаданні яшчэ можна набыць.

Апошняя з іх асабіста для мяне цікавая і тым, што дае нямала новага і пра тых пісьменнікаў, якіх я і да з'яўлення гэтага зборніка аўтабіяграфій добра ведаў. Правільней, мне здавалася, што я іх і сапраўды добра ведаў. Аднак пачаў чытаць іхнія аўтабіяграфіі і аказалася, што веданне гэтае пра некаторых няпоўнае, а ў нечым і павярхоўнае. Прынамсі, мне былі вядомы далёка не ўсе звесткі, што тычацца жыццёвага лёсу знакамітага празаіка, нарысіста, публіцыста, а да ўсяго і кінасцэнарыста, крытыка, літаратуразнаўцы Уладзіміра Саламахі, а менавіта яны дапамагаюць лепш зразумець і ягоную творчасць — як вытокі яе, так і пісьменніцкае станаўленне, фарміраванне творчай індывідуальнасці, што ў рэшце рэшт прывяло для з'яўлення ў сучаснай беларускай літаратуры аднаго з найбольш цікавых літаратараў, якіх праз колькі гадоў (час жа няўмольны ў сваёй хадзе!) можна будзе назваць прадстаўнікамі старэйшага пакалення.

## З пісьменнікаў харошых і розных

У аўтабіяграфіі У. Саламахі кідаецца ў вочы той, момант, што тычыцца разумення ім самой прозы як жанру. Не толькі таму, што гэтыя развагі змешчаны ці не ў самым пачатку ягонага жыццяпісу, а і таму яшчэ, што далёка не ў кожнага пісьменніка з'яўляецца жаданне ў аўтабіяграфіі даць адказ на гэтае пытанне. У. Саламаха ж, запытаўшыся і ў самога сябе, дый у чытача, у якім бачыць зацікаўленага суразмоўцу, «а што проза для мяне?», тлумачыць гэта так: «Мабыць, нейкі імпульс ці настрой. Бывае, доўга нешта хвалюе, трывожыць. Хочацца выказацца. І стан такі, што пісьмовы стол не патрэбны: на вуліцы, у метро, у рыбацкай лодцы, днём, сярод ночы — усё ў галаве «прагаворана» ды «ўбачана». Урэшце — за стол сеў. Выпісаўся — гуляй! Адчуванне радасці, што сказаў, ёсць да той пары, пакуль не аддасі чытаць у рэдакцыю ці ў выдавецтва. Наогул жа ведаю — у кожнага літаратара — па-свойму. І як ён піша, і чаму, і для каго.

Як пішу — сказаў. Для каго?... Пытанне таксама няпростае, а, здавалася б… Часам чую: «Пішу для сябе», «Для жонкі». Няўжо? Калі так, мог бы і не друкавацца: для сябе, дык для сябе. Пішу, хачу, каб чыталі. А што для сябе, дык яно ў душы і застаецца і ў тыражыраванні патрэбы не мае».

Бадай, нельга абмінуць і такое ягонае сведчанне: «…лічу, што ў свае гады (пісалася аўтабіяграфія ў кастрычніку 2008 года) ужо ведаю асабістыя рэальныя магчымасці ў той справе, якой займаюся. Адношуся да сябе ў гэтым кірунку спакойна, з пэўнай доляй самаіроніі. Таму не раблю спробы ўзяць тыя «вышыні», якія не для мяне. Зрэшты, яны — у любой справе для кожнага з нас свае. Напэўна, зразумеўшы гэта з часам, нічога, што з табой адбываецца ў працы, як трагедыю не ўспрымаеш. Але як бы там ні было, а ўсюды людзі адной прафесіі, аднаго занятку лепш за іншых разумеюць, хто чаго варты. І ў літаратуры — таксама. Так што, хваліся не хваліся, хвалі не хвалі сябе — Багдановіча сярод нас няма, як няма Купалы, Коласа, Чорнага, Гарэцкага, Мележа, Адмовіча, Брыля, Шамякіна, Стральцова, Караткевіча, Рубанава… Але за тое ёсць іншыя пісьменнікі, «хорошие и разные», — і гэта цудоўна».

Таму і я запыніў на гэтым прызнанні ўвагу, што яго можа асмеліцца прамовіць далёка не кожны з пішучай браціі. Звычайна кожны лічыць сябе ці не жывым класікам. Мне, напрыклад, давялося чуць і такі выпадак. Аднойчы два даволі вядомыя пісьменнікі, спрачаючыся, хто з іх больш таленавіты, ледзь за грудкі не ўзяліся. Страшна падумаць, чым гэта магло скончыцца, калі б не ўмяшаліся літаратары, якія былі сведкамі высвятлення «таленавітасці». Адзін жа з «таленавіцейшых» — глыба, няхай і не «матерый человечище», як калісь сказаў пра Льва Талстога адзін класік марксізму-ленінізму, а другі… Несумненна, што з-пад гэтай «глыбы», пакрыўджанай тым, што хтосьці засумняваўся, што ён не самы таленавіты. Больш шчуплы мог бы і не падняцца.

Ды гэта, як кажуць, між іншым… У. Саламаху і ў галаву не магло прыйсці наладзіць падобнае спаборніцтва. Па той простай прычыне, што такая праблема, як відаць з прыведзенага вышэй ягонага выказвання з аўтабіяграфіі, яго проста не цікавіць, выедзенага яйка не вартая. Загрудкі здатны брацца толькі тыя, хто сумняваецца ў сапраўднай «велічнасці» свайго таленту. Той, хто ведае сабе цану, ніколі не апусціцца да высвятлення адносін далёка не творчым шляхам, а будзе працягваць пісаць так, як пісаў і дагэтуль.

Пачаў пісаць яшчэ школьнікам. Гэтыя ягоныя першыя, зразумела, вучнёўскія пробы пяра родныя ўхвалялі. Асабліва бацька, былы франтавік. Па прызнанні Уладзіміра Пятровіча, «ён на апошнія грошы выпісваў нам, дзецям, усе беларускія літаратурныя часопісы і нават «ЛіМ», а таксама «Юность», «Роман-газету» і мне асабіста — часопіс «Художник».

Апошняе з названых выданняў у сям'і з'явілася невыпадкова: Валодзя з маленства захапляўся і маляваннем. Калі ж сям'я перабралася ў пасёлак Скачок, дзе бацька працаваў шафёрам (нарадзіўся ж будучы пісьменнік у вёсцы Бераснёўка Кіраўскага раёна), там была багатая бібліятэка. Гэта таксама спрыяла ягонаму чытанню. Задаткі таленту ў яго, бадай, ад дзеда па маці Астапа, які меў прозвішча Печань. Калі У. Саламаха «пачаў стала друкавацца з прозай, маці прасіла іншы раз, каб пачытаў». Сама яна «была зусім непісьменнай, не ўмела пісаць і чытаць». У той жа аўтабіяграфіі ёсць і такое сведчанне: «…яна ніколі не казала, добра ці дрэнна. Толькі аднойчы, калі пачула па радыё маё апавяданне, пахваліла: «Дзед Астап».

Ды гэта было пазней: першыя апавяданні «На ўзмежку радасці» і «Яўменава хата» апублікаваў у часопісе «Маладосць» у 1977 годзе. А гэтаму папярэднічала праца ў раённай газеце, служба ў арміі, вучоба на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, праца ў Дзяржаўным камітэце БССР па кінематаграфіі. Потым быў літсупрацоўнікам, рэдактарам аддзела

той жа «Маладосці», першым намеснікам дырэктара Рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам "Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі". Нягледзячы на пастаянную занятасць на асноўнай рабоце, шмат працаваў творча і як вынік кнігі — На ўзмежку радасці» (1980), «Заўтра ў дарогу» (1985), «Кавалёк — лесавая былінка» (1988), «Цяпло чужога сэрца» (1990) і іншыя. Па сцэнарыях У. Саламахі зняты шэраг дакументальных і мультыплікацыйных фільмаў.

## Калі нельга маўчаць

Усё, што ні піша У. Саламаха, прасякнута глыбокім псіхалагізмам. А гэта сведчанне не толькі высокага майстэрства пісьменніка, а і яго ўменне як бы прапускаць праз самога сябе лёсы тых людзей, пра якіх ён расказвае, а калі глядзець шырэй, дык і на пэўны момант як бы пераўвасабляецца ў іх, ставіць сябе на іхняе месца. Што істотна, дык гэтым шляхам ён ішоў ужо ў пачатку сваёй творчай дарогі. Значыць, ёсць усе падставы сцвярджаць, што талент, дадзены яму Усявышнім — з шэрагу тых творчых дараванняў, якія рэдкія, а таму грэх не развіць іх належным чынам, не самасцвердзіцца, не раскрыцца.

Бадай, унутрана гэта разумеў і сам У. Саламаха, таму ў яго перыяду вучнёўства, па сутнасці, не было. Ён адразу ў творчасці ўзяў належны творчы разгон, падняўшы планку мастацкасці на досыць прыстойную мастакоўскую вышыню. Але правільным будзе сказаць і тое: які б значны талент пісьменнік не меў, у яго абавязкова павінен з'явіцца твор, які прымусіць пра яго загаварыць. Калі мець на ўвазе «малы жанр», дык для У. Саламахі такім важкім творчым дасягненнем стала апавяданне «Жыць тры дні», напісанае, дарэчы, яшчэ тады, калі ён толькі ўваходзіў у літаратуру. Але, не ведаючы такой акалічнасці, у гэта цяжка паверыць, наколькі ў творы ўсё псіхалагічна дакладна выверана, а вобраз галоўнай гераіні Вольгі атрымаўся настолькі на дзіва праўдзівым, запамінальным і пераканаўчым, што можа падацца, што яе лёс прасочваў той, хто ўжо даўно займеў заслужанае прызнанне.

У творы, няхай і апасродкавана, відочна прысутнасць дакументальнай асновы. Прынамсі, на карысць гэтага сведчыць і аўтарскае прысвячэнне «Памяці сястры Зоі». Аднак гэта не значыць, што У. Саламаха быў скаваны ў сваіх пісьменніцкіх магчымасцях, мусіў прытрымлівацца толькі таго, што было ў рэальнасці. Пэўная дакументальнасць ніколькі не перашкодзіла яму перайсці да шырокіх абагульненняў. Наадварот, зрабіла іх яшчэ больш значнымі і сэнсава напоўненымі. Адбылося ўсё дзякуючы таму, што пісьменнік зірнуў на падзеі Вялікай Айчыннай вайны вачыма самога народа, а гэтаму, у сваю чаргу, паспрыяла ўчэпістая дзіцячая памяць.

Не тая, канечне, што заснавана на ўласным успрыманні ваенных падзей — У. Саламаха, як вядома, пасляваеннае дзіця, а памяць, што паўставала з расказаў маці, якая неаднойчы звярталася да трагічных момантаў акупацыі. Упершыню яна падзялілася гэтымі згадкамі са сваім старэйшым сынам, калі той быў яшчэ зусім малым. Пазней, па меры ўзмужнення яго, расказы маці аб перажытым у гады вайны станавіліся яшчэ больш разгорнутымі, з усё новымі і новымі падрабязнасцямі. Дый, вядома, нямала дало У. Саламаху прачытанае пра барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў кнігах, убачанае на экране. Як і ўспаміны тых, хто перажыў фашысцкую навалу ў акупацыі. Калі ж ад усяго гэтага пачутага, пабачанага, асэнсаванага і пераасэнсаванага стала нясцерпна балюча, ён і ўзяўся за пяро, каб самому расказаць пра тое, што зведалі самыя блізкія яму людзі. Дый увесь беларускі народ зведаў і перажыў.

## Згустак болю, трагедыйнасці, безвыходнасці

Пісаў апавяданне «Жыць тры дні» і тое, пра што расказваў, быццам прапускаў праз сябе. Яно неяк адразу стала для яго сваім. Паступова нават ужо не прапускаў яго праз сябе, а жыў ужо гэтым. Аголеная, бескампрамісная праўда вайны абуджала сумленне. Ведаў, калі ты пра ўсё гэта не раскажаш, дык зробіш непапраўную памылку. Канечне, да ўсяго можна будзе вярнуцца і пазней, але тады, цягам часу ўспрыманне ўсяго таго, што было і як было, крыху прытупіцца. Таму і трэба расказваць як мага хутчэй. Калі яшчэ балючасць памяці вельмі і вельмі адчувальная. І калі покліч сумлення — нібыта той голас з мінулай вайны. Голас нявінных ахвяр.

Пройдзе час. Пасля апавядання «Жыць тры дні» з'явяцца новыя творы, але, пішучы іх, а таксама пасля таго, як будзе пастаўлена апошняя кропка, ён усё больш пераканаецца: сумленне — паняцце аб'ёмнае. Але кожным разам усё зводзіцца да таго, каб жыць годна, ні ў чым не хібіць. І самому, дый тых, пра каго пішаш з любоўю, паказваць менавіта такімі. Разам з тым, важна даваць рашучы бой розным прыхвасням, усім гэтым «ущербным» (дакладны беларускамоўны варыянт у дадзеным выпадку, бадай, знайсці немагчыма), якія не маючы нічога святога за душой, пазбаўленыя таленту заўсёды і ва ўсім павучаюць іншых. Гэтая сумленнасць, не прыманне хлусні ў самых розных яе праяўленнях — з апавядання «Жыць тры дні».

Пісаў яго і, па сутнасці, перажываў усё нанава, бо яно паспела стаць ужо і часткай ягонай уласнай біяграфіі. З'явілася ўнутраная повязь паміж тым, што было, і тым, што, з'яўляючыся працягам гэтага «было», назаўсёды засела ў памяці. Адсюль кінематаграфічная дакладнасць — гады працы ў сістэме кіно не прайшлі марна. Але адсюль і вывераласць кожнага слова, што абавязкова прысутнічае ў той прозе, якая ідзе ад самога жыцця і адначасова гэтае жыццё паказвае больш узбуйненена, так паказвае, што яно ўжо належыць не толькі таму чалавеку, які прайшоў праз усё гэта, а і ўсім іншым людзям, якія перажылі нешта падобнае:

«Бегчы яна ўжо не магла.

Ды і куды было кінуцца, калі вёска акружана, калі ў кустах ля рэчкі брэшуць, як разрываюцца, сабакі, усюды страляюць, асабліва ў тым баку, ля Нямкоўскага лесу, калі па зямлі коціцца агонь… Адчуваючы, што сіл у яе хопіць на крок-другі, не больш, і тады паваліцца, прыцісне сабой дачушку, якая слаба торгаецца ля грудзей, Вольга абяссілена спынілася сярод вуліцы».

«Што ж гэта будзе?» — падобнае пытанне ў думках жанчыны з'ўляецца неаднойчы, а што чакаецца наперадзе, здагадацца было не так і складана: «Вядома, яна ведала, што зробяць карнікі з жанчынай з партызанскай зоны, калі знойдуць. Яны, мабыць, чуючы сваю блізкую пагібель, лютавалі, як ніколі, яны не пашкадуюць Вольгу і яе хворае дзіця, якое зусім абяссілела і нібы абмерла…»

Тое, што ўратаванне наўрад ці чакаецца, неўзабаве пацвердзіў і Вользін сусед Дзямід Каструба. Правільней, не сам, а тое, што з ім адбылося, пацвердзіла: «Ён нешта хацеў крыкнуць Вользе, але наперадзе з кустоў вербалоззя гакнуў стрэл, Дзям'ян на імгненне застыў з раскрытым ротам, ухапіўся рукамі за грудзі і паволі апусціўся ў жыта, знерухомеў». А хутка загарэлася жыта: па ім «каціліся полымя, пакідаючы пасля сябе чорную палоску попелу. Попел злёгку віхурыў, паветра стала гарачым, рэдзенькія пасмы дыму паўзлі ўверх, праз іх сонца здавалася расціснутым, як пераспелая журавініна». Шукаючы ратунку, Вольга з дзіцем кінулася ў вёску, «але і ў вёсцы быў агонь. Гарэлі пабудовы, гарэлі амаль без дыму, вецер гнаў полымя з канца ў канец, нібы размотваў вялізны вогненны клубок. Полымя паўзло па сценах хат, падлізвала стрэхі, платы, распаўзалася па скошанай пад яблынямі ўжо сухой траве. Яблыкі лопаліся і шкокалі, падалі абвугленыя на зямлю».

Ды самае страшнае наперадзе. Як на першы погляд, дык наўрад ці можна напаткаць нешта такое, што можа быць страшней, чым гэтае вогненнае пекла, з якога не вырвацца, бо, калі паспрабаваць гэта зрабіць, дык можна трапіць у рукі тых, хто не пашкадуе ні цябе, ні малалетняе дзіця. Але самы страшны на зямлі, як вядома… Правільна, чалавек. Хоць тых, каго напаткала Вольга, людзьмі назваць язык не паварочваецца: «Вольга… на імгненне застыла з шырока адкрытымі вачыма: да яе вуліцай, усыпанай галавешкамі, паволі ішлі два немцы і паліцай», а яшчэ сабака. Паліцая яна адразу пазнала. Гэта быў Рыдняк з суседняй вёскі, у бацькі якога яна падзарабляла да вайны. Ды, аказалася, спагады ў Рыдняка-малодшага чакаць марна. Затое сабака Галус пазнаў яе. Завіляў хвастом.

Апавяданне «Жыць тры дні» — гэта згустак болю, трагедыйнасці, безвыходнасці. Гэта, без перабольшання, быкаўская сітуацыя. Каб годна разблытаць клубок, што склаўся, той клубок, з якога і ўтварыўся сапраўдны згустак болю, трагедыйнасці, безвыходнасці, трэба і адпаведнае майстэрства. Быкаўскае майстэрства. І яно ва У. Саламахі дало знаць аб сабе, нягледзячы на тое, што ён не меў вопыту ў асэнсаванні тэмы Вялікай Айчыннай вайны, асабліва найбольш трагічных момантаў яе.

Прычына гэтага, як на першы погляд, немагчымага, у тым, што пісьменнік, як ужо адзначалася, усё, пра што расказвае, здолеў прапусціць праз сябе, унутрана перажыў усё гэта, а яшчэ, што таксама істотна, пранікнуўся вялікай адказнасцю, перагортваючы адзін з пластоў усенароднага болю. І талент ягоны не падвёў. Без перабольшання апавяданне «Жыць тры дні» на сённяшні дзень у беларускай літаратуры адзін з лепшых твораў «малога жанру» аб Вялікай Айчыннай вайне. Гэта пры тым, што апавяданні на гэтую тэму пісалі многія знакамітыя пісьменнікі, а не толькі В. Быкаў. Гэтаксама можна гаварыць і аб тым, што вобраз Вольгі — адзін з лепшых жаночых вобразаў у літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну.

Гераіня У. Саламахі трапіла ў няпростую сітуацыю. Гаворка не толькі пра тое, што яна апынулася на мяжы жыцця і смерці, калі на ўратаванне разлічваць наўрад ці даводзіцца. Уся складанасць яшчэ ў тым, што Вольга апынулася перад няпростым маральным выбарам. Сама яна ўратавацца можа, але цаной смерці ўласнай дачкі. Такі выбар ёй прапанаваў нямецкі афіцэр, які аказаўся ўрачом. Разумеючы, што хворая на назе дзяўчынка ўсё адно не жылец на гэтым свеце, ён вырашыў праявіць гуманнасць. Зразумела, у ягоным разуменні. Ён «высыпаў на далоню тры таблеткі, падаў іх Волзе». Калі яе дачка вып'е іх, то праз тры дні ціха і спакойна памрэ, а Вользе, як запэўніў гэты афіцэр, наканавана «шчаслівае» жыццё: «Фрау будет работать в Германии, хорошо жить…» Няцяжка здагадацца, які быў адказ. Тады Возьзе быў прапанаваны другі варыянт: «Фрау пьет лекарство сама. Киндер жить, фрау — нет. Мы пустим фрау, идет в лес… Или мы убьет фрау и киндер». На гэта яна, безумоўна, не магла не згадзіцца, бо галоўнае для яе, каб засталася ў жывых дачушка.

Вольга сапраўды спяшаецца ў лес: «У мяне яшчэ тры дні, — падумала яна, не думаючы, што яе маглі падмануць, што яе і дачушку ўсё адно могуць забіць. — Няўжо за гэты час нікога не знайду?..» Яна «ішла між папялішчаў, праз клін згарэлага жыта, да кустоў. Ішла і нічога не бачыла навокал, усё шаптала дачушцы: «Хутка татка наш прыйдзе, аж пакуль не пачула стрэл там, дзе засталіся ворагі». То быў застрэлены сабака, які не паслухаўся, не кінуўся па камандзе на жанчыну.

Кропка ў апавяданні, па сутнасці, так і не пастаўлена. Апошні сказ: «Да людзей яна выйшла праз двое сутак» ніякай пэўнасці не дае. Можна толькі здагадвацца, што потым сталася з Вольгай і яе маленькай дачушкай. Хоць аўтарскае прысвячэнне наконт далейшага лёсу дзяўчынкі ніякага аптымізму не дае. Але, не будзем забываць, што літаратура — зусім не люстэрка жыцця, нават тады, калі ў аснову пакладзены факты, якія мелі месца ў сапраўднасці. Таму, пазнаёміўшыся з апавяданнем «Жыць тры дні», атрымліваеш магчымасць, адштурхоўваючыся ад

яго зместу, над многім задумацца. А галоўнае, бадай, у тым, што можна каторы раз упэўніцца ў тым, наколькі неардынарна складваюцца людскія лёсы, асабліва тады, калі ўсё адбываецца ў складаных рэаліях, у якіх, з аднаго боку, чалавек праходзіць выпрабаванне на чалавечнасць, сумленнасць, а нелюдзі цалкам раскрываюць сваё звярынае нутро.

Гэты твор меў шырокі рэзанас, пра што засведчылі водгукі ў друку, чытацкія лісты, якія атрымаў аўтар. І не толькі адразу пасля публікацыі. Прайшло нямала часу, а цікавасць да апавядання «Жыць тры дні» не зменшылася, больш за тое, інтарэс да яго выклікаў новую хвалю захаплення, прычым і за межамі Беларусі. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць водгук Ірыны Міхайлавай, удавы знакамітага акадэміка Валянціна Капцюга. Ірына Фёдараўна, даючы высокую ацэнку часопісу «Беларуская думка», які, як вядома, з'яўляецца органам Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, не абмінула і згаданы твор У. Саламахі, прытым правяла такую паралель, якой можа ганарыцца кожны пісьменнік. І. Міхайлава падкрэсліла, што «такія публікацыі, як цудоўнае апавяданне У. Саламахі «Жыць тры дні», ці крык душы Чынгіза Айтматава «Чуеце звон часу?», бяруць за жывое» (БД, 1999, № 3). Ацэнка на дзіва высокая, але і заслужаная.

## Дзе — радасць, а дзе — самота

Нямала даведваешся пра лёс тых юнакоў і дзяўчат, якія развіталіся са школай недзе напрыканцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя, знаёмячыся з аповесцю У. Саламахі «Напрадвесні», шмат у чым аўтабіяграфічнай. Галоўны герой — пісьменнік, журналіст Васіль Федаровіч з адлегласці часу асэнсоўвае тое, што было з ім і яго аднакласнікамі, у нечым падводзіць рысу пад пражытым, у чымсьці пераацэньвае колішняе.

Дзеянне пачынаецца з таго, што паведаміла Федаровічу сакратарка: «Яна яшчэ ўчора званіла. Але вас у горадзе, ведаю, не было, вы ж недзе ў школу ездзілі, на раён. Дык яна прасіла перадаць, што запрашае прыехаць у суботу ў Масткі на сустрэчу аднакласнікаў». І гэты званок, як і само запрашэнне сталі для яго нечаканымі. Федаровіч не адразу змог прыгадаць: хто ж такая, гэтая Анастасія Рыгораўна, як прадставілася яна сакратарцы. Аднак, сабраўшыся з думкамі, успомніў: «…Насця. Вось яно што. Дык яна ж адразу пасля школы ў інстытут паступіла. А ён тады, такі разумнік, палічыў, што па-свойму павінен сваё жыццё ладзіць, у раёнку падаўся». Так з раёнкі, як і ў самога У. Саламахі і пачалося самастойнае жыццё гэтага літаратурнага персанажа.

Зразумела, нельга цалкам сцвярджаць, што Федаровіча пісьменнік цалкам спісаў з сябе. Тым не менш, акурат аўтабіяграфічныя моманты ў творы дазваляюць У. Саламаху дасягаць асаблівай праўдзівасці і пераканаўчасці. Тое, чаго не прыдумаеш, якраз і дапамагае яму адлюстроўваць тагачасныя рэаліі так, што не з'яўляецца ніякага сумнення ў тым, што ўсё адбывалася менавіта так, а не інакш.

Будні супрацоўнікаў раёнкі схоплены з фатаграфічнай дакладнасцю. Дарэчы, у аповесці асабліва запамінальны эпізод пра сход у рэдакцыі пасля таго, як на фотакарэспандэнта, з якім паспеў пасябраваць Федаровіч, паступіла ананімка: «Пішуць, што на рэдакцыйнай плёнцы здымае людзей, на рэдакцыйнай паперы друкуе фотакарткі і бярэ хабар. Калі ж падлічыць, колькі грошай ён паклаў у сваю кішэню за пяць гадоў, з дазволу сказаць, такой дзейнасці, то атрымліваецца значная, даволі значная сума».

Фотакарэспандэнт не пярэчыць, што ў нечым гэты допіс праўдзівы. Ён сапраўды робіць людзям здымкі, але на сваёй паперы. Бясплатна, бо з тых бессярэбранікаў, якія гатовы рабіць дабро па душэўнай патрэбе. У час такога прызнання ён прыгожы сваім учынкам, але яшчэ прыгажэйшым становіцца пасля, калі рэдактар газеты заяўляе, што ананім, пішучы ў спешцы гэты ліст у вышэйшыя органы, не

заўважыў, што на зваротным баку засталося напісаным ягонае прозвішча. Іншы б на месцы фотакарэспандэнта пасля пачутага адразу закрычаў бы: «Хутчэй назавіце ананіма!» Фотакарэспандэнт жа на такое не пайшоў, лішні раз даказаўшы сваю сумленнасць: «Ігнат Сяргеевіч, я вельмі прашу вас, не называйце прозвішча. Не называйце. Я не хачу расчаравацца ў чалавеку. Хай ніхто яго не ведае. Як тады разам працаваць?»

Падобнымі паводзінамі ён даў усім яшчэ адзін урок сумленнасці, дабрыні. Асабліва Васілю Федаровічу. Урок, які той панёс праз сваё далейшае жыццё: «…Ну што ж, ва ўсе часы паміж людзьмі хапае непрыстойнасці, іншага кепскага, увогуле заганнага, пра што часам і казаць сорамна. Але ён з той юначай пары добра ўсвядоміў, што як бы там ні было, свет не без добрых людзей. Так часта казала маці. А ёй, ведаў, казала яе маці, а той — яе… Мабыць, гэта — свет не без добрых людзей — жыве на зямлі з незапамятных часоў. Пра гэта і ён, пісьменнік Васіль Федаровіч, пісаў і піша. Заўсёды будзе пісаць…»

Свайго героя, як таго і вымагае жанр аповесці, У. Саламаха паказвае ва ўзаемаадносінах з рознымі людзьмі. Васілю не адмовіш у актыўнасці жыццёвай пазіцыі, а яшчэ, што вызначае яго сярод іншых — гэта сумленнннасць, прынцыповасць. Праўда, заставацца самім сабой не так і проста. І не толькі на рабоце. Шмат нерваў каштавалі яму стасункі з начальнікам лесаўчастка Урублеўскім — чалавекам, які не прывык адказваць за свае словы. Можа наабяцаць ледзь не залатыя горы, а пасля пра ўсё забывае. Аповесць «Напрадвесні» засведчыла аб творчым росце маладога на той час пісьменніка, аб ягоным уменні прыкмячаць у жыцці галоўнае, а яшчэ У. Саламаха знайшоў персанажа, які ў многім стаў выказнікам яго думак, спадзяванняў, ягонага разумення месца чалавека ў жыцці.

Блізкі сваёй праблематыкай аповесці «Напрадвесні» яшчэ адзін твор гэтага жанру «Там, дзе самота і радасці». Зразумела, повязь паміж гэтымі дзвюма аповесцямі ўнутраная, у кожнай з іх свае героі, хоць і ў гэтым творы сустракаешся з ужо знаёмым табе Васілём Федаровічам. Але дзеянне другой з названых аповесцей, як бы папярэднічае таму, пра што расказваецца ў першай. У. Саламаха ўзнаўляе першыя крокі ўваходжання нядаўніх выпускнікоў сярэдняй школы ў самастойнае жыццё. Несумненная ўдача пісьменніка — вобразы і таго ж Васіля Федаровіча, і Віталя Судзілоўскага, вакол якіх і разгортваецца асноўнае дзеянне.

Гэтыя два юнакі ў чымсьці розныя, але ў нечым і падобныя. Аднак ёсць і тое, што асабліва як бы лучыць — тое, што і патрапляе пад вызначэнне «самота і радасці». Праўда, калі адштурхоўвацца ад яго, нельга не сказаць, што ўсё ж радасцей менш, чым самоты бо яна звязана з тужлівым настроем па тым, што назаўсёды ўжо засталося ў мінулым. Дый з тым таксама, што ў самастойным жыцці ўсё атрымліваецца далёка не так, як марылася. Радасці ж звязаны з першымі працоўнымі поспехамі, якія, зразумела, прыносяць задавальненне, хоць і даецца гэта няпроста.

Дзеянне аповесці адбываецца ўсяго на працягу аднаго летняга месяца. Здавалася б, часу вельмі мала, каб у чымсьці перайначыць свой погляд на жыццё. Ды гэтага для Федаровіча і Судзілоўскага дастаткова, бо яны не проста сутыкаюцца з рознымі людзьмі, а і працуюць на розных участках. Даводзіцца і прыбіральню на будоўлі рабіць, і пракладваць пад’язную дарогу, што, з-за нявопытнасці, ледзь не каштавала ім жыцця, дый займацца тым, што для нявопытных, а да ўсяго часовых работнікаў зводзіцца да таго, каб працаваць там, куды накіруюць.

Гэта, аднак, не можа не пайсці юнакам на карысць, бо, як, бадай, ці не кожны ў іхнім узросце, жыццё для сябе яны па-сапраўднаму толькі адкрываюць. Калі дагэтуль шмат у чым на ўсё героі глядзелі, па сутнасці, праз ружовыя акуляры, дык цяпер пачынаюць усведамляць, што нельга да той ці іншай з’явы падыходзіць аднолькава. Гэта, аднак, не значыць, што яны рэзка перайначваюцца ў сваіх поглядах, ацэнках. Калі б пісьменнік паказаў іх менавіта такімі, ён паграшыў бы ісцінай, пайшоў бы супраць праўды. Наадварот, У. Саламаха падае іхнія харак-

тары ў развіцці, не паскараючы працэс сталення Васіля і Віталя, а таксама не імкнучыся іх зрабіць лепшымі.

Падобная пагроза, аднак, існавала, асабліва ў дачыненні да Федаровіча, у вобразе якога прысутнічаюць аўтабіяграфічныя рысы. Толькі У. Саламаха не пайшоў такім шляхам, а застаўся, наколькі ў дадзеным выпадку магчыма, настолькі аб'ектыўным, каб, прыхарошваючы свайго героя, паказаць яго жывым чалавекам не толькі на рабоце, а і ў асабістым жыцці, калі ён перажывае першае каханне, якое прыносіць (у гэтым сэнсе Васіль Федаровіч — не выключэнне) нямала перажыванняў, душэўных пакут. Гэта таксама сведчыць пра тое, што У. Саламаха не адыходзіць ад жыццёвай праўды.

У аповесці «Там, дзе самота і радасці» пісьменнік стварыў і іншыя цікавыя вобразы, паказаў жыццё ва ўсёй ягонай шматграннасці, закрануў праблемы, як станаўлення маладых людзей, так і тых, хто ў сталым узросце мусіць задумвацца над тым, ці так жыве, ці не здраджвае свайму сумленню ва ўгоду першачарговым і, як высвятляецца, далёка не галоўным інтарэсам.

## Дзе ты, звычайнае шчасце?

Аднак, як на маю думку, У. Саламаха-сённяшні, такі чуйны да праяўленняў несправядлівасці ў жыцці, пачаўся з аповесці «Кавалёк — лесавая былінка». Міцька Кавалёк — сталага веку чалавек. Адзінокі, ён любіць бавіць час на прыродзе, асабліва зімой. І саромеўся гэтага свайго замілавання лясным хараством, а «гэтай зімой займеў звычку амаль кожны дзень выбірацца ў лес». У такіх паходах бачыў паратунак ад адзіноты, што даўно гняла, не давала спакою: «часам яго гняла туга, хоць ты яе завяжы ў мех. Але ад яе не ўцячэш, раз агарнула — пераверне ўсё ў душы… Найбольш гняла зімой… Калі адзін сядзеў у настылай хаце. Сядзеў бяздумна. За сцяной страляў мароз, або завывала ў коміне, і вакол цябе такая пустэча, хоць плач». Асабліва зайздросціў Кавалёк «звычайнаму чалавечаму жыццю», такому жыццю, у якім блізкі чалавек нязменна прысутнічае поруч, ёсць паразуменне. Яму найчасцей хацелася наведваць тыя «хаты, дзе былі дзеці».

Расказвае У. Саламаха пра галоўнага героя з любоўю, са спагадай, і з разуменнем усіх ягоных цяжкасцей. А яшчэ пісьменнік, зазіраючы ў душу Кавалька, ненавязліва падкрэслівае, што такія натуры, няхай і замкнёныя ў саміх сабе, маюць права на шчасце. І Кавалёк зрабіў першы крок да яго, калі ўладкаваўся працаваць на лесаўчастак, дзе і напаткаў жанчыну, якую пакахаў. Аднак жыццё і гэтым разам рыхтуе яму суровае выпрабаванне.

Сумленны Кавалёк сутыкаецца з несправядлівасцю, а пайсці насуперак сумленню ён не можа. Таму і не дазваляе ўкрасці лес, а ў выніку зладзеі яго жорстка збілі. Ды так, што палічылі мёртвым, а хаваючы сляды злачынства, аблілі бензінам і паднеслі запалку. Але Кавалёк ачомаўся, ахоплены полымем здолеў падняцца з зямлі. Такім яго і ўбачыла Панкратаўна — тая жанчына, да якой ён хінуўся душой: «І яна, нарэшце, дабегла да яго, упала перад ім на калені, пачала ліхаманкава збіваць языкі агню з вопраткі, не зважаючы, што на руках успыхваюць і лопаюцца пухіры. Яна біла і біла рукамі па агню, потым навалілася на яго ўсім целам, разумеючы адно: яе Міцька жывы, жывы...»

На гэтым аповесць і заканчваецца. Кавалёк застаецца жывым, а гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што дабро ў рэшце рэшт здатна перамагчы зло, няхай і з вялікай цяжкасцю, хай і з фізічнымі і маральнымі пакутамі. У аповесці «Кавалёк — лесавая былінка» У. Саламаха ўпершыню ў сваёй творчасці зазірнуў на «дно» сучаснага грамадства. І адначасова ў вобразе галоўнага героя паказаў «маленькага» чалавека, а ў выніку наблізіўся да лепшых традыцый класічнай літаратуры. І не толькі беларускай (як у сувязі з гэтым не згадаць Кузьму Чорнага), а і сусветнай, а з рускай у дадзеным выпадку найбольш характэрны Фёдар Дастаеўскі.

Чакалася, што творчасць У. Саламахі далей будзе развівацца толькі ў гэтым накірунку — звычайны, «маленькі» чалавек і яго стасункі ў грамадстве і з грамадствам. Але наступнай кнігай У. Саламахі стала «Прывід у скураным крэсле», а героя аднайменнай аповесці да «маленькіх» ніяк не аднясеш. Перад намі паўстае цэлая галерэя псеўдачыноўнікаў рознага рангу, якія працуюць у адной важнай установе. Адно цікавіць іх, — як мага лепш уладкаваць асабістае жыццё, дасягнуўшы дабрабыту за кошт іншых. Яны ў пэўнай ступені і «прывіды», але вельмі небяспечныя, бо могуць умела маскіравацца, хаваць свой сапраўдны твар, імкнуцца паўставаць перад падначаленымі і тымі, хто да іх прыходзіць па розных справах, дабрадзеямі. Адбываецца раздваенне асобы. «Прывіды» падрываюць веру ў дабро, справядлівасць, а чалавечая годнасць прыніжаецца і растоптваецца. У аповесці моцныя публіцыстычныя моманты, што абсалютна апраўдана. Як, дарэчы, і ў іншых творах пісьменніка. Для прыкладу, у аповесці «Расступіся, зямля…», у якой У. Саламаха па-свойму асэнсоўвае падзеі мінулай вайны. Сюжэт твора дынамічны. Галоўную гераіню амаль на вачах у суседзяў згвалціў аднавяскоўвец псеўда-партызан. А ў яе ж дзяця, муж на фронце… Як пасля гэтага жыць? А яна жыве, жыве, нягледзячы на тое, што пасля ўсяго лёс яе зламаны. Ды зло рана ці позна будзе пакарана. На старасці гадоў жанчына падымае руку на таго, хто зняславіў яе….

Паэт Эдуард Зубрыцкі пад уражаннем ад аповесці «Кавалёк — лесавая былінка», а гэта яшчэ адно пацвярджэнне таму, наколькі гэты твор закрануў чытача, напісаў верш, прысвечаны яе аўтару. Ёсць у гэтым вершы і такія радкі:

І дзе б ні быў, ізноўку я вярнуся —  
Зара гарыць, адсвечвае здалёк, —  
Дзе на далоні мілай Беларусі  
Былінка лесавая — кавалёк.

## Народная проза… ненароднага празаіка

Новым словам у беларускай літаратуры стала аповесць У. Саламахі «Апазнаецца асоба мужчыны…», якая засведчыла пра тое, што ў творчасці пісьменніка наступіла тая часіна, калі ўжо не проста хораша пішацца, а і ўдаецца знайсці сваю тэму, сваіх герояў. З першых радкоў твора пісьменнік асабліва дакладны, усё робіць дзеля таго, каб не адцягваць чытацкую ўвагу на ўсё лішняе. Аднак, разам з тым, ён можа і заінтрыгаваць: «Гэта здарылася на адной знакамітай мінскай ускраіне ў апошні дзень бабінага лета. Тут з самае раніцы нехта Н., бяздомнік і беспрацоўны, вудзіў у Свіслачы рыбу…» Пра гэтага «бяздомніка і беспрацоўнага» і аповесць.

У далейшым свайго героя У. Саламаха называе Чалавек. Тым самым падкрэслівае, наколькі ягоны персанаж, нягледзячы на тое, што, па сутнасці, апынуўся на дне грамадства, мае права насіць высокае званне і разам з тым стварае абагульнены вобраз таго, хто аднойчы спатыкнуўся. І не столькі па сваёй віне, колькі па віне грамадства, якое, жывучы, здавалася б, па самых справядлівых законах (прынамсі, на гэтым у савецкія часы мацавалася афіцыйная ідэалогія), ніколі не прымала ў разлік канкрэтнага чалавека.

Гэтая аповесць У. Саламахі — адысея душы Чалавека. І адначасова позірк пісьменніка пільна скіраваны на тое ж самае дно грамадства. Тое, якое мы бачылі ў іншых краінах і не хацелі заўважаць у сябе. А яно існавала, гэтаксама, як ёсць і цяпер, і гора таму, хто аднойчы трапіць туды. Паспрабуй выбрацца, калі ніхто не праяўляе жадання нават падаць табе своечасова руку для ўратавання.

Аддамо належнае аўтару. Аповесць праўдзівая ў псіхалагічных адносінах, прываблівае ўдалай кампаноўкай сюжэта, а апошняе, бадай, У. Саламаху было зрабіць нялёгка. Дзеяння ў яго традыцыйным разуменні ў творы няма. Перава-

жаюць рэтраспекцыі, «плынь свядомасці» персанажа. І ўсё ж аўтар аказваецца, як кажуць, на вышыні. Чытаць твор цікава. Чытаць твор неабходна. Ужо хоць бы таму, што пранікаешся спагадай да Чалавека. У той жа час з агідай ставішся да прыстасаванцаў розных масцей, усіх гэтых «правільных», каму да чалавека, безумоўна, далёка, але хто, на жаль, адчувае сябе гаспадаром жыцця.

Адметнасць прозы У. Саламахі добра адчуў Юрый Станкевіч. У рэцэнзіі «Кансервацыя парадыгмы», змешчанай у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 4 верасня 1998 года, ён, у прыватнасці, пісаў: «…празаік Уладзімір Саламаха выявіў сябе сапраўдным «народным» пісьменнікам, — адзначаю гэта не па колькасці, адметнасці, важкасці, а па блізкасці аўтара да тых «маленькіх» людзей, якіх ён апісвае ў сваіх творах, людзей, якім спачувае шчыра і без снабісцкай адхіленасці… Аўтар не навічок у прозе і тым больш не навічок у вышэй абназначанай мною «народнай» плыні ў літаратуры. Традыцыі яе ідуць ад Ф. Дастаеўскага, К. Чорнага, Д. Прыстлі і іншых пісьменнікаў. Успомнім «Бедных людзей» Дастаеўскага, ці «Шынель» Гогаля, персанажаў А. Чэхава і г. д. — усіх бясконцых «маленькіх» людзей, якія выкрышталізаваліся ў рэальнасці і набылі яе на старонках твораў. Жыццяпісальнікам такіх персанажаў праяўляе сябе і У. Саламаха».

Ацэнка высокая, але заслужаная. І, увогуле, усё, што з'яўляецца з-пад пяра У. Саламахі, вельмі дыхтоўнае. Асабліва гэта тычыцца аповесці «Прывід у скураным крэсле», па ступені выкрыцця таго страшнага, што прыносяць у жыццё псеўдачыноўнікі, якія дабраліся да ўлады, няма нічога роўнага ў нашай літаратуры.

## Талент — ва ўсім талент

У гэтым можна пераканацца і калі пазнаёмішся з ягонымі нарысамі. Узяць хоць бы «На зялёных промнях Бярозы», ці «Калі паміраюць рэкі». Праўда, чытач, які добра знаёмы з гэтымі творамі, гатовы запярэчыць, што публікацыі іх у часопісе «Маладосць» пазначаны прозвішчам Максім Дабаснянскі. Са згоды аўтара раскрыю сакрэт: Дабаснянскі — адзін з псеўданімаў У. Саламахі. А нарысы — гімн Бацькаўшчыне, цяпло якой прысутнічае на кожнай старонцы. Адначасова пісьменнік не абыходзіць увагай і вострых праблем — зберажэнне прыроды, захаванне экалагічнай раўнавагі на зямлі. Піша, як і заўсёды, пра тое, што баліць самому, што не дае спакою. Піша пра тое, пра што не можа не пісаць, а таму ўсё гэта — не толькі той ці іншы твор, а і споведзь сумлення, прабачце за таўталогію, сумленнага чалавека, а ў такіх выпадках сумленне проста не можа драмаць. Не мае на тое права. Аднак не мае і іншага права: апускаць планку мастацкасці ніжэй той вышыні, якая была ўзята лепшымі ягонымі мастацкімі творамі.

Дый сам чытач мог неаднойчы ўпэўніцца ў тым, што для У. Саламахі існуе адна літаратура, без розніцы — дакументальная яна ці мастацкая. Таму і ягоныя набыткі і ў галіне дакументалістыкі, публіцыстыкі, нарысістыкі гэткія важкія, як і ў прозе. На карысць гэтаму сведчыць і тое, што ён двойчы — у 1985 і 1987 годзе — станавіўся лаўрэатам Міжрэспубліканскага конкурсу публіцыстыкі, у якім прымалі ўдзел пісьменнікі і журналісты Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Творчае суперніцтва было моцнае, бо ўдзел у гэтым конкурсе прымалі многія вядомыя аўтары. Аднак У. Саламаха адчуваў сябе з імі не толькі на роўных, а некаторых па майстэрстве абышоў, таму што не толькі дасканала валодае пяром, а і здатны трымаць яго ў добрым сэнсе гэтых слоў на вастрыі часу, адчуваючы тыя вострыя, набалелыя праблемы яго, міма якіх не можа праходзіць пісьменнік-грамадзянін.

Нарысістыка і публіцыстыка У. Саламахі, пры ўсіх іх мастакоўскай вартасці, гэта яшчэ і неабсяжны космас, што складаецца з той велізарнай прасторы, якая ўбірае ў сябе і сусвет, і асобнага чалавека, які, аднак, адчувае сябе ў ёй не малюпасенькай пясчынкай, а тым велізарным, што называецца — Жыццё. На дзіва хораша перададзена гэтая паяднанасць у нарысе «На зялёных промнях бярозы»:

«Туман быў празрысты і, здавалася, крохкі. Як крылы страказы. Той, блакітнай, адзінай у свеце, якая жыве толькі ў Бярэзінскім запаведніку і дыхае крыламі. Ідзеш па Бярозе, вымеш з вады вёслы, пакладзеш «лапатамі» на палубу — трубы ва ўключынах, на іх, нагрэтыя, садзяцца блакітныя дзівосныя стракозы. Прыгледзься: трапечуць крылцы, дыхаюць.

Туман ледзь пакалыхваўся над зямлёй. Калі дакладна, дык над вуркатлівай у гэтым месцы ракою. Зялёнай. Карычневай. Блакітнай… Але празрыстай. Над нашым суднам. Над намі. Над вышэзнымі, нібы трапічныя, прыбярэжнымі аксамітнымі травамі. Над бялюткімі лілеямі. Над залатымі гарлачыкамі. Над зялёнай спакойнай затокай, на якой мы начавалі, нават не паставіўшы на палубу палатку, а так, разлёгшыся на надзіманых матрацах — цёплая ноч, хоць і на вадзе.

Я выпрастаўся. З дзіва ўвайшоў у дзіва. А менавіта: пялёнка туману, здаецца, была таўшчынёй як ватная коўдра, не больш. Плавала на ўзроўні грудзей. Накрывала нас ад ранішняга нябеснага халадку? Можа быць…

Я стаяў на палубе і глядзеў навокал. Нада мной быў блакітна-зялёны нябесны купал. Краі яго, здаецца, якраз і трымаліся на тумане, што рассцілаўся наўкруг, да самага далягляду. Злева ад мяне, ад самага краю зямлі наверх купала паволі ўскочвалася малінавае сонца-шар. Можа, тады я ўпершыню зрокава ўспрыняў сонца як шар, а не плоскі дыск. І вось чаму: аб'ём яму надавалі адценні па краях — перaспелая маліна ў засені зяляніны — усё, як на гіганцкім палатне.

Адчуваў я сябе так, нібы быў на мяжы двух сусветаў. Рэальнага зямнога і невядомага мне дасюль — нябеснага. Іх, сусветы гэтыя, здаецца, размяжоўваў туман, а можа, азначаў. Тым не менш яны зліваліся, жылі аднымі фарбамі і гукамі, народжанымі Бярозай, запаведнай прасторай, што яны падарылі травам, птушкам, стракозам — усяму жывому. І яшчэ ўяўлялася, што сам я ўваходжу, як часцінка іх, у гэтыя два светы. Нават раствараюся ў іх. Інтуітыўна адчуваю, што, мабыць, некалі мае продкі якраз адсюль выйшлі. Недзе жылі тут. На гэтых зялёных берагах Бярозы маліліся сонцу, кланяліся дрэвам, пілі ваду з гэтай ракі і адчувалі сябе яе дзецьмі. Зрэшты, нездарма ж ёсць такі выраз: людзі — дзеці прыроды…»

Гэтаксама плённа У. Саламаха працуе і ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства, пра што засведчылі ягоныя кнігі «Званыя і выбраныя», адзначаная Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, і «Сусвет дабрыні». Назва першай з іх — сімптаматычная, а падказаў яе вядомы выраз са Старога запавету: званых многа, а мала выбраных. Інакш кажучы: не ўсе званыя могуць стаць выбранымі. У дачыненні да літаратуры трэба дадаць, што да ўсяго неабходны талент, а ён такая рэч: ці ёсць, ці яго няма. Ад гэтай аксіёмы нікуды не дзенешся. Хоць, што таксама нельга не прымаць пад увагу, да ўсяго патрабуецца яшчэ і творчая апантанасць, мэтанакіраванасць, гатоўнасць як мага лепш і ўсебакова самавыявіцца, даказаўшы, на што здатны. У кнізе «Званыя і выбраныя» змешчана каля трыццаці матэрыялаў, а ў цэлым расказваецца пра амаль сто беларускіх пісьменнікаў, з творамі якіх паспеў пазнаёміцца. У гэтым шэрагу слаўных імён Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Міхась Стральцоў, Анатоль Грачанікаў, Мікола Купрэеў і іншыя. Дый тыя, хто паспяхова працягвае працаваць у літаратуры: Уладзімір Дамашэвіч, Мікола Маляўка, Мікола Мятліцкі, Валянціна Кадзетава, Таццяна Мушынская, Алесь Марціновіч…

## Зваротная сувязь

Напісаў У. Саламаха і шэраг артыкулаў пра літаратуру, час і грамадства, што былі змешчаны ў самай аўтарытэтнай газеце нашай краіны «СБ. Беларусь сегодня». Гэтыя публікацыі выклікалі вельмі шырокі рэзанас, прытым пазітыўны. У рэдакцыі часопіса «Маладосць», дзе іх аўтар тады працаваў, яго знайшоў адзін з чытачоў, які назваўся палкоўнікам Ерашэнкам, і сказаў: «Каб пісаць такую

публіцыстыку патрэбна мець пісьменніцкую і чалавечую мужнасць. Думаю, вам гэтага не даруюць графаманы, але вы не звяртайце на іх увагі».

Пасля апублікавання ў часопісе «Наш современник» (жнівеньскі нумар за 2011 год) аповесці «…І няма шляху чужога» Уладзімір Пятровіч атрымаў шмат чытацкіх водгукаў, у тым ліку з Масквы, Іркуцка, Архангельска, Вологды… Гэта, як вядома, усё расійскія гарады, у якіх для многіх гэты часопіс з'яўляецца любімым выданнем. Аднак, што таксама вядома, значная частка «Нашего современника» распаўсюджваецца і ў Беларусі. Ды толькі ад нашых пісьменнікаў-суайчыннікаў не прыйшло ніводнага водгуку. У чым прычына?

Адназначна адказаць цяжка. Магчыма, многія былі вядомы з беларускамоўным варыянтам гэтага твора. Тады, узнікае пытанне, чаму яны ніяк не рэагавалі, калі аповесць публікавалася ў арыгінале? Ці ўсё ж такая рэакцыя — сведчанне нашай звычайнай абыякавасці, а, можа, яшчэ і горш: прывыклі чытачы да адных і тых жа імёнаў, да тых, якія, як кажуць, на слыху, і нічога іншага не заўважаюць. Ці не хочуць заўважаць. У дадзеным выпадку благую паслугу аказваюць і так званыя «свае» крытыкі, якія тых, хто не ўпісваецца ў іхнюю абойму проста абыходзяць увагай. Так і з'яўляюцца дутыя аўтарытэты, псеўда-«класікі».

Як ні дзіўна, у пэўнай ступені — гэта і віна самога У. Саламахі, які не толькі творца — не публічны, але і не збіраецца сам сябе прапагандаваць, тым больш, раскручваць пры дапамозе сяброў і таварышаў, як гэта робяць розныя самазваныя «культавыя» пісьменнікі. Асобныя з іх нават не саромеюцца карыстацца такім прыёмам. Калі праходзіць прэзентацыя якой-небудзь іхняй кнігі, яны загадзя дамаўляюцца са сваімі сябрамі, якія тут жа, у час прэзентацыі, раскупляюць яе. Потым, канечне, кнігі вяртаюць аўтару, а аўтар вяртае ім грошы. Сёй-той з наіўных чытачоў «клюе» на гэтую прынаду і спяшаецца набыць згаданую кнігу ў кнігарні, ці спяшаецца ў бібліятэку, дзе за гэтай кнігай ці не чарга выстройваецца.

На гэта А. Саламаха ніколі не ішоў. Дый не пойдзе. Ён галасуе за чытача сваімі высокамастацкімі творамі. І вынікі навідавоку. Пра гэта сведчыць і гэты ўнікальны выпадак, што адбыўся ў пачатку 90 гадоў мінулага стагоддзя. Тады Уладзімір Пятровіч разам Генадзем Пашковым, Уладзімірам Глушаковым, Анатолем Зэкавым і Яўгенам Каршуковым вяртаўся з поўдня, дзе яны былі на адной Міжнароднай нарадзе пісьменнікаў. У дарозе пазнаёміўся з маладымі, гадоў пад трыццаць хлопцамі, якія назваліся лётчыкамі. Яны зацягнулі У. Саламаху ў сваё купэ. Сказалі, што пазналі яго на фота, якое бачылі ў кнізе ў свайго камандзіра. Вельмі здзівіліся, што так выпадкова сустрэлі яго. Ды не толькі гэтаму.

— Дык з вамі перапісвалася жонка нашага камандзіра, — сказалі яны.

Уладзімір Пятровіч здзівіўся:

— Адкуль вы ведаеце?

— Мы тады ў Афганістане знаходзіліся, — растлумачылі лётчыкі. — Вы гэтую жанчыну і яе сяброўку, вашых чытачак, у сваіх лістах маральна падтрымлівалі.

Гэтае завочнае знаёмства адбылося пасля таго, як тая жанчына, жонка камандзіра лётчыкаў, якія служылі ў Афганістане, прачытала яго апавяданне «Жыць тры дні». Тады і з'явілася ў яе цікавасць да ўсёй творчасці У. Саламахі. Між іншым, як і ў многіх яго чытачоў. У Беларусі і не толькі…

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ПАЎНАГУЧНАСЦЬ БЫЦЦЯ

## *Мастацкая адметнасць лірыкі Уладзіміра МАЗГО*

Здаўна вядома, што паэты падзяляюцца на лірыкаў і эпікаў. І адпаведна гэтаму падзелу, у творах адных больш выразна выяўляюцца меладыйны пачатак, інтанаванне, якія нясуць з сабой адзнакі асабовай індывідуальнасці аўтара. Пра творы другіх, творы эпічна ўгрунтаваныя ў рэальнасць паўсядзённую і гістарычную, таксама нельга сказаць, што яны пазбаўлены музычнага складніку. І эпіка, і лірыка генетычна звязаны з музыкай, у старажытнасці яны ўтваралі з ёю сінкрэтычнае адзінства. У эпічным паэтычным творы таксама адчуваецца мелодыка голасу аўтара-наратара, хоць дамінуе ў ім усё-такі гучанне надасабовых сфер.

Уладзімір Мазго — паэт, несумненна, лірычнага складу. Для яго ў музычна-меладыйнай характэрнасці верша заключаецца важнейшы пасыл паэтычнай творчасці.

З першых жа твораў, апублікаваных ім у свой час у перыядычным друку, выразна абазначылася гэтая яго ўласцівасць свае па-юнацку непасрэдныя пачуцці і адчуванні выражаць у слове, якое ўспрымаецца перш за ўсё на слых, у слове, якое гучыць, прамаўляецца, выспеўваецца.

Гэта наогул каштоўная якасць сучаснай паэзіі — захаванне ў ёй гукавога, музычнага патэнцыялу, здольнасці эстэтычнага выражэння праз гучанне, выяўленне яе спеўнасці. Гэты бок паэтычнай творчасці з’яўляецца як бы альтэрнатывай працэсу візуалізацыі паэзіі, які сёння становіцца ўсё больш актыўным. Пад візуалізацыяй у шырокім значэнні гэтага тэрміну трэба разумець не толькі стварэнне спецыфічных вершаваных формаў накшталт фігуратыўных вершаў, але і ўвогуле схільнасць да паэтычнага выражэння праз знакавасць, гэта значыць праз пэўную зрокава ўспрымаемую фармалізацыю паэтычнага дыскурсу. Гэта тэндэнцыя знаходзіць сваё выяўленне ў вершах, разлічаных на іх зрокавае ўспрыманне.

Дзеля ўраўнаважвання працілегла скіраваных тэндэнцый якраз вельмі важна, каб паэзія, якая ***гучыць***, успрымалася з’явай сучаснай і актуальнай, каб яна была здольнай выявіць напоўніцу свой творчы патэнцыял.

Уладзімір Мазго — адзін з тых паэтаў, чыя творчасць пацвярджае істотнасць менавіта такога, музычна актуалізаванага спосабу лірычнага выражэння. Наогул жа, і «паэзія, якая гучыць», і «паэзія, якая зрокава ўспрымаецца» толькі тады вартыя гэтага назову (паэзія!), калі творы, якія да іх належаць, створаны таленавітымі творцамі.

Таму тут якраз да месца будзе сказаць наступнае. У. Мазго не проста прадстаўнік пэўнага напрамку ў сучаснай паэзіі, яскравы выразнік адной з тэндэнцый яе развіцця. Ён паэт таленавіты, надзелены дарам чуйнага ўслухоўвання ў акустычныя глыбіні роднага слова, адкрыцця ў ім шматгалосся паэтычных сэнсаў.

Пра зробленае паэтам за ўсе папярэднія гады творчага жыцця дае добрае ўяўленне яго кніга выбранага «У нябёсах вясны», якая выйшла ў 2013 годзе ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». Для чытача гэта магчымасць прайсці разам з аўтарам ягоным шляхам, перажыць разам з ім моманты душэўнага ўзрушэння, адчуць той жа настрой, якім быў апанаваны паэт падчас стварэння вершаў. А настрой гэты, адметнасць душэўнага стану аўтара перадаюцца якраз з дапа-

могай асаблівай гукавой выразнасці, песеннай інтанацыі верша, якія сталі характэрнымі прыкметамі стылю У. Мазго, пачынаючы ўжо з першага зборніка вершаў «Пад спеў крыніц».

Дарэчы, сама назва першай кнігі паэта ўяўляецца даволі сімвалічнай, ёю як бы праграмуецца напрамак далейшага развіцця паэтычнага таленту. Пад спеў крыніц, у суладдзі з напоўненым жывымі гукамі светам адбываецца станаўленне паэтычнага голасу аўтара. Адкрыццё свету, юначае захопленае далучэнне да яго таямніц, зачараванасць усімі шматстайнымі праявамі жыцця здзяйсняецца праз засваенне ў першую чаргу ***паўнагучнасці быцця***.

Перачытваеш сёння творы гэтай першай юначай кніжкі і перш за ўсё ўлоўліваеш трапяткое, усхваляванае гучанне аўтарскага голасу, тую спеўнасць, якой прасякнуты, па сутнасці, кожны радок верша. Так выяўляла сябе, выказвалася звонкім, крамяным словам маладое пачуццё далучанасці да ўсіх праяў жыцця, раскрытасці насустрач неспазнанаму яшчэ, але такому блізкаму і роднаму свету.

Магчыма, некаторым вершам маладога паэта яшчэ неставала трывалай змястоўна-фармальнай знітаванасці, вобразнай цэласнасці, але лірычны настрой выяўляўся даволі выразна. І словы, нават не такія ўжо і арыгінальныя самі па сабе, тыя словы, якія можна знайсці ў вершах многіх маладых паэтаў, набывалі яскрава выражаную індывідуальную характэрнасць, неслі з сабой эмацыянальны зарад.

Белая лілея
У тваёй руцэ.
І ўсё наваколле
Нібы ў малацэ...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты стаіш ля прысад
У асеннім палоне,
І ляціць лістапад
Залаты у далоні...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дрымотны лес загушкае
Вясёлае дзяўчо.
Ёй неба
Сіняй птушкаю
Садзіцца на плячо...

Гэта ўрыўкі з трох розных вершаў першага зборніка У. Мазго «Пад спеў крыніц». У кожнага з іх свая інтанацыя, кожны з іх па-свойму перадае адзін з момантаў лірычнага ўзрушэння. І ў далейшым паэту таксама будзе найбольш удавацца такое імпрэсіяністычнае ўзнаўленне імгненнага, мімалётнага, плыннага ў жыццёвым кругабегу.

Разам з тым, што паэт не толькі чуйна ўслухоўваўся ў перагукванні слоў, у якіх знаходзіў адпаведнасць і свайму настрою, і гарманічнай суладнасці свету. Ён імкнуўся выявіць у слове адбітак бясконцага і плыннага жыцця ў шматстайнасці яго праяў. Паэтычнае слова давала такую магчымасць. У ім маглі «змясціцца» не толькі музыка быцця, але і пэўныя, пераўтвораныя творчай фантазіяй і ўяўленнем аўтара формы рэальнасці. Малады паэт ужо на пачатку сваёй творчасці добра ўсведамляў, што экзістэнцыйныя моманты быцця найвыразней увасабляюцца ў вершы праз яго вобразную структуру, праз метафарычную суаднесенасць розных бакоў цэласных у сваім успрыманні з’яў рэчаіснасці.

Метафарычнасць паэтычнага светаўспрымання заўважаецца, дарэчы, і ў прыведзеных намі вышэй урыўках з ранніх вершаў У. Мазго. Метафара, паэтычная сімволіка стануць затым характэрнымі прыкметамі творчасці паэта. Разам з меладычнай асновай верша яны складаюць вобразную, пачуццёва-эмацыянальную цэласнасць, якая прадвызначае індывідуальную адметнасць аўтарскага стылю.

Важна падкрэсліць і тое, што паэзія У. Мазго заўсёды трывала звязана з канкрэтна-гістарычнымі, рэальнымі абставінамі жыцця аўтара і яго лірычнага героя. Свае асабістыя пачуцці, лірычны настрой паэт суадносіць з часам, у якім ён жыве,

з навакольным светам. Вядучай тэмай першага зборніка вершаў была тэма юнацтва, адкрыцця свету, узнёсла-ўсхвалёванага яго прыняцця. У далейшым выявілася, што дадзеная тэматыка наогул уласціва паэту як сутнаснае ўвасабленне адметнасці яго светаадчування. Мажорнай настраёвасцю, аптымістычным стаўленнем да жыцця прасякнута большасць вершаў У. Мазго, незалежна ад часу іх стварэння.

Такая танальнасць паэтычнага голасу аўтара, вядома, невыпадковая. Яна абумоўлена найперш асаблівасцямі характару творцы, яго асабовымі якасцямі. Трэба, аднак, заўважыць, што жыццёвыя і творчыя абставіны таксама садзейнічалі руху паэта ў гэтым напрамку. Можна, мабыць, разглядаць як выпадковае супадзенне той факт, што паэту, для якога тэма юнацтва з'яўляецца адной з найважнейшых, выпала працаваць у свой час у выдавецтве «Юнацтва». А можна лічыць і сімвалічным. І ўжо ніяк невыпадковым варта ўспрымаць зварот паэта да пэўных жанраў, якія патрабуюць якраз адпаведнай, часцей за ўсё мажорнай настроенасці. Маюцца на ўвазе такія жанры, як песенная лірыка і дзіцячая паэзія, а таксама гумарыстыка, у якіх, мабыць, найвыразней выявіўся талент У. Мазго як паэта са сваёй тэмай і ўласным голасам.

Як вядома, названыя жанры, пры іх, здавалася б, лёгкасці ўспрымання для чытача і слухача, патрабуюць ад аўтара спецыфічных здольнасцей, немалых творчых намаганняў. Далёка не кожны паэт, нават той, які валодае значным творчым дарам, здольны выявіць яго ў гэтых, толькі на першы погляд нескладаных і «лёгкіх» жанрах. У. Мазго якраз у поўнай меры валодае неабходнымі для гэтага якасцямі. Тут мы акурат назіраем шчаслівае супадзенне індывідуальных рыс аўтара, яго асабістых ідэалаў і прыхільнасцей як чалавека і творцы, і тых спецыфічных асаблівасцей стылю і паэтыкі, якіх вымагае творчасць у згаданых кірунках.

Каб не склалася ў чытача ўяўлення, што ўсё ў паэзіі У. Мазго зарыентавана выключна на спецыфіку жанраў, абраных ім у якасці ўлюбёных, варта падкрэсліць, што творчасць вядомага беларускага паэта не абмяжоўваецца колам адзначаных вышэй жанрава-стылёвых плыняў і звязаных з імі тэм і матываў. Лірык па прыродзе свайго таленту, У. Мазго не цураецца, тым не менш, і адкрытага публіцыстычнага завастрэння пэўнай грамадска значнай або агульначалавечай праблемы.

Пры агульным пазітыўна скіраваным, аптымістычным ладзе светабачання, які дамінуе ў творах паэта, у іх часамі можна прыкмеціць і ноткі смутку па мінулым, клапатлівай развагі над будучыняй. *«Гайдаемся няспынна / На крылах /Успамінаў. / Купаемся ў мінулым, / Што ў часе / Патанула. / Няўжо яго планіда, / Як тая / Атлантыда?..»* — задаецца паэт трывожным пытаннем у адным з вершаў. Пры гэтым калі ў ранніх творах аб'ектамі роздуму былі ў асноўным пытанні даволі абагульненага характару, то пазней аўтар пачаў больш увагі звяртаць на рэальныя праблемы паўсядзённага жыцця. У поле яго зроку трапляюць негатыўныя з'явы, характэрныя для нашага часу (вершы «Заложнікі... Заложнікі бяды...», «Дэзактывацыя», «Прыбудзе заўтра...», «Гандлююць целам...», «Віртуальныя людзі» і інш.). Складанасць і драматызм жыцця ў творах паэта ўспрымаюцца індывідуальна, скрозь прызму асабістага, узбагачанага пражытымі гадамі вопыту.

Не пакідаючы і ў сталым узросце юнацкіх мар і захапленняў, паэт з гадамі пачынае надаваць больш увагі праблемам светаўладкавання, незваротнасці бегу часу.

Гады набягаюць, як хвалі,
Што згадкі глыбока схавалі.
А ты,
        нібы ветразь на хвалях,
Трапечаш у выстылых далях...

У вершах такога кшталту, як бачым, узнікаюць новыя інтанацыі, у пэўнай ступені адрозныя ад агульнай эмацыянальнай танальнасці творчасці паэта. Гэтыя адрозненні назіраюцца і ў лексічнай сферы. Трэба заўважыць, што ў цэлым для паэтыкі У. Мазго характэрна выкарыстанне лексікі з традыцыйна замацаванай за ёй сімволікай паэтычных значэнняў. Паэт шчодра карыстаецца тымі слоўнымі

запасамі сродкаў мастацкага выражэння, праз якія перадаецца рамантычна-ўзвышанае светаадчуванне, якія садзейнічаюць стварэнню эмацыянальна насычанай карціны свету.

Калі ж зноў вярнуцца да працытаванага вышэй верша, то можна адзначыць тут лексічныя ўкрапленні, якія нясуць у сабе нязвыклую для паэзіі У. Мазго экспрэсію адчужэння (*выстылыя далі*). Але паказальна, што гэтыя вобразы, якія, здавалася б, належаць да іншай мастацкай сістэмы, натуральна спалучаюцца з сімволікай, якой выражаецца жыццесцвярджальны сэнс паэтавага паслання чытачам. Над няўхільна набягаючымі жыццёвымі хвалямі лунае ўсё-такі ветразь надзеі, і тым самым змякчаецца ўражанне ад касмічнага холаду гэтых «выстылых даляў». Агульная настраёвасць верша вызначаецца такім чынам пазітыўным светаўспрыманнем.

Вершы У. Мазго пары яго паэтычнай сталасці адметныя якраз гарманічнай суладнасцю ўспрымання ўсіх бакоў рэчаіснасці. Драматызм жыцця, які з узростам не можа не прыкмячацца паэтам, пераадольваецца разуменнем дыялектычнай ураўнаважанасці супрацьлеглых з'яў. Цэласнасць светапогляду дае магчымасць убачыць рэчы адразу ў некалькіх вымярэннях. Вось, да прыкладу, верш «Напамін», у якім гучыць той жа матыў няўмольнага поступу часу:

У вырай незваротны
Спяшаюцца гады.
Ставок
Да болю родны
Скавалі халады.

Гэта страфа складае першую частку твора. У другой, якая пачынаецца супрацьпастаўленнем, на змену зімоваму здранцвенню прыходзіць вясновае абуджэнне, якое прадстае ў выяве, прасякнутай дыялектычнасцю светаўспрымання: *«Калі смяюцца / Промні, / То слёзы льюць / Ільды...»*

Таму нават у тых творах У. Мазго, у якіх праяўляюцца ноткі смутку, журбы, агульная карціна светаўладкавання застаецца ўсё ж аптымістычнай, садзейнічае ў вялікай ступені адна з самых характэрных прыкмет паэтыкі аўтара. Яна заключаецца ў тым, што вершаваныя радкі ў творах паэта, як правіла, невялікія па даўжыні, або, калі карыстацца вершазнаўчай тэрміналогіяй, складаюцца з невялікай колькасці стоп. Гэта вельмі істотны момант мастацкага свету У. Мазго. Ім якраз у значнай ступені вызначаецца танальнасць верша, характар светаадчування, агульны настрой. Менавіта маластопныя радкі часцей за ўсё надаюць вершу аптымістычна-бадзёрае гучанне.

Зыходзячы з гэтага, паэзія У. Мазго можа разглядацца як паказальны прыклад дакладнай адпаведнасці формы і зместу, гарманічнай спалучанасці сродкаў мастацкага выражэння і асабовых, псіхалагічна абумоўленых якасцей лірычнага героя. Гэты герой, а ў значнай ступені і сам аўтар, менавіта такі, якім ён паўстае ў вершы — у адзінстве ўсіх экспрэсіўных, мастацка значымых уласцівасцей паэтычнага слова. Душэўна зрошчаны з гэтым словам, неаддзельны ад яго.

Як ужо адзначалася, У. Мазго надае выключна важнае значэнне гучанню паэтычнага слова, яго гукавой, меладыйнай, фанетычнай прыродзе. Пры чытанні яго твораў выразна заўважаецца гэтая захопленасць аўтара звонкім, поўнагалосым, сугучным словам. Даволі часта адчуваецца, што першасным імпульсам да стварэння верша паслужыла якраз гэтае пачуццё першатворнасці, паўнагучнасці, вясёлкавай пералівістасці слова.

Асаблівае месца ў творчасці паэта займае рыфма. Для яго гэта не проста ўдала падабранае сугучча, а паэтычная знаходка, адкрыццё ў слове здзіўляючай разнастайнасці быцця, адна з найбольш яскравых граней дасканалай апрацоўкі моўнага матэрыялу. У гучнай, звяртаючай на сябе ўвагу рыфме адчуваецца, з аднаго боку, адпаведны ўзровень паэтычнага майстэрства, а з другога — далучанасць да гульневага пачатку паэтычнай творчасці. Сапраўды, многія вершы У. Мазго, што

называецца, «трымаюцца» на рыфмоўцы, менавіта гэта перагукванне вядзе за сабой пэўную мелодыю, дапамагае ў выстройванні лірычнага сюжэта.

Вось, да прыкладу, невялікі верш «Берагіні», у якім гэта заваблівая прыцягальнасць сугуччаў праяўляецца досыць выразна.

Каля Нёманавай плыні
Зачарованы стаю,
Дзе дзяўчаты-берагіні
Песню родную пяюць...

Нягледзячы на міфалагізуючы эфект (*берагіні*, якія затым параўноўваюцца з *багінямі*), у творы прыкметна ўсё-такі рэальная падаснова. Гэтую рэальнасць, няхай сабе і паэтычна пераўтвораную, нясе з сабой вобраз аўтара, які ўспрымае і выражае ў мастацкай форме тое, што ён назірае ў сапраўднасці. Аднак рэальная выява дзяўчат, што спяваюць на беразе ракі, як бы «растварaецца» ў чароўнай плыні гукаў. І сам аўтар аказваецца паглынутым гэтай стыхіяй (*зачарованы стаю...*).

Асабліва вынаходлівым на выкшталцоную рыфму становіцца паэт тады, калі ён стварае вершы для дзяцей. У дзіцячай паэзіі гучная, кідкая рыфма забяспечвае, мабыць, палову поспеху, з’яўляючыся для юнага чытача і слухача адным з самых прыцягальных цэнтраў увагі. Дзякуючы ёй больш выразна ўспрымаецца як фармальны, так і змястоўны бок паэтычнай творчасці, ствараецца эфект нязмушанай гульні з паэтычным словам. Ужо ў саміх назвах многіх вершаў У. Мазго для дзяцей прысутнічае ўнутраная рыфма, выяўляецца сугучча, якое складае гукавую аснову галоўнага вобраза твора. Такіх красамоўных назваў даволі шмат: «Пеўнік-спеўнік», «Жмуркі кошкі Муркі», «Цуда-вуда», «Аса ў валасах», «Прыколы ад Міколы», «Андрэйка і Надзейка», «Шадар-Падар» і інш.

Сапраўдным феерверкам сугуччаў успрымаюцца вершы «Назвы, родныя здавён», «Ці ёсць у Слоніме сланы?» У гэтых творах абыгрываюцца назвы беларускіх гарадоў. Тым самым малалетні чытач мае магчымасць азнаёміцца ў займальнай форме з геаграфіяй роднай краіны, пашырыць свой кругагляд. Пералічваючы ў вершы «Ці ёсць у Слоніме сланы?» беларускія гарады, паходжанне назваў якіх звязана з жывёльным светам, аўтар раптам задаецца нечаканым пытаннем: адкуль жа паходзіць назва горада Слонім, у якой, па аналогіі з іншымі назвамі, таксама можна вылучыць імя жывёліны, але на гэты раз экзатычнай, небывалай для нашых мясцін? Такім чынам і адбываецца парадаксальнае сутыкненне розных сэнсаў, такое характэрнае і зразумелае для наіўна-паэтычнага дзіцячага мыслення.

У. Мазго добра разумее псіхалогію дзіцячага ўзросту, скіраванасць юнага чытача на адкрыццё ў свеце і ў слове, якое гэты свет увасабляе, незвычайнага, загадкавага, парадаксальнага. Адсюль і ўдачы паэта ў выяўленні асаблівасцей дзіцячай фантазіі, дзіцячага ўспрымання свету. Яскравым прыкладам такога глыбокага пранікнення ў свет дзіцяці з’яўляецца верш «Каго лечыць акуліст?», які можна, несумненна, паставіць поруч з лепшымі творамі выдатных майстроў дзіцячай паэзіі.

У мяне аднойчы
Забалелі вочы.
Я паскардзіўся ўрачу —
І наступнае пачуў:

— Прыме вас
Спецыяліст,
Што завецца
Акуліст.

Тут мяне
Як ветрам здзьмула.
Акуліст?
Я ж — не акула!..

Творчымі ўдачамі паэта варта лічыць і яго дзіцячыя творы эпічнага характару, такія як «Прыгоды марахода», «Каплі для чаплі», «Лясная аптэка» і інш., у якіх знаходзяць працяг традыцыі дзіцячага казачнага аповеду.

Уладзімір Мазго — паэт шырокага творчага дыяпазону, які з поспехам працуе ў розных жанрах. Дзіцячая паэзія — адна з яскравых граней яго паэтычнага таленту. У эпіграмах і пародыях выявіўся сатырычны, гумарыстычны дар паэта. Яшчэ адна з найбольш прыкметных сфер прыкладання яго таленту — гэта ўжо згаданая намі песенная творчасць. У гэтай сферы ўклад паэта несумненны і важкі. Пацвярджэннем таму з'яўляецца і тое, што ў кнізе выбраных твораў «У нябёсах вясны» раздзел, які змяшчае тэксты песень, займае адно з цэнтральных месцаў, надаючы ўсёй кнізе своеасаблівы каларыт.

Азнаёміўшыся з гэтым раздзелам (істотнай адметнасцю якога з'яўляецца тое, што адносна кожнага тэксту пададзены звесткі пра кампазітара і выканаўцаў), задумваешся ўвогуле над тым, наколькі ўсё-такі значны творчы патэнцыял у сучаснага беларускага песеннага мастацтва, якім неад'емным і неабходным складнікам нацыянальнай культуры яно сёння стала, у тым ліку і дзякуючы творчым намаганням такіх таленавітых паэтаў-песеннікаў, як У. Мазго.

Многія песні, створаныя на словы У. Мазго рознымі кампазітарамі, ператварыліся ў хіты. Яны часта гучаць у эфіры, выконваюцца на канцэртах папулярнымі беларускімі спевакамі.

Тэматыка песень У. Мазго традыцыйна лірычная. Сярод асноўных тэм найбольш запатрабаванай стала, безумоўна, тэма кахання, узаемаадносін дваіх. У гэтай інтымнай тэме паэт-песеннік здолеў выявіць матывы агульназначнага характару, сэнс якіх зводзіцца да таго, што ўсё паўтараецца і ўсё заўсёды ўспрымаецца па-новаму ў свеце кахання. Выяўленню гэтай абнаўляльнай паўтаральнасці садзейнічае адзін з найбольш моцных акцэнтаў у песні — прыпеў.

У песенных тэкстах У. Мазго прыпеў якраз найбольш рытмічна выразны, эмацыянальна насычаны элемент вершаванай структуры. Менавіта прыпеў становіцца ў большасці выпадкаў своеасаблівай «візітнай карткай» песні, самай запамінальнай музычнай тэмай твора. Загучыць: *«Хто на мора, / Хто на Вячу, / Ну а дачнікі — / На дачу...»*, або: *«Выпускніца, выпускніца / Мне ўсё сніцца, мне ўсё сніцца...»*, або: *«Варажба, варажба — / І надзея, і журба...»* — і адразу вызначаеш для сябе — гэта У. Мазго, яго песенны, лірычны голас, яго інтанацыі.

Звяртаючыся да вечных тэм, да гісторыі роднага краю, паэтычна абжываючы землі далёкія і блізкія, У. Мазго заўсёды выяўляе свой уласны голас, сваё стаўленне да жыцця. У голасе паэта амаль заўжды дамінуюць жыццесцвярджальныя, аптымістычныя ноты. З верай і надзеяй глядзіць ён наперад, сустракаючы свой яшчэ пакуль што і не вельмі абцяжараны гадамі юбілей.

Пасівела трава ад рос
У палоне туману белага,
Ці за ноч пабяліў мароз
Шавялюруляснога берага?

Гэта лета ў смузе бяжыць,
Ці спяшаецца восень ранняя?..
Нават часу няма тужыць,
Бо наперадзе —
Даль бяскрайняя.

Што ж, гэта сапраўды так. Паэт, а тым больш лірык, заўсёды звернуты ў сваіх памкненнях да «далі бясконцай». Гэта і надае яго песні ўпэўненасці і моцы.

Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ

# ВЯРТАННЕ ЮРКІ МІЦКЕВІЧА

***Апалены золак: Слова пра Юрку, Коласава сына.*** *Уклад. Мікола Мятліцкі. — Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

Гэтая кніга павінна была нарадзіцца даўно. Мо нават адразу пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны ці, прыкладам, праз год-другі пасля 1945-га, разам з пэўнымі асэнсаваннямі, чым жа быў у гісторыі, лёсе народа перыяд 1941—1945 гг. Так, даўно павінна была нарадзіцца кніга памяці пра сярэдняга сына народнага паэта Беларусі Якуба Коласа — Юрку Міцкевіча, які загінуў у верасні 1941 года ў баях пад Масквой. Яшчэ ў верасні 1941-га Юрка пісаў свайму малодшаму брату: «Дарагі Міхась! Атрымаў тваю адкрытку каля 10 дзён назад. Нядаўна атрымаў пісьмо ад бацькі. Ужо з тыдзень, як паслаў адказ. Як вы там жывеце ў Ташкенце? Як здароўе таты, мамы, тваё і Даніка? Дзе ты займаешся ці працуеш? Што робяць тата і Данік? Зараз я наляпіў канвертаў і буду часцей вам пісаць. Асаблівых змен у мяне няма. Па-ранейшаму страляем з пушак па немцах і наносім ім вялікія страты. Зараз яны вельмі нас баяцца, бо іх здорава б'юць.

У мяне ўсяго хапае. Здароўе маё харошае, за гэты час ні разу нават не чхнуў. Ты добра зрабіў, што захваціў з сабою мае стрэльбы. Як разаб'ем фашысцкіх гадаў, то будзем хадзіць на паляванне і біць качак і цецерукоў…»

Але, канечне ж, патрэбен быў і час, з вышыні якога трагедыя смерці на вайне маладога чалавека ўспрымаецца яшчэ болей пакутліва, яшчэ болей рэльефна выяўляюцца эмацыйныя ацэнкі вялікай страты ў сям'і Коласа. У кнігу «Апалены золак. Слова пра Юрку, Коласава сына» ўвайшлі самыя розныя матэрыялы, творы, якія святлом сваёй памяці вылучаюць фігуру, постаць, асобу маладога чалавека. Тую асобу, якая прагнула жыцця, усімі сваімі паводзінамі, учынкамі пераконвала навакольных у неўміручасці дабрыні, справядлівасці, светласці.

Адкрывае зборнік радыёзварот Якуба Коласа да сына Юркі (28 лістапада 1942 года, Масква). «Придет светлый день нашей победы, — гаварыў паэт у спадзяванні, што яго пачуе Юрка, лісты якога так чакалі ў Ташкенце бацька, маці, браты Даніла і Міхась. — И мир облегченно вздохнет, и на земле снова зашумит мирная созидательная жизнь. Перед Красной Армией, рядовым бойцом которой являешься ты (ніхто тады яшчэ не ведаў, што салдат 8-й батарэі 3-га дывізіёна артылерыйскага палка Юрый Канстанцінавіч Міцкевіч ужо загінуў у адным з баёў з ненажэрнымі фашысцкімі гадамі. — **М. Р.**), милый сын мой Юрка, преклонится все человечество, весь прогрессивный мир, ибо она совершает и совершит величайший подвиг. Для меня же огромным моральным удовлетворением будет служить сознание того, что в этом подвиге есть и твое усилие, и твоя доля.

Пользуясь своим пребыванием в Москве, обращаю к тебе эти слова. Если ты услышишь мой голос, отзовись, дорогой Юрка, хотя бы несколькими строками. На некоторое время я возвращусь в Ташкент, где сейчас оста-

лись твоя мать и братья, чтобы по весне всем вместе, как перелетным птицам, вернуться в свою родную Белоруссию, где для каждого из нас найдется много, много дела…» Далей ідзе верш Якуба Коласа «На пажарышчы», напісаны па вяртанні паэта ў Мінск. У раздзеле «За вас зямлі я памалюся» прадстаўлены ўспаміны Данілы Міцкевіча — «Слова пра брата Юрку», Міхася Міцкевіча «За вас зямлі я памалюся (Ліст наўздагон)», а таксама запісаныя Іванам Курбекам ( з яго ўступным словам «Коласаў Юрка») успаміны таварышаў, добрых сяброў Юркі — Ігара Рыдзеўскага, Алеся Мурача, Марыны Казловай, Еўдакіі Грушэўскай, Івана Салаўя, Віктара Крышчановіча, Віктара Путана, Фёдара Вароніна. Завяршае кнігу паэма Міколы Мятліцкага «Апалены золак. Вяртанне Юркі Міцкевіча». Дарэчы, Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі і з'яўляецца ўкладальнікам кнігі.

Успаміны старэйшага сына Якуба Коласа — Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча «Слова пра брата Юрку» з'яўляюцца своеасаблівым нарысам-дакументам. Лаканічнымі штрыхамі Д. Міцкевіч выкладае біяграфію Юркі, звяртае ўвагу на асяроддзе тых людзей, якія так ці іначай сутыкаліся з сярэднім сынам Коласа, аказвалі на яго ўплыў, фарміравалі яго светапогляд. Ужо на самым пачатку нарыса Даніла Канстанцінавіч удакладняе вытокі біяграфіі героя кнігі: «Мой брат Юрка быў маладзейшы за мяне на два з паловаю гады. Ён нарадзіўся ў горадзе Перм 1 мая 1917 года. Ішла Першая сусветная вайна, у Расіі адбылася Лютаўская рэвалюцыя. Бацька наш служыў тады ў Пермскім запасным палку. 25 ліпеня 1917 года ён паехаў са сваёю часцю на Румынскі фронт. У эшалоне ехала і яго сям'я. Бацька паехаў далей, у Румынію, а жонка Марыя Дзмітрыеўна, Юрка, я і брат мамы Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі — дзядзька Саша — накіраваліся ў горад Абаянь Курскай губерні, дзе пасля эвакуацыі з Вільні жыла маці жонкі Коласа, яго цешча Марыя Цімафееўна Каменская. Неўзабаве Колас быў звольнены з войска па хваробе і вярнуўся да сям'і. Да мая 1921 года мы пражывалі ў Абаяні і вёсках Якаўлеўка, Малыя Крукі і Ліпавец, непадалёку ад горада.

Час знаходжання на Куршчыне быў цяжкім, трывожным і галодным.

Побыт нашай сям'і на Куршчыне адлюстраваны ў апавяданні Коласа «Туды, на Нёман!». Апавяданне, як і многія творы пісьменніка, аўтабіяграфічнае — тут апісаны падзеі і ўмовы жыцця сям'і паэта, у той час сельскага настаўніка і школьнага інспектара…» Са старонак нарыса чытач даведваецца, што Юрка сябраваў з дзецьмі Сянкевіча і Янкоўскага, Паўлам Грудзінскім, Барысам Алесіным, Галяй Уладамірскай, сёстрамі Макай і Тусяй Прозаравымі. Вось што піша Д. Міцкевіч пра атмасферу тагачаснага дзіцячага сяброўства, пра летаванне ў Сёмкаве, Калодзішчах, Воўчкавічах, Ждановічах: «Разам гулялі ў індзейцаў, Робін Гуда, чырвоных д'ябалятаў, будавалі шалашы ў лесе, збіралі ягады і грыбы, лавілі рыбу, купаліся ў рэчцы, плавалі на лодках і чаўнах, пілі сырадой, елі натуральныя сялянскія прадукты, набіраліся за лета моцы і здароўя…» І яшчэ хацелася б працытаваць кароткую, але даволі ёмістую і значную характарыстыку: «Юрка не цярпеў хлусні, фальшу, нячэснасці, мог проста і недыпламатычна выказваць свае думкі.

Ён быў верным і надзейным таварышам і сярод суседскіх хлопцаў, і ў школе, і сярод студэнтаў універсітэта, і ў кампаніі паляўнічых, і пазней — у арміі. Яго ўсе любілі і паважалі…»

Цэнтральную частку кнігі памяці займае ўспамін малодшага сына Якуба Коласа Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча «За вас зямлі я памалюся (Ліст наўздагон)». Выбраўшы арыгінальную форму напісання (Міхась Канстанцінавіч звяртаецца да брата, які загінуў, з лістом), аўтар вяртае з цянётаў памяці сваё бачанне, свае ацэнкі постаці дарагога, мілага чалавека. Паказвае Юрку простым, адкрытым, праз многія дэталі, яркія эпізоды з дзяцінства і юнацтва брата ўзнаўляе перад чытачом вельмі

яркую, сімпатычную і неардынарную асобу. «Мой дарагі брат! — пачынае расповед Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. — Пішу табе апошні ліст, які ўжо ты ніколі не атрымаеш, як і многія нашыя лісты, што мы адсылалі на палявую пошту № 220 49-ы карпусны артылерыйскі полк 3-ці дывізіён 8-я батарэя Ю. К. Міцкевічу. Прайшло столькі гадоў, а ты для мяне застаешся такім жа блізкім, такім жа дарагім, дужым, стройным, непахісным. Я даўно парываўся напісаць аб тым, што набалела, што яшчэ захавалася ў памяці аб тых незабыўных днях, якія мы праводзілі з табою, з тваімі сябрамі і сяброўкамі. Хай унукі хоць крыху прычыняцца да светлага аблічча майго дарагога брата, чытаючы мае ўспаміны, мае думкі, мае пачуцці.

Прайшло столькі часу, а я не магу без слёз успамінаць шчаслівыя хвіліны майго дзяцінства, майго юнацтва, калі мы хадзілі з табою ў вандроўкі, калі ты мяне многаму вучыў.

Мы так балюча перажывалі, калі раптоўна перарвалася толькі-толькі ўзніклая перапіска. Колькі разоў у далёкім Ташкенце бацька, устаючы з ложка, заўважаў, што падушка была мокрая ад яго слёз. А колькі іх праліла наша маці! У лістах да блізкіх людзей, у бацькавым дзённіку засталося нямала радочкаў аб табе, аб лёсе свайго сына…»

«Чытаючы памяць» Міхася Канстанцінавіча, мы выпраўляемся ў Беразянку, Тальку, на бераг Свіслачы, ловім самоў і іншую рыбу, палюем на качак ля пухавіцкага Суціна, на памежжы са Старадарожчынай, бавім час у лесе. І на гэтых старонках — праява лёсу сям'і Коласа, творчага лёсу самога пісьменніка, дзеці якога следам за бацькам былі проста ў захапленні ад роднай прыроды, родных краявідаў.

Упрыгожваннем зборніка падаецца мне паэма Міколы Мятліцкага «Апалены золак. Вяртанне Юркі Міцкевіча». Паэт здолеў не проста стварыць мастацкі вобраз сярэдняга сына Якуба Коласа, а праз пераказ фрагментаў яго жыцця асэнсаваў час ваеннага ліхалецця, акрэсліў страты, якія панёс у ім наш беларускі народ. Паэма бачыцца мне ўзорам высокай грамадзянскай лірыкі. Паэтычнае прачытанне лёсу Юркі Міцкевіча — напамін і пра тое, што тэма Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай паэзіі проста не можа быць вычарпана.